# ЗЬМЕСТ.

# УЗВЫШША

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І КРЫТЫКІ
БЕЛАРУСКАГА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА ЗГУРТАВАНЬНЯ „УЗВЫШША“

№ 4 (10)

**Кузьма Чорны**

# Верасьнёвыя ночы

## I.

Каля студні з дзеравянага вядра, пазелянелага і сьлізкага, капала вада на запыленую буйную крапіву і пясок. За парканам сьпелі яблыкі і арабіны, пад парканам раскашэльвалася мята і бабіна лета. Каля варот сакаталі куры, пераграбаючы канюшыняную пацяруху і адна—надзьмутая і сярдзітая—упарта квактала, расплывалася па пяску гарачым вольлем. Абмочаны недзе шчанюк аціраўся каля сяней і нудна вылізваў шэрсьць каля хваста. Гусак падняў галаву і глыбокадумна закрычаў. Шчанюк крыху страціў свой нудны выгляд і забурчэў, вільнуўшы шчуплым хвастом.

Паставіўшы каля заскарузлага карыта ражку з сьвіным цестам, чухаючы вуха аб голую руку вышэй локця, Агата злосна крыкнула:

— Віляй, віляй, падла аблезлая! Зноў недзе ўскочыў у памыі, каб ты ўжо нечага ў вір галавою ўскочыў. Зноў усё пазагаджваеш у сенцах. Вон, каб ты выдах!

Шчанюк выцягнуўся на пяску доўгім целам сваім і ціхавата завыў. Квактуха заквактала мацней. З панурым папрокам Агата кінула на яе дзяркачом:

— Квокчаш? А дзе-ж ты вясною была, пошкудзь кашлатая!

Два падсьвінкі, трасучы вушыма, весела хваталі з карыта цеста. Верабей зьляцеў з вішні на плот, пасьля каменем упаў на зямлю каля самага карыта, мяркуючы, каб уварваць крыху сабе. Яго ніхто не заўважаў.

Агата выцерла рукі брудным фартухом, зьняла яго з сябе і ўскінула на плот. Рукі ў яе былі прыгожыя і прывабныя, голыя да плеч; белыя і гладкія. Толькі пальцы на іх кароткія і тоўстыя, няпрыемныя на выгляд. Сама яна—высокая і мажная—белабрысыя бровы і шэрыя вочы, зацягненыя сытаю каламутнасьцю. Як ішла яна ў сені, стан яе цяжка гойдаўся, і вочы прасілі сну.

У халодных сенцах стаялі ночвы з памытымі гуркамі, і былі рассыпаны крупы.

— Зноў дзеці лазілі,—сярдзіта абазвалася Агата, падмятаючы да парогу буйную абдзертую грэчку.

У адчыненых хатных дзьверах зьявіўся Стасюк, братні сынок, белагаловы свавольнік і сірата, мацеру ён ледзьве памятаў.

— Цёця Агата, я адзін гурок вазьму.

— Ты ўжо крупы рассыпаў! Як ад цябе нідзе не ўхаваешся. Усюды ты дападзеш.

— Гэта ня я... Я вазьму гурок.

— А хто-ж гэта?

— Гэта Антосеў Юрка прыходзіў. Рассыпаў крупы і два гуркі ўхваціў і ўцёк. Я яму дам, як злаўлю дзе.

Агата сунула ў рукі яму гурок і выправадзіла з хаты. Злосная раздражнёнасьць не пакідала яе. Яна мучыла яе з учарашняга, калі перад вечарам брат Фэлька, скінуўшы з воза плуг і адкасваючы порткі, запэцканыя вільготнаю ральлёю, запытаў:

— Ці праўда гэта, што Асташонак, калі браў на тым тыдні самагонку, дык управіў табе мікалаеўскую трохрублёўку?

— Хто табе казаў?

— На полі хлопцы сьмяяліся. Казалі, што сам Асташонак хваліцца ўсім. Няхай—кажа—цяпер падае на суд. Няхай падасьць, паспрабуе. І праўда, як тут падасі, каб прышлося на суд, калі невядома, каго тут суд за ныркі возьме... Як-бо ты глядзела! Няўжо ты ня бачыш, што мікалаеўскія, а што савецкія грошы..

— Вечарам. У каморцы газаўка гарэла, а я не прыглядалася. Чорт яго поўначы пазнае.

— А ўрэшце—згарыць няхай ён з сваёю трохрублёўкаю. Адно што от плеткі распускае, халера на яго.

Фэлька паставіў на ноч коні, зьеў малака і пайшоў спаць на канюшыну, а яна пакуль управілася ў хаце, шмат прайшло вячорнага часу. Стасюк спаў у хаце на ложку, высадзіўшы цыбатыя ногі з-пад кудзельнае коўдры. Агата папраўіла коўдру і выйшла з хаты, поўная гаркачэчы і злосьці. Пад паветкаю, дзе ляжалі дровы і трухлявая салома з перакрытае страхі, абзывалася сонная качка. Рэшта-ж усё было ціхім. Маўчаў сад за старым парканам, і цёмныя дрэвы яго былі ў нярухомым спакоі. Трохі счакаўшы, на вуліцы у канцы засьпявалі хлопцы. Асташонкавага голасу не магла яна злавіць у песьні. Мусіць, там яго ня было. Злосьць на яго не пакідала мучыць яе. Адна праседзела яна з паўгадзіны каля хаты. Па вуліцы прайходзілі хлопцы і да яе не падыйшлі, можа, не заўважылі яе. Асташонка нідзе ня было чуваць. Пайшла назад у хату і доўга не магла заснуць.

З таго часу нядобрым усё было; і горш за ўсё тое, што раздражненьне супроць яго не ад мікалаеўскае трохрублёўкі было, і не ад таго, што ён выхваляўся гэтым—гэта толькі псавала настрой — а ад таго, што каторы ўжо час зусім заходзіць пакінуў.

Фэлька зноў быў на полі, Стасюк зусім зьнік недзе з двара.

Агата пасаліла гуркі і падмяла сені. Асеньняя муха моцна ўкусіла яе за нагу, каля вялікага пальца. Яна пацерла ўкушаным месцам аб лытку другое нагі і пачала наліваць каля студні ў цэбар ваду; непаласканая бялізна ляжала на мокрым тапчане каля плоту.

Дзень хіліў да дрымоты. Сонна крычалі на вуліцы качкі, плюхаючы бруднай вадою каля карыта. Па той бок вуліцы ў суседнім садзе зьвісала над плотам вясёлая цяжкасьць чырвоных арабін; пад імі плот быў аброслы зялёным і зусім сухім мохам і ўзьлягаў на трухлявыя подпіркі панурым дзедам. Вільготная каля студні зямля прыемна халадзіла гарачыя ногі. Моўры шчанюк падыйшоў і ткнуўся галавою ў нагу, ніжэй калена. Агідліва адапхнуўшы яго, Агата стала паласкаць бялізну.

У зьвінючых кроплях вады, што ліліся з яе голых рук, люстравалася нязьлічоная рухавасьць сонечных іскраў. І рукі яе, белыя і прыгожыя, былі празрыстымі і пахучымі. Гойдалася ў цэбры вада, льлючыся праз край, і твару свайго выразна разгледзець у вадзе Агата не магла; толькі бялелі ў вадзе рукі, і гэта цешыла яе.

Сонца моцна грэла яшчэ. Халоднаю-ж і прыемнаю была вада. І ўсё гэта патроху заспакойваць пачало раздражнёнасьць і прытупляць злосьць. І прайходзіць пачала вастрата гэтай узбуджанасьці і ператварацца ў іншыя формы.

Яна ўспомніла—выяжджаючы араць іржышча, Фэлька сказаў: „Скажы Стасюку, каб пазваў сваю канпаню абабраць грушы. Але каб ня зваў шмат гэтых сваіх вісусаў, а то як прывалiць гэтая зграя, дык усе грушы парасьцягаюць. Гэта-ж гэтакая плойма!..“ Яна й сама ведала, што трэба абіраць грушы; чуваць было, як яны стукалі ў садзе, раз па разу ападаючы на зямлю. Але было жаданьне, папаласкаўшы бялізну, нічога не рабіць, і з гэтым жаданьнем даводзілася змагацца. Уночы не спалася, і цяпер зьяўляліся адзнакі лёгкай дрымоты. Часта пазяхалася і соладка хацелася, каб вецер абвеяў гарачую голую шыю і плечы. Калені пачыналі зьлёгку дрыжаць, і твар гарэў. У целе запаноўвала гарачая разамлеласьць. Учынак Асташонка з трыма рублямі пачаў траціць сваю вастрату, і зусім згінулі думкі пра крыўду на ход падзеяў, што нельга адпомсьціцца яму, падаўшы на суд, ці ўжыўшы якія-небудзь іншыя захады. Усё гэта забывалася, і хацелася як найхутчэй, каб нават і ня ўспомніць пра гэта, як пра нешта калючае, няпрыемнае. Асташонак зноў здаваўся прыгожым і прывабным. І побач з ім горш яшчэ, як раней, няпрыемным паўстаў у ваччу Зыгмусь Чухрэвіч, што паўтара гады ўсё дамагаецца, каб узяць яе замуж. І на гэтым тыдні прыходзіў у нядзелю, выфранчаны і далікатны. Раней, як Фэлька быў яшчэ хлопцам, яны дружылі вельмі, з самых малых год сваіх. Пасьля бурна разыйшліся з-за дзяўчыны. якое абодва дамагаліся, і якая ўрэшце пайшла замуж за Фэльку. А Фэльку не давялося з ёю доўга пажыць—нарадзіўшы Стасюка. яна неўзабаве памерла. Тады ўсё забылася. Зноў у іх пачалося нешта падобнае да дружбы, а пасьля Зыгмусь пачаў прыглядацца на Агату. Яшчэ за некалькі дзён да асташонкавае трохрублёўкі Фэлька гаварыў ёй:

— А можа й сапраўды табе пайсьці замуж за Зыгмуся. Ён цябе будзе кахаць і глядзець.

А яна адказала:

— Што ты мяне хочаш з хаты збыць?! Калі ты хочаш жаніцца, дык я табе ўпоперак дарогі не стаю.

Фэлька павінаватаму паморгаў вачыма і мякка сказаў:

— Што ты выдумала. Хіба я не магу з табою гаварыць як з сястрою пра ўсе?

— А от і ня можаш пра ўсё. Ня маеш права.

— Чаго ты злуеш?

— Ня ўмешвайся ў чужыя справы.

Тады залаваў і ён:

— Я табе як добра, а ты чорт ведае што! Колькі сваталася, ніхто да спадобы не дайходзіць. Усё перабіраеш. Табе-ж ці ня трыццаць год ужо?

— Ну, я-ж казала, што ты мяне з хаты збываеш!

І яна пайшла злосная. А вечарам яны абое зрабілі выгляд, што нічога ня было. Так уся гэтая прыкрасьць і скончылася. А тут Асташонак, малады і вясёлы, трохі жулікаваты, заўсёды стараўся злавіць яе і на вуліцы і на полі. І поўніў яе агнямі суму здаровае пераpослае дзеўкі. У той дзень, калі здарыўся гэты яго ўчынак з трохрублёўкаю, ён назнарок прыбег праз агароды памагаць ёй складаць

атаву, заўважыўшы яе каля гумна. Жартаваў з ёю, тузаўся, пакуль яна, чуючы, што траціць волю сваю перад ім, не прагнала яго. У той-ж вечар ён і зьявіўся купляць самагонку.

Палошчучы бялізну, яна змагалася сама з сабою. Падабалася сама сабе; глядзела ў ваду; чула разамлеласьць ува ўсім целе, і як усё больш і больш прытуплялiся і ападалі думкі. Губілася ўсялякая воля і цьвёрдасьць.

Стукалі ў садзе вобземлю яблыкі й грушы, сьпелі арабіны. Цякла пахам моцная мята. Асеньнія мухі гулі каля сяней, сінія і вялікія. Стасюк на вуліцы, па той бок студні, баўтаўся ў лужы. Вуліца была ціхаю, дрымотнаю. І бяз дай прычыны захацелася ёй пакрычаць на Стасюка.

— Стасюк, ідзі ў двор!

II

Зыгмусь Чухрэвіч бедаваў, што вусень пааб'ядала вясною лісьцё ў садзе, і цяпер няма садавіны. Агаце прыкра было слухаць яго павольную гаворку, бачыць, як ён стараўся быць перад ёю дасьціпным. Гальштук у яго быў вузенькі, у зялёную палоску, вельмі туга нацягнены на цьвёрдай манішцы і раней за ўсё кідаўся ў вочы. Гарнітур быў нішто, але няспрытна вельмі-ж сядзеў, мусіць ад таго, што манішка і цьвёрды каўнер усёроўна як зьвязвалі чалавека. Гамашы былі выглянсаваныя, але запыленыя. Фэлька быў адзеты прасьцей і з самага ранку нікуды ня выходзіў з хаты. Гаворачы з імі абодвымі, Агата неўзаметкі паглядала ў люстэрка, што вісела насупроць на сьцяне. Мокрыя яшчэ валасы пахлі дарагім мылам, і здавалася, што гэта пахне блакітненькая шпілька, што гэтак прыгожа сьцягвала белы гафтаваны каўнер сіняе блюзкі. Стасюк аціраўся каля вялікіх і ўсё дурыўся:

— Цёця Агата, есьці.

— Ты-ж еў кагадзе.

— Ізноў хачу.

Зыгмусь Чухрэвіч памог ёй адчапіцца ад Стасюка.

— Ня можна так часта есьці, няздарава.

— Чаму?

— Няздарава на жывот.

— Сапсуецца жывот?

Фэлька ўзяў Стасюка за руку і вывеў на двор. Відаць было праз вокны—павёў у сад, каб абы адчапіўся ад Агаты. Зыгмусь Чухрэвіч падкруціў вусы, дастаў з кішэні партабак з бярозавае чачоткі і дастаў тоненькую папяросу. Пакуль трымаў у пальцах, Агата, гледзячы, думала, што ў яго прыгожыя рукі—тонкія и белыя зьверху. І, закурваючы, ён зноў пачаў бедаваць, што вусень аб'ела сад. Гаворка яго была вялая, кожная слова як-бы абдуманае. „Здаецца памагла-б яму"—думала Агата, падыйшоўшы да люстэрка і папраўляючы грабяні ў валасох. У хаце была прыемная хмурнасьць,—неба ў той дзень было шэрым, але высокім. Сонца ня глыбока было схавана за тонкую плёнку ветравых хмараў, вецер шастаў за вокнамі садам, сад нехаця пачынаў жаўцець. Аж у хаце, здавалася, чуваць было, як пахнуць у садзе бэры і вінёўкі. Цыганкі чырванелі над плотамі над страхою прыгрэбкі. Нават запозьненыя спасаўкі падалі яшчэ на траву і разьліваліся ў ёй зялёным кісялём.

— У вас, добра—сад захаваўся ад вусені, а ў мяне дык каб сказаць на завод яблык з пару.

Агата ўздыхнула.

— Чаго вы, панна Агата, ўздыхаеце?

— Нічога, так сабе.

— Мусіць, сумна чагосьці?

Агата глядзела, як ад усьмешкі пайшло ў яго па твары шэсьць вельмі сталых змаршчакоў, па тры з кожнага боку, і схаваліся яны канцамі сваімі ў вясёленька падкручаных вусох.

— На фэст, панна Агата, ня зьбіраецеся?

— Ня думала яшчэ. Можа, і пайду.

— Можа, разам пойдзем?

— Будзем бачыць.

— Сядайце, панна Агата.

— Дзякуй, у сваёй хаце можна пастаяць.

І тут яна падумала, ці не сказала чаго лішняга, можа за тон гаворкі пакрыўдзіцца яе кавалер. Тады ветліва, наколькі льга было, усьміхнулася:

— Вы таксама нейкі сумны.

— Не, чаго-ж я. Сядайце.

Ён устаў з доўгага памалёванага столка і паставіў яго каля яе. Агата села. Ён сеў поплеч яе, заглядваючы ёй у вочы.

—Пра што вы думаеце?

— Вам трэба ведаць?

— Трэба?

— Нашто вам ведаць?

— Панна Агата.

— Што?

— Эх, панна Агата.

Падсунуўся бліжэй, узяў пад руку, пацалаваў яе кароткія пальцы. Казлытнуў вусамі яе цудоўную шыю.

— Панна Агата, панна Агата.

Яна выцягнула з яго рук сваю руку, адсунулася далей.

— Панна Агата.

Губы яго трасьліся, вочы зелянелі нярухомымі іскрамі, твар чырванеў.

У сенцах затупаў Фэлька увайшоў у хату. Агата пайшла ў мыцельнік за перагародку з цалёвак.

Зыгмусь Чухрэвіч расказваў Фэльку:

— ... Дык я і сказаў яму перад усімі—гад ты, кажу, печаны, хамула ты дурное. Хамут! Чым ты, кажу, хвалішся. Што за тры рублі абармотам зрабіўся?! Знайшоў чым хваліцца, выбачайце за слова, дурніла. Я яму так і сказаў. Ня сьцерпеў.

— Каму гэта?—трасучыся ад незразумелае крыўды, болі і тупое цяжкасьці на душы, крыкнула з мыцельніку Агата.

— Асташонку.

Агата кінула міскі, з мокрымі рукамі кінулася на двор. Пабегла ў сад, дзе пад бэрамі сохла капа садовое атавы. Упала галавою ў сена, калоцячыся ад бурных сьлёз.

III

Фэлька стаяў у варотах і чэзнуў па чарнавокай Алімпе. Вечар быў цёмны. Агата сядзела каля хаты. Асташонак хадзіў з Алімпаю па вуліцы. Непадалёку каля нечае хаты гуляў маладзеж. Фэлька ня вытрымаў і падаўся да Алімпы і Асташонка.

Пасьля дзённага дажджу пахла жвіраватае каменьне, маўчалі платы і хаты.

Дзяўчаты і хлопцы засьпявалі. Фэлька, Асташонак і Алімпа недзе зьніклі з вачэй. Агата пачухала левы локаць, сьцішылася каля сьцяны. Дзяўчаты на вуліцы зарагаталі. Агата пазнала іх па галасох. Падумала: „як павыросталі, яшчэ летась у парваных андаракох каровы пасьвілі, а гэта ўжо з хлопцамі гуляюць". Прыкрасьць нейкая находзіла на яе. Зьяўляцца пачалі думкі—пайсьці ў гурт маладзяжу. Але ўспомніла—няма там аднагодкаў ёй, усе маладзейшыя. Брат Фэлька ніколі ня ўпікаў што сядзіць яна дома, колькі сваталася—ні за кога ісьці не хацела, усё па густу выбірала сабе і ніяк-ж выбраць не магла—хіба-ж ён асьмеліцца ўпікнуць яе гэтым? А ўсё-ж думкі ў яго ўсялякія могуць быць... І чаму якраз Фэлька на думку ўзбрыў, хіба самой ёй нічога гэта не абыходзіць?.. І чаго яны рагочуць так весела, гуляюць гэтак заўзята гэтыя цыбатыя падлеткі? Можна падумаць што й сапраўды паненкі цікавыя. Прыкрасьць сьціснула сэрца. Прыціснулася плячыма да сьцяны і чакала.

Гарэла сьвятло ў хатах. Ішла ноч. Маўчала восень у садох і агародах, мёдам пахла павольнае кананьне кляновага лісьця. Якую-ж ноч прынёс верасень!

„Спаць ісьці" – узышоў чэмер думак, але ведала, што не засьне.

Далоні рук пачалі гарэць. Ноч схавала ружовасьць твару, маўчаньне—нэрвовую трывогу цела.

Дзяўчаты зноў засьпявалі. І паважныя крокі скінулі з яе забыцьцё.

— Панна Агата?

Зыгмусь Чухрэвіч падкруціў вусы і сеў.

— Чаго вы маўчыце, панна Агата?

Падсунуўся бліжэй, памаўчаў і ўзяў за руку. Яе маўчаньне надавала яму сьмеласьці. Палажыў руку ёй на плячо. Падсунуўся яшчэ бліжэй, аж прыціснуўся і абняў аднэй рукою.

— Чаго панна Агата так дрыжыць?

І пачаў цалаваць шыю.

— Панна Агата, панна Агата.

Ад дзікае радасьці не памятаў ён, што робіць—Агата не адсунулася ад яго, як заўсёды, не адабрала рукі свае, а нават, здалося яму, схіліла ў яго бок галаву. І ўжо зусім выразна пачуваў ён што гарэла яна тысячамі агнёў. З кожнай хвілінай ён рабіўся сьмялейшым.

— Згалі вусы,—сказала яна.

— Нашто?

— І курыць пакінь.

— Чаму?

— Нядобра чуваць дымам гэтым, перагарам.

Дзьве цёмныя постаці зьявіліся на вуліцы. Фэлька і Алімпа. Асташонка ня было з імі. І гэта кальнула Агату, пасьля ўзрадавала. Фэлька і Алімпа падыйшлі і селі.

— Добры вечар,—сказала Алімпа.

Зыгмусь застаўся сядзець, трымаючы яе руку, адно адхіліў галаву. Гаворка між імі ўсімі доўга ня клеілася. Нарэшце Зыгмусь сказаў:

— Абабраў грушы, Фэлька?

Голас яго быў неспакойны, узнэрваваны.

— Ня ўсе. А ты?

— Таксама. У мяне мала ёсьць што абіраць. Вусень, каб яна павыдыхала, увясну была увесь сад аб'ела.

Голас яго спакайнеў, шпарка рабіўся раўнейшым. Агата ўздыхнула, забрала ад Зыгмуся руку Ён хацеў затрымаць, але яна была ўпартаю. Аглянуўся на Фэльку—Алімпа сядзела каля яго нярухома. Але заўважыў ён—Фэлька гладзіць яе руку, зусім ня гледзячы ў той бок.

— Дзе-ж Асташонка падзелі? — запытаў зайздрасна Зыгмусь Чухрэвіч.

— Прыстаў да канпаньні.

Зноў зачамярэла на сэрцы ў Агаты. „Нашто ён успамінае пра Асташонка? Які нячулы. А можа назнарок? Але дзе яму назнарок, каб і хацеў укалоць --ня здагадаецца".

— Трэба ісьці,—сказала Алімпа.

Устала і разьвіталася з Агатаю й Зыгмусем за руку. Фэлька пад руку павёў яе Ноч маўчала, прачышчаючы неба Высьвечвалі зоры, вырысоўваліся абрысы садоў і хат. Агата ўстала ісьці. Зыгмусь узяў яе пад руку. Пастаялі гэтак і ён сказаў:

— Заўтра атаву забіраць буду.

Ёй хацелася зноў сесьці, але каб ён пасадзіў яе. А ён стаяў, трымаючы далікатна яе пад руку. Тады яна злосна загаварыла:

— Заўтра атаву забіраць?

— Але.

— А груш мала ёсьць у садзе?

— Зусім мала.

— Вусень пааб'ядала?

— Але, каб яна павыдыхала.

Ён правёў яе да сянец. У сенцах доўга цалаваў, стала і далікатна, аж пакуль не застукаў варотамі Фэлька. Тады пайшоў, пагаварыўшы трохі з Фэлькам на двары каля сянец. Счакаўшы, пакуль Фэлька ўкладзецца спаць у каморы, Агата яшчэ выйшла на вуліцу. Маладзеж разыходзіўся. Дзяўчаты шапталіся, і нявыразны шэпт іх далёка чуваць быў у чулай цішыні верасьнёвае ночы Чуваць быў там і вясёлы голас Асташонка. Агата моцна назнарок кашлянула і пачакала. Пэўна чуў ён, але не падыйшоў. Агата села на лаўку, пачакала, пакуль там усе разышліся. Асташонак зусім зьнік з вуліцы. Усё сьціхла. Хоць бы Зыгмусь Чухрэвіч падыйшоў яшчэ! Агата зачыніла вароты і пайшла спаць ў адрынку на канюшыну. Доўга не магла заснуць; чухала пад пахамі, папраўляла пад галавою падушку. Цвіркалі ў канюшыне конікі і за шчыльнаю сьцяною з смольных аполкаў, часта ўздыхала цельная карова.

## IV

Ральля дробна рассыпалася пад плугам і прыемна халадзіла босыя ногі. Дзіцячая ўсьмешка кволага сонца цалавала зямлю.

Пахла на полі бульбаю. Парэзаны плугамі бульбоўнік выглядаў з ральлі.

Рукі ў Агаты былі ў зямлі, твар абвязаны хусткаю. Фэлька стала пажартаваў:

— Чаго ты гэтае загары баішся, як ты дыхаць можаш, гэтак абвязаўшыся. Ад цяперашняга сонца загары ня будзе.

— Агата як граблася ў зямлі, так, не паднімаючы галавы, адказала:

— От.. табе вельмі абыходзіць, цяжка мне ці лёгка дыхаць.

І падумала, што Фэльку можа нядобра чуць гэтакі пануры адказ. Тады глянула на яго, усьміхнуўшыся. Але ўсьмешка была схавана пад хусткаю, і Фэлька ўбачыў адно вочы Агата зноў сказала:

— На пераносьсе рабаценьне вельмі ад сонца садзіцца.

— Пераносьсе ў цябе якраз на сонцы.

Фэлька запрагаў каня, разьвязваў вузлы на вяроўцы, абціраў рукі аб картовае галіфэ. Саскроб вострым каменем зямлю з плуга. Ласкава сказаў да Агаты:

— Найму капальнікаў ды за дзён тры выберам. Што мы будзем тут з табою корпацца.

Пасьля, пачакаўшы:

— Пакідай, годзе грабціся, усёроўна гэтых двух градусаў да вечара ня выбераш.

— Дык нашто ты разараў гэтулькі?

— Паляжаць да заўтра, ліха іх ня возьме... Бачыў раніцаю Зыгмуся.

— Ну то што калі бачыў?

— Вельмі рад... Вельмі... Ён цябе будзе глядзець... Будзе цябе на руках насіць.

— Чаму гэта мяне?

— А ён хваліўся, што ў вас ужо згода.

— Заранье ён да цябе ў швагры лезе, дурны, марцовы кавалер. А ты і ўзрадаваўся...

— Мне што, як хочаш. Я ў чужыя інтэрэсы ня лезу.

— Як не! Я ня бачу, як ты мяне з ім зводзіш? Ты хочаш жаніцца, дык каб я табе не замінала?!

— Агата!..

— Ты думаеш, я ня бачу, што тут каля мяне робіцца?!.

— Дадушы не, сястра! Ці так, ці так—я неўзабаве жаніцца буду. Ты мне папярок дарогі не стаіш.

Пасьля раззлаваўся:

— Дурная ты!

Агата змоўчала.

— Няма ведама, з чаго наганяеш сама на сябе жах... Ачамярэлі мне твае гэтыя сьлёзы.

— Я ніколі сьлёз ня пускаю.

— Дык так усё ныеш.

Цяпер сапраўды ў Агаты заблішчэлі на вочах сьлёзы. Яна сарвала з твару хустку, кінула на драбіны Каля вочаў пачырванела, твар зрабіўся няпрыгожым. Стаўшы на калені яна дагрkörбла градус. Фэлька ўссыпаў кош бульбы ў воз. Яна атрэпала спадніцу ад зямлі, выцірала кулакамі вочы і пэцкала зямлёю твар. Фэлька цмокнуў на каня, рушыў з поля. Яна засталася адна, кабісьці наводдалек. Сьпявалі на полі дробныя птушкі, награвалася сонцам пад нагамі жвірыстае каменьне, чэзла трава на верасенскіх межах. Тхнула чабром і піжмаю; дрымотна зьвінела сухая трава, ці то зельле. Спарыш і дзяцельнік гусьціліся ля дарог, цьвілі і вялі жоўтыя кветкі на высокіх сьцяблох. Яны пападалі між пальцаў босых ног, пакідалі там на нагах галоўкі свае. Агата нагіналася, каб выкінуць іх. Тады мацней пахла верасенская зямля.

Даўно схаваўся ў лагчыне за ўзгоркам Фэлька з возам, і яна ішла адна сярод жоўтае задумённасьці.

„Фэлька раней прыедзе дадому, пачакае мяне ссыпаць бульбу з возу, два мяшкі зьверху, пэўна, скіне адзін—здаровы, прыгожы, трохі пануры. І няўжо ён сапраўды стараецца збыць мяне з хаты! Ці не з Алімпаю гэта зладзіў ён, а тая-ж ведзьмаватая трохі, дарма што нядаўна каровы яшчэ пасьвіла. А за Фэльку яна маладзейшая гадоў на дзесяць, калі не больш. А можа й не яна гэта, можа іншая. Але-ж ходзяць разам вечарамі, Фэлька прападаць у яе падоўгу стаў. І Асташонак нечага там трэцца ўсё. Але дзе ён ня трэцца, куды ён ня ўлезе! Нідзе спакою ня дасьць. Ніякае сталасьці ня мае і, мабыць, ніколі чалавекам ня будзе. Што за карысьць, што малады і прыгожы, калі кручаны, і невядома калі пасталее. Яшчэ гатоў і Фэльку напсаваць якнебудзь; і чаго Фелька не патурыць яго, гада—ходзіць ды хваліцца, што абармотам стаў за тры рублі. Вісус; пошкудзь гэтая... Няхай-бы Фэлька браў бы сабе Алімпу, што яму маладому жыць так. І ў хаце ладней было-б... „Цябе Зыгмусь, кажа, будзе на руках насіць“. Зыгмусь хоць стары чалавек, усё ў яго ў парадку, і нікому ён прыкрасьці ня зробіць, і пальцамі на яго людзі не паказваюць... І кахае мяне. І пасуседзку з Фэлькам будзе жыць—усё будзе душа ў душу. Добра ўсё будзе... Бо й праўда—дарэмна я часам на Фэльку сярдую, ён пабрацку ўсё хоча каб як найлепей. І што я нагавару яму, дык ён усё змоўчыць. Хіба ён кепскі брат? Нічога сабе каторы ўжо год не спраўляе, а мне колькі гарнітураў накупляў. Добры ён, добры. А я крыўджу яго часам, сама ня ведаючы за што. Ён-жа сапраўды—калі мяне з хаты збываў? Здаецца ўсё мне. З Зыгмусем з малых дзён дружыць. А каб Зыгмусь быў кепскі, дык хіба ён дружыў-бы з ім... А Асташонак... Што там Асташонак!..“.

Аднак вострым сумам на момант сьціснулася сэрца. І зноў ціхі прастор палявое восені агарнуў спакоем душу.

Плыў водыр павольнага кананьня травы і кветак. Верасень чула дрымаў на іржышчы, уздыхаў радасным шэптам кустоў.

## V

Моцна стукалі аб зямлю яблыкі. Пахлі загарэлыя вінёўкі і недасьпелыя бэры. Каля платоў расьцьвітала бабіна лета. Куры склёўвалі садавую макрыцу, у двары каля студні плюхаліся качкі. Каля прыгрэбкі Стасюк адкусваў па дробцы ад хлебнае скарынкі і кідаў курам. Куры хваталі ежу і з зайздрасьці дзяўблі адна адну ў галаву. Тут-жа стараліся пажывіцца вераб'і. Кідаючы крошкі, Стасюк гукаў, каму кідае—„гэта табе, Тадора“—заяўляў ён старой, вальляватай і кашлатай курыцы. „А ты, Рыжы Яначка, не хватай, калі табе ня кідаюць“—злаваў ён на шчуплага, абскубленага ў бойцы, маладога пеўніка. „Чаму Чарнявы Рыгор ня крадзе чужога“. Але Чарнявы Рыгор у гэты час падскочыў Стасюку пад ногі, каб адабраць у Тадоры крошку. Тадора ўцякла, а якраз папаўся Рыжы Яначка. Дык Чарнявы Рыгор і дзяўбануў Рыжага Яначку ў галаву, аж у таго замакрэў ад крыві грэбень. Стасюк кінуўся ў плач:

— Цёця Агата, чаму Чарнявы Рыгор, каб ён выдах, Рыжага Яначку чуць не забіў!

Агата паволі йшла па садзе да Стасюка, жмурачыся ад сонца і сьмяючыся.

Якога гэта Рыжага Яначку?—пытаўся Фэлька, высунуўшыся з сянец, з квартаю недапітага квасу.

— Певень гэта ў яго завецца.

Фэлька паставіў квас на лаўку каля дзьвярэй, падыйшоў да Стасюка, з сьвежым тварам пасьля сьвяточнага дзённага сну, у новых галіфэ, босы яшчэ. Прыгарнуў Стасюка да сябе, сьмяючыся сказаў:

— Эх ты, сынку... Байбас ты свавольны.

Пагладзіў па галаве, пайшоў у хату адзявацца, радасны і спакойны. Агата падхапіла Стасюка на рукі, жартаўліва панесла ў сад. цалуючы яго ў бялявыя валасы. Стасюк трапятаў нагамі, вырываўся, весела рагатаў.

— Ах ты, свавольнік. Бусьлянё ты цыбатае. Малы, сьмешны ты, Стасюк... свавольнік.

Выцалавала яго ў твар, у галаву. Пасадзіла на траву, гладзячы па галаве.

— Цёця Агата, яшчэ.

— Чаго?

— На рукі.

— Бачыш ты, пястун. Цяжкі ты.

— А-ай!

Зноў песьціла яго. аж пакуль яму надакучыла. Тады пусьціла яго гуляць на вуліцу. Перасадзіла цераз нізкі паркан і глядзела, як пабег ён на той бок вуліцы і пыліў па зямлі босымі пятамі. Доўга глядзела на яго. І пайшла па садзе, сумуючы па сваім, няведаным ніколі, дзіцяці. Здавалася—усе думкі былі-б аб ім і апраўданы сталі-б усе трывогі і буры яе незадаволеных шуканьняў. Жаданьні сталі-б выразнымі і доўгавечнымі.

І зноў патрэбна стала песьціць Стасюка.

— Стасюк, сюды бяжы.

— Не.

— Бяжы, сыночак... Хадзі.

Вышла на вуліцу, узяла на рукі. Там-жа ў садзе гладзіла яго па галаве, цалавала ўсяго. Трохі зьдзіўлёны Стасюк заплюшчыў вочы, пакінуў сьмяяцца. Маўчала і яна, тулячы да сябе малога. Пасьля павяла ў камору, карміла павідлам і ўсё думала, чым-бы яго малога ўзрадаваць.

Фэлька глядзеў з сянец у камору і рад быў гэтакай ласкавасьці сястры да яго сына:

— Нашто ты яго распешчваеш гэтак.

— А хто-ж яго, сірату, папесьціць.

Фэлька аб нечым думаў, гледзячы цераз паркан у сад. Пасьля ўвайшоў у хату, выправіў Стасюка гуляць і нясьмела пачаў гаварыць. Смуглявы твар яго быў нэрвовым, як ніколі раней. голас—ціхім, немагушчым нейкім. Гаворачы, глядзеў ён на каляровую вытканую Агатаю посьцілку, што паслана была каля стала на падлозе. У вочы-ж Агаце ён ні разу ня глянуў.

— ... Што-ж Стасюк, добра ты кажаш, сірата... Памерлага з магілы не паднімеш... Як я яе ні кахаў, а нічога парадзіць ніхто ня можа... Як гляну на Стасюка, дык і стаіць яна ў ваччу ў мяне, дагэтуль забыць не магу... Астаўся малы, небарак. сіратою.

Патроху дагаворваўся да самага важнага:

— Ты-ж ведаеш... дагадваешся даўно... Алімпа за мяне замуж ідзе.

Тады Агата крыўду, ці зьнявагу да брата пачула ў яго-ж словах:

— А чаму ей ня ісьці за цябе. Ты гаворыш гэтак, як-бы яна робіць табе ласку. што йдзе за цябе.

— Не, не.

— Што-ж ты... Няхай дзе лепшага знойдзе. Які з цябе ўдавец! Ты сам ня ведаеш сябе...

Радасны Фэлька разгаварыўся, але быў вельмі далікатным з сястрою, нават сказаў, што з Алімпаю яны павінны ладзіць, бо Алімпа надзвычай ласкавая і добрая; што ўся сям'я ў іх вельмі паважная, і Алімпа інакшаю быць ня можа...

Доўга гаварыў узбуджаны Фэлька, а яна стаяла каля вакна, напроці печы, за няшчыльнаю перагародкаю з пабеленых цалёвак і думала, што брат нечага ня выказвае, ці ня можа выказаць. Можа й сапраўды гэта будзе лепш і для яе і для яго—што нібыта такі намерылася яна ісьці за Зыгмуся Чухрэвіча. І яна будзе мець дзіцё, і яе будзе кахаць і шкадаваць.. Зыгмусь Чухрэвч.

На момант нешта кальнула сэрца. Пасьля ўспомніла, як вельмі шмат сваталася да яе, вельмі шмат уздыхалі па ёй, але ніхто не падабаўся, а без каханьня замуж ісьці не хацела. Так і прайшла першая дзявочая маладосьць. І другая на сконе... цяпер жа яна ўсім падабаецца, але ўсе на шмат маладзейшыя за яе хлопцы; старэйшыя-ж усе пажаніліся.

Старалася яна перамагчы ўсе вялікія трывогі свае і заспакоіць неспакойнае сэрца.

Неўспадзеўкі думка адна зноў кальнула яе: „Дзіцянё можна мець і ня йдучы за Зыгмуся Чухрэвіча. Я-ж сама сабе тут у брата гаспадар. Палавіна ўсяго—мае-ж тут. Ды й Фелька - слаўны брат, наўзьдзіў добры і памяркоўны“...

Але ўсё сплывала пад цьвёрдым поступам жыцьцёвых устанаўленьняў. І замест бунтоўных думак прыйшоў спакой душы і сэрца.

Фэлька зваў прайсьці разам па вуліцы. Падхарошыўшыся перад люстэркам, пакінулі яны Стасюка гуляць з дзецьмі ў зачыненым садзе і пашлі ціхаю і люднаю пасьвяточнаму вуліцаю. Зайшлі да Алімпы і з ею, каля яе хаты, на вуліцы, селі ўтраіх.

## VI

Уночы быў вецер і дождж і шмат атраслося недасьпелых антонавак, вінёвак і бэраў. А назаўтра ў нядзелю з самага ранку расчысьцілася неба і сонца пачало прасушваць зямлю. Атрэсеныя яблыкі і грушы насыпаны былі ў сенцах каля сьцен і пахлі на ўсе сенцы і хату. У хаце ад гэтага здавалася яшчэ шумней і цясьней. Гасьцей было цэлае застольле. Фэлька пазваў Алімпу з бацькам і маткаю і Зыгмуся з братам і братоваю. Было падобна на заручыны дзьвёх пар. Гаспадарыла каля стала Агата, радасная Алімпа, смяючыся і паглядаючы Фэльку ў вочы, расставіла талеркі і яшчэ нешта памагла Агаце. Агата села за стол пазьней за ўсіх. Алімпа сядзела каля Фелькі, Агата каля Зыгмуся. Пілі зішнёўку, і Зыгмусь паважна расказваў, што гэты год у яго шмат вішань, і дрэнна, што ніхто не здагадаўся паставіць настойкі.

— Каму гэта ў голаў,—таксама павольна дапамагаў яму брат.

— У гаспадарстве ўсё добра, і ўсё патрэбна,—падтрымліваў гаворку разьбітны Алімпін бацька.

І як падпіў, з радасным захапленьнем загаворваў з Фэлькам, ужо можна сказаць зяцем сваім, аб чорным Зыгмусевым жарабцы. Зыгмусь не спяшаючы еў вяндліну і ўважліва прыслухоўваўся, што гавораць пра яго гаспадарку. Агата глядзела, як Фэлька глядзеў Алімпе ў вочы, як ружовіў хмель Алімпін твар. Бачыла, як абое яны, падвыпіўшыя

аж млелі адно па адным і не маглі схаваць гэтага. Абварочвала Агата твар на Зыгмуся, а ён слухаў усё, што стары гаворыць пра яго жарабца і зрэдку ўстаўляў слова:

— Але, але, золата—а ня конь.

Пасьля, як яшчэ выпілі, старыя і жанатыя распачалі агульную гаворку, Фэлька з Алімпаю пачалі ў паўголаса аб нечым гаварыць, а Зыгмусь старацца пачаў выказаць усім свой погляд на конт коняй і садавіны. Агата скосу зірнула яму ў вочы і заўважыла пабабленую скуру ў яго каля вушэй, доўгія шчокі і нізкі лоб пад начэсанымі на яго змочанымі валасамі. Ён глянуў на яе, кіўнуў ёй галавою і зноў узяўся за сваё.

— Зыгмусь,—шапнула Агата.

— Што?

— Зыгмусь.

Ён усьміхнуўся, схіліўшы ў яе бок галаву. Тады яна ўбачыла тупую санлівасьць яго вачэй і набеглыя ад усьмешкі зморшчачкі каля іх. Вусы цяпер ня былі падкручаны і макраватыя, зьвісалі кончыкамі валасоў на самыя зубы.

— Божа-ж мой,—з смуткам уздыхнула Агата:—Зыгмусь, Зыгмуська...

Падсунулася бліжэй і раптам зноў адсунулася: той ужо зноў гаварыў павольна і стала аб тым, як жарабец яго парваў быў раз пута і паўгоняў аўса стравіў.

— Зыгмусь...

— І аўса шкода, і пакуль я злавіў яго...

— Зыгмусь...

— Ня так шкоды як нявыгоды... Што?

Агата глядзела на яго абвіслыя вусы і губы. Ён падсунуўся бліжэй, бязвольна нейк усьміхнуўся, жуючы, можа нават пустым ротам. „Нашто ён піў, ведаючы, што робіцца гэтакім, як вып'е?!".

— Зыгмусь!

А Фэлька і Алімпа гутарылі ўсё паціху, прыгожыя, радасныя.

— Божачка-ж мой...

І раптам устала з свайго месца Агата.

— Куды вы, панна Агата?

Цяпер яна ня глянула на Зыгмуся, азірнулася толькі выходзячы за перагародку ў кухню. „Ісьці за яго? І каб дзіцё маё было ад яго? родненькія-ж мае... А божачка!".

Чула тлум за сталом і скрозь усё голас Зыгмуся:

— Агата... Панна Агата!..

„Які-ж у яго голас!",

Сьціснула губы, глядзела бязмоўна ў вакно. Хіліўся сонечны дзень да заходу сонца, перад вокнамі сад адкідаў доўгія цені. За сталом усё гаварылі. І зноў чуўся Зыгмусеў голас:

— Панна Агата.

„Чаго ён хоча ад мяне?".

— Панна Агата, я іду шукаць вас.

Чула, як шмаргануўся па падлозе ножкамі зэдлік, затупалі Зыгмусевы гамашы.

„Гэта-ж ён будзе мець права калі захоча хадзіць за мною". Язык у яго трохі блытаўся:

— Панначка Агата.

І так кружылася ў галаве, а гэта моцна стукнула ў мазгох. Усё заварушылася перад вачыма. Яблынавыя цені і сонечныя лапіны на

зямлі заскакалі і пераблыталіся Закалацілася сэрца і заныла душа выбухамі вострага суму. Ужо на гэты бок перагародкі стукалі Зыгмусевы гамашы. Тады яна кінулася ў сенцы, выбегла на двор. Зачыніла за сабою дзьверы. І пабегла на прыгуменьне. „Куды-ж мне?!“ На прыгуменьні Стасюк кідаў пакалкамі на вераб'ёў.

— Куды ты, цёця?

Думка ў яе зьявілася раптам:

— Да Асташонка. Ідзі скажы у хаце, што я да Асташонка пайшла.

— І я з табою пайду, цёця.

— Бяжы ў хату скажы ўсім, што я пабегла да Асташонка. Скоранька бяжы.

Агародамі пайшла спакайней. Калацілася трывожна сэрца, кружылася ў галаве, сплывала патроху ценжар, што гняла душу. Ня думаючы, два разы азірнулася на свой сад. Верхавіньне груш было ясным і зялёным. Заходзіла сонца.

## VII

Раставала ноч, як Асташонак прывёў Агату дадому. Яны яшчэ пасядзелі на вуліцы, перакідваючыся рэдкімі словамі. Фэлька ня спаў— з вуліцы праз вакно бяз фіранкі відаць было, як тупаў па хаце, з расшпіленым каўняром белае сарочкі, у камізэльцы.

Фэлька,—гукнуў Асташонак.

— Ціха ты.

Фэлька выйшаў на вуліцу, няцьвёрда ступаючы разбутымі нагамі, хмельны яшчэ.

— Асташонак, ты?

— Ну як?

— Што?

— Усё

— Ціха вы, абадва!

Агата ўстала, думаючы калюча ўпікнуць чым—небудзь Фэльку. Маўчалі ўсе трое. Фэлька, трохі зьбянтэжаны, сказаў:

— Зыгмусь пакрыўдзіўся.

Зыгмусь Чухрэвіч пакрыўдзіўся!—сказала моцна Агата.—Ты йдзі,— загадала Асташонку.

Асташонак пайшоў, разьвітаўшыся і з ёю і з Фэлькам за руку.

„Зараз пачнецца самае важнае“—з сумам падумала Агата. „І няхай сабе пачынаецца што хоча“. Пачала шукаць у думках слова, каб укалоць Фэльку.

Але Фэлька падыйшоў да яе бліжэй, паглядзеў моўчкі ёй у твар і сказаў:

— Ты ня крыўдзіся на мяне.

— За што?

— Ты-ж думаеш, што я сілком цябе ўгаварваў ісьці за Чухрэвіча. А яно ня гэтак. Ня йдзі ты за яго, калі гэтак не падабаецца ён табе... Хто гэта мог падумаць... Нядобра адно што пакрыўдзіўся ён, такі-ж мы з ім дружылі.

— Адкрыўдзіцца, калі табе гэтак хочацца.

— Я памiруся, толькі ты ня ўмешвайся больш у гэтую справу.

— Я ніколі не хацела ўмешвацца.

Сьлёзы душылі яе, і яна пачала плакаць, сеўшы і прыпёршыся плячыма да сьцяны. Фэлька сеў каля яе. Палажыў руку на плячо, хмельны і расчулены пацалаваў сястру. Яна плакала ціха. Пачынала сьвітаць. Выплаквала свае сьлёзы, рабілася ёй лягчэй.

— Кінь ты, ня плач. Усё скончылася. Хіба табе кепска жыць на сьвеце?

— Бяры ты хутчэй сваю Алімпу.

— Чаму ты гаворыш?

— Хачу табе дабра.

Зноў брат пашкадаваў яе, пагладзіў па галаве. Яна ўстала. Стала на паўзмрочнай вуліцы—прыгожая, здаровая, моцная. Высыхалі на вочах апошнія сьлёзы, хараство жаночай усьмешкі расьцьвітала на твары. Фэлька стаў поплеч з ёю:

— Заснуць з гадзіну трэба яшчэ.

— Ідзі.

— А ты?

— Зараз іду.

— Засталася на вуліцы адна.

Ясьнела неба, віднела на зямлі. І шкода стала ёй што адправіла яна так хутка дадому паслухмянага перад ёю Асташонка.

Паволі пайшла ў двор, поўная жаночага хараства. Ледзь прыметна ўсьміхнулася—як на ўсходзе заружавеў гэта першы прамень маладога сонца.

Ападалі і пахлі ў садзе грушы. Усход расьсьцілаў бяліць ружовыя палотны.

**Лукаш Калюга**

# Ні госьць ні гаспадар

*Аповесьць.*

Працяг.

VII

У нядзелю раненька, ня даўшы Чвардоўскім пасьнедаць, прышоў да Хвядоса Пётра Хвалісін.

Ігналя, адказаўшы на „дзендобры“ папытаў, ці высушыў ён сена на луках.

— Не. Шчэ ў завоіне разьбітага ёсьць вазы на два, –адказаў.

Ігналіха падзівілася.

— Але й раньнія людзі ёсьць: ужо вось Пётра й агледзеўся дома. А мы з Ксеняю дык да паўдня сьпім.

— А якая там воглядка мужчыну ўлетку! Каня вывеў на пашу, пасьнедаў і хоць на край сьвету да вечара сыходзь.

Ксеню трохі кальнула мацярына слова. Спаць да паўдня—ня гонар вясковай дзяўчыне. Круціся сабе на сяле як ноч вяліка, да пявуноў, да ранку; а толькі разьвідневаць стане, дайніцу ў рукі й бяжы ў хлеў каровы даіць, каб у пастух ня выгнаць нядоеных. Па задзе-ж за пастухом гнаць—нязручна: людзі будуць за гультая мець, хлопцы пальцамі паказваць, калі ўгледзяць.

— Што вы, мамка, кажаце! За вамі ніколі хвілінкі лішняй ня прыкархнеш. Ад поўначы самі ўстанеце ды й возьмецеся „уставай!.. раніца вунь!..“ праводзіць.

Сьмяецца Ігналіха.

— Маладзец ты ў мяне!—пахвалілася перад хлопцам.—Дасужая!..

— Альбо-ж Пётра каму адкажа?

— Альбо й не?

— Пётра, адкажаш?—Як сядзела перад сталом на столку, дык палажыла лыжку на стол і абярнулася к яму тварам Ксеня.

Той быў заняты. На падаконьніку апароў нумар „Беларускай вёскі“. Тады, як Ксеня пыталася, прачытваў „Што робіцца на сьвеце“— свой любы аддзел.

— Як сабе хочаш!—ляпнуў, не падумаўшы, ня чуўшы пытаньня: абы адкасьніцца.

Ксеня ў рогат. Усьміхнулася ўсё застольле людзей. Падняў на іх вочы Пётра, скончыўшы запаметку вэнгерскага сялькора. На другіх гледзя, вяла ўсьміхнуўся й ён.

— Ці ня любіцеся вы, ліха вас ведае? Чаму ён цябе гэтак слухае?— сьмехам папыталася ў Ксені маці.

— А хто яго ведае? Пытайцеся ў самога.

Зноў пашавяліў Пётра губамі.

---

А цяпер будзе мова аб тым, што за хлопец Пётра Хвалісін.

Перш-на-перш, падак ён да ўсяго друкаванага. Дзе-б ні трапілася яму што якое, што льга прачытаць, дык ня выпусьціць з рук ці не адойдзецца, пакуль не прачытае, што толькі льга: ці то кавалак газэты

леташняга, пазалеташняга, васемнанцатаго, дзесятага году, або якая абвестка ці вывеска. За гэтыя гады праз яго рукі прайшло мноства ўсякіх лісткоў і брашураў на палітычныя тэмы. Мае некалькі штук і сваіх, што прышліся яму 'шчэ да прыходу палякоў на Беларусь.

Тады пашыраліся кнігі не за грошы, а дарам. Хто трохі цёрся каля розных комітэтаў, дык цягаў іх дамоў па пачку. Быў і з Жыздрыцы адзін чалавек, выбраны ў валасны рэўком за дэпутата. Завяліся і ў яго палітычныя кнігі. А пашла завaруха. Пусьцілі дзейкі пра палякоў: вельмі-ж яны комуністых ня любяць і з людзьмі—гады. Памеркаваўся Жыздрыцкі дэпутат.

— Кепска будзе!

І меўся пусьціць з дымам сваю бібліотэку, каб за камуністага не палічылі. Сказаў гэта ў сакрэце двум—тром павяроным сваім прыяцелям. Ад некаторага з іх і падчуў Пётра пра гэта. Тады 'шчэ малы ён быў: у пачатковую школу толькі што кінуў хадзіць.

Зарупіла малому сабе кніжак прыдабыць. Можа й з цацкамі 'шчэ! Шэраю гадзінаю аднаго разу прыходзіць ён к дэпутату і просіць:

— Аддалі-б можа мне, дзядзька, кніжкі! Нашто іх дарма паліць.

Падумаў той. Памеркаваўся ды й кажа:

— Бяры сабе. Толькі глядзі, каб дома не сварыліся на цябе.

— Не, ня будуць.

Адчыніў дэпутат шафу. У ёй зьверху на паліцах сякі-такі пасудак стаіць і пляшкі з пад самагонкі, а на йсподняй—пад адзежаю кніжкі.

— Бяры, каторыя хочаш!

Выбраў Пётра тыя, што таўсьцейшыя й з вокладкі аздобныя альбо з малюнкамі ў сярэдзіне.

— Гэтыя,—кажа,—забяру.

— Можаш і ўсё браць. Мне ня шкода: ня куплёныя.

— Хваціць. Хаця гэтыя прачытаць.

Дома ў пячурцы за печчу схаваў сваю бібліотэку. Ды ня доўга яна там палюцкавалася. Нечакана іх апарола й тамака Пётрава маці. Шукала гэта яна суконак на печы, каб Язуку, мужыку свайму, у лапці абуць. Памацала ў пячурцы.

— Што гэта тут?

Маўчыць Пётра сьціхатою, ўсёроўна як і ня ведае нічога.

Нягодная маці яго. Век вечны на некага ўсё злуе. Нешта ёй ня па душы. Язуком як хоча, так і камандуецца. Загадае калі на поле ехаць, калі гной вывезьці, назіму пазябліць. І з суседзямі сама сварыцца: нікому й злажыцца з брэхнямі ня дасьць. Пярэч, ці вінавата слухай—усё адно, ніхто тваіх слоў за яе звонкім, моцным голасам не пачуюць. А Язук крапіўся-крапіўся ды на сорак трэцім годзе свайго жыцьця й аблёг. Крываўка тады хадзіла. За тыдзень і даўся бядак. Хваліся перад людзьмі ўсяго разоў два бралася прыказаваць. А каля работы 'шчэ жарчэй пашла. Ад тых дат нічога не зьмянілася. Камандатарства так і асталося ў Хвалісіных руках.

Агледзела сынаву бібліотэку—і ўсхадзілася... усшурмавалася.

— Гад ты!.. Цераз цябе прападзём!—доўга-доўзазна прыказвала, лепш як па мерцьвяцу.

Потым зьняла скарач з шастка над комінам. Пётру прэньзьлямі высьцябала. Кажа:

— Нясі туды, дзе ўзяў Каб і шныру іх ня было.

Неапранутага, бяз шапкі высунула за дзьверы. Падаткнула кніжкі пад паху. У каршэнь кухталя на дарогу дала. Пашоў Пётра ўсхліпуючы. Давіцца горкімі сьлязьмі.

А было гэта пазнавата, увечары. Восень находзіла. Дзьмуў сярдзіты вецер. Шастае на хлапчуковых шчупліпькіх плячох шырокую кашулю. Дрыжыкі прабіраюць. Іголкамі дацінае холад яго неапранутага.

Паглядзеў на вуліцу. Нямашака нікога нідзе. Азірнуўся на бліскушчыя вокны свае хаты—не прызыраюць за ім

Борзьдзенька на дыбачках, каб у хаце не пачулі, пабег у гумно. Да часу падаткнуў кніжкі пад страху ў калашні. Тамака трохі ‘шчэ пасядзеў на саломе ды вярнуўся ў хату.

— Аднёс?—з пытаньнем яго стрэлі, толькі пераступіў парог.

— Але,—панура адказаў. А ў горле солана ад сьлёз. Палез на печь. Сеў адзін—адным у куточак Гэтак і вячэры прычакаў.

Назаўтрае паехалі сталейшыя на поле картоплю капаць. Хацелі й Пётру павезьці з сабою: патом накапае кашэль які! Але памеркаваліся й сказалі:

— Хай хаты папільнуе, ато толькі зьмерзьне ў полі.

А яму гэта й наруку. Узяў жалязьняк. Пашоў у калашэньку, узадраў памосту дзьве дошкі. Выкапаў ямку невялічкую. На гары найшоў сгары куфэрак без завес. Спакаваў у яго сваю бібліотэку. Закапаў. Замасьціў. І прызнаў:

„Нідзе знаку няма“.

Гэтак было датуль, пакуль палякоў не прапсюрылі. Тады прышлі бальшавікі. З палякамі замірыліся. Сьмялейшы стаў Пётра. Адкапаў магілу ў калашні. Бачыць:

„Цэлыя“.

Перахаваў на гару, далей ад матчынага дасьціпнага вока. Калі мае час, дастане адну каторую ды чытае сам сабе, што праз саломінку ў гарачы летні дзень цягне з сьветлай крынічкі сьцюдзёную ваду. Добра тады. З каляндара за дзевятнаццаты год вывучыў жыцьцяпісы правадыроў рэволюцыі. Ведае, як тульскі мужык вуму-розуму навучыўся, і ‘шчэ шмат чаго

Увясну і ўлетку надвячоркам зьбіраюцца на вуліцы мужчыны каля чые прызбы. Трэба-ж аб тым-сім пагаманіць. Падыйдзе туды й Пётра. Заўнімецца з боку дзе. На перад ня лезе, каб сталейшым у рот пазіраць, як тыя гавораць. Ня мае ён гэтай дзяцінай моды. Не канечна, каб усюды ўтыкацца.

У гурце спрэчкі йдуць альбо лагодная гамонка.

— У бальшавікоў у васемнаццатым годзе добрая была праграма. Зямлю, значыцца, усю на сялян падзяліць. А цяпер вунь што!—саўхозы. І начорта яны?—каб хто папытаў,—лагоніць каторы з разумнікаў Жыздрыцкіх, бывае што й даўнейшы дэпутат.

Слухае Пётра. Сам сабе ціхенька ўсьміхаецца. Маўчыць. Каменем на языку вісіць тое, што трэ‘ было-б сказаць. Ды зацяжак ён падла, гэты язык Ня слухае хлапца сарамяжага. А ўдругое: ці-ж малому хто веры дасьць? Ды й боязна неяк перад сталейшымі. Сьмяяцца, накпіваць будуць:

— Разумнік знайшоўся!

— Дай ты рады! І, здэцца, гэтакі даматур.

З Хвядосам затаварышкаваў. ‘Маль не аднагодкі яны абодва. Ну, можа Пётра старэйшы гады на два. Сыйдуцца дзе разам—ад гаворкі не ацярабіцца. Нават і гулі сабе новыя, не такія, як у другіх дзяцей, задумалі. Зьбяруць дзяцей ды:

— Слухайце, малыя! Вы будзеце асэры, а мы бальшавікі. Будзем гэтак гуляць.

— Давай гуляць!—згаджаюцца.

Толькі нарвецца каторы пухнач. Разьвядзе рукавом рагі па шчоках, як вусы ў даўнейшага паліцэйскага. І той просіцца:

— І я буду за бальсявіка!

— Дзе ты будзеш. Гэтакаму маломў толькі за асэра й быць. Мы большыя, дык і бальшавікі.

Паробяць з лучыны шаблі.

— Давай у вайну гуляць

І пабеглі на выган.

А падрасьлі крыху, ужо брыдка ў вайну гуляць: дома бацькі сьмяюцца. Хвядос больш двух слоў і гаварыць сароміцца з блазнамі, сваім былым „войскам“. Пётра лепшага характару. Калі папросяць, дык і пакажа, як выштукаваць ваўчок з шпулькі ад крамных нітак, ці як стрэлку ўвясну з маладой хвойкі спусьціць. Толькі пасьміхацца з іх стаў, чаго ніколі не запамячалася.

Потым аддалі Хвядоса ў навуку. Бацька ў мястэчка адвёз. Урэдкую на нядзелю прыедзе ці прыдзе дамоў. А ў панядзелак з самага ранку, 'шчэ зацемна, бацька ў мястэчка з хлебам і да хлеба замчыць на каштанцы.

Убачыць ці пачуе ад каго, што дома Хвядос, прыбяжыць да яго Пётра.

— Можа, што прывёз?—папытае.

— Прывёз крыху.

У мястачковым нардоме кніжкі чытаць даюць дадому. Калі сам спадабае Хвядос каторую, дык дома быўшы й Пётру да часу дасьць.

„Хай чытае, калі ахвота ёсьць“.

У гэтым ліку многа чаго было. Там і „што дала сялянству Кастрычнікавая рэволюцыя“ й „стэнографічная справаздача конгрэсу Чырвонага Профінтэрну“. Ды больш усяго шыбе Пётру ахвота да гісторыі партыі. Расстараўся яму Хвядос кніжу Бубнова. Прачытаў.

— Добрая.—кажа:—але малая.

— Можа поўную гісторыю партыі прывёз? усё папытуецца.

— Няма, братка, цяпер.

— Глядзі-ж расстарайся!

— Ды ўжо-ж! Другім разам...

Яго маці, Хваліся, падка на работу. Дзе йдзе, дык ўсё подбегам. Некуды ёй трэба заўчасьне пасьпець. Крычыць, дзе нарвецца на свайго сем'яніна. калі той што зрабіў, ці як ступіў не па яе нораве. Ходарам ходзіць скура ў такі час на ілбе. Бэсьціць яна Пётру за чытаньне:

— Зноў распасьцёр свае кантычкі?!

На сына гляне, як падатак за пабочны заработак аддаючы. Толькі той сцягне кніжку з трамы, каб разгарнуць, раіць:

— Трушанкі лепш на заўтрае страсі.

На яе словы Пётра ўсьміхаецца доўгаю цягучаю ўсьмешкаю сваёю. Спагадна на матку зірне шырокімі вачыма.

— Трушанкі заўтра страсу. Нашто яна дарма будзе на таку ляжаць.

— Добрыя людзі на цэлы месяц наперад натрасаюць. а ў гультая заўсёды гэтак: „ат! я потым“. а той „потым“, як жыдоўскі „пачакай“.

На гэта Пётра адказу не дае. Збрыдала ўжо. „Добрыя“ ды „чужыя“ людзі даўно прыслухаліся яму. Многа гаво кі пра іх. Толькі ні разачку бачыць іх на свае вочы не траплялася.

Пётра ўжо сядзіць за сталом і ціхенька сам сабе губамі мыляе.

— Ідзі лапці мне падшый!. . аборы паві сьпярша,—дае Хваліся пільнейшую работу.

Цяперака не адкасьнешся. У Пётры жвавей забегалі вочы з радка на радок. Барждэжэй замыляў губамі. Ня ўсьлед, а датуль, пакуль датычаецца да запаметнага месца, каб у другі раз адразачку знайсьці, —яго й пугаю не адгоніш ад кнігі. Што маці ні лепіць, як клясьці ні надумляецца! —няма дуру

Бывае што й малодшая сястра асыкн цца. У мамчыну руку слова закіне.

— Во нурэц! Ня кіне модлаў...

Каму дык спусьціў-бы слова, а ёй не папусьціцца Пётра. Дзе гэта відана, каб усякая жаба вучыла! Калі толькі зачэпіць, дык хоць па прапорцыі: адно слова да дзесяці, але ня змоўчыць ён

— На, сучка, на!...—перадражніць, свой голас пад сястрын падвеўшы.

А дойдзе да запаметнага месца, загорне кніжку. Пamаленьку на траму паложыць ля абразікаў. Тады шукае пянькі. Ус аборы лапці падшываць

Ня помач бывае просьба, дык грозьбаю Хваліся думае вяршэнства над сынам узяць.

— ... скрадуся калі, ды ў печ ўсе „кантычкі" калі ўпраўлю! Трасцу!... Тады й Чвардоўскага кружадух ня дасьць другіх.

— Вы гэта кожан раз пляцеце А вось каб з раз...

Далей Пётра сястры не дае гаварыць

— Тут яна!... На-цю-на! Без цябе не абышліся.

— Спалю... падзяру!.. грозіць старая.

— Гэта й не Хвядосава кніжка,—спакойна тлумачыць сын матцы.

— Чорт яе бяры! А чыя-ж?

— Казённая. З бібліотэкі.

— Не пагляджу што з біблітэкі — ня можа Хваліся выгаварыць тпошняга слова,—адно ёй месца будзе.

— Паспрабуйце толькі!

— І спробаваць няма чаго—з трамы ды ў полымя.

— Спаліце, дык заплаціце, колькі варта будзе, ды 'шчэ штраф прыложаць к таму за самаўпраўства,—страшыць мацеру Пётра.

Глядзіць тая ў сыньськія вочы, утаропілася. Але гэта ня доўга... Раскурсталася і пачынае.

— Каб цябе, маё дзіцятка!...

І так, пакуль не абрыдае ці за работаю дзе не адвернецца.

Бывае разгорне Пётра кніжку, а у Хвалісі й чароднай працы на пагатове няма. Думае—ня здумае. Па добрасьці раіць яму тады.

— Ідзі сынок засьні крыху! Весялейшы будзеш

— Ня хочацца мне,— адкажа. І памалу перагортуе ў кнізе карту за картаю.

Рускі месяц пасядзеўшы за сталом, пасьнедалі Чвардоўскія. Гэ так у сьвята й мае быць, калі пільнай работы няма й страў наварана ды напечана многа. Пазадзе ўсіх вылез з-за стала Хвядос, хоць і першы палажыў лыжку. Раней бацькі не хацелася трывожыць, што на перадзе яго сядзеў.

— Ну што? што добрае знайшоў?—папытаўся ў Пётры. Цераз яго плячук зірнуў у разгорненую газэту.

— Кі айцы ўсё ваююць. І канца ім няма! Узяліся-б дружна ды й прапсюрылі-б навалач замежную. А яны цацкаюцца! Ад самага вялікадня ў руках газэты я ня трымаў. Тады толькі ў Аляксандравых

зяця, што з гораду прыяжджаў, падхваціў-быў тры „Зьвя ды“ за сакавік месяц. І ўсё адно: што тады, тое й цяпер. Усё кітайцы душацца. Але потым у гэтай вось пішуць, што рэволюцыя пераможа. І добра-б было!... Кітайская ССР ды ‘шчэ наша... падаўся Пётра ў доўгую гаворку.

Пераняў яго мову Хвядос.

— Гэта-ж я выпісаў сабе „Беларускую Вёску“.

Зірнуў Пётра сябру ў вочы.

— Добра!—зазначыў ды йзноў пачаў перапыненую мову: – А што? Я такі думаю, зьвернуць буржуям галовы! Гэта-ж кітайшчына.

— А як-жа-ж!

З цьвіку над ложкам зьняў Хвядос шапку. Пазваў Пётру з сабою:

— Хадзем на двор пад сонца.

— Я газэту вазьму.

— Бяры сабе.

Усьлед за імі вышаў на двор і Ігналя. Заўняўся каля варот на вуліцу. Прыскіліўся. Паглядзеў, як высока сонца, ці далёка да паўдня. Кажа.

— Пойдзем, Хвядос, копы разаб‘ём

— Пабудзь тут. Я зараз прыду,—папрасіў той Пётру.

— А дзе я дзенуся? Ідзі, куды трэба!

На гумне тры капы мурагу, прывезенага з лук, і копка асакі з завоіны. Сенажатнія кветкі чуваць. У сярэдзіне копы сагрэліся крыху. Адчуваецца парнасьць, як бярэш рукамі пласт. За забаўку разьбілі Чвардоўскія сена сваё па пакошы. Няхай насыхае. Пад вечар зложыцца ў старану.

— Ты-ж, Хвядос, ня ўцякай сёньня нікуды: з паўдня будзем сена з кліну вазіць. Бабы вунь разьбіваць пашлі,—паказаў бацька Ксеню з мацераю, якія ішлі на вуліцы ў напрамку лук.

— А ты звазіў з кліна?—папытаўся стары ў Пётры.

Той падняў галаву ад газэты:

— Учора скончыў.

— А што яму значыць з дзьвёх дзесяцін...

— Пэўне!

Узышоў Ігналя на двор. Заўняўся каля студні. З хвіліну пастаяў, пачакаў. Нечага падумаў Зірнуў у студню, заросшую воўчымі грыбамі. Потым раптоўна смаргануў брывамі ўгору. На твары павесялеў. Зачыніў за сабою вароты ад вуліцы. Пашоў на вёску.

Хлопцы селі на бярвеньнях пад сонца.

Пытаецца Хвядос у Пётры:

— Што ты думаеш пра камсамол?

Ня раз, ходзячы ў Хатнікі, гаманілі пра Пётру. Перабіралі па адным усіх Жыздрыцкіх хлапцоў. І выходзіла ў іх:

— Пётра—добры хлапец. Яго і ў камсамол ільга-б было...

— І політычна разьбітны.

— Толькі маці—вужака з вужак.

— Трэба з падходам, спакваля.

Колькі раз пачынаў з ім Хвяд с гэтакую гамонку, як і цяпер, ды ўсё з выхілкамі, ня выказуючы адразу ўсяго. Даваў кніжкі чытаць, у каторых пра комсамол пішацца Думалася „Ану, можа зацікавіцца“. Ды толку з гэстай турбацыі ня відаць было.

Усё адказваў, як і цяперака:

— Што ж? Добра! Гэта ў нас, дык... а вось у Заходняй Беларусі ці Кітайшчыне—тамака патаемна ўсё.

Далей з Пётрам гаварыць—будзе вялікая мова. Толькі запамячае Хвядос, што ён зьмест прачытаных кніжак пераказуе пасвойму, як зразумеў. Не ахвота слухаць чутае ўжо ня раз. На бліжэйшае зварочуе мову Хвядос.

— А ў Хатніках, ты думаеш, нічога ня робяць комсамольцы?

— Што-ж яны за комсамольцы былі-б, каб не рабілі нічога? Бладзік казаў, што сходы зьбіраюць, пасяджэньні бюро ў два тыдні раз у сераду ўвечары.

„Ужо й Бладзік яго падгаварваў“—падумалася Хвядосу.

— Цяпер вунь сьпяктакаль ставіць будзем,—хваліцца.

— Стаўце,—зусім незацікаўлена адказаў яму Пётра. Цяпер ён заняты. Падрад гоніць зьверху „Запытаньні й адказы“.

Хвядос ня тоячыся папытаў:

— Можа-б ты, Пётра, запісаўся?

Той як і ня чуў.

— Во дзе нехта пытаецца: „Ці льга адсудзіць у суседа грошы, што я пазычаў яму ў 1923 годзе?“ Ёсьць чаго пытацца?! Падаў-бы заяву ў народны суд—і квіта.

— Пётра! падай ты заяву ў комсамол! Добра-б тады было. На сходы ўтрох-бы хадзілі: ты й я з Бладзікам.

Нясьмела, памалу, бы рот жвакаю заняты, пачаў Пётра:

— Па мне можна-б было.—На гэтым і суняўся. Вяла спусьціў галаву бліжэй к газэце.

— Дык чаго-ж там! Я дам паперу—накрамзоль заяву!

— Што там крамзоліць.

— Так ня прымаюць. Трэба заяву... А раз хочаш, дык нашто чакаць?

— Па мне—нічога, але вось...—Доўгая цялячая ўсьмешка пры гэтым слове скрывіла яго ўніз нахінёны твар.

— Плюнь на ўсё гэта!

— ... дзень-у-дзень у дзьвёх агрызацць будуць.

— Пашлі іх з раз па крайняй меры!—з прыціскам сказаў Хвядос апошнія словы.

— Бывае.

— Пасылаеш ужо?

— Як пад час,—не сваім языком адказаў Пётра:—абы адкасьніцца.

Тарокаліся, аж покуль Ігналя ня вярнуўся з вёскі. Тады сонца бралася пад поўдзень. Чвардоўскія пашлі сена варочаць на гумно. Пётра паджгаў да дому палуднаваць. Неўзабаве вярнуліся й бабы з лук.

А па палудні загадуе бацька Хвядосу:

— Катні, галубок, на пашу па кабылу!—будзем сена вазіць.

Паглядзеў Хвядос на слонца—пара яму ў Хатнікі брацца. Просіць бацьку:

— Татка, схадзеце самі!—ды гэтак хораша, па ласцы:—Мне ў вадно месца трэба.

— Куды-ж гэта табе прысьпела?

— Тата!.. схадзеце!...

— Ну, ідзі сабе!—уважыў яму Ігналя.

Сам тымчасам зьняў у сенцах з крука вобраць. Рушыў у сваю дарогу.

Хвядос яшчэ раз на сонца зірнуў.

„Цяпер самы раз“—сказаў сам сабе. Пусьціў шырокія крокі па вуліцы. Па Бладзіка яму 'шчэ трэба зайсьці.

На балоце стары не забавіўся. Хутка паказалася старая салдацкая шапка з абламаным іiверам з-за вугла Цімохавай хаты, што на паваротцы вуліцы стаіць. Першыя-ж жыздраўцы ставілі хаты там, дзе чорт кольле паўтыкаў. Потым: каторы агародчык сабе перад акном адгарадзіў, другі толькі прызбу ад вуліцы абсыпаў, каб з суседам было дзе ў сьвяты дзень пасядзець, яго паслухаць і самому слова—два прыкінуць. Затым і вуліца не на нацягнутую струну, а на несабранае вужышча падобна.

Трохі сагнуўшыся сядзіць Ігналя на каштанцы, спаважна паглядае на людзкія двары.

— Хвядос прышоў?—папытаўся ў Ксені, толькі ўзьехаў на свой двор. У цэбар улiў два вядры вады. Поіць кабылу.

— А куды яго пагнала?

— Недзе прасіўся зьбегаць. Я што ведаю—куды?

— Нямашака дома.

— Зьбегай, Ксенька, к Мікалаю, пазаві! можа ён там.

— Добра!—адазвалася тая з вуліцы

Сынова непаслушэнства ўстурбавала Ігналю. Усякую драбязу да сэрца прымаў. Першая прычына была дуга, круглая й залішне цяжкая й сталаму чалавеку. Узяў яе стары ў руку, каб у гуж залажыць, а яна круць у руках. Другім бокам перавярнулася і дзёўб у зямлю канцом.

— Гэх—х! .. Каб цябе агні высмалілі!—прагаварыў, рота ня разьзяўляючы.

А Хвядоса ўсё няма. Усё ня йдзе дамоў. Загуляўся недзе... Прапала й Ксеня.

„Я-ж яму пакажу! Я-ж яго адучу, сабаку, рабочы як час марнаваць: па вёсцы валачыцца. Я-ж яго палаю—папагрызаю“!! Загадзя смакуе Ігналя сваю ўладу.

Ксені (толькі згледзеў, што вярнулася) і блізка да сябе не падпусьціў. За паўганей папытаўся:

— А дзе той сабака валачашчы?!

Ня ўсьпела супэнду дзяўчына бацьку адказ даць. У другі раз папытаў.

— Хутка прыдзе?!

— Няма нідзе на вёсцы

Казала Зьмітручыха, што бачыла, як з Бладзікам Матузавым недзе па загародзьдзі павалакліся.

— Гэх—х! Таварыства знайшоў!

— Садзецеся!—загадаў бабам, сеўшы на біле ў драбінцы, узяўшы лейцы ў рукі. Ксеня паслухала прысела ззаду, спусьціла босыя ногі далоў.

— А я й так зайду!—адказалася Ігналіха. Узяла сабе граблі. Пашла па межах нацянькі.

— Но! - гукнуў стары на каштанку.

Забарабаніла жэрдка па лёстках. Расківалася ў бакі драбінка па выбоістых калявінах сьценкі да самай павароткі на навозную сьцяну. У бакі матляюцца Ігналя з Ксэняю. А за павароткаю памацаў стары пугаю ў кабылы рэбры з абодвых бакоў, шлёпнуў па сьпіне. Мацней колы пашлі, больш груку... Вецер у дарогу наровіць. Хаваецца хурманка ў пыле, разам з ім імчыцца на сенажаць.

VIII.

Пасьля двух дзён дажджу выпагадзілася надвор'е. І адзін дзень ясны сонечны. І другі—сьпёка. Падсушылі людзі сена. А назаўтрае, толькі спала раса, спаважна папаўзьлі пад дом накладзеныя, як каню павезьці, вазы. А з дому ў поле з стукам кол, няшчыльна ўстаўленных лёстак, жэрдак імчацца як сьцягнуць на сенажаць ужо спарожненыя ад сена. Вузкія сьценкі пасярод жыздрыцкіх ніў. Усё зямлі людзям мала. Паўзьдзіралі межы, паўмежкі. Сьценка стала толькі як аднаму праехаць. Разьмінаюцца цяпер на чыю ніву зьехаўшы. Плянтуюць ад краю ячмяні, гарохі, градкі з картопляю. На сенажаці грабуць, пласты пластуюць, на вазы кладуць—завіхаюцца. Пагода—няпэўная рэч. Ясна на небе—харашо. А нагоніць вецер хмару—ліне дождж. Ізноў рабі нанава, сушыся з сенам. І цяпер яны, хмары-спакусьніцы, стоўпіліся на захадзе, самы край неба сваёю коўдраю завесілі. Пагражаюць з далёкай засады цеменьню й пахмур'ем.

Чвардоўскім адзін шнур усяго й асталося ўпыніць. І ўсё сена тады ў старане будзе. З раніцы забавіліся былі дома, дык апошні воз турылі дамоў пазьней за ўсіх па пацёмку. Ігналя ўзяў каштанку за павады й павёў, мяркуючы на паваротках, каб не аббурыцца: воз ня так ушыркі, як увышкі накладзен, за што і злаяў быў бацьца Хвядоса. Хвядос з Ксеняю не пашлі гэты раз усьлед сьцяною падоўжнаю й папярочнаю, але нацянькі мяжою, каб бліжэй было. Ігналя перш бачыў, як плыла поверх жыта белая Ксеніна хустка і разам з ёю пара грабель. Потым пакрысе ўсё зьмяшалася з сіняватым вячэрным туманам, патанула, распусьцілася ў ім.

З навознай папярочнай сьцяны зьвярнуў Ігналя на гуменную сьценку. Каляіны на ёй глыбокія ды выбоістыя. Носіць то ў той бок то ў той... А на самай павортцы не засьпяшыўся збоку плячом падперці, як нахінуўся воз, і абурыўся на грады з капустаю. Толькі ляха глухая наўкола пашла.

Хвядос з Ксеняю на перадточчы сядзелі, бацькі чакалі. Бачыць ня бачылі. А як пачулі, выскачылі на гумно. Зглядзелі—услана сенам капуста. Подбегам кінуліся памагаць.

За няма што наваліўся бацька на іх. Калі ў бядзе сам сабе помачы ня суладаеш даць, абы на ком—вінен ён ці ня вінен—тады трэба-ж злосьць спагнаць.

— Паляцелі недзе!.. А ты-бацька душыся адзін, чорт цябе ня возьме.

Загадуе што рабіць:

— Выпрагай кабылу!—чаго стаіш?

Рыміць:

— Ніхто па тваёй старасьці спогадзі ня мае. Ніхто ня стрэне, ня выправіць...

Гэтак з хатняю спрэчкаю, неабходна патрэбнаю ў злосьці і ў добрасьці, выпраглі каня, распусьцілі вужышча.. Сена ўсё ўтраіх знасілі ў ток, да заўтрага пакінулі на перадзе. Усяго тое й бяды, што поўграды капусты роўна з зямлёю зломана было ды у шырозных драбінах, што некалі купілі ў бежанцаў на снапы й сена, дзьве лёсткі аб кола ад крутога павароту напал пераляцелі.

У хату за агнём прышлі. Ксеня такі ня ўмоўчыла, першая мацеры пахвалілася пра прыгоду ў гумне.

— Туркнуў жа чорт!—засьмяялася Ігналіха, пакуль не дагаварыліся да псотаў капусты. Выплянтаваныя паўграды нешта значаць у гаспадыні. Гэтага старая ні пад якім відам ня можа нікому даравадь.

— Стары дурань! Каторы год езьдзіць па сьценках—і трэ' было выкуліцца! Каб дзе ў полі сярод канаў, а то на сваім гумне ня сумодаў выкіравацца.

— Ты сумодала-б надта! Каб так у цябе рукі служылі, як язык, я-б азалаціўся даўно.

— Трасцу вам налета, а не капусту Хваро-обу!—бубнячы цягала з печы гаршкі

І толькі на стале задымілася ад пары міска гарачай затоўчанай куцьці й пах расьцёртай кілбасы счулі насы Чвардоўскіх, дык спрэчкі як і ня было.

---

'Маль ня цэлую ноч і ўсю раніцу ліў дождж. Толькі пад паўдня выпагадзілася надвор'е. Гразь шчэ не разьмякла, толькі пыл прыбіты. Блішчаць лужы на сьцежках. Дно ў іх бы з бляхі выгнута. На вуліцы перад акном стала возера. У гумне на раньняй пакошы, дзе адскочыла мяккая сакаўная атава, мяняюцца пад слонца кроплі расы па бабовым каляве на лістках—дробязі.

Ігналю цяпер вольны час. Бабы ўправіліся жыта зажаць. Жменя яго ўжо трэці дзень як стаіць на куце пад абразікамі. Ды больш жаць няма чаго: 'шчэ зелена.

Шукаючы сабе занятку, абышоў Ігналя ток і адрыну. Памацаў сена ў старане. Папробаваў церці канюшыну на далоні: ці не перасохла, ці ня курыць.

Пашукаўшы і работу знайшоў.

„Трэба ў калёсы лёсткі ўставіць, што выламаліся.

Ды няма матар'ялаў на пашэве. Строс усю сядзібу, шукаючы бярозавага палена. Усе закануркі, усе падстрэшкі абшукаў—няма нідзе падобнага. Пазалетась былі клён за паграбцом спусьцілі. Знашоў ад яго некалькі курдавалкаў. Пядзяю прамераў. Ня выходзіць!—Як на ліха каротка тады адрэзалі. Парашыў:

„Схаджу к Юзіку. Ану можа расстараюся ў яго".

Што падумаў, тое й зрабіў. Памалу пасунуўся па загародзьдзі ў другі канец вёскі. Было тады з паўдня слонца зьвярнуўшы. Спала раса дажджавая. У градах агуркі гараць. Галоўкі капусты панямі сядзяць, бы ў пярыне, у шырокіх лапошыстых лістох зьнізу. Гарбузьнік адзін-адным далёка выкаціўся з град па скошаных паўмежках, адзінока павыстаўляў на пякучае сонца свае шурпатыя лісты. Ломіцца ды закругляецца сьцежка каля такоў.

Юзік, стрэчны брат Ігналяў па мацеры, з сітцом на твары падглядае пчол у рамавіку. Пагода добрая. Сама што яны носяць мёд. У гнязьдзе толькі адны маладыя, ня кусашчыя пчолы засталіся на варце. Гэтакаю парою толькі й падглядаць. Ня так борзда джалу зробіш. Выняў ён рамку. Падняў на ўзровень ачэй. Нечага ўглядаецца. А наўкола круцяцца паўкрыўджаныя пчолы. Гудуць. Некалькі штук іх поўзае па каўняры, шукаючы голага цела, дзе-б спрытней джалу ўсадзіць. Рап'ём ляцяць у вочы. Стукнецца каторая ў сітцо й назад адскочыць. Збоку на адкіненым у бок вечку куродым курыць. Тонкая стужка дыму ўецца ў высь ад яго.

Згледзеў Юзік, што Ігналя йдзе. Здалёк аказаўся:

— Пачакай там, браце! Я зараз... Надта-ж іх раздражніў сягоньня.

Той паслухаў добрай рады. Заўняўся каля град.

Юзік доўга не забавіўся. Борзда ўпарадкаваў рамавік. Па дзьве рамкі ў вадну й другую руку ўзяў ды панёс да хаты. На дварэ сышліся з жонкаю. Заўняліся абое. Пагаварылі. Жонка перш рукі разьвяла.

Потым уніз матнула галавою. На тым і разышліся. Юзік у хату. Яна ў сьвіран. Назад ішоў—убачыў жонку на пярэклеці. Моцна на ходу загадаў:

— Ты там прыстарайся чаго!

З Ігналем закінуў слоў пару пра пчолы, пра мёд:

— Вось трэ' было-б адзін рамавік разагнаць, ато зачарвілі палову рамак. Ужо тры матачнікі быў выразаў, а яны ўсё лепяць.

— Мёд-та смачан, але-ж кусаюцца затое!—усьміхнуўся Ігналя.

— Я прызвычаіўся ўжо. Толькі як іголкаю... Ні болі, ні пухліны няма ў мяне.

Гэта кажучы, згледзеў Юзік, як пабегла ў хату жонка з нечым у хвартусе. Чакаць дальш ня было чаго.

— Зайдзем у хату.

— Некалі мне. Я за патрэбаю...

— За якою? скажы.

— Можа ў цябе кавалак бярэзіны во гэтакі,—паказаў рукамі,— знойдзецца. Гэта-ж сена [illegible] дзьве сьпіцы выламаў у калёсах. Трэ' было-б паправіць, аднак час выпадае.

— Калі-ж выпадзе, дык зайдзем у хату. А бярэзіны колькі хочаш...

— Зайдзем... зайдзем, калі так наважыў.

У хаце на стале мужчыны засталі бутэльку самагонкі й дзьве талеркі абапал яе: адна з сырам. другая мёду наліта роўна з берагамі. Яны наўкола абложаны тонкімі скрылікамі хлеба. Каля стала выцірала відэльцы аб абрус нізкая вастраносая кабета.

— Сядай, Ігналя!—у вадзін зваг папрасілі абое гаспадары

— Ат!.. Што вы гэта?..—Ігналя прабаваў адказвацца. Але затым што мёд на стале, ён уважыўся на просьбы. Залез за стол.

— Ну! Будзь здароў!—абяцае да яго гаспадар.

Пашла чарка радом. Перш Ігналя каля сыра з відэльцамі заварушыўся. Потым, як з бутэлькі крыхі надпілі, і за мёд узяўся. Юзік, як у гэтай бяседзе выявілася, умеў ня толькі пчолам добры догляд даць, але і на смаку знаўся. Самагонка-пяршак язык падварушыла. І так ён спрыцен у Юзіка. А падпіўшы—удвае.

— Бяры, сусед, сыр ды з мёдам прабуй,—дакладваў гаспадар.— Гэта надта-ж мае сыны любяць. Дальбог!.. Каб даў катораму на волю, дык не адыходзячы паўнюсеньку міску вымачае й целы сыр як ёсьць утрубіць. Але баязно каб перадаўшы не зашкодзіла. Вось што!.. А так—еж хоць сабе вазьмі ды напіся. Ёсьць, дзякуй богу (хоць цяпер маладыя й ня любяць гэтак казаць), і сабе й добрым людзям.

— І ты ведаеш, сусед, што?—казаў ён больш:—Вот пчолы!.. І якая ў яе каторай галоўка маленечкая! Дзе-б там і розуму быць?! ..і тыя, падлы. дух гарэлачны любяць. Напіся сабе па дзюбу... колькі душа прымае ды прыдзі пад самым лятком ляж—і каб адна кранула! Будуць поўзаць па табе, ў рот—калі разьзявішся—паналазяць .. і ніводная!.. нават не намерыцца джалы пякануць. Што да чаго ўходзіць?!

Ігналю тое самае закруціў трохі пяршак галаву. Што ні кажы, а без малага кварта на двух прышлася. Які там чорта з жанкі піяка?! Толькі ўсяго разоў двойчы й памачыла Юзічыха губы. Як пакаштуе, скрывіцца, зморшчыцца...

— Моцная падла!.. агнём пячэ!..

— Чысьценька!.. Чысьценька, суседка!—прымушае Ігналя.

Праўду яна такі кажа—Пашла самагонка па жылах разьбіраючы, цёпленькая. І чуваць нават. Ігналю перш было ня то млосна, ня то ў галаве, як увечары пасьля чаду, калі ён сама што выходзіць. Потым ўсё добра зрабілася Вясёласьць апанавала чалавека. Здаецца доўга-доўга гаварыў бы нешта ды ўсё ў руку, усе па злагадзе. Пачаў першна-перш братні мёд выхваляць:

— Я, праўду кажучы, люблю мёд. І пчолы-б завёў. Але піску іх ня зношу. Калі пісьне мне каторая над вухам, дык трапею: і рукамі й нагамі цяраблюся (збоку гледзячы сьмех!), шапку з галавы ды ў руку і ўсё стараюся каб на зямлю назолу зьбіць ды прытаптаць. Боязна, каб ня ўкусіла!

Юзіку новая думка набегла на вум. Прасьвятлеў твар. Вочы іскрамі аздобіліся.

— Але каб ты пакаштаваў!. —і ад захапленьня ня мог дагаварыць, у горле голас засеў. Толькі жонцы закамандваў:

— Схадзі, старая, агуркоў прыстарайся ў градзе. Я надоечы два дужаватыя такі выпараў быў. Рві ўсе, якія толькі льга.

Не спагадна зірнула Юзічыха на мужыка. Ды што рабіць? Ня сварыцца-ж перад чужым чалавекам. Схадзіла й прынесла ў хвартусе пяць агурочкаў як на разы два добра ўкусіць.

Скрыляюць іх мужчыны на маленькія скрылікі. Мачаюць мёд. Ядуць Хваляць - не нахваляцца што:

— Добра!

што:

— Смачна!

Ды тым часам дуду-дуду! Тое-сёе гамоняць. І дайшло да таго, што стаў Юзік казаць, як надоечы ў Хатніках быў, у коопэратыў заходзіў. Там гаворка была з знаёмымі мужчынамі. Што чуў ці бачыў, пераказаў. Да слова прышлося сказаць:

— Надта-ж твой Хвядос улёг у Хатнікі хадзіць.

— Я бо бачу: часам будзе дома, потым—хвайт!—як скрозь землі праваліцца. Шукай, расшукайся, усю вёску ператрасі—прапаў ды й годзе хлапец

— Сьпяктакалі, казалі, рыхтуецца з комсамольцамі прыстаўляць. Здумаюць жа нешта, работы ня маючы. І ў гэту суботу мае быць адзін.

— Гэта не навіна. Ён, як і вучыўся, у гэтым дзеле быў.

Рад Ігналя, што людзі сына маюць не за раскола якога, што хістаючыся па вуліцы, як набярэцца калі, людзям вокна шкліць. Пачне што гаварыць, будуць глядзець на яго ды папытавацца:

— Чый гэта?

— Чвардоўскага... Ігналеў,—адкажа, хто пазнаў.

Пра сына гаварыць будуць, а бацькава імя добрым словам успамянуць.

Можа-б накшым манэрам яго думкі шлі-б. Але самагонка... Сьмешную натуру на гэта мае ён. Другі, здаецца, і не задзіра, а як пападзе яму горасьць на язык, дык і давай прычапкі шукаць, каб сабе й другому кроў з носа спусьціць, каб сварыцца, перакорыць. Ад Ігналі-ж гэтага не пападзеш. Толькі давядзецца яму з шкляным богам павесьці лады, дык ад першай чаркі мякчэй пакачанай анучы робіцца: куды заўгодна круці—камечыцца. Як бы з ім ні йшоў хто на перакор—а ён усе у руку, ўсё па добрасьці гаворыць. Гэта датуль, покі падобнага месца ня знойдзе, дзе-бы легчы льга было. Калі-ж толькі гэта зрабіць выпадае, дык ужо больш не кампанейскі Ігналя чалавек. Засьне. Ці ты над ім рэпку пей, ці з гарматы над вухам страляй—

усё адно не прачнецца. Толькі гэты раз не дайшоў да гэтакага п'янства, каб храпунца даць. Утраіх: ён і Юзік з жонкаю як ні браліся каля кварты, ды не змаглі яе. Мусілі ўзяць ўвагу на Ігналевы ўпрошаваньні. На тры пальцы засталося самагонкі ў пляшцы на дне. Гэтакую й схавала Юзічыха ў насьценны шкапчык.

Доўга забавіўся ў іх Ігналя Затое ж бярэзіны разжыўся. Дома ў хату не пашоў. Адразу ў падпаветку накіраваўся. Там прыняў з вярстата шаснастку падазаднага аўса, згарнуў далоў габлюшкі. Разрысаваў палена, каб надвае расьпілаваць. Ушчаміў яго ў вярстат. Зьняў пілку з крука. Пачаў майстраваць.

Ня пяршыня яму сталярская работа. Не заробіць ад яго ні сталяр, ні бондар, ні калясьнік... 'Шчэ малым быўшы, хадзіў гуляць к Язуковым. У іх быў хлапчук—аднагодак яму. А стары Язук у бандарсьцьве ўслаўлены быў, рабіць умеў вёдры, цабры, кадзі... Заглядзіцца на яго Ігналя й на свае дзіцячыя гульні забудзецца. Стане водалека ад бондара, каб не замінаць, і выглядзіць усё, што трэба. Утаропіцца. Вачэй не зьвядзе з Язуковых жылістых рук, прушчыновых габлюшак, што віда-віда лезуць ад жаляска, уюцца чарвякамі ў скруткі, у маністкі. Як што робіцца, чым і з чаго пачынаецца, заўважыць. А дамоў прыдзе—бацьку праходу не дае. Просіць-моліць:

— Татачка, купі мне гэблік! Я слухаць вас буду. Пабегчы куды ці зрабіць што—адразачку!.—ды гэтак харашо, жаласьліва ў вочы глядзіць, бы ратунку просіць у грознага крыўдзіцеля. Увесь да таго беднянькі, лісьлівы зробіцца, што каменнага за сэрца кране й спагадаць прымусіць маўклівым выглядам сваім.

— Нашто табе?—усьміхнецца той, калі пад лад. А бывае скажа ў такую часіну, калі бацькава галава па гаспадарскім чым баліць ці сумнымі надаядлымі думкамі занята, дык так гукне, скляне ці аблае, што холад у пяты пойдзе малому. Блізка стаяць будзе, дык і куксака заробіць.

— Гарнец хачу зрабіць мамцы на промешку,—нясьмела прызнаецца Ігналя.

— Во ён што здумаў!! Гарцы рабіць!.. Мал ты 'шчэ. Падрасьцеш крыху, тады й куплю й рабіць будзеш.

— Што мал? Я бачыў вунь ў Язука—падвяселюецца Ігналя.— І як габляваць клёпку, каб жалабатая была, ведаю. І як састаўляць... Гэта-ж—глупства! Няўжо не зраблю?!

— А йдзі ты!.. Як будзе пара, куплю.

Тады Ігналя на хітрыкі кідаецца. Пабяжыць к Язуковым. Няма яму часу з малым—сябруком сваім гешэфтаў весьці. К старым падыходзіць. І „дзендобры" нават скажа, чаго ніколі не рабіў. Адразу пачынае, як сталы.

— Ведаеце, чаго я прышоў?

Сур'езнасьць старыць малады твар. Відаць, што ня так сабе, а за патрэбаю прыйшоў.

— А хто цябе ведае, чаго ты прышоў.

— Можа-б вы пазычылі гэбліка? Я не надоўга.

— Што-ж ты будзеш рабіць ім?—пакеплюе з яго Язучыха.

— Татка прасіў... Вароты ў хляве паламала цялушка. Каб яе воўк!.

Нягодны Язук, калі хто яго ад працы адрывае. Ссуне бровы над пераносіцаю. Блядыя вочы ў глыб убярэ. Шукае гэбліка ў скрыні з начыньнем. Сам сабе пад нос бубніць. Добра 'шчэ што не адкажацца, не прапсюрыць з хаты.

— Панства!. Вароты трэба габляваць... і ад сякеры-б чорт ня ўзяў, пазнала-б цялушка, дзе сьцяна, а дзе вароты.

Каецца Ігналя. Салгаць ня сумодаў як сьледня. Ды надзея ёсьць. Другім разам паправіцца. Лепшую прычыну прыставіць. Гэты выпадак—навука яму.

Язык рыміць. Нешта ў скрыні перакідае. Звоніць зялезам. Знойдзе ламаш які, у каторым жаляска годʼпяць як ня точана. Пазычыць Ігналю.

— На! Глядзі-ж, каб ня вышчарбіў толькі.

— Не!.. дзе вы бачылі!..—ад радасьці сіпка чуваць у голасе малога.

Ня ведае Ігналя, дзе дзецца ад радасьці. Кулём дамоў ляціць. Толькі сьнег храбусьціць пад лапцямі лыковымі. Гэблік пад крысо схаваў, каб не застыў, як што жывое.

А дома дрэва цішком дабярэ, якое трэба. Адвернецца дзе с хаты бацька—ён за майстэрства бярэцца. У хату прыдзе—гэблік пад падушку схавае, габлюшкі пад ложак зьмяце. Ні знаць нічога, ні відаць. Маці маўчаць згоду дала. Бацька й бачыць калі—прыстаўляецца, што ня ведае.

Змайстраваў гарнец. Адважыўся. Бацьку паказаў.

Сьмяецца той.

— От, з горам напал... Але як гэта ты скраўся, злодзей?—жартуючы лае сына.

— Сумодаў, бачыце.

Маці гарнец забрала сабе.

— Добра будзе курам ячменю прынесьці.

Ад тых дат стаў на яго просьбы й бацька ўвагу браць. Пакрысе прыдабыў сабе Ігналя начыньня. За паўцаны трапілася ў ваднэй удавы вярстат стары купіць. Меў да сталярства хэньць і здатнасьць. Сам праз сябе зрабіў сьвяточную драбінку (з гора й брычкаю льга назваць), у малатарню пад коні выладзіў станок... Гэтак і да ўсяго налажыўся.

Цяпер габлюе Ігналя. Гоніць гэблік тонкую габлюшку-лісьцінку. Многа іх назьбіралася на вярстаце й пад ім на зямлі рассыпаліся мяккім натрусам на буйныя трэскі-аскабалкі.

Заходзіць туды Хвядос папытацца нейкай патрэбнай на гэты час дробязі.

— Тата, дзе гэта?..

Суняўся Ігналя габляваць. Падняў з зямлі тонкі ашчабак. Выкалуплюе ім з жалязка фуз. Калупаць калупае, з сына кплівых ня спусьціць ачэй. Углядаецца. І ня першы раз бачыць. Гэта зразу заўважыў Хвядос. Ня скончыў пытаньня свайго. Пытае пра другое:

— Чаго, вы татка, глядзіцё?

— Хіба-ж я сьляпы, каб не глядзець?

— Я-ж і не кажу, што сьляпыя.

— Так сабе гляджу.

— Дзе гэта наш жалязьняк? -пытаецца Хвядос таго, чаго прышоў. Трэʻ было-б з вуліцы спад вадзе даць у гумно, ато гразь надта вялікая.

— Пaглядзі за гэтаю плашкаю,—паказаў бацька на куток.

Потым пытае.

— Чаго ты ў Хатнікі ходзіш?

Натапырыў Хвядос вушы. Бровы ў гору смаргануў. Благое што думаў пачуць. Ды раптам у вадзін момант прыставіўся незацікаўленым да бацькавай мовы. Спакойна кажа:

— Хажу ды й толькі таго.

Бачыць: у бацькі далей на шчокі пасунуліся.

— Ілжэш! Ня так сабе ходзіш! Я чуў... Кажуць сьпяктакаль з комсамольцамі робіш.

— Ну, раблю... А што?

— Нічога. Рабі сабе. Толькі глядзі проці бога нічога не датварай. Ня будзь першым. Хай другі хто. Людзі—сабакі: зараз адкажуць. А бацюшка ‘шчэ мяне за чалавека мае. Брыдка будзе калі што... Чорт-жа яго ведае!.. каб яно гэтак і заўсёды было, дык -дрэнь гэта. А часам што якое дык і згодзіцца. Нашто першым быць... Хай другія...

Цьмяна бацькава мова, ды сэнс яе Хвядосу вядом. Сваю жыцьцёвую практыку адказуе сыну. Праз гэта ўмеў Ігналя з малых дзён усім унаравіць, ува ўсіх быць у ласцы: і ў паноў і ў жыдоў Затым яшчэ і пацеры гаворыць, хоць значна скарочаныя але старасьвецкія. „Можа калі згодзяцца“,—думаецца старому. „Хто яго ведае, можа дзе што й ёсьць“, другая загвоздка ў яго. ‘Шчэ з папом свае парафіі знаёмства ня так даўно зайшло. Любіць час-часам бацюшка ў кілішак зірнуць. І, калі з рукі толькі, дык Ігналя--яму кампанія. Не за тым гэта, каб:

— Колькі я, толькі й ты гані.

але каб:

— Ты слова, а я—два.

Навогул-жа:

— Ты,—кажа поп на Ігналю.—дарагі чалавек.

*(Працяг будзе)*

Пятро Глебка

# Матчыны казкі

*Нізка вершаў*

* * *

... А на полі жніво;
паглядзі на жняю—
і пасьпешнасьць і рупнасьць у працы.
Так даўней і цяпер, а ці зьвяжам калі
у снапы чалавечую працу?

А на полі жніво;
залатыя снапы
людзі роўненька ставяць у мэндлі.
Толькі нам, жывучы, не пара спачываць
у цішы гэтых водарных мэндляў!

А на полі жніво...
І пад сьценьню снапоў
над калыскаю сына матуля
будзе казкі казаць, будзе песьні сьпяваць
і тады адпачыне матуля.

А на полі жніво;
колькі працы і дум,—
можа, болей. як гэных калосьсяў!...
А вятры ўсё плывуць, а вятры ўсё ідуць,
а вятры шалясьцяць у калосьсі...

* * *

У віхры шалёным імчацца плянэты;
лясы шалясьцяць у прасьцягах раўнін...
Узьлёты, падзеньні, бязмэтнасьць і мэты—
падлеглыя Вечнасьці—бегу гадзін.

Я чую акорды рыданьняў і плачу,
я чую сымфоніяў радасны сьмех;
барвовасьці колераў нельга адзначыць—
ружовых, і сініх, і белых, як сьнег.

Стаю заварожаны музыкай дзіўнай,
любуюся гамамі фарбаў нябёс.
Чыясьці душа нявыказана ные
у муках страшэнных і цёмных, як лёс.

І раптам..
Як ноч пакрывае прасторы
узмахамі чорных вялізарных крыл—
пакрыў і акорды, і сонца, і зоры
адзіны душы чалавечае крык

На момант—адно вокамгненьне ня болей—
спынілася Вечнасьць, жыцьцё каб пачаць;
і чорныя хмары бязьмежнага болю
люструюцца ў матчыных сініх вачах.

Як шастаюць ветры у лісьці кляновым,
для восені сьцелючы шлях—
пачулася песьня бяз музыкі й словаў:
заплакала ціха на сьвеце дзіця.

Ізноў закружыліся ў віхры плянэты,
ізноў зашасьцелі лясы, каласы;
акорды, рыданьні і рокаты сьвету,
барвовасьць і ціхая цёплая сінь.

Каго папытацца, каго мне паслухаць,
чаму прыпынялі плянэты хаду?
Чаму ня ігралі, ня плакалі глуха
кляновыя скрыпкі ў сусьветным саду?

Наіўнасьць людзкая разгадвае тайны:
як шум лістапада, як гоман навал,
яна вам адкажа папросту, нядбайна:
—дзіця нарадзілася—лёс спавіваў.

І толькі поэта, адкінуўшы нормы,
а сілай бяскрайняй пакуты людзкой,
раскажа, як Вечнасьць, матэрыі форму
стварыўшы, мяняла ў пустэльні глухой.

* * *

Над палеткамі сон, над палеткамі ціш,
нават сонца на поўдні замерла.
Летні дзень залатой павалокай трымціць,
быццам сьцеле празрыстую мэрлю.

Дальні лес апусьціў у зьнямозе гальлё,
і у жыце ня плавае вецер.
Распусьціла утома крыло над зямлёй
і шапоча ласкава: засьнеце!

І заснулі палі, і заснулі лясы,
толькі маці ня сьпіць над калыскай:
неспакойны такі дарагі яе сын,
дык сьпявае яму і калыша.

Сьпі, сыночку,
сьпі, каточку,
сьпі.
Вецер ходзіць,
вецер носіць
пыл.

Зацярушыць,
запарушыць
злы
тваё вочкі.
Сьпі, каточку,
сьпі.

Тады ўстанеш
ды узглянеш
ты—
скрозь як ночка..
Сьпі, каточку,
сьпі

Не дазволю
злому ветру
з дзікіх нетраў
бушаваць.
Мой сыночак,
мой каточак
будзе спаць.

А паспаўшы,
як устане,
позна рана,
ды узгляне—
скрозь:
залацістасьць
у маністах
і барвовасьць
скрозь.

Тады ўбачаць
яго вочкі
дня і ночкі
хараство.
Сьпі, сыночак,
сьпі, каточак,—
ходзіць сон.

Замоўкла матуля, суцішыўся сын,
ня знае ён сьветавых фонаў:
ён слухаў ня словы, ня словы і сьніць,
а музыку дзіўных сымфоній.

* * *

— Мама, чуеш, восень
бразгае ў вакно.
— Колькі год мне?
— Восем?

— Ты усё адно...

— Раскажы пра долю,
адчыні душу;
слухаў-жа я ў полі
стагалосы шум.

— Можа я згадаю
твой адвечны сум
ды з чужога краю
радасьць прынясу.

Маці прытуляе
да грудзей дзіця:
— Сынку, не згадаеш
сьвету і жыцьця.

— Падрасьцеш вялікі—
раскажу тады.

На худым абліччы
цьмяныя сьляды.

— Мама, чуеш, ветры
нашы клёны гнуць,—
раскажы цяпер ты,
не магу заснуць.

— Пачакай, настане
белая зіма,—
будзе твая мама
сумаваць адна.

— Буду гаварыць я
ў тыя вечары
казкі залатыя
позна да зары.

Ціха ў хаце.
Восень
бразгае ў вакно.
Сьняцца сыну „восем“
пержытых год.

Сьніцца гай-сасоньнік,
нявыразны цень;
шэпча сын спрасонку:
— Мама, шчасьце йдзе!

* * *

Белы сьнег мне нагадае белыя, белыя хмары,
што плывуць з беларускіх далёкіх вазёр.
З адамашкай ружовай навокал дзіцячыя мары
адплываюць таксама далёка да зор.

Маці кужаль прадзе і расказвае дзіўныя казкі:
у такой-то, такой-то чужой старане
жыў асілак ліхі, чалавек, як вядома, ня наскі;
узьлятаў ён да зор і па морскім разгульваў дне...

Чую голас срабрысты, ласкавы, пяшчотны матулі,
і у казках няясныя словы і сэнс,
а ўжо думы ўзьвіліся і клічуць, і вабяць, і туляць,
і фантазіі крыльлі памчалі мяне.

Я ляту праз вазёры і моры у сінім тумане;
пада мною плывуць і тануць караблі;
я адзін, я адзін у празрыстасьці хваль акіяну.
і навокал нідзе ні кавалка зямлі.

Сярод дзікіх пустэнь па дарогах, нікім не таптаных,
я ў бяскрайнасьць імчуся на лёгкім кані.
Конь стаміўся зусім, прыпыніўся, зарзаў на растаньне
і упаў на калені

* * *

У хаце самотна зьвініць цішыня,
маркотай абвеяна лямпа.
На сьценах, здаецца, хтось крыльлі разьняў
і доўгія-тонкія лапы.

І раптам: ня лапы—плыве карабель,
ня крыльлі хістаюцца—ветразь;
матросы падходзяць, адходзяць далей;
мяне дакранаюцца ветры.

Павеяла з мора вазёрным цяплом
і водар паўднёвы праліўся...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
То сон ахінуў мяне цёмным крылом,
а поўдзень далёкі—прысьніўся.

* * *

*Мне прысьнілася сіняя, сіняя ноч:*
маладзік узыходзіў з-за мора;
і худыя маўклівыя сьцені ад ног,
паплылі і ляглі у прасторах.

А насустрач і сонца на ўсходзе ўстае;
скалыхнуліся доўгія сьцені
і сышліся, спляліся, зьвіліся ў траве,
зварухнулі пяскі і каменьні.

Белы месяц спакойна плыве і плыве
усё бліжай і бліжай да мэты;
сьцені б'юцца, качаюцца ў мокрай траве;
йдзе змаганьне за ўладу над сьветам.

Сонца ў віхры шалёным імчыцца, гарыць,
і таксама ўсё бліжай да мэты:
вось сышліся, як дзьве вялічэзных гары,
белы месяц і сонца—над сьветам.

Паляцела зямля у бяскрайнасьць, хаос
ці да мэты, ці можа бяз мэты—
сенажаці, лясы з пазалотаю рос,
чалавецтва, ідэі, сусьветы!

* * *

Ішлі кудысьці мы дарогай,
была 'шчэ ў наквеці вясна.
І гэта раньняя убогасьць
наваражыла шчасьце нам.

Буслы вярталіся на дзіва
ў такую раньнюю пару
— Куды, шчасьлівыя, куды вы—
яшчэ засьнежаны ваш рум!

Яны над возерам замерлі,
(нас ахапіла цішыня)
і крыльляў іх жывую мэрлю
туманам белым хтось разьняў.

А гукі дзіўныя зьліліся
і патанулі ў цішыні,
і месяц у бяскрайняй высі
расплыўся ў казачную сінь.

Я ня умеў сказаць нічога,
я не хацеў сказаць: „люблю“.
З дзіцячай радаснай трывогай
упаў шчасьлівы на зямлю.

* * *

Гарачы дзень. Сяло замерла;
як неба сіняе, наўкола цішыня.
У халадку стары сабака дрэмле,
ня хочацца яму і мухаў адганяць.

А у садку гудуць чмялі і пчолы,
і струны дзіўныя якіясьці зьвіняць.
Трава пажоўклая схілілася да долу,
і галавы сваёй ня можа прыпадняць.

Такая ціш, і мне здаецца
што вечна будзе гэты летні дзень,
і сонца ласкава у вышыні сьмяецца,
а час ідзе, ідзе . . . . . . . . . . . .

* * *

Ясны вечар над лесам ідзе,
а над полем яшчэ адвячорак.
Дагарае на захадзе дзень,
на усходзе трывожачы зоры.

Над ракой усплывае туман,
набліжаецца стомлена ціша.
І ні сьлёз, ні тугі, ні жаданьняў няма—
ноч у казках сваіх закалыша.

Чорны віхар у чорную ноч. .
Разгайдаліся клёны, дубы.
Бліскавіцы
узьвіцца-б
упасьці да ног!..
— Нехта сына ці бацьку забіў.

Не палеце агню, бо відно:
чуеш—рокаты, рогат і гром!
— Навальніцы
убіцца
ня цяжка ў вакно—
чорны віхар спраўляе пагром.

— Хто так грае?—шалёны. вар'ят!—
Пашчапаны бажніцы ўшчэнт.
Белыя,
      сінія
            лінліньні гараць—
рогаты,
      рокаты,
            енк!

Песьні адсьпяваны,
казкі перaказаны--
што-ж цяпер?
А на сэрцы раны
скрухаю павязаны
без цябе,
залатая восень!

Ай, душа галосіць—
плача аж заходзіцца
а чаго?—
Па чужых палосах
матчын сын находзіцца...
— Колькі год
вандраваць ён будзе?

Цісьне кашаль грудзі—
маці занядужала:
— Ой, бяда!
Скрозь чужыя людзі—
мусіць гэтак суджана
прападаць.
— Дайце... шчасьце... сыну!..

Шалясьцяць асіны,
сэрца заварожана
хараством,
і малому сыну,
казкамі ўпрыгожаны,
сьніцца сон—
залатая восень!..

* * *

Холадна.
Хочацца есьці:
— Мама, устань!..
Сьпіць.
Дзесьці,
далёка дзесьці
вецер шуміць.

Рукі памерзьлі, азглелі
— Мама, ты чуеш?
Сьпіць.
Твар мармурова-белы...
Вецер шуміць.

Рукі сухія, худыя
сын палажыў на чало—
іскра халодная дзіка
раптам кальнула ў лоб:
— Ай! . . . . . . . .

Вось і разгадана тайна,
мары і казкі і песьні
кінуты засаб нядбайна—
годзе маною ім песьціць!

Восень стаіць каля весьніц—
чыстая праўда жыцьця:
холадна,
хочацца есьці...
Ветры шумяць...

* * *

Я ня ведаў тугі, я ня ведаў жыцьця:
жыў у марах сваіх, парываньнях,
але мары цяпер для мяне не шасьцяць,
толькі бродзяць маўклівыя здані.

Я ляжу і ня сплю і вось бачу, ідуць
ціха крадуцца тонкія цені..
Я хачу й не магу галавой зварухнуць—
грудзі душаць цяжкія камені.

Ні адчаю, ні сьлёз, нават страху няма.
Толькі чорнае ў сэрцы прадоньне.
Цені бродзяць, ідуць, растаюць у туман,
і ніхто іх, ніхто не прагоніць.

* * *

Дзе ты шалёная бура фантазіі,
дзе ты нямое вар'яцтва тугі? —
толькі ўсплываюць,
толькі зьнікаюць
суму кругі.

Дайце мне крыльлі шалёнай фантазіі,
дайце пакуту вар'яцкай тугі!
Ціха наўкола,
траціцца голас,
скрозь—берагі.

Рву ланцугі неадступнае зморы,
толькі дарэмны ушчэрбак для сіл:
вось усплываюць.
вось ахінаюць
ціхія сны.

* * *

Мінула дзесятае лета—
я з чаркі жыцьця не крануў,
а сэрца дзіцяці адпета
пад гукі абломаных струн.

Акорды, сусьвет, сымэтрычнасьць,
дзе вашы мэлёдыі сноў?
Краса незямной Беатрычы
пад холадам сініх сьнягоў.

Дзіцяці ня трэба маліцца
над холадам вечнай тайгі:
шумі і гудзі навальніца,
кружэцеся віхрам сьнягі!

Вы поле жалобай укрыці,
засыпце-ж дарогі да сноў,—
я з вамі, празрыстыя крыльлі
халодных. лятучых сьнягоў!

* * *

Мне пятнаццаты год...
Я выходжу у прасьцяг;
сьнегавая наўкола раўніна,
а сьняжынкі лятуць,
лятучы, шалясьцяць.
ападаюць сьняжынкі
і гінуць.

Дні маленства мае,
бястурботныя дні,
залатыя, далёкія казкі!..
Ах, як лёгка гадаць,
забывацца і сьніць,
але жыць. але жыць—
гэтак цяжка!

Дзе-ж ты, казак маіх
асалода жыцьця?—
Бачу толькі змаганьне і працу,
а сьняжынкі лятуць,
лятучы шалясьцяць,
на зямлю ападаюць,
лажацца...

* * *

Расьцьвітае над лесам вясна,
усьміхаецца яснасьцю дзень.
Вецер белыя хмары узьняў.
і на крыльлях за мора нясе.

Пачакай, лёгкакрылы вястун;
можа, ў хмарах—маленства маё,
дык прымчы залатое адтуль,
але вецер—упаў у гальлё...

Устаюць успаміны ў душы,
ды ня вернуцца радасьці дні,
толькі дальняю песьняй цішы
дзень маленства майго празьвініць.

Вецер белыя хмары узьняў,—
праліецца срабрыстасьцю дождж.
Добры дзень, маладая вясна,
прывітаньне табе, маладосьць!

**З. Бядуля**

# Язэп Крушынскі

Аповесьць

*(Працяг)*

## XIII

Бывала, ні з таго ні з сяго Язэпу Крушынскаму рабілася цяжка на душы, так цяжка, ажна ня ведаў, дзе дзецца ад нейкага затаёнага сполаху. Прыкрыя хвіліны перажываў ён тады. Нешта яго гнула да зямлі. Яму здавалася, што ён маленечкі, слабы, шукае месца, дзе схавацца—і не знаходзіць.

Такі настрой заўсёды зьяўляўся ў яго, калі ён прыяжджаў у Менск. Каля вялізнага дому дзядзькі-нябожчыка ён заўсёды знаходзіў прычыну гэтага настрою. Тады ён усьміхаўся сам сабе, і яму раптам рабілася прыемна, так прыемна, нібы ён у другі раз сьніў сон раньняга маленства.

Моцна ўрэзалася ў яго памяць першае ўражаньне ад дому дзядзькі. Ніякія іншыя дамы, большыя і прыгажэйшыя за гэты, куды ён увайшоў васьмігадовым хлопчыкам з сялянскай маленькай хаткі, на яго ўражаньня пасьля гэтага ўжо не рабілі.

Калісьці дом дзядзькі яго палохаў і вабіў, як мітычная істота.

У хаце бацькоў, на вёсцы, ён маленькім хлопчыкам наслухаўся шмат баек аб страхоцьцях, аб царэўнах і царэвічах у зачараваных замчышчах. Яго душа, напоеная гэтымі байкамі, нібы хмельным пітвом, была тады вельмі чулая да ўсяго вакольнага. Яму здавалася, што поле, лес, рэчка, каменьні напоўнены нявідочнымі істотамі, якіх яму трэба баяцца, бо яны варожа настроены супроць яго. Увесь сьвет быў супроць яго.

Дзядзькін дом глынуў тады яго, маленькага, пужлівага і безабароннага, як адно з страхоцьцяў вясковых баек.

Цаглянная аграмадзіна ў чатыры паверхі высілася насупроць гарадзкога парку. Вялізныя вокны, у якіх мог схавацца самы высокі чалавек, былі выразаны ў чатыры рады ў пярэднім фасадзе дому з боку вуліцы. Дзякуючы такім вокнам, дом выглядаў лёгкім, як бы плаваючым у паветры і выгафтаным у правільныя ўзоры. Над тратуарам віселі прыгожыя балконы. Тры пад'езды з вуліцы, з адшліфаванымі каменнымі ганкамі, з маляванымі дзьвярыма на дзьве палавіны, напоўкруглыя ў версе, з прыгожымі орнамэнтамі, нагадвалі ўваход у касьцёл (яшчэ як Язэп быў маленькім хлопчыкам, езьдзіў з маткай у касцёл у мястэчка за пятнаццаць вёрст). Нібы ў касьцёле, блішчэлі каляровыя шыбы стрэльчатых вокнаў у калідорах. Сонца прапускала праз каляровае шкло на шэры камень усходаў яркія вясёлкі. Такія вясёлкі бачыў часам Язэпка ў летні дзень у вёсцы, пасьля дажджу, на небе ў выглядзе вялікай дугі над сасоньнікам.

А са сьцен і суфітаў у калідорах (ня толькі ў пакоях) на малога Язэпа пазіралі крылатыя голенькія хлопчыкі. Некаторыя з іх трубілі ў трубы або стралялі з лукаў у кветкі на сьценах.

Язэпку тады здавалася, што гэта ён бачыць істоты з тых казак, якія чуў ад старых дзядоў на вёсцы.

У першы раз, як бацька прывёў яго сюды маленькім хлопчыкам, ён моцна спалохаўся. Ён спалохаўся гэтага дому, заплакаў у калідоры і прасіў літасьці ў бацькі:

— Татачка, дамоў паедзем... татачка...

З цягам часу Язэпка звыкся з гэтым домам, доўга вывучаў яго з сьвежай дзіцячай зацікаўленасьцю і ўражлівасьцю; вывучаў з такім імпэтам, нібы апынуўся раптам у незнаёмым царстве, напоўненым дзівоснымі людзьмі і жудасна-прыгожымі рэчамі.

Дом быў такі вялікі, што ў ім магла-б зьмясьціцца цэлая вёска... Вёска была тады самай вялікай адзінкай меры і ліку, якую меў Язэпка ў сваім уяўленьні.

Шмат народу жыло ў гэтым доме, нават больш, чымся хлопчык мог сабе ўявіць.

Да фарбаваных дзьвярэй у калідорах былі прыбіты мэталёвыя дошчачкі з надпісам гаспадара кватэры, з кнопкай ад званка, са скрыначкай для пошты. Усюды адно й тое самае. Надзвычайны парадак панаваў у калідорах. Веяла ад іх строгасьцю. Іхняя прыгожасьць нейк ня вабіла вясковага хлопчыка: на ўсіх пляцоўках калідораў, у кожным кутку аднолькава. Гэта надакучала яму. Ён любіў, каб на кожным кроку было што-небудзь іншае. Такі густ да хараства ў яго выгадаваўся яшчэ на вёсцы, дзе ён часам з старэйшымі хлопчыкамі-сябрамі гуляў у лесе, дзе самы маленькі кавалак зямлі, нават корч, мае іншы выгляд, не такі, як ранейшы.

Адно, што ён любіў тут,—гэта каменныя ўсходы з паліраванымі гладкімі, як шкло, парэнчамі.

У той час, калі прасторны дом душыў яго турэмнай замкнёнасьцю, дзе, як хлопчыку здавалася, ня было патрэбнага для яго, сына лесу і палёў, прастору, усходы давалі яму ілюзію замілаванага прастору.

Спачатку ён любіў бегаць па ўсходах зьнізу ўверх і зьверху ўніз. Бегаў так бесьперастанку многа разоў туды і назад і прыслухоўваўся да гулкіх водгаласкаў сваіх уласных крокаў па каменьні. У нейкім ахмяленьні ён знаходзіўся тады.

Ад шпаркага бегу гарачылася кроў, сэрца моцна тухкала, і яму здавалася, што ўсходы канца краю ня маюць, як тая далячыня, за якою ён часта ганяўся, быўшы на вёсцы.

Любіў ён глядзець з самай верхняй пляцоўкі ўніз—у чатырохпавярховую процьму. Яму было так прыемна, як тады, калі дома, бывала, ўзьбярэцца на высокую старую яблыню. Ён глядзеў уніз і думаў:

— Вось, каб цяпер кінуўся туды...

Ад такой думкі яму рабілася горача, кусьлівыя мурашкі бегалі па сьпіне, галава кружылася.

— Я не звалюся, бо трымаюся за парэнчы...

Парэнчы гладкія, сьлізкія.

І Язэпка зрабіўся авіятарам, лётаў ў паветры.

Машына для гэтага была гатовая: парэнчы ўсходаў. Па іх ён сьлізгаўся зьверху ўніз—у жудасную процьму чатырох паверхаў. Ён налаўчыўся рабіць гэта з вялікім спрытам.

Узьбярэцца на верхнюю пляцоўку калідору, да самай гары, узьвесіцца на парэнчы рукамі і нагамі і сьлізганецца з такім імпэтам, ажна яму здавалася, што ня ўніз едзе, а падымаецца ўверх з шалёнай хуткасьцю.

У той час гэга давала яму найвялікшую радасьць. Ён тады забываўся аб строгасьці дому, аб яго акуратным няспрыяльным характэре і аб тым вялікім холадзе, што веяў з цёплых пакояў дзядзькі...

Не адзін раз стары дзядзька на яго сварыўся за сьлізганьне па парэнчах.

Але хлопчык ня слухаў яго, ня гледзячы на тое, што ва ўсім іншым ён быў вельмі паслухмяны.

Гэты спорт яму надзвычайна спадабаўся.

Як трохі навучыўся ў школе, дык любіў чытаць надпісы на дошчачках, прыбітых да дзьвярэй кожнай кватэры.

Мядзяныя дошчачкі, з выгравіраванымі на іх літарамі, нагадвалі хлопчыку магільнік.

На дошчачках часам была напісана і профэсія кватаранта: доктар, зубны лекар, адвакат, акушэрка і іншыя. Гэтыя словы былі для Язэпкі незразумелымі, і ён стараўся паводле параўнаньня з іншымі словамі ці гукамі слоў, падобнымі да іх, даваць гэтым словам свой зьмест, сваё тлумачэньне.

Зубны лекар быў у яго ўяўленьні нейкім зубатым страшным дзядзькам. Адвакат—катам. Акушэрка — цёткай, якая курэй глядзіць („акуш" — асоцыяцыя са словам „акыш!"). Доктар—ён добра ведаў, што гэта за птушка, бо ня раз яго, хворага Язэпку, матка вазіла ў мястэчка да доктара.

Прозьвішчы: Сасновіч, Бэргер, Стрэльчык, Макараў, Івановускі, Пракаповіч, Сарокін, Зэлікман, Арлоў і яшчэ некалькі з канчаткамі на „..іч" і „...скі" вельмі тады цікавілі малога Язэпку.

Яшчэ ня ведаючы кожнага з жыльцоў дому па выгляду, ён стараўся паводле вычытанага на дошчачцы прозьвішча ўявіць сабе выгляд гэтых людзей.

У гэтым выпадку ён меў зноў-жа сваю ўласную сыстэму: разьбіваў прозьвішчы на паасобныя гукі, у голас гаварыў іх і шукаў знаёмага сэнсу.

Сасновіч павінен быў абавязкова быць высокім (падобным да сасны).

Бэргер—яўрэй у халамідзе, зашмальцаваны, як той анучнік, які часам бываў у іхняй вёсцы („гэр-гэр"—яўрэйская гутарка).

Стрэльчык—чалавек нявысокага росту, са стрэльбай за плячыма (падобны да паляўнічага пана, які часта бываў у вёсцы).

Макараў—дзядзька з рыжай бародкай, з прыплюснутым носам і маленькімі сінімі вочкамі, як іх сусед Макар.

Такім чынам ён у кожным прозьвішчы адчуваў маленькі портрэт чалавека.

Тыя з жыльцоў, якія мелі прозьвішча з канчаткай на „...іч", абавязкова павінны былі быць вусатыя, з голенымі барадамі, на „...скі"— барадатыя.

Часам гэта тэорыя яго бязьлітасна абманвала. Напрыклад, Бэргера ён сабе ўяўляў зашмальцаваным старым яўрэем ды яшчэ зубатым (зубны лекар), які гаворыць так, што выходзіць: „гэр-гэр-гэр", а выйшла зусім іначай. Прозьвішча Бэргер мела маладая дзяўчына, нізенькая, шчуплая, з тоненькім мілагучным галаском. Яе трэба было зваць ня Бэргер, а Кветка, бо ад яе заўсёды пахла парфумэрыяй.

Па выглядзе ён-бы многім даў зусім новыя прозьвішчы. Дзеля гэтага ён падазрона пачынаў глядзець на жыльцоў дому. Яны як-бы абманвалі яго або самі памыляліся, калі называлі сябе такімі непадыходзячымі прозьвішчамі. „Няйначай вышла памылка",—думаў ён.

Доўгі час прайшоў, пакуль ён прывык спакойна глядзець на людзкія „памылкі“.

Яго назіраньні над жыльцамі дому даходзілі да таго, што ведаў, хто ў якую пару выходзіць з кватэры і калі прыходзіць.

З усімі жыльцамі, такім чынам, наладзілася ў хлопчыка пэўная сувязь—у яго думках.

Часам і хто-колечы з жыльцоў зварочваў на яго ўвагу. Гэта бывала тады, калі ён коўзаўся па парэнчах усходаў з чацьвёртага паверху ўніз. Кожны з жыльцоў па свойму рэагаваў на яго адважны ўчынак. Жанчыны палохаліся, дзівіліся, літасьці прасілі, каб ён гэтага не рабіў. Некаторыя з мужчын, наадварот, хвалілі, называлі яго малайцом, а іншыя проста сьцягвалі з парэнчаў, дзёрлі за вушы з пагрозай, што дзядзьку раскажуць.

На вялізным падворку дому, апрача хлявоў, стаяла яшчэ некалькі корпусаў для жыльцоў. У гэтых кватэрах не адчуваўся той парадак, як у цэнтральным корпусе з вуліцы. Ня было тэй зграбнасьці і малявідлаў у калідорах, дошчачак на дзьвярох. Былі толькі нумары кватэр. Тут жылі, галоўным чынам, рамесьнікі і рабочыя.

У той час, калі кватаранты вялікага дому з боку вуліцы былі чыста апрануты, часам у бліскучых чыноўніцкіх гузіках, мелі круглыя твары, і сытая супакоенасьць адлюстроўвалася ў іхных вачох,—людзі з падворку, у большасьці, былі завэдганыя, у старых вопратках, з заклапочанымі злоснымі вачыма.

Чамусьці Язэпку болей спадабаліся злосныя і вострыя вочы людзей з падворку, чымся рахманыя і спакойныя кватарантаў галоўнага корпусу з вуліцы.

У выразах твараў людзей з кватэр, дзе на дзьвярох былі прыбіты магільныя дошчачкі з прозьвішчамі, адчуваўся і магільны супакой, супакой сытасьці і забясьпечанасьці; ня было ў іх таго жыцьця і рухавасьці, як у людзей з падворку, што вечна клапаціліся аб штодзённым кавалку хлеба.

Язэпку цягнула да „жывых“ людзей з падворку. Пробаваў там сябраваць з равесьнікамі-хлапчукамі. Але яны, часта пакрыўджаныя сваімі бацькамі, былі таксама злосныя і некалькі разоў моцна адлупцавалі Язэпку. Ён рэдка заходзіў туды пасьля гэтага.

Сам дзядзька часта быў нездаволены кватарантамі з падворку. Яны неакуратна плацілі за кватэры. Ён часам судзіўся з некаторымі. Прыходзілі гарадавікі і выкідалі на вуліцу бэбахі гэтых „злосных, няпрыемных“ людзей.

Ужо цяпер, калі Язэп Крушынскі прыяжджаў у Менск пасьля сьмерці дзядзькі і спыняўся ў гэтым доме ў аднаго з сваіх стрыечных братоў, ён успамінаў дзіцячыя гады, першыя ўражаньні ад гэтага дому і ўсіх былых яго кватарантаў.

Кожны раз, як толькі ўгледзіць фасад дзядзькавага дому з вуліцы, на яго нападаў сполах, як у дзіцячыя гады.

---

У 1921 годзе гаспадары дому—Алесь і Пётра Крушынскія—адчувалі сябе ня зусім добра: яны былі домаўласьнікамі.

Большасьць жыльцоў з галоўнага корпусу—былыя царскія чыноўнікі і гаспадары багатых магазынаў—кудысьці зьнікл і. У кватэрах жылі зусім новыя людзі. Частка рабочых з двара і падвальных кватэр перабралася наверх. За кватэры або мала плацілі, або зусім нічога не плацілі.

— Як?! Згубіў?—старая ўскочыла з месца. Вось дурны! Гэта-ж у хаце прыгадзілася-б!

— Маўчы, маці! Дай гаварыць, ці што? Чырвонаармейцы знайшлі сукно і мяне затрымалі. Хто ты?—пытаюцца, і дзе контрабанду дастаў? Гэта, кажу, сукно, а не контрабанда. Ну, яны мяне і арыштавалі. Патрымалі ў сваім кардоне, а потым пагналі ў Менск. Распыталі там, хто я, што—і выпусьцілі на волю. Казалі—суд будзе Прыдзецца плаціць пяцьдзесят рублёў штрафу або на казённым хлебе пасядзець. Мяркую адну карову прадаць, ці што?

— Вось і знаходка!—Цыпручыха заламала рукі.—Тады адзін войкаў, а цяпер усе войкаць будзем.

— Няхай цяпер хоць куча золата ляжыць на дарозе.—апраўдваўся стары,—яй права, ня буду чапаць!

— Дурны, як бот!—крычала жонка.

— Да позьняй ночы Цыпрук мусіў пераказваць суседзям сваю прыгоду. З кожным разам ён апавядаў усё болей падрабязна. Першы кароткі конспэкт вырас за дзень у вялікую, цікавую аповесьць.

— Можа пакунак з сукном згубіў той аграмон, або другі чалавек—з Курганішча?—пыталіся людзі.

— Дзе там!—тлумачыў Цыпрук.—Вазок іхні такі шчыльны, што і шпілька з яго ня вылезе.

— Чаго добрага, наўмысьне выкінулі контрабанду, як убачылі чырвонаармейцаў?

— Што яны дурныя, ці што? Такое дабро будзе чалавек кідаць на дарогу!

У той-жа дзень вярнуўся з Менску і сын Цыпрука рабфакавец Мікола. Ён ехаў чыгункай з Ленінграду аж да Менску.

Даведаўшыся аб такім сямейным няшчасьці, ён моцна злаваўся, прабіраў бацьку на чым свет стаіць.

— І трэба-ж было табе да шаптуна цягацца! Вось і нашаптаў!

— А праўда, сынку, кажаш!—ажна ўзрадаваўся Цыпрук. што вінавайца знайшоўся.—Гэта ён на мяне нашаптаў. Ён такі злосны...

— Як вам, тата, ня сорамна такое глупства казаць! Вось і ўлезьлі ў бяду! Цяпер будзе на нас вялікая ганьба, нібы мы контрабандай займаемся.

Сын Цыпрука вельмі хваляваўся.

— Жартачкі такі паклёп ўзьвялі. Каля граніцы проста жыць нельга чэснаму грамадзяніну. Калі сам у балота не палезеш, дык людзі цябе апаганяць.

— Хто тут займаецца контрабандай у нашай ваколіцы?—запытаўся ён у суседзяў.

— А паляруш іх ведае! Ці мала правозіцца контрабанды па ўсіх сабачых сьцежках нашай ваколіцы! Ці мала народу па турмах за гэта сядзіць!

— Добра! Я дасьледую справу майго бацькі. Знайду вінаватых! Труціць трэба гэтых агідных рабакоў!

Вочы ў яго гарэлі ад злосьці і крыўды.

(*Далей будзе*).

**Сяргей Дарожны**

# Вячорныя песьні

I.

Ноч стамлёна махае крылом;
За ваколіцай юныя песьні
Залатым адшумелі аўсом
Над бядою лязовай Палесься.

О, краіна, лясная мая!
Цішыня ды туманы над долам...
Я прышоў, як бяздомны баян.
На тваё сіратлівае поле.

Я прышоў яго песьняй уславіць,
Сын сяла у плашчы гарадзкім..
Родны кут! не пазнаць яго нават
Дзе свае тут, а дзе чужакі.

Вось бялее пасёлак далінай,
Шызы дым над пагоркамі стрэх.
А калісь тут шумелі асіны,
І гарэлі кастры у начлег.

Ой заві-ж, вецер, песьню маю,
Тут я толькі сягоньняшні госьць:
Т[illegible]кшыя песьні пяюць,
Т[illegible] смутак ужо — весялосьць.

І нявольна я ў гэтакі вечар
Успамінаю, чым некалі жыў:
Стройны стан і вячорныя стрэчы,
І палын ля старое мяжы.

Вось прашла яна ціхай хадою,
Нібы толькі прыгожы ўспамін,
І вось, вось зацьвіло ўсё вясною,
Запалаў беласьнежны язьмін.

Ці лягункі, ці мары над ім,
Толькі помню, тады, на вясьне,
Яна ў белым убраньні сваім
Першы раз усьміхнулася мне.

Дні ішлі ў неразгаданым сьне.
Я у горад паехаў і вось,
На радзімай сваёй старане
Я цяпер толькі сёньняшні госьць.

Мне цяпер не пазнаць сваёй хаты:
Усё зьмянілася тут, нават лес
Кожнай хвояй аплаквае страту —
Апусьцелых дуброў жоўты плес.

Жорсткі век наш, узбуджаны век!
Гнеў жалезны над полем навіс,
Хаты, нібыта сотні калек,
У маленьні акурваюць высь.

Што-ж тут я на узьмежку дзіўлюся?
Тут ня тыя ўжо песьні да сьлёз.
Тут ня колішні сум Беларусі
Па узгорках рассыпаў авёс.

О. краіна, лясная мая!
Усё, што сэрцам і песьняй люблю.
Прыдзе скора ён—новы баян
Славіць край і другую зямлю.

Ён з сабою інакшую песьню
Прынясе на сталёвым плячы.
Мо' з таго так надрыўна, Палесьсе.
Заўжды плачуць начныя сычы.

Жорсткі век наш, узбуджаны век!
Гнеў жалезны над полем навіс,
Хаты, нібыта сотні калек,
У маленьні акурваюць высь.

II

Вечар маўклівы.
Над сонным залівам
Залочаны човен плыве.
Вясковыя песьні,
Вячорныя песьні
Купаюцца ў роснай траве.

І смутак, і радасьць
У песьнях, у гэтых
Адчуў я ўсёю душою.
Мне сьніцца, нібыта
Зусім я падлетак
Стаю над шырокай мяжою.

Мне сьніцца вясёлы
Хлапчук, год сямі,
Кудравы і чорнавалосы,
З далёкай сялянскае
Беднай сям'і,
З вясны і да восені босы.

Калісьці так дзіўным
Здаваўся яму
Кудравы над полем авёс
І гэта маўклівая дальняя муць,
Дзе некалі жыў ён і рос.

Дзе некалі быдла
На пасту ганяў,
Начлежыў ў асеньнія ночы,
Дзе некалі марыў да самага дня
Пра дзеўчыны сінія вочы.

Далёкія былі,
Асеньнія дні!
Я ніколі дагэтуль ня знаў,
Што гэта былі толькі мары
І сны,
Гадоў адзьвінеўшых мана.

Ня тое жыцьцё тут,
І песьні ня тыя,
Старое на злом аддалі.
Тут толькі таполі лісты залатыя
Усё так-жа страсаюць ў палі.

Ўжо больш ня сустрэць мне
Таго, што калісьці...
Таго, чым я некалі жыў.
І думы,
Як з клёну пажоўклае лісьце
Лятуць да забытай мяжы.

Мазыршчына, 27 г.

## Каля прыстані

І такою вячорнай парой
Разьвіталіся мы каля прыстані.
Усьміхаўся за дальняй гарой
Беразак залатымі маністамі.

І відно было, толькі дзьве постаці
Калыхаліся ў цьмянай вадзе...
Мы глядзелі з вячорнаю простасьцю
На адплаканы зорамі дзень.

Вечар сыпаў сыгналы-агні,
Параходы зьнімаліся з якараў.
Я адплыў, як асеньнія дні,
Залатымі лістамі аплаканы.

Я адплыў да другіх берагоў
Адвячорнымі ўсплёскамі Прыпяці,
І з вакна дзіваваўся табой,
Дзіваваўся асеньняй іскрыстасьці.

І так доўга глядзеў на маяк.
Мне ніхто ня ўсьміхаўся так ветліва,
Толькі водаль хусьцінка твая
Мільганула за сумнымі ветламі.

Ты ізноў засталася аднэй.
Адышла... але знаю на ростані,
Ты успомніш з другім аба мне,
Як аб хлопчыку мілым і простым.

Ты успомніш, абняўшы яго,
Што калісьці было толькі мараю,
І пад песьню з вячорнай тугой
Адыграеш апошнюю арыю,

Што калісьці вячорнай парой
Разьвіталіся мы каля прыстані.
Усьміхаўся за дальняй гарой
Беразак залатымі маністамі.

Мазыр, 1928 год.

**Кузьма Чорны**

# Сястра

*Раман*

## Частка чацьвёртая

### V.

Восень неўзаметкі асталёўваляся над горадам. Тут яна і прыметна была, можна сказаць, толькі ў застыглых колерах слаўнага неба, чыстага на дзіва.

Каломенскі-ж сквэрык упарта зеляніўся, дрэвы яго не хацелі жаўцець. Дзьмулі вятры і шасталі ў лісьці; часам яно, жоўтае, ападала. Але так было тут яго мала, што часамі і ўлетку на якім-небудзь хваравекаватым дрэўцы яго менш ня бывае.

Ваця выстраіўся ў гарадзкі гарнітур. Ванзэлкі яго ўжо трэці дзень стаялі нераспакаванымі, а ён сам ужываў асалоду радаснага заспакаеньня свае бунтоўнае душы. Пяць дзён было яшчэ вольных, пакуль трэба было на цэлую восень і зіму брацца за лясную работу ўва ўсялякіх канторах і кіраўніцтвах. І кожны дзень, пад вечар, ён падоўгу праседжваў цяпер на сваім улюбёным месцы—на Каломенскім сквэрыку. На кватэры ў Цівунчыка ён усё-ж не застаўся: спалохаўся вельмі вялікае, аж празьмернае таварыскасьці і несканчонае гаворкі самога Цівунчыка. Паўтары добы бесьперастанку перагаварыўшы з ім, ён пад вечар нейк неўспадзеўкі наняў пакой каля Віленскага вагзалу і забраў туды рэчы. Але давялося яму схлусіць перад Цівунчыкам, каб не пакрыўдзіць яго.

— Чаму-ж вы ўцякаеце?

— Там мае сваякі, дык я ў іх буду жыць. Самі запрасілі.

— Блізкія сваякі?

— Ня вельмі блізкія, але...

— Ну, пэўна, якія-б сваякі ні былі, а ўсё-ж сваякі. На гэтым, можна сказаць, сьвет стаіць...

Ваця да канца не даслухаў, і Цывунчык падумаў, што трэба будзе калі-небудзь выказаць усё гэтае яму да канца. Адно каб не забыцца яму старому, заклапочанаму тым, што жыве ён на сьвеце.

Ваця-ж сумаваў толькі аб адным, што не ўдалося перад асеньняю працаю ў горадзе пабачыць бацьку. Ліст ад яго ён некалькі разоў перачытваў, седзячы на сваім улюбёным сквэры. Пакручастыя і нясьмелыя літары старога не давалі яму забыцца на тую старую, трухлявую хату: „... а яшчэ, сынок, паведамляю табе, што трэба было-б каньха зьмяніць, а то ўлетку дык яшчэ сяк так, а зімою бяда будзе з ім. І здароўе маё папсавалася зусім. Няхай бы ты даведаўся дадому, можа там будзе калі выдарыцца часіна якая. Дык даведайся. У хаце пад вокны трэба будзе на вясну па вянку падкласьці і страху перакрыць... Улетку нешта парасючок ня ўзяў есьці, дык дакалоць прышлося. Кілбасы, колькі было, захавалі на зіму, дык, калі будзе як, я табе з пару якую прышлю. Вельмі-ж высахлі добра, пад страхою вісючы. Можа ты даўно свойскіх кілбас не каштаваў“...

Гэты ліст прымусіў яго паслаць бацьку грошай, колькі можна было. І нейкі глыбокі сьлед на сэрцы, як плуг баразну на гладкім полі, рабіў гэты бацькаўскі ліст.

Мяккі, як воск у душнай цяплыні, Ваця перабіраў пальцамі запэцканы мухамі, парыжэлы ад сонца, пакуль падыйшла пара спатрэбіцца яму, кавалак паперы.

Вецер гойдаў над галавою яго купчастае гольле дрэў, радасным шастаньнем трывожыў ціхую тут вуліцу. Па ўтаптанай даўно, за доўгі гады, пляцоўцы сквэру, праходзілі людзі. Ваця сумаваў па старым сваім бацьку і не стараўся ахваціць думкамі сэнс усяго, як гэта заўсёды раней, калі быў так узбуджаны. Перад самым змрокам, калі трывожней нейк зашумеў вецер у дрэвах, знаёмы голас усхваляваў яго.

— Ваця?

Тады ён устрапянуўся. Маня стаяла перад ім, і бляск вачэй яе сьведчыў аб нявыяўленай на твары ўсьмешцы. „Чаго яна сьмяецца"— падумаў Ваця. А яна падыйшла бліжэй, палажыла на край лаўкі невялічкі свой папяровы пакунак і сама села наводдаль трохі ад Ваці.

— Маня.

— Вы так аб нечым моцна думалі, што ня чулі, як я клікала вас. Я два разы клікнула.

Ваця трохі зьбянтэжыўся, папробаваў усьміхнуцца, павінаватаму сказаў:

— Вецер навеяў дрымоту.

— Ня выспаліся?

Яна сьмяялася ўсімі рысамі твару свайго, але губы былі ў халодным спакою. Яна як-бы прайшла вялікую дарогу па ветры ў чыстым полі—нейк гарэлі яе вочы, і нават, здалося Вацю ў першы момант, адзеньне яе было трохі запыленым.

— Выспаўся.

Цяпер яна засьмяялася:

— Ну добра...

— З чаго вы? Што вы тут робіце?

— Колькі ўсялякага дробнага клопоту. Пасьлязаўтра паеду ў сваю школу. Яшчэ да Панкрата заўтра зайду. А вы больш у Анці ня будзеце?

— Ужо не. Тут застануся на ўсю зіму.

— Дык я пайду.

— Сядзеце.

— Праведзяце мяне?

— Можна.

Але Ваця ня быў гэтакім спакойным. Калі йшоў поплеч з ёю, радасная блізасьць яе поўніла яго бурным неспакоем. Зноў пачаліся вялікія хваляваньні.

— Маня.

— Што?

— Ведаеце... я даўно сказаць вам хацеў...

Твар яе зрабіўся сталым надзвычайна.

— Увесь час, і тады ў Анці калі былі спаткаліся, і раней... увесь час...

Яна маўчала.

— Я хачу быць блізкім да вас.

— Можа мы й ёсьць блізкія.

— Можа, але ня гэтак.

— Вы любіце мяне?

— Даўно.

Абое маўчалі. Пасьля, як бы скрозь вялікую задумённасьць, яна сказала, ня гледзячы на яго:

— Слаўны, слаўны вы.

— Больш вы нічога мне ня скажаце?

— Ня ведаю... ня знаю... Вы ня пытайце больш. Мы-ж яшчэ і пасьля ня раз будзем бачыцца. Але цяпер лепш аб чым іншым давайце пагаворым. Я прашу вас...

— Я вам усё сказаў.

— Дык што мне сказаць вам?

— Нічога ў вас няма сказаць мне?

— Не, ня тое, не... Ня гэтак вы зразумелі. Ня гэтае я хацела сказаць вам...

Глядзела яна сабе пад ногі, на пыльны тратуар. Пайшла неўзаметкі хутчэй. Ваця маўчаў цяперакі да самае яе вуліцы. Сказаў адно перад разьвітаньнем:

— Дык пасьлязаўтра паедзеце?

— Але.

Моўчкі яны разьвіталіся. Пасьля яна азірнулася на яго і як-бы прыпынілася на момант. І ён заўважыў гэта. Мора хваляваньняў ахапіла яго. Пастаяўшы з паўхвіліны, пайшоў ён паволі назад, на свой улюбёны сквэр. У вячэрных абдымках жыў горад.

## VI.

У тыя дні Ваця бачыўся яшчэ з Абрамам Ватасонам. Спатканьне іх было неспадзяваным і гаворка кароткаю. Убачыліся яны каля міліцэйскае ўправы, адкуль Ваця выйшаў з дамавою кніжкаю.

— А-а!—сказаў суха Абрам.

— Ага—адказаў таксама Ваця.

— З міліцыі?

— Заяўляўся.

— Гэта-ж справа гаспадыні.

— А хто яго ведае, дзе чыя справа. Часамі ўсё падлічанае і вымеранае пакідае ісьці як па масьле, і трэба нанава пералічваць і перамерваць.

— Некалі і я такою філёзофіяй займаўся.

— Можа й лепш рабіў.

— Чаму?

— Як цырульнікам быў.

— Але чаму?

— Тады хоць з-пад рук у цябе работу відаць было.

— А цяпер?

— А цяпер от усё бегаеш па вуліцах. Колькі разоў я ўжо цябе бачыў так. І стары Цівунчык нешта на цябе пакінуў вока мець.

— А ты?

— Я зараз за работу засяду.

— А я патвойму?..

— Бра-атка, мне што! Жыві здароў...

Памаўчаў і дадаў далікатней:

— Працуй.

— Чаго, кажаш, стары на мяне крыўдуе?

— Нешта ты з ім абыйшоўся быў гэтак, што яму не спадабалася. Ці можа проста пакрыўдзіў які́м не-будзь словам. Ён жа да ўсялякага слова пасвойму адносіцца.

— А ўрэшце!..

— Ды табе чаго бедаваць па гэтым. Ты што-ж, працуеш?

— Працую.

— Можа езьдзіў куды?

— Куды?

— На курорт, ці куды.

— Не. Чаму ты пытаеш?

— Бо іншы—дык трасе яго там, ад страху зубамі ляскае, каб не задавіла, а едзе кожны год. І здаровы, як бык, а от ты яму Ялту, канечне, дай, а то жыў ня будзе...

— Мода пайшла.

— Но але. Мы, кажа, заваявалі сабе і курорты і ўсё. Як-жа ты тутак не паедзеш.

— А я неўзабаве ў N еду.

— Чаго?

— На працу. Зусім.

— От як?

— Прызнацца я рад. Даўно ня быў там. І даўно і недаўно, усё здаецца хвілінаю.

— Добра, ты сабе едзь у N, а я застануся тут. Пайду, сьпяшаю вельмі. Бывай.

Абрам зьдзіўлёна працягнуў яму руку і пранізаў яго холадам вострых сваіх вачэй. Ваця пайшоў у свой бок, сам ня ведаючы чаму нясучы ў сабе варожасьць да Абрама. „Яшчэ не хапала мне з Казімерам спаткацца“—падумаў ён, усьміхнуўшыся. „Чаго яны хітруюць, што ім са мною дзяліць?“

Аднак, як ніколі раней, чуў у сабе свой духовы парадак. Як-бы стаяў там, дзе яму трэба стаць і куды вельмі доўга і пакутна імкнуўся. Цяплыня пачуцьцяў пры ўспаміне аб невыразных Маніных словах туманіла яму галаву. Думалася яму цяпер, што толькі адзін чалавек ёсьць— стары Радзівон Цівунчык, які несьвядома разумеў самую сутнасьць сутнасьці тых, з кім сустракаецца. І з ім Ваццю можна было-б гаварыць, або хоць моўчкі сядзець доўга і прыемна.

Тады яшчэ з большаю няпрыязьню да Абрама і нават, у зьвязку з гэтым, да Казімера пайшоў.

Быў час пасьля абеду. Горад купаўся ў пыле і сонцы. Асеньнія дрэвы, здаецца, пакутвалі ад яскравасьці фарбаў гэтае пары дню. Пыл стаяў над будынкамі, перамешваўся з дымам, трымаўся ў паветры.

Ваця адчуў, як усё лягчэй яму робіцца, як-бы нешта цяжкае губілася, па меры таго як ішоў ён пыльным тратуарам. Як бы Абрам панёс з сабою нешта непрыемнае, што стаяла між імі, і між ім і Казімерам. „Куды зайсьці—усёроўна“—думаў ён.

З малых вокан сьмешнага двухпавярховага дому лінуліся на яго зыкі раялю. Яны доўга віселі і скакалі адначасна ў паветры, ападалі вясёлымі акордамі. Весялосьць іх была лагоднаю, патрэбнаю. Несьвядома Ваця прыпыніўся паслухаць гэтую простую мэлёдыю. І ўсё думкі былі аб нечым дарагім, што пакінула ў душы яго Маня, калі апошні раз бачыўся з ею. Цяпер усё гэтае здавалася інакшым, як тады, у першую хвіліну.

— Ваця!

Знаёмы голас прымусіў яго пайсьці паволі. Музыка была чуваць увесь час.

— Чаго там стаіш, Ваця?

Ваця аглянуўся.

— Сюды, сюды.

Толькі цяпер заўважыў ён, што стаяў насупроць няцікавае нейкае сталоўкі. „Піва, сьнеданьне і вячэра“—прачытаў абадраную шыльду.

— Можа зойдзеш?

У вакно глядзелі хлопцы, былыя таварышы па працы ў лясным кіраўніцтве і раней па інстытуце.

— Зайду.

— Заходзь.

На момант Ваця прыпыніўся, убачыўшы ў вакне твар былога таго члена мясцкому ці сэкратара. Але нядоўга была ў ім гэтая нерашучасьць. Той сам засьмяяўся ў вакне:

— Успомніў што, ці так баішся?

— Памятаю.

— Зноў у піўной памог бог спаткацца!..

Ваця ўваходзіў у брудны, гарачы карыдорчык, поўны нейкай паперы і кіслага паху. На ганку стаяў вялы нейкі чалавек, трымаў рукі ў кішэнях і прапусьціў міма сябе Вацю, агледзеўшы яго з ног да галавы. Пасьля, у дзьверах, было яшчэ некалькі тыпаў, некалькі так сабе чалавекаў, дзьве жанчыны сядзелі ў кутку за брудным столікам.

Ваціны прыяцелі сядзелі за большым сталом, наводшыбе, але на палову адгароджаныя пакрыўленымі рамамі, абцягненымі парваным зялёным мультанам.

— Сюды, сюды, Ваця.

Ваця накіраваўся да іх.

— Садзіся.

— Ты чаго папробуеш?

— Усёроўна.

— Вельмі ты сёньня дружны, Ваця.

— Здаецца, ніякіх камэдыяй няма ў табе сёньня.

— Можа ажаніўся, Ваця?

— Даўно ня бачыліся.

Ваця сеў, і не спадабаўся яму ўвесь гэты вэрхал:

— Можа цішэй крыху можна?

— Чаго ты баішся!

— Ці гэта, канешне, баяцца?

— А што?

— А гэта цікава,—не сьцярпеў член той ці сэкратар з сваёю філёзофіяй—цікава тое, што ён сьвет падзяліў на дзьве часткі—баяцца і не баяцца. Адны баяцца, а другія не. Сярэдзіны няма. Так Ваця, ці не?

— Сьціхні ты.

— Але ты так маеш на ўвазе?

— Дай ты яму ачухацца.

— Не, ты пастой.

Ваця глянуў на таго.

— Колькі ты пасьпеў выпіць?

— Ня ў гэтым справа.

Таму заткнулі рот шклянкаю піва, і ён толькі сказаў:

— От зараз я папробую давесьці.

Ваця схіліў галаву і паволі еў з малое, расколатае талеркі, зьбянтэжаны ад усяго гэтага неспадзяванага тлуму. Чужым да ўсіх іх раптам вельмі глыбока адчуў ён сябе.

Той зноў пачаў нешта даводзіць. Ваця выпіў, пасядзеў, адчуў прыемны шум у галаве. Сьмяючыся сказаў, глытаючы словы:

— Слухай, ты, сэкратар.

— Ну, ну, разьбі мае палажэньні.

— Ніякіх спрэчак распачынаць ня буду.
— Чаму?
— Не хачу.
— Як гэта?
— Няма патрэбы.
— Не знаходзіш патрэбным?
— Не хачу займацца непатрэбным.
— А раней?
— Кажу што даволі!
— Як хочаш!...
— Седзячы тут, лепш гаварыць пра гатунак піва ці мацунак гарэлкі.
— Ага.
— А ўрэшце можаш пагаварыць.
Вакол стаяў тлум і непарадак.
Ваця яшчэ раз гукнуў:
— Няма дзеля чаго спрачацца.
І загадаў музыкантам граць Яны—дзьве скрыпкі і гармоньня—грунулі нешта баявое. Скрыпак ня было чуваць за гармоньняю, раўла толькі яна адна, як бы для таго, каб давесьць—„усё заглушу, ніякі гук ня выжыве пад маім рыканьнем А ніводзін зык“. Скрыпачы дарэмна выцягвалі шыі, адзін аж прысядаў на адно плячо. Ваця глядзеў на іх, нічога ня думаючы, адчуваючы лёгкасьць і прылівы весялосьці.

## VII.

„Доўга яшчэ ён будзе варушыцца на зямлі“—думаў Ваця, гледзячы зьверху, з моста, уніз па Панкрата Малюжыча. „Добра ён яшчэ будзе радасьцю сілы свае поўніць усё, да чаго стаіць блізка“.

Зьверху ён бачыў, як прыяжджалі да вагзалу пасажыры, як наежджалі з разгону адзін на аднаго возьнікі.

„З кватэры Панкрата Малюжыча будзе йсьці яна“—думаў яшчэ Ваця, лёгка ўзьлягаючы локцямі на чыгунныя парэнцы. „Колькі яшчэ часу тут прастояць мне?“

Дзень хіліўся да змроку. Вагзал запальваў свае агні там, адкуль адыходзіць зьбіраўся поезд. Спакойна ўстрывожаныя людзі клапаціліся там.

Ваця глядзеў, як лінуўся натоўп праз вузкія дзьверы да вагонаў і ўстрывожана заўважыў—Ватасон з портфэлем і вялікім клункам увaходзіў у вагон. „Не хачу спатыкацца‘—устрывожыўся Ваця і адумаўся—той быў ужо ў вагоне, і нейкая жанчына—добра бачыць яе здалёк цяжка было—нешта гаварыла яму праз адчыненае вакно.

— Ага! сказаў моцна Ваця.

На момант выбухнула зларадная думка:

„Жанчынаю абзавёўся. І маўчаў. А можа сястра якая, ці цётка знайшлася“.

І праверыў сябе:

„А чаму павінен быў спавядацца мне?“

Пастараўшыся выкінуць усё гэтае з галавы свае, нецярпліва чакаў адыходу поезду, як-бы з поездам адыйсьці павінна было нешта, што ў нечым перашкаджала яму.

Думаў:

„Няхай едзе, сустрэнемся калі, ці не—усероўна“.

Чамусьці ўспомніў нядаўную гаспадыню сваю Анцю, пасьля—цяперашняга спадарожніка Манінага ў працы—Алеся Макарчука.

„Казімер, напэўна, праводзіць-жа Маню прыйдзе, а ня хочацца спатыкацца і з ім. Усёроўна, далёкія мы адзін да аднаго. І хто яго ведае, што ён такое“.

У такіх думках прастояў доўга. Аж пакуль ня стаў на сваім месцы другі вячэрны поезд.

Змрок ападаў хутка. Горад гарэў нярухомымі агнямі.

Тады Ваця пайшоў насустрач.

Маня сьпяшалася ўжо. Ваця ўзяў з рук яе клунак. У змроку бачыў, як яна ўстрывожана нечым. І нейк дзіўна на момант стала яму, што нясе ён яе клунак, а яна ідзе поплеч і маўчыць.

У тым-жа месцы, дзе спускацца трэба было па ўсходах уніз, яна спынілася і забрала клунак:

— Тут разьвітаемся.

Ён змоўчаў.

— Як вы ведалі, што я тут буду ісьці, ці гэта так здарылася?

— Вы тады-ж сказалі, што адсюль паедзеце.

— А-а.

— Забылі?

— Успомніла... Не забыла.

— Чаму вы так?

— Што?

— Забываеце.

— Не.

— Што?

— Не, не забыла, я-ж гавару

З папрэкам Ваця глядзеў на яе.

— Прыехаць да вас?

Яна маўчала і глядзела сабе пад ногі.

— Прыехаць?

Раптам яна паставіла клунак на зямлю, падыйшла да яго цесна. У вячорным змроку адчуў ён іскры яе вачэй. Яна схапіла рукамі галаву яго і пацалавала ў лоб. Узяла клунак і пайшла, кіўнуўшы яшчэ яму галавою

Ачомаўшыся, ён гукнуў ёй усьлед:

— Маня!

Здалёк яна азірнулася:

— Бывайце. Мы-ж убачымся?

Ён зьбег уніз.

— Там Казімер будзе мяне праводзіць, можа яшчэ хто. Можа вам ня йсьці.

— Убачымся-ж?

— Убачымся.

Далей ён зноў стаяў высока, бачачы, як уліваўся ў вагоны чалавечы натоўп.

Радасьць існаваньня жыла ў ім вялікімі навальніцамі.

Паволі ён сыйшоў уніз, паволі ўвайшоў у вакзальны будынак, купіў білет на пэррон і выйшаў. У дзьверах спаткаўся з Панкратам Малыжычам. Той бег да паравіка, з вечным сваім скураным, малым, зашмальцованым чамаданчыкам. Кіўнуў бягучы галавою.

— Праводзіце каго?

— Праводжу.

— Ага.

Прыпыніўся ў нейкай няёмкай нерашучасьці.

— Сьпяшаецеся?—сказаў Ваця.

— Але. Бывайце.

Неўзабаве ён схаваўся недзе каля чорнага абрысу свае машыны.

Ваця прайшоў да канца поезду. Поезд рушыў.

Ваця сьпяшаў назад, пакідаючы за сабою Казімера. Казімер яго мусіць не заўважаў, ішоў упоперак па рэйках, залажыўшы рукі ў кішэні.

Ваця з вялікім задаваленьнем пастухаў спрэчку возьнікаў каля вагзальнага пад'езду. Ківаючы барадою, сіваваты дзядзька даводзіў:

— Павінна быць правіла.

— Якое?

— Такое.

— Якое гэта?

— А такое. Павінна парадкам пад'яжджаць, а нята што хто як і куды хоча...

Ваця пайшоў да процілеглых тратуараў і ўспомніўшы пайшоў да старога Цівунчыка. Той вельмі ўзрадаваўся. Частаваў нейкім адмысловым тутунём, дапытваўся, чаго гэта хадзіць тут трэба, можа правадзіць каго давялося...

Ваця пакідаў гэтую сталую кватэру, радасна ўзнэрваваны.

Сьледам за ім ішоў стары Радзівон Цівунчык, як нязменны спадарожнік Вацінае душы.

„Можа й я гэтакім пад старасьць буду"—думаў Ваця, стараючыся прапусьціць Цівунчыка наперад.

Цівунчык ня спыняў гаворкі:

— Дык, кажаце, нішто жывецца вам цяпер?

— Нішто.

— Добра?

— Добра.

— А што-ж, жывы чалавек заўсёды павінен знайсьці сабе якінебудзь спосаб. І знойдзе, заўсёды знойдзе. Памятайце мае словы, што знойдзе.

— Буду памятаць,—ня то жартаўліва, ня то стала сказаў Ваця.

— Памятайце. От я стары, немагушчы, але от жыву. Жыву-ж я. Ці кепска, ці добра, але жыву...

Ваця адчуваў нешта новае, лёгкае і добрае. Радасная думка аб Мані панавала ў ім, узьнімала яго ўсяго на няведаныя дагэтуль высоты.

Думаў ён:

„Убачуся з ёю хутка, ці ня хутка, ці зусім ня ўбачуся—можа гэта ўсёроўна цяпер".

Як бы самае важнае ёсьць для яго.

У гэтым разабрацца цяпер ня мог ён. Адчуваў толькі, як расьце ён для жыцьця ў вялікую і патрэбную сілу.

Цівунчык правёў яго да першае папярочнае вуліцы. Пацiснулі яны адзін аднаму рукі. І Цівунчык доўга глядзеў, як патроху гублялася ў вячорнай гушчыні Вацiна постаць.

Пасьля стаяў адзін, глядзеў, як неба ачышчалася ад цёмкай навалакі хмар і як запальвала яно на ўсю ноч свае зоры. У водбляску ліхтара твар яго жыў заспакоеннай нэрвовасьцю, як-бы ўся істота яго хацела сказаць—у навальніцах ўсялякага ператварэньня, у радасьці і ў горы—доўга яшчэ буду я жыць на сьвеце.

*Канец.*

**Уладзімер Жылка**

* * *

Млынар заставіў застаўкі,
І ледзь плюскочацца рака.
Стралой крыла чыркаюць ластаўкі
Люстранасьць ясную стаўка.

Блакітна плашчы к захаду
Дзень хіліць русу галаву,
І ў спрат ссыпае скарбы-знахады—
Залатапромені ў ставу.

І вее яснавокаю,
Шыракакрылай цішынёй,
І ціш, як неба. безаблокая,
І ясна на душы маёй.

І ў душу палі знахады
(Залатапромені ў ставу).
Адрынь, пясьняр, згрызоты захады,
Узьнясіся песьняй к хараству.

Ліпень, 1928

*Р. М.*

* * *

Каханьню нічога ня трэба,
Каханьне нічога ня просе,—
Так радуе сіняе неба,
Так цешыць валошка ў калосьсі.

Каханьне, як песьні пра зоры,
Лятункам заўсёды высока,
І шчасьцем у сьвет, у прасторы
Каханка расквітвае вока.

І на'т у затоенай скрусе
Тваіх неразьдзельных пешчаў
К жалобе ніхто ня прымусе
Надзею, што зрушана плешча.

Каханая, любая, квеце!
У палоне вясёлае долі
Ёсьць песьняй аб кім лятуцеці,
І сэрцу даволі, даволі.

І сэрца бясхмарнае ясьней
Схіляецца постацьцю сьпелай,
Хоць сэрца яшчэ было-б шчасьней,
Каб дбаці аб кім яно мела.

Чэрвень 1928.

**Крапіва**

# На алкогольным фронце

Вось вы кажаце алкоголь, п'янства і ўсё такое... Тут і гаварыць доўга няма чаго. Вядома, што гэта рэч шкодная. А калі-б мне хто ў гэтым не паверыў, дык няхай запытаецца ў такога сьвядомага савецкага грамадзяніна, як Сымон Лында, які сам, можна сказаць, зубы зьеў на гэтым, а нядаўна чуць інвалідам ня стаў на алкогольным фронце.

Прыехаў я надоечы з вёскі. (У адпуску быў). Прыехаў, іду па вуліцы (па Савецкай, здаецца). Бачу, Лында чыкіляе з палачкаю. Усё больш на адну, на правую, нагу намагае, а левую за сабою валачэ па тротуары.

— Здароў, кажу, Лында! Што ты, кажу, лынды б'еш у той час, як людзі працуюць?

— Нічога,—кажа,—ня зробіш, прыходзіцца біць. Нага баліць, дык і на службу не хаджу.

— А што,—пытаюся,—скула села ў непатрэбным месцы?

— Ды не,—кажа.—На алкагольным фронце пастрадаў.

— Напэўна,—кажу,—які-небудзь нявытрыманы хуліган, напіўшыся, дручком па галёнках залавіў?

— Каб жа,—кажа,—хуліган, дык бы не такая крыўда была, а то найлепшы прыяцель—Мішка Трапач—нагу выкруціў. Але і яго тут вельмі нельга вінаваціць,—выпіўшы быў здорава. А пачалося гэта ўсё вось з чаго. Да гэтага часу ў газэту я бадай што й ня пісаў. Толькі як часамі хто рукі на сябе наложыць, ці аўтабус неасьцярожна на цётку наедзе, ці яшчэ што падобнае, дык я тагды сьвежанькае ў рэдакцыю. І праўда—друкавалі. Ганарару, то можна сказаць, што й не плацілі і прозьвішча пад нізом не прапісвалі, а друкаваць друкавалі. Артыкулаў жа ніякіх дагэтуль ня пісаў. Спэцыяльнасьцяй, як сам ведаеш, я ніякіх не прайшоў. Усякія лічбы там, пляны ды пэрспэктывы гэта для мяне кітайская грамата, а напісаць што „на ўсе сто процантаў", трэба падцягнуцца, ды індустрыялізацыя, што ваабшчэ, наогул і ўсё такое, дык гэта й без мяне любы журналіст напіша. А тут бачу у газэтах пачынаюць асьцярожна супроць алкоголізму і ўсякіх там напіткаў выказвацца. Вось, думаю, тут дык і я магу. Раней дык думаў, што пра гэта й пісаць ня можна, каб часам броварнай прамысловасьці не пашкодзіла. А калі так, дык гэта я магу. Сеў дый напісаў. Напісаў, панёс у рэдакцыю. Проста самому рэдактару ў рукі. Узяў рэдактар, чытае, а я гляджу і ня зьмігну, і дыхнуць баюся. Адно-ж бачу—што далей, то твар у майго рэдактара ўсё сьвятлее, сьвятлее. „Унаравіў, думаю. Быць ня можа, каб не пашло". І праўда,—прачытаў рэдактар артыкул, паглядзеў на мяне прыветна дый кажа: „Маладзец ты, кажа, Лында З цябе, як відаць, людзі будуць. Толькі, кажа, памылак у цябе страх як многа. Калі ты яшчэ правапіс трохі падвывучыш, дык вельмі проста, што з цябе чалавек можа выйсьці". А артыкул, і праўда, вельмі лоўкі вышаў. З сьлязою артыкул. Я чуць ня штодзень яго цяпер перачытваю. Як прачытаю, колькі шкоды бывае чалавеку ад гарэлкі ды колькі пакуты ён праз яе пераносіць, дык аж сьцішна зробіцца, аж самога сябе шкода стане. „Як жа гэта, думаю, быў я

да гэтуль такою цёмнаю масаю, што такой вялікай шкоды не разумеў“?!! І надрукавалі мой гэты артыкул. На трэцяй старонцы надрукавалі. І прозьвішча спаўна далі: „Сымон, значыцца, Лында“. Я, прызнацца, вельмі рад быў. Зямлі ня чуў пад сабою. У той жа дзень папёр у рэдакцыю па ганорар. „Так і так,—кажу рэдактару.—Хацеў бы я грохі падзаняцца сам з сабою. А тут грошы вышлі і правапісу няма за што купіць. Можа-б вы мне ганорарчык без чаргі выпісалі, таварыш рэдактар“? „Чаму-ж не, кажа. На правапіс я, кажа, заўсёды гатоў. Каб на што другое, а на правапіс, кажа, і без чаргі можна“... Сьціснуў гэта я чатыры рублі ў кішэню. Іду, пaціху фокстрот насьвіставаю, а сам думаю, куды мне гэты надкаштарысны прыбытак павярнуць. „Калі, думаю, хлопцу сандалікі купіць, дык летам ён і без сандаляў можа добра бегаць, а зімою і зусім ужо ніякай карысьці няма з сандаляў. Ні да чога хлопцу сандалі. Калі, скажам, ванначку купіць, малую купаць, дык гэта і зусім ужо ні к чаму: ванначку жонка заўсёды ў суседзяў пазычае“. А тут якраз аднекуль чорт Мішку Трапача нагнаў. Здалёк яшчэ ўбачыў мяне. „Чытаў, крычыць, чытаў! Што-ж ты дагэтуль свой талент хаваў? Ну, і стыль-жа ў цябе! Чартоўскі стыль! Проста Карамзінаўскі. Нехаця сьлёзы плывуць“. „Кінь, кажу, трапацца, Мішка,—і зусім тут ніякага таленту няма. Проста ўзяў вось дый напісаў,—няхай, думаю, добрыя людзі чытаюць“. А самому Мішкавы словы—як маслам па душы. Аж шчокі загарэліся. Бо ведаю, што ня брэша Мішка: ёсьць ува мне гэты самы талент. Вось, здэцца, й чую, як ён там у мяне ў сярэдзіне варочаецца. „Дык цяпер спырснуць трэба“,—кажа Мішка. „Што спырснуць?“—пытаюся. Прызнацца, і не дагадаўся зразу. „Ды талент-жа твой гэты самы. Абавязкова, кажа, трэба спырснуць, а іначай засохне, ні на сабаку ня варт будзе“. Я тут стаў адмаўляцца, што й нялоўка нек, і так нек яно выходзіць, як быццам сам сябе за вушы выдраў. А сам і думаю: „Чорт яго, думаю, ведае,—можа Мішка й праўду кажа. Усё-ж такі, як-ні-як, талент,—не пусьцяковіна якая-небудзь. Ня спырснуўшы, яно сапраўды нек чорт ведае як выйдзе. А то, думаю, яшчэ начытаюцца майго артыкулу дый сапраўды прыхлопнуць усякія алкоголі. Вось тагды і пырскай чым хочаш, калі што якое“. А Мішку як чорт падтыкае: „Дадому, кажа, мы ня пойдзем. Нашто. Далёка гэта, ды зноў жа ўсякія сямейныя трагізмы могуць здарыцца. А вось тут, кажа, за вуглам ёсьць у мяне адзін знаёмы, Косьця Жавалкін Слаўны хлопец, душа-чалавек. Калі спырснуць што якое, ніколі не адмовіцца. І жонка яго, кажа, слаўная,—падтрымае кампаньню. І агурочкі ў яе маласоленыя, храбусткія, смачныя“. Нічога ня зробіш—угаварыў мяне Мішка Трапач. Захапілі мы з сабою сёе-тое патрэбнае, на колькі майго ганорару хапіла, і прыперліся да Жавалкіна. Ён рад, вядома. Яна таксама рада. Спырснулі мы па аднэй. Нічога, добра. Прапусьцілі па другой. Яшчэ лепш. Нейкая такая цёплая хваля пракацілася па вантробах. А ад яе ўсялякія шляхетныя пачуцьці пачалі шавяліцца. Здэцца, так абняў бы ўвесь сьвет дый прытуліў да грудзей, так мне яго шкода стала. „І да чаго, думаеш, людзі цёмныя і несьвядомыя: п'юць, захлынаюцца ў атруце і самі ня бачаць, дзе іх пагібель. А вось я, Сымон Лында, прышоў, каб ратаваць гэтых няшчасных. І ўратую. Быць ня можа, каб ня ўратаваў. Вось яшчэ адзін артыкул напішу і ўратую“. Хацеў там жа й напісаць, ды толькі чарніла ў Жавалкіна не знашлося. А як выпілі яшчэ чарак па дзьве, дык Мішка ў азарт увайшоў, кулакамі па талерках пачаў стукаць ды ўсякія страшныя лёзунгі крычаць: „Ты гэта правільна, Лында, наконт гарэлкі пісануў. Дальбог, крычыць, правільна. На ўсе паўтараста

процантаў! Далучаюся! Далоў яе, праклятую! Зьнішчым да каплі. Каб і духу яе ня было, зьненавіднай!". Ну. я тут таксама расчуліўся! Да гаспадыні падсеў, душу сваю пачаў выварочваць ды за пазуху лапаць. А яна нішто сабе кабеціна. Уважыцельная кабеціна. І чалавек яе, сам Косьця Жавалкін, таксама нішто сабе чалавек. Адным словам чалавек. Другі на яго месцы пачаў бы крыўды свае выказваць ды да морды дабірацца, або бутэлькі і крэслы аб галаву ламаць, а гэты нічога... Больш я ўжо ня памятаю, што было Прачнуўся назаўтра рана. І то яшчэ-б мо' не прачнуўся, але сон пачаў сьніцца. Здэцца, ляжу я на насыпі чыгункі, і нага мая левая на рэйцы ляжыць. Хачу я нагу прыняць і не магу. Як дзеравяны ўвесь.—не паварушу ні рукою, ні нагою. А тут поезд падыходзіць, ляскаціць. Заплюшчыў я вочы са страху ды ляжу. А паравоз як загрукоча ды як хрусьне маю нагу, дык я й прачнуўся ад болі. Прачнуўся і рад, што на ложку ляжу. На вуліцы ламавікі бразгацяць, рэйкі на трамвай возяць. Побач са мною Мішка сьпіць, носам высьвіставае. Нага мая правая ў боце. а левая толькі ў шкарпэтцы і сапраўды такі баліць у суставе. Папробаваў паварушыць—яшчэ горш. Што за трасца? Стаў штурхаць Мішку ў бок: „Уставай, дадому пара". Прачнуўся той і зразу за сваю нагу хапаецца. „Вось ліха на яго, кажа, бот цесны,—намуліў, аж крануць нельга... Але што за чорт?—мне-ж здаецца, я ўставаў скідаць бот. Такі добра памятаю: нага забалела, дык я прачнуўся, сьцягнуў бот дый зноў лёг". „А я, кажу, зусім, здаецца, не прачынаўся, ды мая нага босая". „Ну, брат, гэта загадка некая",—дзівіцца Мішка. Ды тут якраз гаспадыня прышла на дапамогу. „І зусім тут кажа, Міхал Антонавіч, ніякай загадкі няма, а вы, вельмі проста, памыліўшыся, ды заміж свайго іхні бот сьцягнулі. Я нават і бачыла, хацела яшчэ папытацца, нашто гэта вы іхні бот з нагі цягнеце, а пасьля думаю, ўсёроўна спрасонку нічога не дапытаешся". Тут мне ўсё стала ясна „Бот. кажу, ліха яго бяры, але нашто ты мне, сукін кот, нагу выкруціў? Ідзі-ж, кажу, чорт, цяпер па рамізьніка, бо я хадзіць не магу". Пакульгаў ён, прывёў рамізьніка, і мы паехалі. Калі я паехаў да доктара, дык той сказаў, што з сустава зрушана, а цяпер вось і цацкайся, пакуль сьціхне.

Лында заклапочана паглядзеў на сваю нагу, а я паспачуваў яму ды пашоў дадому. Шкода ўсётакі. Такі, можна сказаць, сьвядомы грамадзянін на алкогольным фронце, і такое няшчасьце здарылася.

**Уладзімер Хадыка**

* * *

Пасярод зямлі—аблонь,
На аблоні ходзяць рэкі.
Усё мінула, што было,
  Усё прайшло навекі...

Супастаўна каля хат
Абвяскована дарога:
Радасьці і суму шмат
  Ї натхненьня многа.

Уласнага двара няма—
Ї ня крыўдна, што ня маю...
Ї пад плотам мне дарма...
  Сонца дагарае.

Сонца золата прадзе
Ї на кій кладзе старэчы.
З ціхай марай па вадзе
  Падплывае вечар.

Боль дурную загаю,
Загаю і не загіну:
Як каханую, сваю
  Я люблю краіну.

---

*Наўпярэймы ночы выйду я*
Выканаць падзел...
Вочы з робленаю крыўдаю
Плаваюць ў вадзе.

Дражніць сэрца гострым лоскатам
Канцавосьсе сноў...
Гляну ў зелень—наша вёска там
Выплыла ізноў.

Пачародна, як забаваю,
Мы заўсёды так—
Зранку ў фарбах вечна плаваем
Ў новы беразьняк.

А пад вечар за туманамі
Сосны водзяць шум...
За прыгор'ямі нязнанымі
Дол я калышу.

Мо' затым так, што за доламі
Залацей кусты,
Болей з песьнямі вясёлымі
Ня прыходзіш ты.

Ня прыходзіш, не расплачашся
Аб ружовых днёх...
Зорак беленае пачасьсе
Падае на мох.

Разьліла зара пунсовая
Віны дум ля ніў,—
Мо' затым, што нават слова я
Любай не зманіў.

Дым адзін ідзе абшарамі
І адзін разьмін.
І гарыць вачамі карымі
Горкі прыпамін.

**Егішэ Чарэнц**

## Вось іду я да вас

### (Ес галісэм ага—наэцэк, наэцэк!)

Вось іду я да вас—паглядзеце, глядзеце!
Вось іду я з сталецьцяў да вас.
І прынёс лятуценьняў узвышаных квецьце,
і песьні пра нязьдзейсьнены час.

Паглядзеце, глядзеце—хіба вамі забыты?
Я любіў, так любіў гэты сьвет!..
Але ў зельле атрутнае дзён хваравітых
рынуў блеклыя рукі свае.

Ноч бясконцая вас чаравала імжыцай,
калі рынуў я ў гэныя дні.
— Як малітва лагодны, з няславай блудніцы
я іду многалікі й адзін.

З армянскае мовы пералажыў
**Уладзімер Дубоўка**

**Егішэ Чарэнц**– самы выдатны сучасны армянскі поэта.

**Крапіва**

# У папа ды быў сабака...

У папа да быў сабака.
Поп яго любіў.
Ён ня краў у баці сала,—
Поп яго ня біў.

Баця жыў ля школы блізка,
Проста двор у двор,
І наведваў часта Лыска
Школьны калідор.

Да пажывы цюцька ласы,—
Раз у школу йдзе.
Ён абшнарыў усе клясы,
Ды няма нідзе.

Хоць у думках невясёлы,
Хоць і посьціць пост,
Але вышаў Лыска з школы—
Абаранкам хвост.

Напаткаўся ён Мілёрду,
Які тут гуляў;
Прывітаўся морда ў морду:
„Добры дзень"—маўляў.

(Мне пяром размову гэту
Цяжка й перадаць).
— Дзядзька Лыска за асьвету
Ўзяўся, як відаць?

— Ды прызнацца ўжо ня сорам—
Пхнёмся па крысе.
Сем тут клясаў з калідорам...
Я прайшоў усе.

— Так.... Грызём граніт навукі...
Вось дык галава!—
Тут пачуўся голас сукі
Недзе з-за хлява.

І пашло ад сукі сучцы—
Хто каго ні стрэў—
Што той Лыска у навуцы
Сам сабаку зьеў.

Што дарма ня вэндзіў сьвету,—
Жыў ды не драмаў:
Што вышэйшую асьвету
Лыска атрымаў.

Што ў становішчы сабачым
Гэта-ж—о-го-го!
Што мы шмат яшчэ пабачым
Цудаў ад яго.

Вось і чын у Лыскі новы
(А ранейшы зьнік):
Навуковай установы
Лыска працаўнік.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У папа ды быў сабака.
Поп яго любіў,
Ды вучоным знакамітым
Чорт яго зрабіў.

**Ант. Адамовіч**

# Максім Гарэцкі[1])

VIII

Інтрыга другога, галоўнага, пляну аповесьці „Антон“ завязваецца пазьней за пабочную інтрыгу першага пляну—у III разьдзеле, беспасярэдна пасьля зьяўленьня на сцэну самога галоўнага гэроя аповесьці Антона, які і зьяўляецца галоўнаю дзейнаю асобаю гэтае інтрыгі. Завязка гэтая ўтвараецца ад таго ўражаньня, якое робіць на ўражлівага і рэфлексійнага Антона папова казаньне пра алькоголізм і алькогольную спадчыннасьць. Працаканьне гэтай інтрыгі праходзіць, галоўным чынам, у рэфлексіях, развагах і думках, выкліканых гэтым уражаньнем спачатку на дадзеную тэму, а пасьля і на іншыя, блізкія і сваяцкія, тэмы „фону“ аповесьці, як соцыяльныя і „праклятыя“ пытаньні самога Антона. Знадворнае выяўленьне сваё гэтая інтрыга знаходзіць у тым, што было названа ў папярэднім разьдзеле „стыкненьнем з фонам“ галоўнага гэроя Антона. Фактычна гэтае „стыкненьне“ надворна выяўляецца праз цэлы шэраг сутычак Антона з галоўным гэроем гэтага фону—сваім бацькам Аўтухом, асобу якога мы даволі падрабязна характарызавалі ў папярэднім разьдзеле. Аўтар паказвае нам тры выпадкі гэтых сутычак—у V, VI і VII разьдзелах аповесьці, якія паўстаюць на грунце Аўтуховага падхалімства і іншых, адмоўных з соцыяльнага боку, рыс характару, на грунце ягонага алькоголізму і ў апошнім выпадку на сямейным грунце. Сутычкі гэтыя звычайна пачынаюцца бурным выяўленьнем Аўтуховай істоты, якое так ці іначай закранае Антона, і канчаюцца тым ці іншым зьневажэньнем бацькі з ягонага боку, якое потым дае Антону багатую пажыву для войстрых рэфлексій. Асабліва гэтыя рэфлексіі разыгрываюцца падчас Антонавага кошмару-сну ў VIII разьдзеле, пасьля апошняе сутычкі, дзе і ляжыць кульмінацыйны пункт усяе інтрыгі. За гэтым наступае і трагічна-катастрофічная разьвязка, калі Антон пазбаўляе жыцьця сябе і свайго малалетняга сына Іваньку (IX разьдзел).

Так у васноўным працякае галоўная інтрыга другога пляну, а разам з тым і галоўная інтрыга ўсяе аповесьці. Паглянем-жа цяпер на яе носьбіта, на таксама галоўную і нават загалоўную асобу аповесьці—Антона.

Антон, ня гледзячы на тое, што зьяўляецца галоўным гэроем аповесьці, выступае на арэну дзеяньня сам толькі ў III разьдзеле яе. Праўда, перад гэтым ён неаднакраць успамінаецца ў папярэдніх разьдзелах як сваім бацькам Аўтухом, гэтак і некаторымі іншымі асобамі (паня), пры чым яму і надаецца тая мянушка „дурнога“, якую мы ўжо чулі ад Аўтуха, калі гаварылі аб ягоных ідэалах. Гэтымі ўспамінаньнямі і мянушкамі-характарыстыкамі інтрыгуецца і прырыхтоўваецца самае зьяўленьне Антона, якога мы знаходзім за шчырым маленьнем у царкве.

Ужо самая знадворная характарыстыка, якую дае аўтар свайму гэрою пры ягоным зьяўленьні, паказвае на галоўнейшую і істотнейшую

[1]) Гл. „Узвышша“, №№ 1 (7), 2 (8) і 3 (9) за 1928 г.

рысу ягонага ўнутранога характару: „Антон 'шчэ малады, русавалосы, з невялікаю барадою, з глыбокімі вачамі, паглядам падобен да Хрыста на абразох“[1]) *(курсыў мой)*. І супраўды, галоўнаю рысаю Антонавага характару якраз і зьяўляецца чыста-хрысьціянская лагоднасьць, пакорнасьць, незласьлівасьць, тое, што зьмяшчаецца ў такіх выслоўях хрысьціянскае моралі, як „любасьць да бліжняга“ і „непраціўленьне злу“. Гэтая рыса, будучы істотнейшаю ў Антонавым характары, зьяўляецца як-бы прыраджонаю ці ўва ўсякім выпадку з самага раньняга маленства ўласьціваю яму рысаю. Вось што, прыкладам, успамінаець пра сваё маленства сам Антон: „Вот ён, Антон як хлопчыкам быў, занёс лусту хлеба Дзёміным украдня ад бацькі, бо яны з імі былі сярдзіты, а хлеба ўжо ня мелі ў Спасаўкі“. [2]) У гэткім-жа духу адзываюцца аб ім і сяляне ўжо пасьля ягонай сьмерці, у XI разьдзеле аповесьці (Гаўрыла, Банадысь). Гэтае-ж праступае і ўва ўсіх Антонавых дзеях, праходзіць скрозь усё ягонае жыцьцё. „Няхай маё суседу пяройдзець“, „Наша пяройдзець—перад богам спакайней“[3]), такімі ўлюбёнымі цьвярджэньнямі ўгрунтоўвае Антон свае дзеі, і супраўды гэтая рыса ягонага характару бадай-што і зьяўляецца галоўнаю прычынаю ўсяе трагічна-катастрофічнае разьвязкі, пра што і гавораць у вапове́сьці некаторыя сяляне пасьля Антонавае сьмерці („Другі сынок даўно-б і з хаты вытурыў старога Аўтуха“[4]) (Гаўрыла).

Такая асноўная ўласьцівасьць Антонавага характару становіць гузьдзячны грунт для разьвіцьця ў ім глыбокае рэлігійнасьці, як выніку этае ўласьцівасьці. І супраўды, Антона мы знаходзім, як ужо было сказана, за шчырым маленьнем; гэтае-ж шчырае маленьне суправодзіць яго і ў працы (касьба, разьдзел VI), і ў душэўных пакутах пры сутычках з бацькам, прыносячы яму пры гэтым палягчэньне (канец V разьдзелу) і нават перад самым выкананьнем свае страшнае разьвязкі (разьдзел IX, „Пад паўдзён“). У пачатку аповесьці аргумэнты гэтае малітвы нават зьяўляюцца тым, што паўстрымлівае Антона ад магчымасьці падобнае разьвязкі: „А й маліцца тады па мне ня будуць, бо па такіх ня моляцца...“[5]). У вадпаведнасьці з усім гэтым знаходзяцца і Антонавы погляды на самую малітву: „Каб так у жыцьці помніў на бога і маліўся што часу, колькі-б можна маліцца. Ато калі памаліўся ўраньні ды ўвечары, дык і ўсё. І што ўжо за маленьне. Учора Домна моліцца, а ўбегла сьвіньня ў хатку, яна выганяець раскарачом і шэпчаць: „Верую я ва ядынага бога айца“... Грэх адзін. Вот жыды; яго з малітвы ня зрушыш, хай дзіцёнак з лаўкі зваліцца. Вот гэта малітва“[6]).

Праўда, Антонава рэлігійнасьць, як і рэлігійнасьць усякага беларускага селяніна, ня вольна ад спорае дамешкі звычайнай забабоннасьці. Так, ён, прыкладам, дае свайму сыну Іваньку наступную параду: „Каўнярок расшпілі, ато засьнеш зашпілены, прыляціць ангел і станець плакаць“[7]), у звычайным пажары бачыць „прымету людзём, каб дбалі на яго (г. зн. бога. *А. А.*)[8]) і г. д. Адылі, гэтая забабоннасьць, маючы чыста-рэлігійны характар, як бачым, толькі падкрэсьлівае моцную Антонаву рэлігійнасьць. Тое-ж уражаньне, якое робяць на Антона

---

1) Гл. „Антон“, ст. 20.
2) Там-жа, ст. 38.
3) Там-жа, ст. 51—52.
4) Там-жа, ст. 100.
5) Там-жа, ст. 27.
6) Там-жа, ст. 50.
7) Там-жа, ст. 45.
8) Там-жа, ст. 48.

паповы казаньні, і той факт, што Антон ня дужа задумваецца над тым, каб аддаць уласнага сына ў павадыры старцам (разьдзел VII) па чыста-рэлігійных меркаваньнях („Старца вадзіць—дзела добрае, бог грахоў прасьціць"[1]) лішні раз пацьвярджаюць наяўнасьць гэтае рысы ў Антона.

Гэткія ўласьцівасьці мае Антонаў характар. Апрача таго, ягоную натуру характарызуюць яшчэ тыя дзьве рысы, пра якія мы ўжо мімабегам згадвалі—уражлівасьць і рэфлексыйнасьць. Фактычна ўся завязка галоўнае інтрыгі ўтвараецца дзякуючы гэтай Антонавай уражлівасьці, чуласьці, а ўся інтрыга адцяняецца і ўзмацняецца, напруджваецца ягонай рэфлексыйнасьцю. Абедзьве гэтыя рысы ў хрысьціянска-лагодным Антонавым характары знаходзяць сабе добры грунт і падтрымоўваюць ды ўзмацняюць адна адну. Глыбокія ўражаньні даюць, удзячны матарял для яшчэ больш глыбокіх рэфлексій, асаблівая завойстранасьць і паглыбленасьць якіх у значнай меры прычыняецца да згадванае трагічнае разьвязкі, катастрофы.

Такія асаблівасьці Антонавае натуры і характару адпаведным парадкам уплываюць на ягоную волю, ахварбоўваючы ўсё ягонае трыманьне адценьнем, неадважнасьці, нерашучасьці. Гэтая нерашучасьць заўважаецца ў Антона перад кожным дзеяньнем: і перад просьбаю да бацькі пакінуць сваё жыцьцё, ненормальнае з Антонавага пункту гледжаньня, і перад магчымаю аддачаю сына Іванькі ў старэцкія павадыры, і перад, дый падчас, сваім жудасным ўчынкам. Асабліва гэтая нерашучасьць праяўляецца ў разьдзеле VI, пры схватцы Аўтуха з суседам Ёзкам Банадысёнкам, калі яна даходзіць да нейкай зьбянтэжанасьці, недалужнасьці.

Бязумоўна, ужо ўсе гэтыя асаблівасьці Антонавага характару і натуры, а асабліва такія з іх, як рэфлексыйнасьць і нерашучасьць робяць з Антона гэроя таго тыпу, які мы ў сваім месцы назвалі былі „потэнцыяльным" у дачыненьні да галоўнага гэроя творчасьці Максіма Гарэцкага—сялянскага выхадца.

Паглянем-жа цяпер, які зьмест маюць гэтая натура і характар, на што накіроўваюцца такія іхныя рысы, як уражлівасьць і рэфлексыйнасьць, а разам з гэтым і відавочней пераканаемся ў справядлівасьці тых цьвярджэньняў, якія мы кагадзе выказалі.

Першае, з чым стыкаецца Антонава ўражлівасьць, гэта, як мы ўжо ведаем, казаньне папа, дзе апошні закранае, між іншым, балючыя сярод сялянства пытаньні алькоголізму і алькогольнае спадчыннасьці: „... бяз страху божага людзі п'юць, губяць сумленьне... Яны па праўдзе ня ведаюць, што твораць, бо губяць і свае душы і душы сваіх унукаў... Навукаю дайшлі, што ў сёмым калене п'яніц родзяцца калекі, дурныя і малавумныя. ."[2]) Гэтыя словы адразу-ж робяць на Антона вялікае ўражаньне; „уражоны навіною", ён шэпча: „Госпадзі! няўжо дзетачкі ў чым павінны? Спасі і абарані, божа!" Уражаньне гэтае настолькі вялікае, што Антон перастае нават зусім слухаць казаньне, а суздром аддаецца рэфлексіям—„мімаволі слова-другое шэпчаць, а ўжо ня чуець таго, што поп гаворыць далі, думкі яго пабеглі сваім шляхам". Гэтыя рэфлексіі адразу-ж накіроўваюцца ім на той фон аповесьці, які мы разгледзелі ў папярэднім разьдзеле, на галоўную асобу гэтага фону— Антонавага бацьку Аўтуха („Чым я вінават, што бацька мой п'янствам сваім жыць сям'і ўсёй не даець?"). У далейшым ад гэтага Аўтуховага алькоголізму Антонавы рэфлексіі пераходзяць да таксама

[1]) Гл. „Антон", ст 60.
[2]) Там-жа, ст. 25.

разгляданае намі Аўтуховае соцыяльнае існасьці („У лясьніках служыць... Людзём крыўду робіць.., А хто з добрых людзей з ім у згодзе' А сьмяюцца толькі ўсе. А хто яго „паньскім сабакам“ ня лаяў? [1]) і завяршаюцца пэсымістычным вывадам, які падказвае Антону думку пра самагубства, праўда, пакуль-што яшчэ ў пытальнай форме („А можа і памярці лепі скарэй, калі так?“) Урэшце, гэты пэсымістычны вывад адцяняецца яшчэ загадваньнем над вечна-неразгаданымі „праклятымі“ пытаньнямі(„Дык што-ж гэта к чаму? Няўжо-ж і поп ня знаець, няўжо-ж і ў кнігах не напісана, як усё, што к чаму, адкуля яно, што будзе“[1]). І гэты характэрны шлях думак—ад алькоголізму да соцыяльнасьці, цераз пэсымістычныя развагі і думку аб самагубсьцьве да „праклятых пытаньняў—заўсёды паўтараецца ў шматлічных Антонавых рэфлексіях, зьяўляючыся як-бы канонізаваным іхным шляхам. Разгледзім-жа гэтыя, элемэнты-ступені яго па парадку.

Ураженьне ад паповага казаньня ўвесь час прасьледуе Антона. Ужо ідучы дадому ён ня можа забыцца на пачутае ў царкве пра алькогольную спадчыннасьць, зварачаючыся да свайго спадарожніка Кузьмы з гэткімі словамі: „Ды гэта ўсё нішто-б, а ты чуў, у сёмым калене—дурныя?.. Што сягоньня бацюшка казаў з амбоны?“ [2]) Мала таго, у тойжа вечар Антон пад ураженьнем гэтай навіны ўступае у першую сваю сутычку з п'яным бацькам. Стоячы перад ім на каленях, ён асьмельваецца прасіць: „Тата! прашу я вас, пакіньце піць гарэлку і расчытайцеся ў паноў...“ і далей: „Татачка, прашу-ж я вас.. (плачаць і хапаець руку бацькі, каб пацалаваць). Бо ў сёмым калене ўжо дурныя..“. Аўтух, спужаўшыся нават сьпярша гэтага Антонавага ўчынку, пасьля пачынае рэзка высьмейваць яго: „Адлезь ты ад мяне, сатана дурнаватая... Пень! Во чалавек! Ашалеў саўсім, тпфру ты, адлезь, табе кажу... Кінуўся, выдумаў.. Га ты... Ня піў з бацькам у хаце, а во нейдзе ўпіўся...“ Уражаны сваёю незадачаю Антон у вадчаі кідае: „Ня ўпіўся я, ня ўпіўся, а так здурнеў... а можа ўп'юся... прападзі ты ўсё...“[3]), ды зноў аддаецца сваім рэфлексіям, у якіх ужо больш станоўча ўсплывае думка аб самагубсьцьве: „Нашто мне было? Колькі разоў—і ўсё роўна. Нічога ня выйдзець, нічога на сьвеце ня зьменіцца, памерці..“. і ўрэшце—„Прападай усё, чымся так жыць“. Праўда, скора Антон супакойваецца сваёй рэлігійнасьцю—„Не, не прападай, а гэтак будзе найлепі... Бог усё знаець...“, і думкі пра алькоголізм і алькогольную спадчыннасьць пасьля гэтага бадай-што не зьяўляюцца ў аповесьці, хоць, бязумоўна, яны не закідаюцца Антонам. Гэтае відаць хоць-бы з таго, што ён пазбаўляе жыцьця ня толькі сябе, але і свайго сына Іваньку ды хоча пазбавіць і дачку Ходу, мабыць, затым, каб яны не адчулі на сабе гэтае алькогольнае спадчынасьці.

З тэмаю алькоголізму ў Антонавых рэфлексіях цесна злучаецца тэма соцыяльная; так, з кагадзе прыведзеных слоў мы бачым, што Антон просіць бацьку ня толькі перастаць піць гарэлку, але і разьлічыцца ў паноў. Антону цяжка насіць на сабе сьцень бацькавага падхалімства;як кажа сам Аўтух, яму „сорамна сынам паньскага сабакі быць“.[4]) Ягоная хрысьціянска-незласьлівая натура ня можа пагадзіцца з Аўтуховым скнарствам і прагавітасьцю. Якраз на гэтым грунце адбываецца другая сутычка яго з бацькам, падчас касьбы, калі Антон, кіруючыся

---

1) Гл. „Антон“, ст. 26—27.
2) Там-жа, ст. 36.
3) Там-жа, ст. 46.
4) Там-жа, ст. 47.

сваім хрысьціянскім прынцыпам: „няхай мае суседу пяройдзець“, пакідае суседу частку свае пожні, а Аўтух, адкошваючы яе, у сваёй прагавітасьці залазіць у чужое і нават пачынае з суседам бойку, у якой Антон трымае сябе, дзякуючы сваёй нерашучасьці так, што ня можа нават абараніць бацькі, за што атрымоўвае ад яго „злобнае, саркастычнае і скрыўджанае“: „Дзякую, дзякую, сыночак... Любіш бацьку“.[1])

Ня менш цяжка Антону выносіць бацькава абыходжаньне ў сям‘і, як у дачыненьні да самога сябе, гэтак і асабліва ў дачыненьні да свае жонкі Домны. „А за што мяне, сына свайго ядынага, ня любіць, дурнем завець?... А колькі-ж разоў Домну крыўдзіў. За што? ці вінавата яна, што заможныя браты адракліся яе? Нікога татка ня любіць, злуець ..“[2]), кажа ён пра бацьку. Праўда, Антон і сам ня дужа здаволен сваім сямейным жыцьцём: „А патом ажаніўся, Домну ўзяў... так у нас усё неяк так, ды ня так“[3]), жаліцца ён Кузьме Але усё-ж такі, калі п‘яны Аўтух замахваецца на Домну, Антон ня спыняецца перад тым нават, каб кінуцца на бацьку і зьняважыць яго. А калі бацька хоча праклясьці Антона за гэта, ён у вадчаі адказвае: „Я й так проклят...“[4]).

Гэтая трэцяя сутычка Антона з бацькам, якая пачалася з-за ўспаміанае ўжо гісторыі аддачы Антонавага сына Іванькі ў старэцкія павадыры, на што Антон ужо бадай-што быў згодзен, і толькі Домна, запротэставаўшы, выклікала на сябе Аўтухоў гнеў, зьяўляецца самаю дужаю па сваім уражаньні і, мабыць, дапамагае Антону канчаткова аформіць сваю даўную думку пра самагубства. Гэтае ўражаньне асабліва адбіваецца на тых Антонавых рэфлексіях і дрвінах, якія адбываюцца на другі дзень пасьля гэтага выпадку падчас Антонавага сну, што часта пераходзіць у кошмар. Антон бачыць ува сьне старцоў і Іваньку ў ролі іхнага павадыра, бачыць, як хочуць яны зрабіць Іваньку „старчыкам сьляпым“, як той уцякае дадому, а Аўтух, які завёў яго да старцоў, зьбіраецца біць Іваньку: „Ня дам! Ня дам Іваньку біць!...“ і далей: „Заб‘ю бацьку за Іваньку! Узьдзяюць зялезы на рукі, на ногі, вязуць у Сібір далёкую, у катаргу векавечную!“[5]) Мала-па-малу гэтыя дрвіны пераходзяць з сямейнага на шырэйшы соцыяльны грунт. Антон бачыць сябе ў ролі „дэмакрата“: „А нашто бацьку набіў? Ня будзеш доўгалетні, бо крыўдзіш бацьку, не шануеш, абразіш!..—Бацюшка, бацюшка! - Ах ты, ах ты, дэмакрат ты, у вайстрог цябе забраць, на цэлу ноч п‘яным стражнікам на зьдзек аддаць“...[6]) Урэшце, увесь кошмар закончваецца сьветлымі вобразамі, якія дужа нагадуюць нам сялянска-соцыялістычныя лятуценьні сялянскага выхадца Архіпа Лінкевіча з апавяданьня „Роднае карэньне“ у зборніку „Рунь“, якія мы сваім часам ужо разглядалі: „Гэ! То-ж нашы канюшкі цяпло ў панскім лясу разлажылі і коні пасуць. Ад паноў зямлю адабралі, бедным людзём аддалі, нікога ўжо не баяцца...І Аўтуха не баяцца...“[7]). Зьбліжае з Архіпавымі лятуценьнямі іх яшчэ тое, што яны таксама зьяўляюцца ўва сьне, тымчасам як у звычайным жыцьці Антон толькі недаўмявае, як, прыкладам, пры гутарцы Аўтуха з лясьніком Панасам на соцыяльныя тэмы, якую нам ужо даводзілася закранаць у папярэднім разьдзеле („Не, нешта ня так у іхнай размове... Нешта не паправільнаму... А

1) Гл. „Антон“, ст. 54.
2) Там-жа, ст. 26.
3) Там-жа, ст. 37.
4) Там-жа, ст. 63.
5) Там-жа, ст. 69.
6) Там-жа, ст. 70.
7) Там-жа, ст. 72.

якжа-б трэба, як?", ст. 43), або, як чалавек рэлігійны, знайходзіць сабе ўцеху ў тым, што „на тым сьвеце" аднолькавую долю падзеляць і каралі, і царыцы, і міністры, і генэралы, і губэрнатары, і паны, і папы, і жыды, і цыганы, і ўсякія другія народы, і мужыкі, і бабы, і маламожныя, і заможныя і ўсякія, усякія".[1]) З гэтае прычыны згаданыя лятуценьні зьяўляюцца ў Антона пэўнай адзнакай ягонае „потэнцыяльнасьці". Гэтая-ж „потэнцыяльнасьць", у васнове якое ляжаць, як мы бачылі, уласьцівасьці Антонавае натуры, прычыняецца да таго, што Антон, будучы ў рэзкай супярэчнасьці з тэю соцыяльнаю лініяй, якую праводзіць ягоны бацька, з тэю лініяй, якую мы можам назваць лініяй „фону" аповесьці, з другога боку, дзякуючы тым-жа ўласьцівасьцям свае натуры, ня можа выступіць з актыўным протэстам супроць гэтае лініі. Таму ўсе ягоныя рэфкексіі, кудою, галоўным чынам, разьвязваецца гэтая супярэчнасьць, закончваюцца безнадзейным і бязвыходным пэсымізмам, які ўсё часьцей і настойней падказвае яму думку пра самагубства. „Каб вы ведалі, дзядзечка!" жаліцца Антон Кузьме яшчэ па дарозе з царквы: „Другі раз да таго даходзіць, як падумаеш, да чаго мы дажывёмся, да чаго мы дажыліся, што такая нуда абхопіць, такая туга абгарнець. Каб ня грэх, ужо лепі памерці. Дадушы ўжо лепі"[2]) і крышку далей: „Дасада ў мяне, дзядзька, на сэрцы: каб вы ведалі, што за дасада..."[3]). Антонавы сутычкі з бацькам яшчэ больш паглыбляюць, робяць яшчэ больш безнадзейным гэты пэсымізм: „Ці піць, ці ня піць, ці пасварыцца ды памірыцца, ці што,—усё роўна... Няма толку... Дурніца няшчасны я..."[4]), ташнуе Антон пасьля свае незадачлівае просьбы да бацькі. „Чаго мне жыць, на што мне жыць? Адны крыўды, адна няпраўда... Ці-ж я хацеў абразіць тату? За што мне так накладжана ад бога?..."[5])—ня можа супакоіцца ён пасьля апошняе, самае дужае сутычкі з ім. І незабавам пасьля гэтага, перажываючы, відаць, цяжкія ўнутраныя пакуты, якія нам аўтар паказвае адно з надворнага боку (разьдзел IX), ён адважваецца нарэшце гэтую сваю падказаную пэсымістычнымі развагамі думку зьдзейсьніць у дачыненьні да сябе і сваіх дзяцей... І тут мы бачым выразную адзнаку Антонавае „потэнцыяльнасьці".

Антонаў пэсымізм шмат узмацняюць, як мы казалі ўжо, тыя „праклятыя" безадказныя пытаньні, да якіх ён праяўляе вялікую цікавасьць. З гэтага боку ён ізноў-ткі зьяўляецца гэроем потэнцыяльным, прадстаўніком таго „народу, які мучыцца ад болькі безадказных пытаньняў", пра які гаворыць студэнт Архіп Лінкевіч у вапавяданьні „Роднае карэньне" (зборнік „Рунь"). Аўтар сам адзначае, што Антон нават радуецца, калі хто-небудзь закранае ягоныя думкі ў галіне гэтых пытаньняў („рад, што закранулі яго думкі"—ст. 32). Праўда, як чалавек рэлігійны, ён адразу-ж зварачаецца за разьвязваньнем гэтых пытаньняў да бога і ягоных „служак на зямлі". Але, „Да бога зьвярнуся—маўчыць нема бог", як кажа аўтар словамі Я. Купалы, бяручы іх эпіграф да III разьдзелу, дзе якраз Антон прымушаны ў зьнемажэньні выгукваць: „На што-ж так бог даў?"... Няўжо-ж і поп ня знаець, няўжо-ж і ў кнігах не напісана..."[6]). Тое самае паўтарае ён і ў сваім сьне-кошмары. „Я хацеў-бы дапытацца, вы з кніг усё ведаеце..."[7]),

1) Гл. „Антон", ст. 38.
2) Там-жа, ст. 35.
3) Там-жа, ст. 37.
4) Там-жа, ст. 49.
5) Там-жа, ст. 64.
6) Там-жа, ст. 27.
7) Там-жа, ст. 70.

зварачаецца ён да папа, а крышку далей пярэчыць Кузьме: „Адлезьце ад мяне, дзядзька Кузьма, не дакучайце! Як гэта поп можа ня ведаць. Ён усё ведаець, толькі ня хоча сказаць...“ [1]). Апрача таго, Антонава рэлігійнасьць яшчэ й таму ня можа даць яму вычэрпнага адказу на ягоныя запытаньні, што яна, як і рэлігійнасьць кожнага беларускага селяніна, супоўнена рознымі паганскімі перажыткамі, тым „родным карэньнем“, па ранейшым выслоўі М. Гарэцкага, якое толькі стымулюе і заблытвае гэтыя пытаньні. Так, хоць Антон і правільна, з пункту гледжаньня рэлігіі, асуджае такую праяву гэтых перажыткаў, як чараўніцтва, лічачы яго грахом („Грэх вялікі! Вялікі грэх! Усё чалавеку просьціцца, а чараваньне ніколі“ [2]), але ўжо самы тон, якім ён гэта робіць, можа сьведчыць, што з гэтым пытаньнем яму часта даводзіцца сустракацца ў штодзённым жыцьці. І супраўды, у ваповесьці мы часта сустракаем гутаркі на гэтыя тэмы ( разьдзелы III, V, VII), а ў Антонавым сьне-кошмары адным з самых жудасных вобразаў зьяўляецца ператварэньне папа ў чараўніка (ст. 71). З боку-ж іншых перажыткаў Антона зусім трапна характарызуюць дзяковы словы аб ім, што „яго чорт—мужыцкі, з рагамі ..“ [3]).

Таму першым конкрэтным „праклятым“ пытаньнем, якое цікавіць Антона, пасьля тых агульных пытаньняў тыпу аблюбаванае формулы М. Гарэцкага „адкуля ўсё і што яно?“, наяўнасьць якіх у Антона мы ўжо мелі выпадак бачыць вышэй („як усё, што к чаму, адкуля яно, што будзе?“ ст. 27), зьяўляецца пытаньне „чартаўні“, дэмонізму, якое мы сустракалі раней у гэрояў-сялянскіх выхадцаў. Антонавы думкі і шуканьні ў гэтай галіне асабліва надзіўлены тэю перажыткавасьцю, пра якую мы кагадзе казалі. І супраўды, „яны“, як Антон называе „нячысьцікаў“, адыгрываюць у яго вялікую ролю. Фактычна Антон таму і асуджае чараўніцтва, што бачыць тут сувязь чалавека з „імі“: „Не вадзіся з імі, божымі ўрагамі. Прадаўся ім—канец. Вялікі грэх, дзядзькі“ і далей: „А ўсё-ж ткі грэх, калі ён (чараўнік. *А. А.*) у загаворах да іх моліцца, грэх... Няма грэху, калі бог памінаецца, сьвятыя, Цар Давід... А так-то грэх“ [4]). Адылі, гэтыя-ж „яны“ прыходзяць Антону на дум і ў царкве, як магчымая прычына тае „божае кары“—алькогольнае спадчыннасьці, якая так уразіла тады Антона: „Бог бы так не сатварыў, не ўстанавіў-бы парадку такога... Мусіць тут я н ы ўмяшаліся... Як гавораць, што і казу яны зрабілі; адно, што яна валілася, не хадзіла, пакуль бог ня дунуў у яе.. і тут можа яны як нашкодзілі?“ [5]) Умяшаньне „іх“ Антон знаходзіць і ў тэй зьяве, што „як пад'ясі ўдварэ да абедні і пойдзеш у царкву, дык так нудна, цяжка-цяжка на душы... у цэркві трудна ўстоіць... Запяюць „Херувімы“—такі сон клоніць...“, прыймаючы Кузьмова тлумачэньне, што „як запяюць на крыласе „Херувімы“ і людзі пастануць на калені і дужа шчыра маліцца пачынаюць, тады я н ы ня могуць у царкве быць, ангелы іх выганяюць бізунамі агнявымі, і яны альбо навопрамець бягуць вон з цэркві, альбо хапаюцца ўлезьці ў такіх людзей“...—„Божа наш! Як яны абходзяць чалавека“... „Ён мучыць.. Божухна, што на сьвеце дзеіцца“—сумуе Антон, калі Кузьма расказвае яму пра такі выпадак апанаваньня „імі“ ў царкве бабылкі Хоўры, хоць ён спачатку і правільна думае пра сапраўдную прычыну гэтага апанаваньня („А во я аб Хоўры многа разоў чуў, а неяк не

[1]) Гл. „Антон“, ст. 71.
[2]) Там-жа, ст. 57.
[3]) Там-жа, ст. 24.
[4]) Там-жа, ст. 58.
[5]) Там-жа, ст. 26.

даваў веры; думаў, проста хвора на гэту хваробу, на падучую ..“ [1]). І, нарэшце, у Антонавых думках пра замагільнае існаваньне гэтыя „яны“ прыймаюць ужо конкрэтную, вобразную форму якраз таго „чорта мужыцкага, з рагамі“—„рагатыя, з бізунамі, хвастатыя, капытатыя на тонкіх ножках і са сьвінымі лычамі гоняць зьвязаных ланцугамі людзюхнаў у... агонь неўгасімы...“ [2]).

Сьледам за гэтым Антона цікавяць апокаліптычныя пытаньні „канца сьвету“, „сьветапрастаўленьня“. Тут ён нават знаходзіць сабе магчымы аргумэнт, мотыў для свае ўлюблёнае думкі пра самагубства: „А можа і канец сьвету скора, калі так? А можа і памярці лепі скарэй, калі так? Няхай Мусіяш-Антыхрыст ня зьдзекаецца, калі зыйдзе“ [3]). У сваім сьне (разьдзел VIII) Антон якраз бачыць кошмарны вобраз гэтага „канца сьвету“—„Страшны суд, сьветапрастаўленьне... Тужліва, тужліва... Так нудна, ай як нудна, сэрца баліць, горка ў горле, плакаць-стагнаць хочацца, ды ўжо позна, нічога, нічога не парадзіш. Канец, канец, не пасьпеў спакутвацца, прапаў-жа, прапаў... Агонь!.. І смурод, чад. .“ [4]).

У другім месцы „канец сьвету“ ўжо цікавіць Антона, як прасторавы канец: „... гдзе канец сьвету? Што, каб так ішоў ды йшоў цэлы век, ці дайшоў-бы ў такую мясьціну, гдзе бераг зямлі, а далей крута-крута, абрыў, зямля сыпліцца, корні ў ёй, як тая гара Багумільская, а там бяздонная прорва, туман, цёмна-цёмна, цямнота спрадвечная і ўсё! А што там у тумане? А пекла дзе? А чаму ня чутна, як там стогнуць?“ [5]), засыпае ён трывожнымі пытаньнямі папа, якога бачыць у сваім сьне. Пра Антонавы-ж уяўленьні гэтага „пекла“ нам ужо даводзілася згадваць; дададзём толькі, што ў васноўным яны ўсё-ж маюць характар, згодны з канонізаванымі рэлігійнымі ўяўленьнямі (гл. ст. 38).

Побач з гэтымі пытаньнямі, якія маюць беспасярэдняе датычэньне да рэлігіі, Антона цікавяць яшчэ пытаньні, датычныя больш да прыроды, жыцьця ў ёй, пытаньні адухоўленасьці яе, панпсыхізму. „Ці балюча травіцы, што яе косяць? Чаму то ёй не дано голасу? А мусіць і ў яе дума ёсьць“. Закранаючы гэтае-ж пытаньне ў дачыненьні да жывёлін, Антон пераходзіць да пытаньня аб пакуце і болю ды акупальнасьці іх: „Не, хіба дрэву і травам не балюча, калі іх рэзаць. А каню вот балюча, рабіць конікам цяжка, а бог ім ня даў раю... Конь здох і ўсё яго. Дык нашто-ж яму боль дана ад бога, калі раю не дано? Іншы конь болі і лепі за чалавека працуець, а вот .. гм.? [6])—ізноў недаўмявае ён.

Вось, галоўным чынам, тыя „праклятыя“ пытаньні, якія цікавяць Антона. Вядома, што даць здавальняючага адказу на іх Антонава рэлігійнасьць ня можа. Дайсьці-ж самому да гэтага адказу Антону аніяк не магчыма ня толькі з прычыны абмежаванасьці ягонага сялянскага кругагляду, але і з тае простае прычыны, што само гаротнае жыцьцё адмярае яму дужа скупа часу ня толькі на цікаўленьне „праклятымі“ пытаньнямі, але й на самую рэлігію: „Жыць трэба, працуй, біся, як тая плотка аб лёд, клапаці ўвесь век аб тым, як бы пражыць,—калі-ж тут аб душы падумаць?“ [7]). І ў гэтым якраз і зьмяшчаецца трагэдыя Антона, як тыпа „потэнцыяльнага“, духовыя запытаньні якога, перарослы звычайны сялянскі ўзровень, ня могуць быць здаволены пры

[1]) Гл. „Антон“, ст. 33—34.
[2]) Там-жа, ст. 38.
[3]) Там-жа, ст. 27.
[4]) Там-жа, ст. 71—72.
[5]) Там-жа, ст. 70—71.
[6]) Там-жа, ст. 50.
[7]) Там-жа. ст. 36.

знаходжаньні гэроя ў межах сялянскага жыцьця й быту. І тут, як вынік, той-жа пэсымізм, які, апрача звычайнага ў падобных выпадках гносэолёгічнага адценьня, на гэты раз прымае цікавую форму развag, што крыху нагадваюць сабою некаторыя развагі Івана Карамазавага, вядомага гэроя ня менш вядомага роману расійскага пісьменьніка Ф. М. Дастаеўскага „Братья Карамазовы“: „Чаму мяне маленькага мамка не пахавала? Вот плачуць, як маленькія ўміраюць, а мне здаецца, што ня можна па іх плакаць; іхныя душачкі чыстыя к богу ідуць. Мой Іванька: ён цяпер, пакуль малы, што ён знаець, многа ён награшыць? А і то, і ён далёка ня той, што як быў у калысцы. Глядзі, ён цяпер то птушанятак пабярэць, то жучку крылкі адарвець, то ў хаце з Ходаю паб'ецца, а далі-болі, божухна-бацюхна, колькі шчэ грэху набярэцца? А дабра? Многа ён дабра ў жыцьці пазнае?“ Гэтым Антон нават падмацоўвае сваю ўлюбёную думку пра самагубства, бароняч яе перад Кузьмою, што войстра асуджвае гэтую думку.

Апрача таго, рэлігія ня можа здаволіць Антонавых вымаганьняў яшчэ й таму, што яна сама знаходзіцца ў стане заняпаду. Гэта добра адчувае і сам Антон, як чалавек чулы: „... і ніхто ўжо веры ня маець; у каго паўчыцца, у каго рады папрасіць?“ [1])—ташнуе ён. А гэткая сьвядомасьць, выклікаючы думкі пра „канец сьвету“, выклікае за імі і неадчэпную думку пра самагубства... Адчуваючы зьнемажэньне і заняпад сваe рэлігіі, Антон, відаць, хоча пашукаць адказаў на свае пытаньні ў г. зв. „сэкт“, што крыху праглядае ў ягоным сьне-кошмары: „Праспавядаць трэба цябе“—гэтак зварачаецца да яго ўвабражаны поп—„кажуць, што к штундыстам за Дрыбін езьдзіў ты...“ [2]). Адылі, гэты шлях, ня новы для нашага сялянства, сярод якога гэтыя „сэкты“, асабліва апошнім часам заняпаду „законнае“ праваслаўнае рэлігіі, маюць даволі значнае распаўсюджаньне, апрача дадзенага глухога ўспамінаньня, у аповесьці не разгорнены. Не разгорнена ў ёй таксама і агульнае Антонава дачыненьне да рэлігіі і эволюцыя яго падчас насьпяваньня ягонага душэўнага крызысу (у вадпаведнасьці з няпоўнай разгорнутасьцю і гэтага насьпяваньня) апрача, ізноў-такі, глухога ўспамінаньня пра ня зусім, дзякуючы гэтаму, зразумелы і абгрунтованы вынік гэтае эволюцыі,—пра тое, што Антон, паміраючы, не захацеў прыняць папа і спавядацца (гаворка ў XI разьдзеле.—Адзін (шэпчаць у парозе другому). Без папа... Ня прыняў папа... Другі. Што? хто? Антон? Першы. Так памёр, не захацеў спавядацца... Другі. Ах, ах, ах! Што-б то значыла? Тут нешта ёсьць...А поп? Першы. А што-ж поп? Сказаў, быццам Антон быў ужо няпрытомен, калі гаварыў, што ня трэба яму папа“. [3]).

Гэтак абмалёўвае аўтар фігуру галоўнага гэроя сваёй аповесьці Антона. Як бачым з папярэдняга разгляду, мы маем поўнае права аднесьці яе да групы „потэнцыяльных“ гэрояў пісьменьнікавае творчасьці. Адылі, пры ўважнейшым пераглядзе гэтае Антонавае „потэнцыяльнасьці“ ня цяжка заўважыць, што ягоная фігура зусім бадай пазбаўлена тае рысы раздвоенасьці, якая, сьледам за галоўным гэроем творчасьці Максіма Гарэцкага, уласьціва ў большай ці меншай ступені і шмат якім гэроям „потэнцыяльным“. Такім чынам, Антонава „потэнцыяльнасьць“ зьяўляецца як-бы не даведзенаю да канца, да свае найвышэйшае ступені—раздвоенасьці.

[1]) Гл. „Антон“. ст. 27.
[2]) Там-жа, ст. 70.
[3]) Там-жа, ст. 98.

Тлумачэньне гэткай зьявы лёгка знаходзім у Антонавым соцыяльным палажэньні, якое, будучы суздром адзіным, не дае грунту і для духовае раздвоенасьці. Праўда, прычына гэтае раздвоенасьці магла-б быць у тэй асноўнай функцыі „стыкненьня з фонам“ якую нясе на сабе Антон, як галоўны гэрой другога пляну аповесьці, але, ізноў-ткі, у Антона зусім няма зьвязуючых нітак з гэтым „фонам“, апрача, хіба, чыста-рэлігійнага мотыву шанаваньня бацькоў. Апрача таго, адсутнасьць раздвоенасьці патрэбна была Антону і для выкананьня трагічнае разьвязкі аповесьці, да зьдзейсьненьня свае думкі пра самагубства, якую ён зьдзейсьніў, ня гледзячы на ўсю сваю рэфлексыйнасьць і нерашучасьць, тымчасам як некаторыя з разгледжаных намі ў папярэднім асобы з групы галоўных гэрояў, як, прыкладам, Уладзімер З. з апавяданьня „Рунь“, аніяк не маглі зрабіць гэтага якраз дзякуючы сваёй раздвоенасьці. З другога-ж боку, самая думка пра самагубства ўжо зьяўляецца найвышэйшай адзнакай Антонавае „потэнцыяльнасьці“, пра што справядліва заўважаюць некаторыя ацэншчыкі яго, адзначаючы неўласьцівасьць гэтае зьявы для сялянства. Калі-ж далучыць сюды яшчэ войструю зацікаўленасьць „праклятымі“ пытаньнямі ды згадваныя ўласьцівасьці характару, а таксама той факт, што Антон займае палажэньне галоўнага гэроя, якое дагэтуль, як мы бачылі, належала пераважна сялянскім выхадцам, дык можна нават, адкінуўшы „потэнцыяльнасьць“, гаварыць аб простай завэлюмаванасьці ў асобе Антона галоўнага гэроя пісьменьнікавае творчасьці, наводля таго, як гэта мы мелі з „сымболічным“, як назвалі мы яго, гэроем у зборніку „Рунь“ Янкам Проклятым з апавяданьня „Лірныя сьпевы“ (гл. разьдзел VI дадзенае монографіі).

Апрача Антона, да гэрояў другога пляну аповесьці можна аднесьці яшчэ некаторых эпізодычных гэрояў. Найбольш выяўленым з іх зьяўляецца ўжо знаёмы нам дзед Кузьма. Праўда, яго нельга назваць у поўнай меры гэроем другога пляну; у гэтым дачыненьні ён займае як-бы сярэдзіннае палажэньне. Так, прыкладам, ён падзяляе погляды асоб фону на такую зьяву, як алькоголізм, не давяраючы папу ў гэтым пытаньні—„Ат! мала што кажуць. А чаго яны самі п‘юць? Табе здаецца, папы ды паны ня п‘юць? Ого, ‘шчэ як! Ужываюць па другому, лепі...“ [1]). Гэтая-ж нотка чуецца і ў ягоным расказе пра старога папа („Вып‘ем, бывала, мы,—любіў, няхай сьвят ляжыць...“ ст. 32). Ня зусім давярае Кузьма і Антону ў некаторых іншых пытаньнях, калі, прыкладам, апошні „са сьвятою ўхмылкаю, каторая даводзіць, што ён хоць і ня хоча крыўдзіць чалавека, тымчасам даўжон сказаць праўду“, кажа яму пра грахоўнасьць ужываньня табакі, прыводзячы Антону дзьве прыказкі: „хто курыць, таго ў пекла тураць, а хто нюхаець, той сам цюхаець“ і—„хто нюхаець табачок, той добры мужычок; а хто не зажываець табакі, ня варт сабакі“ [2]).

Адылі, у дачыненьні да „праклятых“ пытаньняў Кузьма ўжо зусім зьяўляецца таварышам Антону. Так, назіраючы Іванькаву дзіцячую цікавасьць, ён зразу-ж зводзіць гаворку на грунт „праклятых“ пытаньняў: „А во кажы-ка ты: гэткаму пісклёнку, яму ўжо цікава, адкуль тое, што тое? Бог сьвяты ведае, ці чалавек усё можа згадаць? На што ёсьць адукаваныя галовы—папы, або з паноў другі выўчыцца, з начальства, а й то запытайся пра што—ня ведаець“ [3]). Праўда, у далейшым, расказваючы пра старога папа, ён, па сваёй звычцы не да-

[1]) Гл. „Антон“, ст. 36.
[2]) Там-жа, ст. 38.
[3]) Там-жа. ст. 32.

вярацъ, не давярае і папом у гэтым няведаньні: „Скажыце вы мне, бацюшка,—пачынаю,—ці праўда гэта, што мерцьвяцы па начох хадзіць могуць, чараўнікі... гэта ёсьць... Ці можа быць, каб гэта праўда!“ Пасьмяецца ён: „Гу-гу-гу—грубы голас меў,—недапека ты, брат Кузьма! Пяклі цябе, ды не дапяклі... А нашто табе тое ведаць? Ці хлеба дзецям тваім з таго прыбавіцца? Калі я, айцец твой духоўны, баюся і жахаюся знаці пра ўсё, тым горш табе, мужыку, гэта непатрэбна.. Гу-гу-гу... Недапека ты, Кузьма!“ Разумны поп быў, дарма што піў... Ён табе ні за што ня скажаць, чаго ня можна... Ато-б мала мальскага захацеў дапытацца наш брат пра набажэнства ці пра чорныя кнігі? Яны знаюць, усё знаюць, а мужыку ня скажуць...“[1]) (Курсыў мой. *А. А.*) Тут ужо Кузьма зусім зыходзіцца з Антонам.

Займаецца Кузьма і тымі-ж пытаньнямі чартаўні, дэмонізму, што і Антон Успомнім хоць-бы ягоныя тлумачэньні Антону ў гэтым дачыненьні і расказ пра бабылку Хоўру. Пры дапамозе гэтых-жа пытаньняў Кузьма спрабуе адмовіць і асудзіць Антонаву думку пра самагубства: „А што ты гаворыш! Ці ты гэта здурэў, гдзе твая галава, пабойся бога! Адкуль ідзеш, а ці ня ён (нячысьцік Зноска аўтара. *А. А.*) к табе падскачыў: ці мала што бываець у жыцьці. Як гэта можна так сказаць? Грэх, братка, вялікі грэх! Богу маліся...“[2]). У іншым, нажаль, фігура Кузьмы аўтарам не разгорнена, дзейнічаючы ў аповесьці ўсяго эпізодычна, у межах аднаго толькі разьдзелу (IV-га).

Да гэрояў другога пляну можна залічыць яшчэ адну, дужа эпізодычную, выпадковую і зусім неразгорнутую фігуру Дзёмкі, што дзейнічае ўжо ўсяго ў межах аднае кароценькае рэплікі, якая датычыць да прычын Антонавае сьмерці: Дзёмка (сам недалужны чалавек, асьмеліўся сказаць): Во-во-во... Яно, напэўна, у галаве было такое, як тое кажацца, такое распалажэньне... Пачаў, гэта, задумвацца ён: „А што й чаму? Чаго я буду жыць? А дай-ка я вот так і так... Ну вот, як яно гэта... дык і так...“[3]). Ужо ў самай гэтай недалужнасьці і нясьмеласьці, якая так дужа нагадвае падобныя ўласьцівасьці Антонавай асобы, а таксама і, галоўным чынам, у тым, што Дзёмка ледзь асьмельваецца выказаць сваю думку, з чаго можна вывесьці, што задумвацца над пытаньнямі: „А што й к чаму...“ уласьціва і яму самому, можна знайсьці мотыў да Дзёмкавае прыналежнасьці да другога пляну аповесьці, хоць вузкая эпізодычнасьць ягонае фігуры замінае зрабіць гэта станоўча.

У заключэньне разгляду другога пляну аповесьці „Антон“ трэба яшчэ сказаць некалькі слоў пра гэрояў першага пляну ў ім. Фактычна з апошніх у другі плян пераходзіць толькі адзін галоўны гэрой першага пляну Аўтух, эпізодычныя-ж героі Панас і Мірон, як і ўсе эпізодычныя гэроі „Антона“, дзейнічаюць толькі ў межах паасобных і паадзіночных разьдзелаў (першы у межах V-га, другі ў межах II-га). Што-ж да Аўтуха, дык тыя рысы яго, якія праяўляюцца ў другім пляне, зьяўляюцца ў большасьці толькі вынікамі разгледжаных ужо намі рыс, наяўных у першым пляне. Сюды, прыкладам, належыць і Аўтухова скнарства, прагавітасьць, пра якую нам ужо даводзілася ўспамінаць у гэтым разьдзеле, і ягонае дэспотычна-п'янае трыманьне ў сям'і (разьдзел VII), супярэчнасьці ў „лясьнікоўскім гонары“, справядліва заўважаныя Антонаваю жонкаю Домнаю: „А дзед разумны ўнука ў павадыры аддаець! Гдзе ўжо той і гонар лясьнікоўскі!...“[4]). Новым

[1]) Гл. „Антон“, ст. 33.
[2]) Там-жа, ст. 35.
[3]) Там-жа, ст. 100.
[4]) Там-жа, ст. 59.

зьяўляецца толькі тое ўражаньне, якое ўтварае на Аўтуха сьмерць яго-нага нялюбага сына Антона. Пра дужасьць гэтага ўражаньня гавораць і сяляне на хаўтурах Іванькі („Стары Аўтух у мясьцечка кінуўся... На аблаве быў...—Ах, ах, добра, што яму адразу ўсяго не сказалі, кажуць, застраліцца хацеў, як дачуўся...", ст. 97) і сам аўтар у сваіх знадворных характарыстыках Аўтуха ў той час („Уходзіць Жабон, чарней зямлі...", ст. 98; „ідзець Жабон, як цар з пасаду скінуты", ст. 102). Вынікам гэтага ўражаньня зьяўляецца і новая для Аўтуха рэлігійнасьць, і безадказнае пакутваньне („О, Навышні! Пакараў ты дом мой... цяжка пакараў... За што? За што?" ст. 98), і тое „пачысьценьне", пра якое мы ўжо гаварылі ў папярэднім разьдзеле.

Пяройдзем-жа да разгляду трэцяга і апошняга пляну аповесьці.

## IX.

Трэці плян аповесьці „Антон", яе завяршальны плян, мае ацэначныя функцыі ў аповесьці. Трэба адно агаварыцца, што слова „ацэнка" мы тут разумеем не як ацэнку ўсяе аповесьці, як літаратурна-мастацкага твору, што, бязумоўна, у дадзеным выпадку ня можа быць ані заданьнем аўтара, ані, тым больш, заданьнем ягоных гэрояў, што робяць гэтую ацэнку, а як ацэнку выведзеных у творы падзей і асоб. Па-другое, гэтая ацэнка не падаецца ў аповесьці, як нешта сталае і канчатковае, а толькі як прадмет спрэчкі паміж некаторымі, адмыслова на гэта ўведзенымі, яе гэроямі. Такая спрэчка складаецца з дзьвёх паасобных частак: спрэчкі ў кавярні паміж „Беларускім Аўтарам", „Польскім Публіцыстым" і „Маскоўскім Дэмакратам", якая спрабуе зрабіць ацэнку ў аспэкце беларускай адраджэнцкай літаратуры і грамадзкасьці, і з спрэчкі пры наведваньні вар'яцкага дому паміж тым-жа „Беларускім Аўтарам" і Доктарам, якая спрабуе зрабіць гэтае-ж у аспэкце, так сказаць, агульна-філёзофскім, і мае з гэтае прычыны больш адцяты як наагул, гэтак і ад матарыялу аповесьці характар. Абедзьве гэтыя часткі аб'ядноўваюцца ўдзелам у іх галоўнай ацэначнай асобы „Беларускага Аўтара" і становяць сабою інтрыгу трэцяга пляну аповесьці, само сабою разумеецца, інтрыгу пабочную, хоць і завяршальную.

Прадметам першае спрэчкі зьяўляецца перш за ўсё пытаньне пра чарговыя заданьні беларускае літаратуры, конкрэтна пра заданьне стварэньня ёй „новага тыпу". Падчас гэтае спрэчкі адным з яе ўдзельнікаў („Польскім Публіцыстым") зачытваецца тэлеграма з паведамленьнем пра здарэньні, якія якраз зьяўляюцца тэмаю ўсяе аповесьці. Тут спрэчка ўжо ўвязваецца з самою аповесьцю і, выліваючыся ў спрэчку ўжо чыста-ацэначнага характару, пра які мы кагадзе згадвалі, пераходзіць на грамадзкі грунт. Удзельнікі спрэчкі бадай увесь час становяць сабою два лягеры: у адным знаходзяцца „Польскі Публіцысты" і „Маскоўскі Дэмократ", т. ск., чужа-нацыянальная ацэншчыкі, у другім—сам „Беларускі Аўтар", галоўны ацэншчык. Разгледзім паасобку палажэньні гэтых удзельнікаў спрэчкі.

„Польскі Публіцысты" даволі правільна, хоць і войстра, ацэньвае і крытыкуе сучаснае яму палажэньне беларускае літаратуры адраджэнцкага кругабегу: „Вот што, у вас цяпер літаратура... То жарты на жаданьне чытакі, то там тыпы жыцьця—слабенькія, мізэрныя, аброслыя драбязою сваіх жыцьцёвых невялічкіх інтарэсаў, жалкенькіх ідэальцаў, то плак і плак без канца аб гаротнай долі, аб няшчаснай долі, аб незадачах мінуўшчыны і цяжарах цяперашняга часу... Ды

досыць ужо вам! Вы так самі на сябе нагоніце нуду і немач безнадзейнага абы-якога жыцьця—гультайства, і другіх псуяцё, блудзіце ў трох соснах...“ [1]) Чарговым-жа заданьнем гэтае літаратуры для вывядзеньня яе з такога адмоўнага, паводле „Польскага Публіцыстага“, палажэньня, ім высоўваецца стварэньне новага тыпу, „новага чалавека. чалавека будучыны, чалавека, каторы научыў-бы ваша грамадзянства, што рабіць?“ [2]), як пачынае с рэчку „Польскі Публіцысты“. Разьвіваючы далей сваю думку ён кажа: „Вы дайце новага, жывога чалавека, каторы па праўдзе-б жыў і жыцьцём сваім паказаў, як трэба жыць, як глядзець у будучыну, дый не глядзець, а браць яе са ўсіх бакоў рукамі... Стварыце гэткі тып новага чалавека... хоць такога, якім-бы ён па-вашаму, толькі па-вашаму, павінен-бы быць, каб, прачытаўшы ваш твор, высачэй галаву падняў чалавек, каб у яго жывей кроў пабегла па жылах, каб рукі самі хапаліся за працу, от што...“ [3]). „І вера новага чалавека будзець новаю вераю, і сьвятыя заданьні новага чалавека будуць новымі сьвятымі заданьнямі для вашых маладых і адраджоных... Стварыце новага чалавека“ [4]).—гаворыць у другім месцы ён-жа.

У дачыненьні да ўсяго гэтага з „Польскім Публіцыстым“ салідарызуецца і „Маскоўскі Дэмократ“, які дадае: „Дый нашто вам так карціць у вашай літаратуры гэта жалобнае жыцьцё? Ну, напісалі, паказалі другім людзём і сабе, што вам дрэнна і што ў вас баліць, паплакалі троху, дый досыць. Шукайце новага чалавека, які ён павінен быць? А прычыны вашай нядолі вы ўжо палічылі, зразумелі; знаючы іх, шукайце раду, лекі“ [5]), і так рэзюмуе ўсю спрэчку: „Адно я знаю і буду гаварыць: літаратура ваша, беларуская, не марудзячы, павінна выявіць беларусам новага чалавека-беларуса, вот і ўсё“. Падобна свайму таварышу, „Польскаму Публіцыстаму“, які ставіць на дзённы парадак беларускай літаратуры „праклятае пытаньне“: „Што рабіць“, „Маскоўскі Дэмократ“ раіць „Беларускаму Аўтару“: „Бярыцеся, дзядзька, за пяро і пішыце роман „Што рабіць?..“ [6]). Апрача таго, да запатрабаваньняў „Польскага Публіцыстага“ ён дадае яшчэ запатрабаваньне мастацкасьці: „Можна гаварыць, можна пісаць на тэмы,—што рабіць, па якой дарозе ісьці, можна цэлыя томы сьпісаць, але пакуль гэта будзе толькі рыторыка, пакуль гэта будуць толькі словы і словы бяз жывога чалавека, пакуль у вашай маладой літаратуры ня будзець мастацкага тыпа новага чалавека, датуль вы будзеце...будзеце... ну, таптацца на адной мясьціне“.. [7]).

Такія думкі „Польскага Публіцыстага“ і „Маскоўскаго Дэмократа“, ня гледзячы на тое, што ў іх ёсьць некаторая доля неразуменьня і недаацэньваньня тагочаснага палажэньня беларускай адраджэнцкай літаратуры (асабліва ў „Маскоўскага Дэмократа“), што зусім зразумела для іх, як для асоб чужанацыянальных, у васноўным сыходзяцца з тагочаснымі думкамі па гэтым пытаньні самога Максіма Гарэцкага, выказанымі ім у публіцыстычным артыкуле „Развагі і думкі“ [8]), якія нам яшчэ прыдзецца закрануць у сваім месцы. Мала таго, яны зусім

1) Гл. „Антон“, ст. 108.
2) Там-жа, ст. 107.
3) Там-жа, ст. 108.
4) Там-жа, ст. 112.
5) Там-жа, ст. 109.
6) Там-жа, ст. 112.
7) Там-жа, ст. 107.
8) Гл. „Вялікодная пісанка“, 1914 год, ст. 31—61.

адпавядаюць і тым асаблівасьцям творчасьці пісьменьніка, на якія ўжо было зазначана вышэй як некаторымі крытыкамі ягонае творчасьці (пар. „жарты на жаданьне чытакі“, „плак і плак без канца“ у „Польскага Публіцыстага“ і „скалазубства з вяскоўца“, „мленьне і стагнаньне“ ў рэцэнзіі на зборнік „Рунь“ В. Ластоўскага). гэтак, у прыватнасьці, і ў дадзенай монографіі (нашае цьвярджэньне пра „галоўнага гэроя“ творчасьці М. Гарэцкага, што фактычна і зьяўляецца тым „новым тыпам“. якога патрабуюць спрачальнікі).

Адылі, гэта толькі ў асноўным. Конкрэтна-ж у некаторых пытаньнях думкі пісьменьніка з думкамі згадваных спрачальнікаў ня сыходзяцца, і ён выстаўляе ім свайго опонэнта—„Беларускага Аўтара“.

„Беларускі Аўтар“ спрабуе, хоць і ня зусім цьвёрда, станоўча, пярэчыць абодвум спрачальнікам у іхнай ацэнцы беларускай адраджэнцкай літаратуры. „А няхай плачам, апяваем нядолю—шукаем добрых заданьняў... Ня можна-ж адразу стварыць сабе ідэал... Што? Не? Ідэал, што хутка дасьціглы,—невялікі ідэал... І наагул—дасьціглы ідэал—не ідэал...“ [1]). Апрача гэтага аргумэнту дасьціглясьці ідэалаў, няцьвёрдасьць якога адчувае сам „Беларускі Аўтар“, называючы яго крыху ніжэй „вядомымі праўдамі“, ён высоўвае аргумэнт г. зв. „адваротнага адбіцьця ў мастацтве“. „Дый песьняры нуды, смутку часта дабіваліся сваімі песьнямі саўсім наадваротнага“ [2]). Праўда, форма, у якой выражаны гэты аргумэнт у „Беларускага Аўтара“, мае ізноў-ткі адценьне няпэўнасьці, няцьвёрдасьці дый неразгорнутасьці, адылі ён усё-ткі зьяўляецца об'ектыўна самым моцным ягоным аргумэнтам. Гэта той аргумэнт, на які. дарэчы сказаць, забываюцца ўсе спрачальнікі ў пытаньні аб „псыхолёгічным стылі“, „пэсымізьме-оптымізьме“ нашаніўскае пары, і які займаў у нашаніўскую пару даволі выдатнае месца, знайшоўшы сваё клясычнае выражэньне ў вядомым Гаруновым вершы „Поэту“, асабліва ў заключнай строфе яго („Прашу цябе, мой брат, сьпявай аб горы песьнь адну ты...“), а таксама ў Купалавым вершы „На Купальле, на сьвятое“ („Шляхам жыцьця“), на які пакуль-што ніхто яшчэ не зьвярнуў увагі, як наагул, гэтак і з паказанага боку.

Трэцім аргумэнтам „Беларускага Аўтара“, якім ён адказвае на параду „Маскоўскага Дэмократа“ пісаць роман „Што рабіць?“, зьяўляецца спасыланьне і пакладаньне на жыцьцё—„Жыцьцё дасьць адказ“ [3]), як кажа „Беларускі Аўтар“. Гэты аргумэнт выплывае з погляду на літаратуру, як адбіцьцё жыцьця, які выказвае, сьледам за самым пісьменьнікам (гл. успамінаны артыкул „Развагі і думкі“) і „Беларускі Аўтар“, і які служыць нашаму опонэнту і для пярэчаньняў па закранутым у спрэчцы пытаньні аб „новым тыпе“: „Добра... Але што гэта літаратура? Літаратура адбівае жыцьцё... Калі ў нас яшчэ няма такога тыпа, значыцца, жыцьцё не ствар... (ыла)“ [4]). Апрача таго, да задачы адбіцьця жыцьця ў дадзеным пытаньні „Беларускі Аўтар“ дадае яшчэ ягонае пазнаньне, дакляруючы сваім опонэнтам: „А так! Уцямім прычыны і дадзім новага чалавека, бо ўцяміць прычыны—ужо стаць троху новым“ [5]).

І нарэшце, апошнім аргумэнтам „Беларускага Аўтара“, якім ён сам непасярэдна адказвае „Маскоўскаму Дэмократу“ на ягоную, кагадзе згадваную параду, зьяўляецца дачаснасьць дэклярацыйна-агітацыйных,

1) Гл. „Антон“, ст. 113
2) Там-жа, ст. 114
3) Там-жа, ст. 113.
4) Там-жа, ст. 107.
5) Там-жа. ст. 113.

програмных твораў тыпу „што рабіць“: „У сусьветнай літаратуры творы, у каторых паказваліся аднаму якому грамадзянству новыя шляхі жыцьця, новыя заданьні, такія творы больш, чым другія, дачасны і скора забываюцца новымі пакаленьнямі...“ [1]).

Як бачым, гэтыя апошнія аргумэнты, ужо больш цьвёрдыя і станоўчыя, выцякаюць з таго пагляду „Беларускага Аўтара“ на літаратуру, як пераважна на адбіцьцё і пазнаньне жыцьця, які, дарэчы кажучы, дужа нагадвае марксыцкія погляды некаторых расійскіх тэорэтыкаў, як, прыкладам, Г. В. Плеханава, А. К. Варонскага, тымчасам, як ягоныя опонэнты глядзяць на яе больш, як на будаваньне жыцьця, прапануючы „Беларускаму Аўтару“: „Вы самі тварыце жыцьцё...“ Праўда, „Беларускі Аўтар“ не адкідае зусім і поглядаў сваіх опонэнтаў, часткова згаджаючыся з імі: „А вот, паночкі, уся вага і значэньне вашых слоў—гэта творамі паддаць сілы, энэргіі, імпэту... так“ [2]). Ён нават дакляруе ім „стварыць жыцьцё“ і „новага тыпа“ толькі пры папярэднім пазнаньні яго (гл. вышэй—„уцямім прычыны...“). Не адмаўляе ён і поўнага значэньня твораў тыпу „што рабіць“—„Але значэньне такіх твораў, што казаць, аграмаднае, і калі ў іх уплесьць агульна-чалавецкія пытаньні, яны ня скора патрапяць у Лету“ [3]). Але ўсё-ж-ткі галоўны ягоны аргумэнт—пакладаньне на жыцьцё, у якім ягоныя опонэнты нават бачаць характэрную адзнаку „псыхікі беларуса“, застаецца непарушным. Ён цьвёрда пераконаны, што гэтае жыцьцё, ці як ён выражаецца ўжо ў крышку інакшай форме, „гісторыя не памыляецца і хаця адным крыўдна-абразна і сумна, а другім добра, яна ідзець так (махаець пальцам прад сабою і вядзець па сталу)“ [4]). Гэтае-ж жыцьцё і не прымушае доўга чакаць „Беларускага Аўтара“, падаючы яму праз тэлеграфнае паведамленьне пра Антона якраз „новага тыпа“, праўда, ня зусім „новага тыпа“, а толькі „новага тыпа“ ў потэнцыі: „Вот вам і тыпы...“ [5])—адразу-ж заяўляе „Беларускі Аўтар“ і крышку пазьней ужо робіць выснову: „А новыя людзі ўжо ёсьць... Што? Вы думаеце! А ўжо-ж... Дайце, пыні, часу,—якое грамадзянства, такія пісьменьнікі,—знайдуць і новыя людзі свайго песьняра...“ [6]), а ўжо цераз разьдзел мы бачым „Беларускага Аўтара“ за зьбіраньнем матарыялаў аб Антоне... Новыя-ж людзі, як мы ведаем, супраўды „знайшлі свайго песьняра“, вядома, не ў асобе „Беларускага Аўтара“, які сам зьяўляецца толькі гэроем твору, і гэроем якраз у поўнай меры „новым“, пра што крышку ніжэй, а ў асобе таго пісьменьніка, які выводзіць і „Беларускага Аўтара“,—у асобе самога Максіма Гарэцкага.

Але вернемся да разгляданае намі спрэчкі ў кавярні, якая пасьля кагадзе згаданага тэлеграфнага паведамленьня прыймае ўжо конкрэтны характар спрэчкі аб Антоне, увязваючыся беспасярэдна ў аповесьць і маючы ўжо беспасярэдна ацэначны характар. Перадумовы да гэтае ацэнкі падаюцца ў самым паведамленьні, дзе яно гаворыць аб прычынах Антонавага самагубства: „Прычыны—незразумелы; адны шукаюць іх у нездаволенасьці самагубцы сваім бацькам, лясьніком тутэйшых паноў, п'яніцаю і гулякам; другія гавораць аб хваравітай набожнасьці пакойнага і яго цягаценьні да ўсяго таёмнага; доктар знайшоў у мазгу

[1]) Гл. „Антон“, ст. 113.
[2]) Там-жа, ст. 114.
[3]) Там-жа, ст. 113.
[4]) Там-жа, ст. 115.
[5]) Там-жа, ст. 110.
[6]) Там-жа, ст. 114.

нябожчыка невялікія заломы; дзед і прадзед Жабона — алькоголікі; Антон Ж. гарэлкі ня ўжываў; жыў у беднаце, не ўсягды маючы хлеба". [1])

У самой спрэчцы па гэтым пытаньні ў спрачальнікаў ролі ўжо мяняюцца: „Беларускі Аўтар" пераходзіць у напад, а ягоныя опонэнты абараняюцца. Адбываецца гэта перш за ўсё таму, што апошнія, праяўляючы, як мы ўжо казалі, некаторую долю неразуменьня і ў папярэдняй спрэчцы, ужо зусім ня могуць зразумець здарэньня з Антонам. „Мяне тут цікавіць адно,—чаму шукаюць ці шукаець там хто прычын у гэтым, як тут, хваравітай набожнасьці і цягаценьня да ўсяго таёмнага... Мне гэта не зразумела..." —заяўляе „Польскі Публіцысты'.— „Пашукаўшы добра прычын, яшчэ можна зразумець, хаця ўсё-ж т'кі для мужыка гэта нязвычайна"..., дадае ў тон яму і „Маскоўскі Дэмократ", гадаючы: „Гм... Што за псыхолёгія магла быць у самагубцы?" Выходзячы з гэтага неразуменьня, гэтыя чужанацыянальныя ацэншчыкі" даюць або няпэўныя, гіпотэтычнага характару ацэнкі, як „Маскоўскі Дэмакрат" („А па мойму адказ адзін: ня вытрываў агульна-народнага крызыса гэты селянін Антон праз тое... Не, ня так.. Ніякага асаблівага крызыса й няма—зарэзаўся, бо дзяды былі алькоголікі, а ён ня піў, ды хоць-бы й піў"...—ст. 111, „А часам і супраўды быў дурнават?.. У мазгу дактары"... ст. 114. „Маскоўскі Дэмократ" і сам адчувае сваю няпэўнасьць: „А я ўсё думаю, цікава-б было паехаць туды, на тое сяло. дзе гэты селянін-самагубца... Распытацца-б"...), або заблытаныя і аднабаковыя, як „Польскі Публіцысты" („Гісторыя, прыгоншчына, псыхіка, абасабленьне і зьніштажэньне інтэлігэнцыі і тое, што не ў народу, а ў інтэлігенцыі і ў часьці народнай маладзежы няма веры і сьвятых заданьняў, усё гэта радзіла адно другое, ішло адно за другім і магло косым бокам памагчы Антону зарэзацца, але тое, ад чаго ён зарэзаўся, яно таксама радзіцца магло і радзілася ад прычын, што я казаў, але яно цяпер глаўнае і самастойнае і гэта ёсьць соцыяльна-экономіцкае немажлівае ў нашы часы жыцьцё народу. Ён ня меў чаго есьці"... ст. 112).

З другога боку, гэтая замена на ролі адбываецца й таму, што „Беларускі Аўтар", зьяўляючыся сялянскім выхадцам, „беларусам-рабынічам, бацька якога служыў прыгон", як ён сам кажа, прыймае блізка да сэрца здарэньне з Антонам, што відаць з ягоных гарачых прамоў на гэтую тэму. З гэтых-жа прамоў, як зараз пабачым, яскрава відаць, што „Беларускі Аўтар", будучы сялянскім выхадцам, зьяўляецца і тым „галоўным гэроем" творчасьці Максіма Гарэцкага, з якім мы ўжо неаднакроць мелі справу ў дадзенай монографіі. Таму й ня дзіва, што „галоўны гэрой" блізка прыймае да сэрца справу другога гэроя, які, як мы бачылі, зьяўляецца ў дачыненьні да яго потэнцыяльным...

„Беларускі Аўтар" перш за ўсё стараецца разьбіць гэтае неразуменьне Антонавага „цягаценьня да таёмнага" у сваіх опонэнтаў: „Паны, паны! Вы не кіраваліся зразумець, і вам не зразумела... А чаму-ж мне, беларусу, і беларусу-рабынічу, бо бацька мой служыў прыгон, чаму мне саўсім па духу і зразумела як мэсіянства польскага народу, так і кіраваньне да бога і чуда народу рускага па Дастаеўскаму, і гэтыя стараверы, і сэктанты, духаборы і далі, і далі". [2]) Заяўляючы сябе чалавекам, якому па духу ўсе гэтыя містычныя кірункі, і гэтым выказваючы і сваю містычную настроенасьць, „Беларускі Аўтар" паказвае сваім опонэнтам і на той грунт, на якім гэтая настроенасьць у яго

[1]) Гл. „Антон", ст. 109.
[2]) Там-жа, ст. 110.

паўстала: „Чаго? А таго, што я сын свайго народу... А народ мой,— народ-поэт, народ-лірнік, народ, каторы ў гістарычным жыцьці сваім заўсёды больш схіляўся к патрэбам душы, чымся к патрэбам цела“ [1]). Гэтае „схіляньне к патрэбам душы“, пацьвярджэньне якога „Беларускі Аўтар“ бачыць у шмат якіх фактах гісторыі Беларусі (духовае панаваньне беларусаў над ліцьвінамі пры фізычным панаваньні апошніх, рэлігійныя рухі і да г. п.), на яго думку, ствараe агульна-народны крызіс у сучасны яму момант: „Цяпер у майго народу крызіс: старыя багі струпехлі, а новых.. новыя мала ведамы... І сусьветна новыя багі, багі цела, багі, што даюць ці могуць даць поўнае здаваленьне толькі целу, гэтыя багі ня надта падабаюцца беларусу ..“

І ўжо ў выхадзе з гэтага крызісу, для якога патрэбна дэтальнае вывучэньне яго, „Беларускі Аўтар“ бачыць магчымасьць стварэньня „новага тыпу“: „І вот, каб стварыць тып „новага беларуса“, каб угадаць, якім павінен ён быць і будзе, гэты ўладар будучыны, трэба памірыць у душы беларуса старое з новым, трэба вышукаць, што ў яго душы жывуча са старыны, і на чым будаваць новае... Трэба шукаць прычыны крызісу, бо п‘янства, няпісьменнасьць, бяднота—усё гэта абставы крызіса“... [2]) У сьвятле-ж гэтага-ж крызісу ён і спрабуе вытлумачыць Антонаву трагедыю: „Шукаў-шукаў, можа, свайго бога і... Не, ня шуканьні бога зрабілі яго дурным, а тыя абставы, у якіх ён жыў і шукаў“... [3]) Гэтая ацэнка, хоць і выказаная таксама ня зусім пэўна і крыху гіпотэтычна, усё-ж больш праўдзівая і супадае з тым, што мы гаварылі ў сваім месцы аб трагедыі Антонавае потэнцыяльнасьці.

З гэткім поглядам на Антона „Беларускі Аўтар“ уступае ў другую ацэначную спрэчку з Доктарам, якая адбываецца падчас наведаньня ім звар‘яцелай Антонавай жонкі Домны і мае, як было намі сказана, агульна-філёзофскі характар. Пачынаецца яна з таго, што „Беларускі Аўтар“, уражаны выглядам Домны, падае Доктару свае пэсымістычныя думкі аб чалавечым жыцьці наагул: „Ці варта чалавеку радзіцца, каб жыць?..“. У далейшым ён гэтую-ж сваю думку ахварбоўвае, пад уплывам свае вышэйзгадванае містычнае настроенасьці, адценьнем безадказнасьці „праклятых“ пытаньняў: „Толькі праца і мукі, мукі і праца, гора, ніадкуль сьвету, радасьці, урэшце гэткае няшчасьце як для маткі і жонкі, і... наканец бог адабраў розум... За што? За якія грахі? Страшна“... Гэтае безадказнае „За што?“, якое ў свой час мы чулі ад Антонавага бацькі Аўтуха, стыкае „Беларускага Аўтара“ з Доктарам, які адразу-ж выказвае сябе матэрыялістым:—„За што? Ды я і не дапушчаю тут гэткага пытаньня. Ня можна тут пытацца,—за што? Нізавошта! Законы матэрыі, ці тое, што вы гукаеце богам, ідуць сваім парадкам, адно выходзіць з другога і родзіць трэцяе, і толькі. У іх няма мук, дабра ці зла,—гэта ёсьць толькі ў людзей“. Далей гэты свой матэрыялізм Доктар пераносіць і на соцыяльныя пытаньні, даючы, урэшце, матэрыялістычную ацэнку Антону: „А ўжо віна людзкая, чаму ня садзяць у турмы п‘янюг, чаму падзяліліся на паноў і сьмердаў, чаму не атручаюць безнадзейна хворых, а даваць лепшых і здаравейшых, чаму **гадуюць у дзяцей гэткі сьветапагляд, што тыя, вырасшы, робяць самагубства**“... (Курсыў мой.—*А. А.*) [4])

[1]) Гл. „Антон“, ст. 110.

[2]) Там-жа, ст. 111.

[3]) Там-жа, ст. 114.

[4]) Там-жа, ст. 126.

Такі матэрыялізм Доктара прымушае „Беларускага Аўтара“ яшчэ больш зайстрыць з містычнага боку сваю ацэнку Антона, выказаўшы яе ў гэткай форме: „Ах, не, доктар... Нашто-ж тыя законы вашы далі чалавеку разуменьне сваёй сьлепаты... А што вы думаеце? Можа гэта разуменьне і натварыла бяды з Антонам“... Выказаная ізноў-ткі няпэўна і гіпотэтычна, гэтая ацэнка сустракае адпор з боку Доктара, вымушаючы яго таксама зайстрыць свой матэрыялізм аж да фізыялёгізму: „Я вас не разумею. Я прызнаю фізыялёгію толькі. Дрэнна мне—значыцца організм мой папсаваўся, нуда ў мяне—значыцца жывот мой ня варыць добра, і ў целе ад таго нешта ну як-бы засурылася, гэта адбіваецца на нэрвах, і ўсё. Душа? Я не разумею .. Ёсьць мозг“... [1]), крыху далей: „Ніякай вышэйшай маркоты сусьветнай няма“. Ён спрабуе на прыкладзе з Домнаю пераканаць „Беларускага Аўтара“ у правільнасьці сваіх поглядаў: „А так, па вашаму, праўда: калі ёсьць нейкі дух і ён несьмяротны, ён не павінен псавацца, а чаго-ж ён папсаваўся ў Домны? Дзеля яе няма ўжо таго сьвету, бо дух яе папсаваўся, і я, як доктар, кажу—папсаваўся наўсёды, яна не паправіцца; каб пазваляў закон, я атруціў-бы яе“ ..

Такі доктараў суворы фізыялёгізм выклікае абурэньне ў ідэялістага—„Беларускага Аўтара“, і ён даволі рэзка гаворыць: „Значыць—усё роўна... Значыць—рай на зямлі, калі знойдуць райскія законы жыцьця целу... І зробяць мажлівым гэта жыцьцё на зямлі... Рай, калі ўсе сьвіньнямі сытымі на зямлі будуць?“ Гэты абураны адказ, які грунтуецца на ранейшых, згадваных ужо намі, словах „Беларускага Аўтара“ аб сабе, як аб сыне народу, што „больш схіляўся к патрэбам душы, чымся к патрэбам цела“ і якому „сусьветна новыя багі цела ня надта падабаюцца“, дужа нагадвае калішнія словы аднаго з гэрояў „Руні“ аб „сьвінячым супакоі“, пра якія мы ў свой час гаварылі. Рэзкасьць гэтага адказу прымушае Доктара нават абмежаваць свой фізыялёгізм у кірунку бліжэй да рацыяналізму, хоць канчаткова Доктар ад яго не адмаўляецца: „Усё роўна, але жыцьцё розума, ня душы; не, жыцьцё розума будзець датуль, дакуль жыцьцё цела, і яно патрэбна для цела...“ Такая фізыялёгічна-рацыяналістычная концэпцыя таксама не здавальняе „Беларускага Аўтара“, прымушаючы яго толькі прыгадаць свае ранейшыя пэсымістычныя развагі: „Лепш памерці, чымся жыць „вумнай“ жывёлінай“... І нарэшце, у завяршэньне ўсяе спрэчкі, абодвы спрачальнікі ўсё-ткі даходзяць да пэўнага компромісу, які, хоць і не падае непасрэдна канчатковай ацэнкі Антона, затое падае пэўны крытэры да такой ацэнкі. Вось гэтая цікавая заключная гаворка ў „Антоне“: „Доктар. Лепі быць здаровым чалавекам, чымся нейкай пакалечанай падобай здаровага чалавека. Беларускі Аўтар (думаець). І—і, мілы, любы доктар, жыць? Доктар. Жыць.. А што напалавіну памёрла, няхай саўсім памрэць . . . Толькі, не, гэта я пагарачыўся—і тое, што напалавіну да сьмерці дайшло .. маець жыць, бо хто ведае... будзе шчэ здарова... пачанець жыць... Беларускі Аўтар. Жыць яно маець, бо можа, яно толькі здавалася такім... такім няжыцьцёвым... (павесялелі).“ [2]).

Гэты канчатковы вывад аб канечнасьці жыцьця, на якім і адбываецца компроміс паміж спрачальнікамі, лірычна апрацоўваецца самым аўтарам у заключным (XV) разьдзеле аповесьці, чым асоба „Беларускага Аўтара“ канчаткова зьліваецца з асобаю самога аўтара аповесьці. Гэтае зьліцьцё можна было прадчуваць і раней, у тэй сугучнасьці

[1]) Гл. „Антон“. ст. 127.
[2]) Там-жа, ст. 128.

думак „Беларускага Аўтара“ з думкамі самога аўтара „Антона“, пра якую мы ў свой час зазначалі і якая, дададзём цяпер, мае месца і ў самой аповесьці, у некаторых непасярэдных аўтаравых выказваньнях (пар., прыкладам. думкі „Беларускага Аўтара“ пра сум і плач у беларускай адраджэнцкай літаратуры з такім аўтарскім выказваньнем, як „Сьмяяліся, калі сьмех быў, і плачам, калі сьлёзы цякуць“—ст. 117, або містычную настроенасьць яго з такімі выказваньнямі: „Каля яго (Аўтуха Жабона.—*А. А.*), хоць і ніхто ня бачыць, душа Іванькіна калышацца ў паветры і ад жалобы нікнець, і безгалосна енчыць, і мітусіцца паміж тым і нашым сьветам“...—ст. 102, „а маліся, кланяйся тут—ад бога так жыцьцё дадзена“—ст. 117). Мала таго, дужа празрыста адчуваецца яно і ў самым назове „Беларускі Аўтар“ і ў факце зьбіраньня апошнім матэрыялаў аб Антоне, далейшы працяг якога бачым ужо ў самога аўтара („Схадзіў я на паклон крыжу твайму пахіламу, Антоне“...—ст. 129), і вынікам якога і зьяўляецца сама аповесьць. Такім чынам, у дадзеным выпадку мы ізноў маем справу з аўтарам, як з гэроем уласнай творчасьці, што ўжо наглядалася намі і пры папярэднім разглядзе зборніку „Рунь“ (гл. разьдзел V дадзенае манографіі).

У заключным разьдзеле аповесьці аўтар ставіць пытаньне аб сваім пэсымізьме, праявы якога як у яго, гэтак асабліва ў ягоных гэрояў мы ўжо даволі разглядалі ў папярэднім, адзначыўшы наяўнасьць іх ужо з самага пачатку дадзенае працы (гл. разьдзел II). Тут аўтар спрабуе перамагчы гэты свой пэсымізм, спасылаючыся перш за ўсё на *народную творчасьць і затым на той канчатковы вывад, які падаюць* у ваповесьці вышэй згадваныя спрачальнікі, прыходзячы ў компроміс:„—Як выйду за гай, як зірну ў свой край, затужуся я, зажуруся я... - пела мне дзядзіна мая маленькаму. Пела тужліва, але з надзеяй і верай, і слухаў-бы яе, слухаў“...[1]) і крышку далей: „Песьні мае, песьні душы маёй, песьні без надзеі, бяз веры... Мінулася! Сьцюдзёна мне было, жуда мяне жудзіла .. там... у жыцьці... Бо я забыўся быў, як пела сьляпенькая дзядзіна мая... І вот—жыцьǃ“[2]) І ўспамін дзядзінінае песьні, і выкананьне яе запаведу, і гэты кагадзе згадваны вывад дапамагаюць яму зусім перамагчы сваю нуду: „Пасядзеў пад бярозкаю шумна-ціхаю, падзівіўся на край родны беларускі і—жыцьǃ“. Калі раней, пры пачатку аповесьці (разьдзел IV), аўтар мог толькі пэсымістычна зварочвацца да нябожчыкаў: „Сьпіце, родныя, жджыце нас, памром, каб з атомаў *нашых гэні нарадзіўся і палепшыў* роднае жыцьцё“...[3]), дык цяпер ён ужо адчувае ў сабе непамерную сілу: „Я цьвёрда стаю... Расьцець нешта непамернае ва мне... Павадыры! Гдзе вы? Браты, сястрычкі, ідзіце за мною! Дзядзінка! Выстагнаўся твой пляменьнік.—Жыць!“ [4]) Гэткімі словамі закончваецца ўся аповесьць.

Такім чынам, мы бачым, што трэці плян аповесьці „Антон“ мае ня толькі ацэначныя функцыі ў дачыненьні да яе, а робіць разам з тым пераацэнку і некаторых ідэялёгічных установак усяе творчасьці Максіма Гарэцкага. Так, тут упяршыню стыкаецца містычная настроенасьць аўтара з матэрыялізмам, і хоць кардынальных вынікаў гэтага стыкненьня пакуль-што мы ня бачым, апрача невялікага компромісу, затое яно ўжо моцна ўплывае на аўтараў пэсымізм, дапамагаючы яму канчаткова перамагчы гэты пэсымізм і ўзвысіцца да поўнае, ажно ледзь

[1]) Гл. „Антон“, ст. 128.
[2]) Там-жа, ст. 129.
[3]) Там-жа, ст. 39.
[4]) Там-жа, ст. 129.

не мэсіянскае, сьвядомасьці свае сілы. Праўда, гэтай перамозе ня суджана было зрабіцца зусім канчатковаю, некаторыя знадворныя абставіны ізноў вярнулі пісьменьніку на некаторы час ягоны сумны погляд на рэчы, але ўсё-ткі значэньне гэтага павароту ў пісьменьнікавай творчасьці, а праз гэта і значэньне аповесьці „Антон“, асабліва-ж яе трэцяга тэматычнага пляну, бязумоўна, вялікае. Таму мы й спыніліся гэтак падрабязна на разглядзе гэтае аповесьці і гэтага пляну, каб відавочней паказаць эволюцыю як творчасьці, гэтак і ідэялёгіі Максіма Гарэцкага.

Цяпер абеглым аглядам другарадных, ці, як мы іх назвалі-былі, „пазаплянавых“, гэрояў „Антона“ мы скончым разгляд гэтай выдатнай аповесьці.

## X

Другарадныя пазаплянавыя гэроі „Антона“ маюць у большасьці сваёй эпізодычны характар. Іхная эпізодычнасьць фактычна і спрыяе пазаплянавасьці іх. Так, гэроі, якія больш разгорнуты і, значыцца, маюць на сабе менш гэтай эпізодычнасьці, больш прымыкаюць да таго ці іншага пляну аповесьці, і, наадварот, гэроі з меншай разгорнутасьцю, гэроі з большай эпізодычнасьцю зьяўляюцца больш пазаплянавымі, менш зьвязанымі з тэматычнымі плянамі аповесьці. Такім чынам, з другарадных гэрояў можна вылучыць невялічкую групку прымыкаючых гэрояў. Супынімся крышку ля іх.

Другараднымі гэроямі, якія прымыкаюць да першага пляну аповесьці, зьяўляюцца старцы, што фігуруюць у VII разьдзеле яе і ў Антонавым сьне ў VII разьдзеле. Іхнае прымыканьне да фону аповесьці, якім зьяўляецца, як мы казалі, яе першы плян, выражаецца перш за ўсё ў іхным п'янсьцьве, пра што справядліва зазначае Домна, зварачаючыся да іх з гэткімі словамі: „Устарыну-ж дык і старцы-ткі былі, а вы што?—п'янюгі нейкія“ [1]). Прымыкаюць яны да гэтага фону і сваімі поглядамі на чараўніцтва да тых поглядаў, якія выказваюцца галоўным гэроем гэтага фону Аўтухом, зьяўляючыся галоўнымі памагачымі апошняму падчас супярэчкі з другаплянавым Антонам на гэтую тэму: „ А што чараўнікі чаруюць, дык на то ім сіла даецца. Бяз гэтай сілы і людзям пражыць было-б трудна. Скажам, чалавек занядужыў, карова захварэла, вужака ўкусіла ці сібірская муха джыгнула—хто раду, братка, дасьць? Дзед Янка, болі ніхто, бяз дзеда ня можна, ён сілу маець, яму дзяды пераказалі“. Да гэтых слоў, выказаных 1-м Старцам, далучаецца і 2-гі Старац, адзначаючы пры гэтым падобна, як і разгляданы намі Кузьма, няцьвёрдасьць у гэтых пытаньнях самых большых адмаўляньнікаў іх—папоў: „Поп казаў: „Грэх“. А як пачала здыхаць цёлка, скотны доктар ня даў помачы, дык і бацюшка хлопца па Янку на кані прыслаў. І карова цэла!“. Гэтак-жа прымыкаючымі зьяўляюцца і старцовы моральна-рэлігійныя погляды, якія надзвычайна яскрава выяўляюцца ў іхным характэрным дыялёгу па зьвязаным з пяпярэднім пытаньні пра самы „грэх“. „Старац 1-шы: Э, братка мой! Грэх у мех, а спасеньне наверх. Старац 2-гі: Альбо ў торбу ды аб вугол. Старац 1-шы: Цяпер толькі мы, простыя людзі, баімся грэху. Паны, брат, дый з нашых разумнейшыя грэху ўжо ня баяцца. Дзеля таго, што яны цяпер так дайшлі, братка: Хрыстос хадзіў па вадзе,— і я пайду па вадзе, Хрыстос... Старац 2-гі (перабіваючы):... Хрыстос лётаў—і я палячу. Дык каго ім баяцца? Няма каго баяцца, дык што

[1]) Гл. „Антон“, ст. 60.

за грэх будзе, калі няма каго баяцца Ён не баіцца, што яму грэх! Грэх!.. гэ-гэ-гэ... Старац 1-шы. Хрыстос рабіў сьляпых відушчымі, а заграніцкія дактары па навуках дайшлі: сабаччае вока чалавеку ўставяць, і чалавек бачыць усё-чысьценька, дай бог усякаму добраму“ [1]). Прыгледзеўшыся ўважней, мы бачым, што гэтыя погляды ахварбованы тэю-ж соцыяльнасьцю, якая была характэрнай для фону, асабліва для ягонага галоўнага гэроя Аўтуха, і, такім чынам, маем яшчэ адзін пункт прымыканьня старцоў да гэтага фону. Адылі мы заўважаем тут і некаторыя згукі навукова атэістычных довадаў, праўда, у даволі своеасаблівым, аж да дзікасьці, пераламленьні, што ўжо адрозьнівае старцоў ад гэтага фону, зьвязуючы іх больш з іхным адмысловым „старэцкім сьветам“. Асабліва яскрава гэты „старэцкі сьвет“ выяўляецца ў расказе 2-га Старца пра старэцкія сямейныя справы: „Насьледніка, гэ гэ-гэ... маюць, як-жа. Зарадзіўся ладны старчык: па матцы сухарукі, па бацьку—бяз воч. Яхім рад. Ато, брат, задумаў ён жаніцца: Прэска ані блізка!—„Што ён, —гаворыць,—сьлепанджа, што з ім выхадзіш? Я прыгожа, а са сваімі сухімі рукамі я за лепшага ў губэрні старца зайду“ Яна, чуеш, мэцілася за аднарукага Аўласа, ён хлапец гладкі, а на кірмашох сухую руку як выставіць ды псальму як зацягнець, дык грошы так яму і сыплюцца От яна за яго і кіравалася, гэ-гэ гэ“ [2]). Гэты „старэцкі сьвет“, кагадзе пададзеныя рысы якога, дарэчы кажучы, дужа нагадваюць мастацкае апісаньне гэтага-ж „сьвету“ другім нашым пісьменьнікам З. Бядулем (гл. ягонае апавяданьне „Ашчасьлівіла“ у зборніку „На зачарованых гонях“), адмяжоўваючы старцоў ад сьвету наагул, зьяўляецца прычынаю і адмежаваньня іхнага ў аповесьці, дзякуючы чаму яны толькі прымыкаюць да першага пляну, а ня дзеюць у ім, хоць эпізодычнасьць іхная, у параўнаньні да іншых другарадных гэрояў, меншая.

Да другога тэматычнага пляну „Антона“ прымыкае ўжо больш другарадных гэрояў. Сярод іх нават можна адрозьніць дзьве групы: першую, куды ўваходзяць гэроі, што прымыкаюць да гэтага пляну на соцыяльным грунце і другую, куды ўвойдуць гэроі, што прымыкаюць да яго на грунце „праклятых“ пытаньняў. Гэроі першае групы, прымыкаючы на соцыяльным грунце, маюць аднолькавую соцыяльнасьць з асноўнымі гэроямі гэтага пляну, тымчасам як гэроі другое групы крыху розьняцца ад іх сваёю соцыяльнасьцю, хоць і ня сыходзяцца ў гэтым з гэроямі процілежнага, першага тэматычнага пляну, зьяўляючыся прадстаўнікамі г. зв. „вясковай інтэлігенцыі“.

Да першае групы перш за ўсё належыць Антонава жонка Домна. Яна таксама, як і яе муж Антон, войстра адчувае ўсю нездаровасьць тае соцыяльнае атмосфэры, у якой трымае Аўтух сваю сям‘ю. „У каго людзічкі рупяцца, працуюць; дождж—лапці хаця плятуць, граблі ладзяць, косы клепюць, вяроўкі віюць, ці што. А нашым мужычкам нічога ня трэба. Ці хто йдзець, ці хто едзець—грым! к Аўтуховым ды за гарэлку“ [3]). Протэстуючы проці „лясьнікоўскага гонару“ свайго сьвёкра. Домна добра заўважвае і ўсе супярэчнасьці яго: „Не магу бяз чаю... бяз хлеба буду, а чаю дай... Пан вялікі, лясьнік... Круп купіў-бы“ [4]) - „Гдзе ўжо той і гонар лясьнікоўскі?“—заўважае яна, калі Аўтух хоча аддаць Іваньку ў павадыры да старцоў. Гэтага-ж свайго сьвёкра яна ўважае галоўнай прычынай Антонавае недалужнасьці:

---

[1]) Гл. „Антон“, ст. 58.
[2]) Там-жа, ст. 57.
[3]) Там-жа, ст. 59.
[4]) Там-жа, ст. 44.

„Хто яго задурыў, калі ня родны бацька, разумец гэткі. Ты яго ссушыў, ня хто, усі кажуць“. Адчуваючы ўсё гэта, Домна абурана протэстуе проці Аўтуховага гвалту над ёй: „Я табе маўчала-маўчала, трывала-трывала, няхай табе бог аддаець. Я-ж не за цябе, за твайго сына ішла. Ты мне мала значыш, п'яніца горкая, а я цябе шанавала, абмывала цябе, абчышчала, няхай табе божачка аддаець... А ў людзей-жа старыя ня пікнуць, знаюць на печы сядзець ды дзяцей забаўляць, а наш-жа...“ [1]). Праўда, побач з гэтым Домна протэстуе і проці Антонавае нерашучасьці, недалужнасьці: „Гора са свёкрам, а цяпер і ты гэтакі. Будзеш, будзеш, як відна, бацькаўскай удачы. Навучыся яшчэ гарэлку піць, будзеш татухна...“ [2]), з горкаю крыўдаю кідае яна Антону. „Ну во, адзін наругаецца—крычыць, а другі дзяцініцца—стогнець, а ты, баба, хаця галавою аб сьцяну біся...“ [3])—гэтак рэзюмуе яна сваё палажэньне. І супраўды, цяжар гэтага палажэньня прычыняецца да таго, што яна, разам з Антонам, становіцца ахвяраю таго „стыкненьня з фонам“, якое адбываецца ў аповесьці, і ў перадапошнім разьдзеле яе мы сустракаемся з Домнаю ў вар'яцкім доме.

Малюючы Домну, якая заўзята бароніць свае мацярынскія правы ад замаху на іх з боку галоўнага гэроя фону Аўтуха, аўтар побач з ёю з замілаваньем замалёўвае і фігуры дзяцей яе—Іванькі з яго жывасьцю дзіцячага ўяўленьня (гл. асабліва разьдзел IV) і Ходу, якая „не дзяцінную думку ў вачох хавае“ (гл. разьдзел XIII). Асаблівую цяплыню ў хварбах ужывае ён у дачыненьні да апошняе: „А Ходачка падрасла; як тая трасьцінка—тоненька, худзенька, беленька, квола, у вачох, не дзяцінную думку хаваючых, васількі жытныя адбіваюцца, сінеюць“... і крышку далей: „Хода! Дзіцятка беларускае, сялянскае! Кланяйся, кланяйся ўсьлед за дзедам, ксьціся, маліся. Ніхто ня езьдзіць па дарозе, ніхто не падзівіць, не зразумеўшы, ніхто не перашкодзіць. І тут траўка, як усюдых траўка, і гэты крыж, як крыжы, што бяз ліку па роднай зямельцы, і з вас некалі вырасьцець траўка, а маліся, кланяйся тут“... [4]). І зарэзаны бацькам Іванька, і Хода, што рана зазнала ўсе „прыемнасьці“ выхадзтва—жыцьця ў паноў і „жыдоў“, і раньняга сіроцтва, тугі па мацеры („Мама-ачка!“, ст. 122)—таксама ахвяры таго-ж катастрофічнага „стыкненьня з фонам“.,.

Да гэтай-жа групы можна далучыць і цэлы шэраг эпізодычных фігур сялян, якія асабліва войстра протэстуюць проці Аўтуховае соцыяльнасьці. Гэта—шахцёр з II разьдзелу, які саркастычна кідае Аўтуху: „Аўтух! Аўтух! Стары ты хрэн, паньскі сабака. І калі ўжо ты здохнеш?“ [5]), і Аўтухоў сусед Ёзка Банадысёнак, якога мы крыху ведаем па ягонай сутычцы з Аўтухом на пожні, і які нават як-бы прарочыць: „Каб вы пазаразаліся гэтаю коскаю, як мала з вашае глоткі, як вы пазаграбалі-б усюдых! Ссса-а бакі паньскія, ліха вашай матары!... І ў паньскім як тыя сьвіньні, і ў суседзкае гнятуцца...“ [6]), асабліва селянін Якаў з XI разьдзелу, які дужа злорадуе пры пахаваньні Іванькі: „Няхай ведае лясьнік, як гарэлку піць людзкую (дражніць): „О, я—лясьнік! О, я—разумны! і што вы мне! хто мне ўкажаць?“. А што? Вот і ўказка, брат. А ну-ка пакракчы... Мне што? Бог яму аддасьць, як ён лясьнічамуназводзіў на мяне“ [7]).

[1]) Гл. „Антон“, ст. 62.
[2]) Там-жа, ст. 61.
[3]) Там-жа, ст. 64.
[4]) Там-жа, ст. 116.
[5]) Там-жа, ст. 15.
[6]) Там-жа, ст. 53.
[7]) Там-жа, ст. 101.

Да другой групы гэрояў, якія прымыкаюць да другога пляну аповесьці на грунце „праклятых“ пытаньняў, належаць тры гэроі III разьдзелу, дзея якога адбываецца ў царкве, тры прадстаўнікі „вясковай“ інтэлігенцыі, пераважна, царкоўнага характару—Поп, Дзяк і Гімназысты. Першы з іх, ня гледзячы на сваё палажэньне, таксама, відаць, ня чужы ад „праклятых“ пытаньняў: „Ісусе Хрысьце! Дай мне веру вялікую... Ісусе Хрысьце! не дапусьці захлібнуцца мне ў моры малавернасьці.. Вялікі сын чалавечы! Ты—сын бога—дык пашлі мне веру крепкую.. Дух сьвяты! Зьлітуйся, пазбаў духа майго ад мук няверыя... О, божа мой, божа мой маўчлівы, божа далёкі!“ [1])—шэпча ён увесь час пры сваёй адправе ў царкве. У такім-жа дусе апавядае пра яго і Дзяк: „А ты думаеш, ён так веруець?... Ён, ацец Васіль, ён, брат, атэіст... Чэснае слова. У мяне ёсьць адзін таварыш-поп, што з ім у сэмінар... казаў, што яны там належалі да гуртка вучанікоўарыяністаў... Хрыста за бога не прызнавалі, лічылі яго толькі нязвычайным, вялікім чалавекам.. А цяпер наш ацец Васіль, як той казаў ані ў бога, ані ў чорта...“ [2]). І да гэтага Дзяк дадае яшчэ адну рысу, якая ўжо становіць супярэчнасьць з тым казаньнем анты-алькоголізму, якое вядзе Поп: „І гарэлку пачаў піць а. Васіль...“.

І гэты-ж Дзяк, які жаліцца, расказваючы пра Антона і падаючы характарыстыку яго, якую мы ў свой час згадвалі (гл. разьдзел VIII дадзенае монографіі), на тое, што „бараны мужыкі нашы... цемната, брат,—жыцць тошна, пагаварыць няма з кім“.... а сам на пытаньне, ці чытаў ён Льва Талстога, мнучыся адказвае: „Князя“ чытаў... ці тое—„Князя Сярэбранага...“ [3]), пасвойму праяўляе цікавасьць да „праклятых“ пытаньняў: „Дык бог-то, канешна ёсьць,—але цікава, гдзеісьцінная вера, вот што“. Асабліва цікавы з гэтага боку трэці гэрой названае групы, які гэтак спачувае Папу: „Ах, ах, ах... А ён, брат, мучыцца бяз веры.. Горш няма, як веры ня мець...“ і гэтак выказвае сваё веравызнаньне: „Мне здаецца, нешта нейкае ёсьць, вышшае, адкуль усё пайшло... А што яно, мы ня можам пазнаць сваім разумам... і гэта-а... гэта... ну і можам маліцца нечаму невядомаму... як-бы сказаць“... [4])

Трэці, ацэначны, плян аповесьці бадай-што ня мае прымыкаючых да сябе другарадных гэрояў. Некалькі ўмоўна сюды можна залічыць некаторых сялян, якія гутараць аб Антоне на Іванькіных хаўтурох, у XI разьдзеле. Спаміж іх асабліва вылучаецца Гаўрыла, які выказвае характэрна сялянскі, фаталістычны погляд на Антона: „Не, мусіць, наш Антон такім нялюдзкім зарадзіўся. Планэта ў яго такая“... і крышку далей: „А можа, і супраўды пайшоў ён на той сьвет таго, што так ад бога было яму прадзначана...“ [5]). Ён-жа спрабуе ацаніць і тыя абставіны, якія прывялі Антона да трагічнае разьвязкі: „А так падумаць, што за жыцьцё яго было? Аўтух заробіць дый прап‘ець, а не заробіць—з хаты цягнець ды ўсё і прагуляець. Ато к сабе ўсякай шабадрэні араву прывядзець і п‘янствуець. Заўсёды сварка, няпрыемнасьць, а хлеб—адкуль ён? Дзеткі малы І Домна высахла аж выпятрыла ўся“... Іншыя сяляне з гэтага разьдзелу спрабуюць шукаць прычыну катастрофы ў Антонавым маленсьцьве, у ягоным характары (Банадысь), і толькі адзін, разгляданы ўжо намі Дзёмка, выказвае нясьмелую думку аб потэнцыяльнасьці. Адылі, ні адзін з іх ня выносіць

[1]) Гл. „Антон“, ст. 20.
[2]) Там-жа, ст. 22.
[3]) Там-жа, ст. 24.
[4]) Там-жа, ст. 23.
[5]) Там-жа, ст. 100.

Антону хоць якога-небудзь асуджэньня; нават абураны супроць Аўтуха Якаў заўважае: „Ну, а нябожчыку—то рай прасьветлы, спакой вечны...“ [1]); сяляне маўкліва ўшчуваюць трагэдыю потэнцыяльнага гэроя...

Іншыя, ужо ня прымыкаючыя пазаплянавыя гэроі маюць яшчэ больш эпізодычны характар. Іх можна ў агульным разабраць на дзьве групы, паводле іхнае соцыяльнасьці. У першую, ніжэйшую, групу увойдуць „жыды“ Ёсель і Іцка Броўда (II р.), якія замалёваны аўтарам у духу ўзятага ім з Багушэвіча эпіграфа: „Добры жыд! Хоць грошы любе, а згубіць зусім—ня згубе“, сялянскія дзяўчаты і хлопцы-шахцёры ў царкве (III р.), сярод якіх асабліва цікавы антагонізм паміж сялянкамі і шляхцянкамі (гутарка: Польця. Глядзі, як увабралася вун тая паненка... шляхцянка... Ай, каб такія каралічкі мне... Наста. Чаму ей ня быць прыгожай, калі яна жыруецца ў бацькі змалку, чаму ёй ня мець такое чыстае лічка, калі яна жаць ходзіць і то пад зантом, і жнець у пяршчатачках“... ст. 21) і адносіны да духавенства („Шахцёр 1-шы“, які ў адказ на папов[ы] словы: „час апамятацца, братцы парахвіяне, і“... шэпча: „і несьці капеечкі на спадніцы тваёй матушцы...“, ст. 25), і асабліва сялянская моладзь, якая гуляе на лажку падчас Антонавага самагубства. Сярод апошняе асабліва цікавы некаторыя асобы, зьвязаныя з пытаньнямі сялянскага выхадства. Гэта—фігура „адмоўнага выхадца“ Міхалкі, „маскоўца“, які ўсё-ж „Масквы бачыў мала“ і толькі какаець“ (г. зн. гаворыць „как“ замест „як“) і „благародзіцца“, як кажа пра яго аўтар. Цікавы яго погляд на самога сябе і сваё „адмоўнае выхадства“: „Да что—ста, я, можна сказаць, мужык, навук велікіх не проходзіл, как говорыцца; сперва сміются, конечна, і поляком ругаюць, дражняць могілёўскім мякіньнікам, а потом нічаво, совершэнна как по горадзкому“ [2]). Адылі, ён звысака пазірае на сялян: „Какое здеся у нас неабразованіе, можна сказаць, і цемната... Нікакого абрашчэнія, как хуліганы ці-лі уш... [3])—абураецца ён на хлопцаў, якія дражняць яго за ягонае беларуска-расійскае „ці-лі“,— А-а, ці-лі, ці-лі, выліцелі...“. Цікавы адносіны дзяўчат да Міхалкі (гутарка між ім і старастаўнечкай Ганнаю: „А ў нас усе, ведама, па дзеравенскаму, а я ня ведаю, што як татка. Я і гаварыць правільна ня ўмею, вам будзець сорамна з-за мяне, мужычкі...“ на што Міхалка цікава адказвае: „А вы как-жа, што разумеіцца, дзеравенскія, ды ўсё-жэ, как ваш папаша стараста, у домі самавар і ўсё такоя...“, ст. 86). Цікавы й наагул погляды сялян на тых, хто „пабыў у сьвеце“, зьвязаныя асабліва з тэю культураю прыпевак і лаянкі, якую яны нясуць у вёску (гутарка: „Матруна. Хліманёнак пабыў у сьвеце, дык толькі знаець свае паскудныя прыпеўкі... Лёкса. Звык... Не, сяньні так сабе, ато як пачанець няпрыгожыя пець... і лаецца“, ст. 88). Гэтыя-ж набалелыя пытаньні выхадства мімабегам зачапляюцца і ў наступным, XI, разьдзеле, у гутарцы „Суседак“: „Усякай матцы гора ды гора: то дзетачак вынасі, выхварай, то іх узгадуй, ато яны ў сьвет пойдуць, на нас забудуцца...“ [4]).

Да другой, соцыяльна-вышэйшай, групы эпізодычных гэрояў трэба перш-на-перш залічыць дзьвюх асоб, гутаркаю якіх пачынаецца аповесьць: паню Іванецкую і яе пляменьніцу Клаву. Асабліва цікава апошняя, у якой можна згледзіць нават некаторыя рысы потэнцыяльнасьці. Так, яна прыводзіць у некаторае замяшаньне сваю цётку, паню Іванецкую, сваймі словамі: „Цёця. А наша фамілія беларуская, праўда? Наш

[1]) Гл „Антон“, ст. 101.
[2]) Там-жа, ст. 86.
[3]) Там-жа, ст. 85.
[4]) Там-жа, ст. 97.

род беларускі.. Іванецкія... Іванецкія-Дубягі... Клаўдзія Іванецкая-Дубяга... І дзядзька нябожчык таксама быў з Літвы"[1]). Яна нават адчувае як-бы нейкую, хоць і дужа далёкую, ніць выхадзтва: „Папраўдзе, як я за гэтыя гады жыцьця ў сталіцы далёка-далёка адсунулася ад дзярэўні А тут радзілася, тут расла, гадавалася ў Беларусі, а цяпер— ну саўсім-жа не разумею і дзіўлюся, як можна пражыць доўга-доўга сярод тутэйшых „пэйзан", ха-ха!", а крышку далей: „як жывуць мужыкі цэльнае жыцьцё, такое-ж бязыдэйнае, дурное, беднае... фу!". Ёй ужо не падабаецца і „прырода, праўда, любенькая, але простая, таксама—нудная"..[2]). Ува ўсім гэтым можна ўгледзець зярнё сваеасаблівай трагедыі выхадзтва, потэнцыяльнасьці, праўда, крыху адваротнае тэй, з якою мы сустракаліся дагэтуль, якая накладае на Клаву адбітак пэсымістычнай нуды, прымушаючы яе шукаць выхаду ў „гульні ў любоў", чыста самкавым смакаваньні „тутэйшых Аполёнаў"—паньскіх хурманоў і г. д. Цікава адзначыць яшчэ, што Клава дужа блізка прыймае да сэрца няшчасьце, якое здарылася з Антонам. Даходзячы аж да істэрыкі, яна прымушае паню Іванецкую высесьці з карэты, каб адвезьці ў ёй хутчэй парэзанага Антона. „Бедныя людзі, жалобныя людзі... і цёця.. і я.. і мы... сорам, сорам нам"...—ужо крыху інакш, чым раней, гаворыць яна. Адылі, наткнуўшыся ізноў на ранейшае сваё праклятае пытаньне: „Жыцьцё... што рабіць?"[3]) (раней: „Жыцьцё, жыцьцё, што ты такое ёсьць"? ст. 10), ізноў „смуткуець" аб сваім жыцьці: „Пецярбург... студэнт Міця... Гутаркі.. белыя ночы... ідэі.. Дэмократызм.,. Няма нічога... Сьмяялася... Гады зацішша... Гдзе тое захапленьне... Нуда... Сорам... Мужыкі... Як жыць?.. Цёця... Лясьнік... Абдзіраньне... Драбяза... Брыдота... І так прашлындаць... да сьмерці... І ўсё..." У гэтым нявыразным трызьненьні, у гэтых успамінаньнях пра „ідэі", „дэмократызм", „гады зацішша" і ўласны сьмех, таксама як-бы згукі тэй-жа трагедыі потэнцыяльнасьці, якая, мабыць прымушае Клаву асабліва блізка прыймаць да сэрца Антонаву трагедыю, што неаднакроць адзначаецца ў далейшым у аповесьці (гутаркі „У парозе паціху" і „Мужчын" у XI разьдзеле, успамінаньне Аўтухом у XIII-м разьдзеле)

Насупроць сваёй потэнцыяльнай пляменьніцы паня Іванецкая замалёвана аўтарам, як паня ў поўным сэнсе гэтага слова. Яна таксама жаліцца на цяжкасьць жыцьця сярод „мужыкоў", спачуваючы Клаве ў гэтым, але падыходзіць ужо крышку з іншага боку: „Ах, Клаўдачка, цяжка жыць у гэтай мядзьвежай бярлозе, сярод гэтай дзічыны, ай цяжка! І што яшчэ, гэтыя тутэйшыя, самыя... самыя... самыя немажлівыя, самыя дрэнныя мужыкі... Асабліва ў астатнія часы: гультайё, п'янюгі, картэўнікі, а зладзюганы якія, *толькі-б красьці ды красьці ў паноў*" (курсыў мой. *А. А.*)[4]). Нават бачачы парэзанага Антона, паня ня хоча даць карэты, каб хутчэй яго завесьці ў больніцу, бо „ўсі падушкі выпацкаюць..."[5]) і папікае сялян: „Значыцца, грошы многа зарабляеце... Касцы ў мяне, у пані сваёй, па рублю, а?...[6]).

Нарэшце, да гэтай-жа групы належаць найбольш эпізодычныя гэрої аповесьці, якія дзеюць у XII разьдзеле, у кавярні, дзе адбываецца разгляданая ўжо намі спрэчка між „Беларускім Аўтарам", „Польскім

[1]) Гл. „Антон" ст. 8.
[2]) Там-жа, ст. 9.
[3]) Там-жа, ст. 94.
[4]) Там-жа, ст. 8.
[5]) Там-жа, ст. 93.
[6]) Там-жа. ст. 94.

Публіцыстым“ і „Маскоўскім Дэмократам“. Спаміж гэтых „гэрояў кавярні“ асабліва цікавы гэрої з „Століка романтыкаў“, асноўная настроенасьць якіх і нават паасобныя словы нагадуюць нам некаторых, ужо раней разгляданых гэрояў М. Гарэцкага („2.—Ты саўсім ня ведаеш жыцьця. Ты ідэяліст, ты, чорт цябе ведаець, што ты за чалавек, спазьніўся ты радзіцца“ [1])—пар. з Уладзімерам З. з апав. „Рунь“). Па настроенасьці да іх прымыкае яшчэ і „Маладзейшы“ з „Ахвіцэрскага століка“, на якога іншыя кажуць: „Псыхолёгіі шукаеш, чыжык? „Плюнь,—пойдзем купацца“, сказаў Чэхаў; лаві мамэнт!—лепшая „псыхолёгія“ і філёзофія.“ [2]). Цікавы яшчэ гэрої, якія закранаюць пытаньні выхадзтва („Столік зьвезданосцаў“—„4.—Я баюся за яго... Кажуць, казённых грабануў... Каб не пайшоў да прадзедаў, да мінскіх мужыкоў... Ён з мужыкоў, радня ўжо не паддержыць; кляпсік паднімі і трэсь! Са духі ўпакой..“ ст. 105) і беларускага адраджэньня („Столік тоўстых“—3.—Э, пыні, калі праўду, пыні, казаць, дык уся, пыні, бутафорыя з гэтым дурным адраджэньнем нашага „быдла“, пыні, гэта, пыні, глупства, пакуль няма, кажу, пыні, вялікай экономіцкай спрэчкі ў нас, пыні, з гэтым быдлам... Экономіцкая вайна, от, пыні, чаго можна баяцца, пыні...“ ст. 106).

На гэтым мы і закончым разгляд аповесьці „Антон“.

---

Да аповесьці „Антон“, як паводле часу напісаньня, гэтак у значнай меры і паводле фабулы прымыкае апавяданьне „Тамашы“. [3]). Таксама, як і ў „Антоне“, тут асноўнаю тэмаю зьяўляецца стыкненьне бацькі Тамаша з сынам Міхалкам, праўда, ужо на чыста-сямейным грунце і без трагічна-катастрофічных вынікаў (магчыма, дзякуючы гэтаму сямейнаму грунту і няпоўнай разгорнутасьці фабулы). Стары Тамаш узяў сабе з мястэчка другую жонку, маладую Варку, якая ўпадабала ягонага сына, свайго пасынка Міхалку, што фактычна нават і не зьяўляецца Тамашовым сынам. На гэтым грунце ў сям‘і адбываюцца частыя сваркі, пакутаваць за якія павінен Міхалка. Апошняга аўтар малюе, як потэнцыяльнага гэроя: „Толькі Міхалкіна душа, як і здаўна, войстра прынімала боль, бо нясьмелая была яшчэ на жыцьцёвай дарозе, а злашча сярод гэткіх прыкрасьцяў; бо ня сьпелася ячшэ ў агульным хоры. І вось за гэта лаялі мужыкі Міхалку **мякінаю, папіхайлам** і насьмяхаліся з яго“ (курсыў аўтара. А. А.) [4]). Як такога, аўтар надзяляе Міхалку ў значнай меры рысаю рэфлексыйнасьці. У сваіх рэфлексіях Міхалка разважае аб нясумленнасьці свайго бацькі („Бацька—Ня даў маткінай магілцы абмуравець, як мачыху ў хату прывалок. Навошта права яму дадзена? Вось, бывала, матку бяз міласэрдзя п‘яны біў. Чаму-ж, калі ты добры бацька, ня робіш так, як добраму бацьку выпадае?“), характэрна зварачаецца да бога („Ах, божухна, навошта непарадкі допускаеш?“) і нават надумваецца падпаліць хату: „Ну, што пажар такое? Пагарэлі-бы, пабядавалі-бы ды й на сваркі свае паганыя троху забылі-бы ся...[5]).

---

[1]) Гл. „Антон“, ст. 106.

[2]) Там-жа, ст. 104.

[3]) Паводле аўтаравага сьведчаньня, апавяданьне напісана яшчэ перад вайною надрукавана-ж у 1920 г. у часопісі „Вольны Сьцяг“, ст. 3 -6

[4]) Гл. „Вольны Сьцяг“, № 1 за 1920 г., ст. 4.

[5]) Там-жа, ст. 5.

Цікавы ў апавяданьні яшчэ некаторыя соцыяльныя моманты: адносіны Тамаша да свае жонкі на грунце яе месьцячковага паходжаньня („Чаго лягла? Ці не пара-б забыцца на панскія замашкі? Калі ў паноў ды ў жыдоў была, тады й качалася, а цяпер няма чаго дурэць", ст. 4) і падобныя-ж погляды на яе іншых сялян („Ня будзе ў вас добрага і няма з тае пары, як здурнеў бацька і прывёў у хату жыдоўскую ваданоску", словы Дзеда-кутніка, ст. 5). Цікава, што той-жа кутнік называе „Тамашоў" багатырамі: „А халера на вашую галаву, багатыры праклятыя" [1]).

(Працяг будзе).

---

1) Гл. „Вольны сьцяг", ст. 6.

**Юры Бярозка**

# Літаратурныя портрэты

## 2. Зьмітрок Бядуля

I.

Ёсьць у ім нейкая вялікая кунега, нейкая сур'ёзная кволасьць, якая атуляе ўсяго, вабіць да сябе.

Яго хада дзівосна лёгкая.

Часам здаецца, што ён сьлізгаецца па нейкіх яму аднаму даступных роўніцах, не перасуваецца, а пляніруе.

... Ён сын вясковага балаголы.

Ён радзіўся ў м. Пасадзец на Віленшчыне.

Яго сапраўднае імя Самуіл.

Яго прозьвішча Плаўнік.

II.

Перадсуботні вечар. Змрочныя пахілыя хаткі асьвятляюцца з асяродку жоўтым і мутным сьвятлом. У вокнах аплываюць стэарынам масыўныя срэбныя падсьвечнікі. Яны ўжо вельмі а вельмі старыя. Разам з усім хатнім скарбам—куфрамі, посудам, лыжачкамі, футрай—яны пераходзяць з пакаленьня ў пакаленьне. Раз на тыдзень іх доўга і клапатліва шаруюць. Раз на тыдзень іх урачыста стаўляюць на чыстым настольніку, які яшчэ каробіцца вялікімі квадратамі столак. Раз на тыдзень над імі моліцца гаспадыня хаты, прыкрываючы вочы рукамі. Муж у гэты час моліцца ў школе. Без падсьвечнікаў тут нельга. Быт тут моцны і нярухомы, як Гімалаі. І ўжо не разьбярэш: ці субота для чалавека, ці чалавек для суботы.

Гэты быт павінен быў быць таксама бытам Самуіла Плаўніка. Створаны на працягу стагодзьдзяў, як спосаб захаваньня нацыянальнае самабытнасьці, ён вызначаецца не прызваітаю догматычнасьцю і не пагаджаецца на компромісы. Так жыў бацька Самуіла Плаўніка, так жылі яго дзяды і прадзеды. Так павінен быў жыць і ён. Гэты быт працягваўся для Плаўніка ў ешыбоце. Яго рыхтавалі на рабіна.

Рэлігійны канон, які крышталяваўся на працягу стагодзьдзяў, замяніў тут маладосьць. Актыўная неразважная набожнасьць нічым не магла быць заменена. Бунт караўся тут неадкладным і бязьлітасным ізоляваньнем.

Самуіл Плаўнік выбраў бунт.

... Вечар. Ад ракі цягне лёгкай прахалоднай волкасьцю. У высокім, ужо на змроку, ужо лілёвым небе вісіць празрысты і белы, як талы сьнег, месяц. На вадзе Сьлізанкі, паўз берагі, губляючыся ў нярухомых маўклівых трысьніках і вербалозах, расьцягнуліся плыты. Адсюль іх павольна і цяжка панясе на Нёман. А там па Нёмну—у Немцы, у Прусы.

Гэта бацька Самуіла Плаўніка гоніць па Сьлізанцы лес.

Фантастычнаю, яскрава чырвонаю кветкаю вырастае на прыбярэжным пяску касьцёр. Асначы і вартаўнікі гатуюць вячэру. І зьнянацку, раптам узьлятаючы на нясьцерпна высокую ноту, у чыстым

звонкім паветры імклівіць песьня. Яна дрыжыць і завісае над вадою мэлёдраматычнаю скаргаю. Зараз яе падхопіць другі голас, пасьля—трэці.

Ля кастра на сьпіне, залажыўшы рукі пад галаву, ляжыць Самуіл Плаўнік. Ужо не зялёнае, ужо сіняе, зеленавата-сіняе неба клубіцца і рухаецца над ім. Зьяўляюцца першыя зоры—буйныя і яскравыя.

Юнак чуць-чуць усхваляваны. Недалёка за сабою ён пачувае чорны мур шчырага бору. Няясныя шарахценьні паўзуць адтуль, дзівоснае, жудаснае хрустаньне... Ня то дабег, ня то здаўся лёгкі сьвіст. А то нечакана мільгане і згасьне між ледзьве разгляданымі дрэвамі кволы смарагдавы агеньчык. І ўжо здаецца жывым і залюднёным гэты бор, гэта паветра, гэты трысьнік. Баечныя патайныя істоты прачнуліся са змрокам і закраталіся.

Лясун там пануе,
Крычыць „го-го-го!“
Ваўчышчаў пасе ён,
Там страшна,—ого!
А дрэвы стуль вабяць
Дзясяткамі рук,
Па імені кліча
Няведамы гук.
Здаецца, задушыць
Там віламі дуб,
Корч высмакча сок твой
Дзясяткамі губ.
Іголкамі ёлка
Цябе заклюе
І шышкамі вочы
Асьлепіць твае.
Там ведзьмы страшныя,
Хоць гаць з іх гаці.
Ад іх ні прабрацца
Туды ні прайсьці.

(„Пад родным небам“, ст. 16-17).

Яшчэ смутная, яшчэ аморфная, няясная, а з тае прычыны, мабыць, асабліва захапляючая, нараджаецца ў Самуіла Плаўніка казка. Ажыўлены і радасны ён усхапляецца на ногі і падыходзіць да кастра. Там сівы, лахматы, больш падобны на балотную карчагу, паляшук штосьці апавядае. У чырвоным сьвятле кастра твар паляшука ўразаецца ў памяць. Ён здаецца высечаным з дрэва двума-трыма ўдарамі разака.

Асначы зьнімаюць чугунок з агню і моўчкі дастаюць лыжкі.

Самуіл Плаўнік ня можа есьці.

III.

Не каля кастра, не на беразе Сьлізанкі, а на многа пасьля, на старонках сваіх вершатворных зборнікаў Самуіл Плаўнік усё-ж расказаў захапіўшую яго казку. Само слова казка стала адным з найбольш ім любімых. Гляньце, як часта яно ў яго спатыкаецца.

Ой, хочацца ў глушы паслухаць веі-*казку*,
Пабачыць блеск сьнягоў пад сьпевам завірух.

(„Пад родным небам“, ст. 23).

Тут кожны крок абвеян *казкай* сівай...

(„Пад р. н.“, ст. 5).

Вея шапочыць ім сны,
Белыя, сьнежныя *казкі*.

(„Пад р. н.“, ст. 26).

У кволых ільдзяных туманох
Сны-*казкі* чакаюць, як госьцяў,
Багатых думай ягамосьцяў.

(„Пад р. н.“, ст. 30).

Людy гаротнаму *казкі*,
Сны даравала і ласкі...
(„Пад р. н.", ст. 41).

Шмат *казак*, шмат песьняу сьпяюць нам,
Шмат скажуць нам думак цікавых.
(„Пад р. н.", ст. 48).

Як зданьнё да задуменьня,
*Казка* з лесу к нам плыве,
Чуем *казку* ў кожным мгненьні,
Над травою ды ў траве.
(„Пад р. н.", ст. 53).

І журчыць ручаёк, байку-*казку* пляце,
Дудару вельмі шчыра уторыць...
(„Пад р. н.", ст. 76).

Рэчка мчыцца ўправа, ўлева
. . . . . . . . . . . . . . . .
Зычыць гулка, шэпча, кажа
Свае *казкі*, свае байкі...
(„Пад р. н.", ст. 100-1).

Ў агняцьветах-пералівах
Млеюць *казкі* шэпчуць дзівы...
(„Пад р. н.", ст. 106).

.... Бы *казак* бог,—
Ён (каваль) з ланцугоў куе нарог.
(„Буралом", ст. 3).

Во зараз, во зараз, во зараз
Пабачыце *казку*-праўдзівасьць...
(„Буралом", ст. 20).

Паргаміны зіхцяць у *казках* гэроічных
То летапіс баёў богом, царом на страх.
(„Буралом", ст. 30).

Бы Сьвятагор славутны з *казкі* сівай.
Ён (Кастрычнік) родны край ператварыў у дзіў...
(„Буралом", ст. 41).

І гэтак далей, і гэтак далей.

У цэлай вялікай групе сваіх вершаў, у вельмі значнай частцы сваёй творчасьці Бядуля зьяўляецца казачнікам. Там, ля кастра, на плытох ім назаўсёды заўладалі гротэсковыя анімістычныя вобразы сівых вусных паданьняў. Народная мітолёгія, на якую сёньня ўжо забываюцца і бадай забыліся, перажывае ў Бядулявых вершах другую маладосьць. Поэта аднаўляе Ярылу і лясуна, дзядоў і русалак, Пяруна і злавеснага Дзіва, які вартуе „абшар лугоў". Бядуля можа напісаць вясну з вялікай літары, і тады яна ў яго становіцца зусім падобнай на Вясну з вясьнянак.

Русалка сон праврве, праб'е лядок рукою
І пойдзе расьсяваць пралескі на зямлі.
І запяе Вясна ў праменьнях над ракою
Наладзіць шчодры баль на пухавой ральлі.
(„Пад родным небам", ст. 12).

Ёсьць у Бядулі вялікая поэма „Зачарованы край" (так называе поэта Палесьсе). Адно звычайнае пералічэньне загалоўкаў паасобных частак гэтае рэчы дасьць ужо некаторае ўражаньне наконт яе характару. Вось яны загалоўкі: „На Палескім балоце", „Што было да стварэньня Палесься", „Бог, чорт и дуда", „Як бог стварыў Палесьсе", „Чорт украў у бога насеньне, а бог нібы то ня прыкмеціў", „Паляшук іграе на дудзе", „Як чорт стварыў балота", „Як парабіліся чортаўскія дарогі і як паляшучка зрабілася ведзьмай", „Ільля палюе чарцей", „Цмок нішчыць паляшукоў", „Асілак забіў Цмока, а сам скамянеў у курган" і г. д.

У „Зачарованым краі" мы наглядаем надзвычайна цікавую спробу сынтэтычна-творчага апрацаваньня тых урыўкаў мітолёгічнага эпосу, якія дайшлі да нас у народных казках і песьнях.

Перад намі адзінае апавяданьне, якое стройна разгортваецца (сьляды скелзаў, адылі дзе-ня-дзе прыкметны). Накш кажучы, Бядуля паспрабаваў прывесьці ў сыстэму паасобныя онтолёгічныя [1]) легэнды, якія 'шчэ бытуюць у глухіх кутках краіны, паспрабаваў стварыць Палескі Олімп.

Наколькі трэба быць захопленым матар'ялам, каб узьняць у нашы дні падобнае!

Бядулява казачнасьць мае сваю асаблівую афарбоўку. Романтыка яго вершаў шчырая і выступае без мянюшак. Абшары, на якіх у Бядулі разгортваюцца цудоўныя падзеі, суздром умоўныя. Рэчы, якія спатыкаюцца ў Бядулявых казках, толькі ў назвах маюць тойсамасьць з рэчамі, якія мы ведаем. Яны launched ператвораны, зачарованы, заварожаны. Апошні прыметнік адзін з найбольш ужываных у поэты. Мы знойдзем у яго „заварожаную ласку", „заварожаны скарб", „заварожаныя муры", „зачараваныя харомы", „чараўніцкую мятлу", „чараўніцкі туман", „чароўны самалёт" і г. д. Час, улюбёны Бядулем у казках,—ноч. Асьвятленьне—месяцовае, зыбкае сьвятло, якое пранізвае густыя туманы; сьвятло, калі рэчы нечакана набываюць дзівосныя формы, дзівосныя, няправільныя абрысы; сьвятло, пры якім камень каля дарогі лёгка прыняць за гаспадара гэтых месц, чараунічага цара-зьмея, які скруціўся і адпачывае на траве

Змрокі тканінай шурпатай спавілі нямыя абшары,
Змрокі дажджом з густых ценяў набрызгалі цілыя чары,
Змрокі да пнёў прытуліліся, як старчыхі ў чулым гушчары.
Сполахі-страхі лунаюць над бліньзю, над шырай, над даляй,
Птахамі жудаснай сьмерці да могілцаў шэрых прыпалі,
Крыж каля крыжа чарнее, бы шэрагі шыбельніц-паляў...

(„Пад родным небам", ст. 21-2).

У Бядулявай казачнай краіне зруйнаваны ўсякія прычынныя зьвязкі. Усё ў гэтых вершах падначалена асаблівай лёгіцы фантастычнага і цудоўнага. Ня дзіва, што для Бядулі сон зьяўляецца амаль сынонімам казкі („Люду гаротнаму казкі, сны даравала і ласкі").

З грандыёзнай спробы стварэньня Палескага мітолёгічнага эпосу Бядуля вышаў бадай пераможцам Я кажу „бадай" таму, што гэту задачу сёньня выканаць ніхто ня можа. Ня выканаў яе да канца і Бядуля. Паасобныя месцы, паасобныя эпізоды і строфы „Зачараванага краю"—вельмі добрыя. Грунтоўнае знаёмства з народнаю творчасьцю, пранікаНьне ў мітатворчую стыхію, глыбокае разуменьне народнае онтолёгіі—усё гэта выклікае захапленьне. Але ўжо супроць волі аўтара міт, які расказваецца ім сёньня, успрыймаецца зусім ня так, як ён павінен быў бы ўспрыймацца, як успрыймаўся ён у далёкія дні свайго смутнага ўзьнікненьня. Гэта значыць, што да стварэньня мітолёгічнага эпосу адрэзаны ўсе шляхі.

Міт быў першаю спробаю чалавека вытлумачыць навакольнае і ўстанавіць сувязь між паасобнымі яго момантамі. Міт пачаўся на наступны дзень пасьля таго, як чалавек спаткаўся з патрэбаю ўразумець сваё становішча ў сусьвеце. Ён зьявіўся вынікам ня столькі эстэтычнай, колькі філёзофскай і навуковае творчасьці. Ён быў у свой час такой самай верагоднасьцю, якой для нас зьяўляецца тое, што зямля круглая. Эстэтызаваўся міт пасьля, на новай ступені свайго гістарычнага быцьця. І менавіта тады, калі ад яго адлучылася філёзофія і навука.

[1]) Онтолёгія — частка філёзофіі, якая разважае пра асноўныя падставы быцьця. *Рэд.*

Ужо вельмі даўно міт усьведамляецца толькі як літаратурны прыём. Ужо ўчора ўсякія творчыя спробы ў гэтым кірунку прымаюцца, як стылізацыя, цаной страты якой бы там ні было пераконлівасьці навуковай, міт набыў пераконлівасьць эстэтычную. Але нават гэта апошняе сёньня ўзята пад сумненьне. Мастацкія творы, пабудаваныя на мітолёгічным матар'яле, будуць успрыймацца намі ці як чыстая поэтычная гульня, ці яно можа быць апраўдана, як двохпляновае. У другім выпадку мітолёгічны вобраз выступае як вонкавае абазначэньне якогасьці новага сэнсу. Ён (вобраз) ужо каштоўны не сам па сабе, а цераз гэты новы сэнс. Накш кажучы, ён становіцца алегорычным вобразам.

Мітолёгічны эпос ня быў створаны Бядулем, бо пара эпосу даўно прайшла. Онтолёгічную легэнду прымаюць усур'ёз толькі яе зьбіральнікі і дасьледчыкі. Гэта самае Бядуля добра ведае.

Няма там злых ведзьмаў,
а пень той—як пень,
сячы колькі трэба
і ў ночы і ў дзень,
А воўк не зачэпіць.
Дальбог, між людзей
бывае часамі
і зьвера страшней.

(„Пад родным небам", ст. 17).

„Зачараваны край" успрыймаецца зараз як край алегорыі, баек, іншасказаў і сымболяў. За раскошнай мітолёгічнай вобразнасьцю поэмы адчуваецца цэлая сыстэма філёзофскіх поглядаў самога аўтара. У асяродку гэтае сыстэмы стаяць думкі пра мастацтва і яго ролю ў жыцьці чалавецтва.

## IV

Шлях, якім Самуіл Плаўнік ішоў, каб стаць Зьмітраком Бядулем, быў цяжкі і даўгі.

Калі будзе напісаны Бядуляў жыцьцяпіс, мы ўсе даведаемся пра жыцьцё, якое не зіхаціць яскравымі падзеямі, але поўна няўхільнага імкненьня да сапраўды высокае мэты. Гэтае імкненьне ня мае вялікае колькасьці вонкавых эфэктаў, але добра знаёма з змаганьнем, але поўна бадай самаахвярнае працы. Такою працаю была Бядулява дзейнасьць і дзейнасьць яго таварышаў у рэдакцыі „Нашае Нівы".

Дзевяць гадоў змаганьня „Нашае Нівы" за нацыянальнае адраджэньне Беларусі, якую прыгняталі на працягу стагодзьдзяў, дзевяць гадоў існаваньня газэты (1906—1915), пры ўмовах створаных колёнізатарскай політыкай расійскага самаўладства, цяпер павінны згадвацца з гордасьцю. У гісторыі беларускае грамадзкае думкі, у гісторыі змаганьня за новую Беларусь, якая будуецца зараз на социялістычных падставах, балоны, прысьвячоныя „Нашай Ніве" будуць няўхільна выклікаць захопнае зьдзіўленьне.

Зьмітрок Бядуля першы свой твор зьмясьціў у „Нашай Ніве" у 1909 годзе. У 1912 г. ён пачаў працаваць у рэдакцыі і канторы газэты. Апошнія гады жыцьця газэты шчыльна зьвязаны з Бядулявым імем. Выконваючы самыя рознастайныя функцыі, ад рэдактара да экспэдытара, поэта ўсяго сябе аддаваў газэце. Гэта не прайшло для поэты бяз вынікаў.

І калі мройнага яўрэйскага хлопчыка Самуіла Плаўніка зжоўклыя балоны даўніх талмудычных паданьняў і начлегі на ціхіх берагох Сьлізанкі зрабілі Ясакаром, поэтаю-казачнікам, поэтаю, які сумуе па нязвычным і фантастычным, дык, з другога боку, блізкае знаёмства

гэтага поэты з умовамі жыцьця беларускае працоўнае беднаты, атрыманае ім на берагох той-жа Сьлізанкі і пашыранае ў часе працы ў „Нашай Ніве", зрабілі з Плаўніка Зьмітрака Бядулю—бытапісальніка моцнага і войстрага, прокурора соцыяльнага бязладзьдзя, высьвядчальніка людзкой цемры і дурасьці.

Горкімі словамі гаворыць Бядуля ўчарайшай Беларусі.—

...„Палонілі ратая гэтым хлусным словам,
Згібалі яго карк цярплівы да зямлі.
Аддаў народ наш моц агідным, ночным совам,
Якія Беларусь, як хмары, абляглі
На вечна стары лад пад новым зычным зовам
Няведама куды багацьці нашы йшлі.
Народ цярпеў-маўчаў: пад гартаваным ковам
Ён гадаваў свае ад працы мазалі.

(„Пад родн. н"., ст. 7).

Страшэнныя малюнкі жабрацтва, прыгнечаньня і пачварнасьці людзкой разгарнуў Бядуля ў сваёй прозе.

Да яе мы зараз і пярэйдзем.

V.

„Сымон лічыўся найбольшым бядаком у вёсцы. Дзе калі якое гора навернецца, заўсёды трапіць на Сымона: то бык нагу выкруціў, то пуня згарэла, то бульба пагніла, то тое, то сёе, але ніякая кара з неба ніколі ня міне.

Зрабіўся Сымон чарней чарназёму: ходзіць пануры, як галодны воўк у чыстым полі, і толькі шукае, на кім злосьць сваю спагнаць...

Быццам вужаку, носіць ён у грудзёх сваіх вялікую страшэнную злосьць, катораяя, як порах, паліць яго, варушыць вострымі калючкамі ўнутры і супакою не дае.

У яго памутнеўшых ад бясплоднай працы мазгох кратаюцца цяжкія, як шрот, думкі:

— абабраў, аграбіў мяне нехта.. нейкае ліха мне жыць не дае.. ты на гару, а чорт за нагу... Ой, што гэта! божухна.. бо-о..."

Так пачынаецца Бядулява апавяданьне „Сымон", адно з самых узрушаючых апавяданьняў ува ўсёй беларускай літаратуры. Невялікае памерам, звычайна суладжанае, лаконычнае да схэматычнасьці, яно дзейнічае, як удар, як выклік, як суровы абвінавальны акт. Я падаў першыя абзацы з апавяданьня не для таго, каб запрасіць чытача прасачыць Бядуляву манэру ўводзіць у апавяданьне. Тут, у гэтых радкох, перад намі поўнай постацьцю стаў страшны Бядуляў гэрой: напоўзвар'яцелы з няўдачы і жабрацтва чалавек.

Спамшчаючыся некаму за сябе, злы на жыцьцё, Сымон б'е жонку. Б'е па прывычцы, б'е, адчуваючы ў гэтым смутнае аблягчэньне, б'е, каб знайсьці вінавайцу сваіх няўдач.

„Сымоніха не бароніцца, ня крычыць, яна сама падстаўляе яму плечы і толькі часамі ціха, слабым, хворым голасам кажа:

— Сымонка! што ты робіш? Гэта-ж грэх! Што-ж з мяне выб'ешь?—І маўчыць, толькі мацней заціскае бледныя вусны, вочы робяцца вялікія, вялікія.. смутныя.. смутныя,..

Яна гэтак ужо прывыкла, што ніколі ня плача і ціха нясе сваю жыцьцёвую пакуту.

— А мо' й запраўды я вінавата,—думае яна часамі, - можа я не даглядзела, можа я мала рупілася, калі кароўка, наша карміцелька, здохла.. Мо' й запраўды я вінавата?—думае Сымоніха і падстаўляе плечы:—хай б'е—па гэтым жыць буду...

Так працягваецца Бядулява апавяданьне. Яно напісана крыўдаю за чалавека, напісана палкім гневам. Яго нельга назваць пэсымістычным таму, што яно прадыктавана адчайнасьцю. Яно страшное. Ад штодзённых пабояў Сымоніха павольна памірае. Разам з яе сьмерцю абрываецца апавяданьне. Але, напісанае ў 1913 г., яно і сёньня ня ўсюды можа лічыцца скончаным. Яно ня скончана і для самога аўтара.

Пакуль існуе экплёатацыя чалавека чалавекам, пакуль існуе збытэчнае здавальненьне ў нямногіх за кошт жабрацтва і цемры большасьці, датуль не памрэ Сымоніха. Ізноў і ізноў будзе яна ўваскрашаць безадказная і маўклівая, ізноў і ізноў яна, як сьцень, пройдзе між нас, ады йдзецца і вернецца. Сымон і яго жонка не выпадковы і не зьяўляюцца адзінковымі ў Бядулявай творчасьці. Пасьля „Сымона" ідзе шэраг іншых новэляў такога-ж характару, якія больш зручна было-б назваць трагэдыямі. Прыгадаю некаторыя з іх.

Вось перад намі апавяданьне пра старуху Тэклю, якая прыехала на сьвята ў горад да сына адваката.

— „Лаўручок мой! Сынок мой!—як няпрытомная, кінулася Тэкля да яго ўсім імпэтам матчынага каханьня... Роднен...—перасеклася яна на сярэдзіне слова, бо ён раптам пачырванеў, аглянуўшыся на слуг, ды хрыпла крыкнуў:

— Чаму вы пускаеце ў пакоі розных жабрачак шалёных?!" („На каляды к сыну").

Вось скупа і імкліва разгортваецца апавяданьне пра пяць лыжак заціркі, пра людзкое шчасьцье, якое набываецца такой дарагой і такой таннай цанной („Пяць лыжак заціркі").

Вось маці выколвае голкой вочы сваёй дачцы, каб тая, выгадаваўшыся, магла зарабляць хлеб жабруючы („Ашчасьлівіла").

І гэтак далей, і гэтак далей. Жудасныя, пачварныя рэчы расказаны Бядулем. Адны за другімі праходзяць у яго апавяданьнях ня людзі, а пачварныя, створаныя голадам і пакутаю карыкатуры на людзей.

Ёсьць у Бядулі іншыя малюнкі, іншыя гэроі. Бядуля зусім, напрыклад, не пазбаўлены гуморнасьці. Ён з ахвотаю жартуе, і жарт выходзіць удалым. Праўда, больш за ўсё Бядуляў жарт афарбаваны лёгкім сумам, элегічнаю тугою. Яшчэ больш ён патрэбен Бядулі як сродак самаабароны. У „Летапісцах", у сумнай аповесьці пра нявыходную старэчую самоту, Бядуля жартуе толькі для таго, каб не заплакаць. Поплеч з дзедам Міронам поэта стаўляе спрытнага ўнука Андрэйку, прымушае дзеда згубіць запалкі і пасьля знайсці іх у сябе за пазухай, прымушае Андрэйку заснуть пад дзедаву дыктоўку, перасыпае Міронаву гутарку вялікаю колькасьцю прыказак, прыслоўяў, і ўсё для таго, каб чытач не заўважыў вялікай аўтаравай тугі, вялікага яго спачуваньня да самотнага Мірона.

Урэшце, у Бядулі ёсьць проста бытавыя зарысоўкі, якія гавораць пра добрае знаёмства з вясковым жыцьцём. Але для Бядулі яны не характэрныя. Так не характэрна для яго нават „Гора ўдавы Сымоніхі", якое стала амаль клясычным.

## VI.

Калі-б Бядуля нарадзіўся на многа стагодзьдзяў раней, каб ён жыў у далёкім дзівосным і суровым часе пляменнага быту, стрэлаў з жалезным наканечнікам, крывавых ахвяр, багоў, зробленых з дрэва.. каб жыў Бядуля ў тыя дні, калі вышэй за ўсё цанілася вайсковая годнасьць, сіла і дзея, калі самай прыгожай славай была слава таго, хто забіў і хто быў забітым у бойцы, яго, Бядулю, поэту і мройніка, кахалі-б і шанавалі-б за іншае. Ён ня ўдзельнічаў бы ў набегах і не хадзіў бы ў загрудкі сам-на-сам, калі мячы зазубраны, калі супараты хапаюць адзін аднага рукамі і зубамі... Тады Бядуля апавядаў бы пераможцам пра нязвычайныя істоты, якіх ня бачаць яны і якія бытуюць у іх мяшканьнях, пра істоты, якія кіруюць іх лёсам, даюць ім перамогу

ці зруйнаваньне, багатае паляваньне, добрую ўроду, ці голад і пошасьці. Ён расказаў бы, куды пойдуць іх душы пасьля сьмерці, ён сказаў бы пра дзівосную раку, на беразе якой будуць жыць сьцені сапраўдных вояў і тартуры, дзе будуць пакутаваць літаракокі.

Ён стварыў бы эпос, а не апрацоўваў бы яго, як робіць гэта зараз..!

Калі-б нарадзіўся Бядуля на некалькі стагодзьдзяў пазьней, калі-б нарадзіўся ён у сьвеце, які нашы папярэднікі звалі ўтопіяй, па якім сумавалі мільёны і ў змаганьні за які мільёны гінулі, калі-б нарадзіўся ён у сьвеце, які мы клічам комунай і які мы будуем, яму ня давялося-б зьвяртацца да старэзнай казкі проста з тае прычыны, што навакольле было-б прыгажэй над самую яскравую казку.

...Сымонава жонка даўно памерла і ўжо ня вернецца да тых, хто жыве.

У гарадох-садох Самуіл Плаўнік пісаў-бы, пэўна, оды, але апрача таго і больш таго—гістарычныя романы.

Нашым унукам, шчасьлівым і гордым, моцным і дакладным у рухах, ён расказаў бы пра стагодзьдзі вялікага змаганьня за іх, расказаў бы пра стагодзьдзі, якія гумусам ляжаць пад нагамі. Ён расказаў бы ня толькі пра тое, як корчыўся Фра Дольчыно, ня толькі пра тое, як вялі на шыбельніцу Кастуся Каліноўскага, як памёр Дэлеклюз, ідучы насустрач кулям вэрсальцаў, як невялічкая па колькасьці і валатоўная па духу група узвышаўцаў тварыла новую культуру вызваленага беларускага народу, перажываючы розныя нягоды... Тужлівы і ўсхваляваны, ён расказаў бы, як у тым часе жыў чалавек, шматмільённы чалавек.

І гэта было-б страшна.

Ён расказаў бы, як паміралаі не магла памерці Сымонава жонка.

Навошта-б ён гэта рабіў, я ня ведаю.

Можа, дзеля свайго вялікага замілаваньня да продкаў і вялікае крыўды за іх.

Самуіл Плаўнік наш сучасьнік. Разам з намі ён жыве на рубяжы двух эпох, на перавале, які, мабыць, пачаў новую гісторыю сусьвету. Разам з намі ён ідзе. Вось дзеля чаго ён у поэзіі жыве па двух кірунках. Ён Ясакар-баечнік і мройнік, ён Бядуля—суровы бытапісальнік, аўтар „маленькіх трагэдый“.

Начлегі ля кастра на берагох Сьлізанкі навучылі Плаўніка і казцы, і спачуваньню, і патрэбе змаганьня.

Рэволюцыю Плаўнік вітаў.

Напярэдадні пятай гадавіны Кастрычніка поэта пісаў:

„Паўдзесятка летаў, паўдзесятка зім
Вульканамі цьвітуць на хартыі сусьвету.
Громам сыпаў гулка успабедны гымн,
Нябёсамі былі знамёны з макаўцьвету.
Проціў нас паўсталі ворагаў палкі,—
Мы чысьцілі іх сьлед вяхоткаю сталёвай,
Хвілямі і днямі ішлі мы праз вякі,—
Мы ў будучыну ішлі насустрач долі новай.
(„Буралом“ ст. 9).

Цікава адзначыць, што апошнім часам Бядуля ўсё больш і больш засланяе Ясакара. Усё больш і больш Бядулява ўвага прыцягваецца сучаснасьцю, усё далей адыходзіць ад яго старадаўняя казка. Нават самы вобраз Беларусі, поэтычнае ўяўленьне пра яе пачынае зьмяняцца ў Бядулі-Ясакара. З „Зачараванага краю“ яна становіцца „маладой партыйкай“. („А Беларусь бязбожніцаю стала, цьвіце, расьце, партыйкай маладой“... „Буралом“, бал. 73).

У сьвятле толькі што сказанага асабліваю цікавасьць набывае адзін з апошніх Бядулевых твораў—аповесьць „Салавей“.

У мае задачы не ўваходзіць блізкі разгляд гэтага вельмі паважнага твору. Прыгадаю толькі чытачу, што гэта аповесьць гісторычная. Гэроем яе, як і трэ‘ было чакаць, зьяўляецца Беларусь, якая прыгнечана і паўстае на сваіх ворагаў.

## VII.

Пярэйдзем да характарыстыкі поэтычных прыёмаў, якімі працуе Бядуля. Іх можна падзяліць на дзьве групы: на групу казачна-романтычных прыёмаў і на групу рэялістычна замотываваных. Павінен зазначыць, што выразнай мяжы між гэтымі дзьвюма групамі ў Бядулявай творчасьці правесьці нельга. Мы маем тут справу не з дзьвюма самастыйнымі стылёвымі структурамі, а з дзьвюма стылёвымі тэндэнцыямі, кірункамі, якія ўвесь час знаходзяцца ў нейкім складаным узаемадзеяньні.

Пачну ад прыёмаў першае групы, ад прыёмаў казачна-романтычных.

Самай вялікай паводле памеру Бядулявай казкай зьяўляецца „Зачарованы край“. Агульны стылёвы характар гэтага твору ў значным стопню прадугледжаны асаблівасьцямі і характарам апрацаванага ў ім матарь‘ялу. Матар‘ялам для „Зачарованага краю“ паслужыла народная казка і народнае мітолёгічнае паданьне. Менавіта ў народнай казцы трэба шукаць стылёвую першаасьнову Бядулявай поэмы. Асабліва прыкметны ўплывы казкі на апавядальнай організацыі „Зачарованага краю“.

Апавядальны ляконізм, аголенасьць сюжэтнага руху, якая часам пераходзіць у схэму, усё гэта так спэцыфічна для казкі, так адчуваецца ў апавяданьні пра пахаджэньне Палесься. Больш таго. Казка бадай ня ведае псыхолёгічнае мотывацыі ўчынкаў сваіх пэрсонажаў, з большага ўнікае якой бы там ні было мотывацыі, апелюючы да асаблівасьцяй эстэтычнага ўспрыйманьня гэтага жанру. Не карыстаецца псыхолёгічнай мотывацыяй у „Зачарованым краю“ і Бядуля. Гэрої поэмы дзейнічаюць пад імпэратыўным уплывам сюжэтнай неабходнасьці, вымагаючы мінімуму нейкай угрунтаванасьці гэтых сваіх дзеяў. Увасабляюць сюжэтную неабходнасьць надзвычайныя сілы: бог, чорт і да т. п.

Ад стылёвых канонаў казкі „Зачарованы край“ розьніцца наяўнасьцю значнага пазаапавядальнага матар‘ялу (Я тут сьвядома спрашчаю пытаньне, пакідаючы ў старане сюжэтнае значэньне пазасюжэтных элемэнтаў мастацкага твору, іх значэньне ў агульнай апавядальнай композыцыі). Так, напрыклад, казка бадай ня ведае пэйзажу[1]).

У інтэрэсах усё таго-ж апавядальнага ляконізму, казка ўнікае апісаньняў, карыстаючыся кароткімі рэмаркамі. Але менавіта пэйзаж складае найбольш значную частку пазасюжэтнага матар‘ялу „Зачарованага краю“. Часам цэлыя самастойныя разьдзелы поэмы зьяўляюцца толькі пэйзажамі. Напрыклад, разьдзелы „На Палескім балоце“ і „Што было да стварэньня Палесься“.

Урэшце, ня кажучы ўжо пра рытмы, рыфмы і строфіку „Зачарованага краю“, вельмі далёкіх ад рытмаў, рыфм і строфікі вуснай поэзіі, такія стылёвыя элемэнты поэмы, як слоўнік, эпітэт, мэтафора

---

[1]) Вельмі цікавым выключэньнем зьяўляюцца казкі, сабраныя А. К. Сяржпутоўскім („Казкі беларусаў Слуцкага павету“). Не спыняючыся на ўстанаўленьні сувязі, якая існуе між Бядулявай казкай-поэмай і народнымі казкамі, я ўсё-ж лічу патрэбным зьвярнуць увагу на цікавую магчымасьць такого набліжэньня.

нек. інш., маюць ізноў жа „кніжны“ характар, зьяўляюцца з большага характэрна Бядулявымі. Азнаёміцца з гэтымі элемэнтамі усё-ж больш зручна на іншых поэтавых творах.

Падам пачатак Бядулявага вершу „Шатан сьмерці“.

„Над зямлёй нясецца чорны шатан сьмерці.
На кані скрыдлатым пяруном грыміць.
Неба запылала, неба разарвецца,—
Уся зямля ў трывозе, як дрыгва дрыжыць.
Над зямлёй нясецца жудасная смага,
Туманом вільготным абхапіла сьвет,
Злыдні разгарнулі залатыя сьцягі.
Сьмерць касою піша мсьцівы свой савет:
„Кроў, агонь і гібель—сэрца майго мэта!
Стогн, кананьн, трупы—асалода мне..“.
(„Пад родным небам“, ст. 41).

Перад намі яскравы ўзор нястрымнай, пышнай, крыху прымітыўнай романтыкі. Характэрна ў гэтым вершы ўсё, пачынаючы ад трактоўкі тэмы і канчаючы эпітэтам, узвышана эмоцыянальным або дэкорацыйным: „жудасная смага“, „залатыя сьцягі“ і інш.

Яшчэ больш паказальны для гэтай галіны Бядулявай творчасьці верш „Кат“. У дачыненьні да жанру „Кат“ зьяўляецца балядай, улюбёнаю формай романтыкаў. Паводле матар'ялу і спосабаў організацыі „Кат“ прымушае прыгадваць баляды Віктара Гюго і Уляндавы. Нават певень, традыцыйны романтычны певень, прымушаны Бядулем сьпяваць у балядзе „Кат“.

„Першы кур пяе. Паўночная гадзіна...
Маўклівы, чорны кот праз мой пакой бяжыць,
Жудасьць, сьмерць і страх плятуцца павуцінай.
Зданьнё вядзе свой сьпеў, зданьнё, як ліст, дрыжыць.
(„Пад родным небам“, ст. 42).

Як бачым, у балядзе скарыстана ўсё поэтычнае начыньне канонічнага романтызму.

У беспасрэднай адпаведнасьці з эмоцыянальным або дэкорацыйным эпітэтам і мэтафора ў гэтай частцы Бядулявых твораў мае гіпэрболічны, дэкорацыйны характар.

Воўкам крывавым пажары
Вылі па полі абшары.
„(Пад родным небам“, бал. 40).

Як збор падобных мэтафор можна было-б працытаваць цалкам Бядуляў верш „Воля“.

Нават Бядуляў сынтакс у гэтых яго вершах мае спэцыфічныя адзнакі романтычнага сынтаксу. Так, мы ня рэдка спатыкаем ў поэты характэрны спосаб безпасрэднага злучэньня паасобных апавядальных адзінак (сказаў) з дапамогаю злучка „і“, напр.

... не паслухаў дудар, захацеў у свой кут,
Ён пусьціўся наўцекі на глебу,
Паляцеў на зямлю і астаўся вісець
Паміж небам і роднай зямлёю;
І пачаў дзед мале ь, і начаў дзед драбнець,
І зрабіўся ён птушкай малою.
(„Пад родным небам“, ст. 96).

Або:

І песьняй зрабіліся страшэнныя стогны пакуты
І мёдам гаючым—пітво злой сьмяротнай атруты.
І сонечнай воляй—на целе вяроўкі і путы.
І сонца агнёвае сэрца прарока спаліла,
І вецер надвоблачны глынуў гарачую сілу,
І цуд небаколерны зьяў над прарочай магілай.
(„Пад родным небам“, ст. 111).

У апошнім урыўку чуюцца ўрачыстыя інтонацыі біблейскіх паданьняў. Магчыма, што ў гэтым адгукнуліся дні, якія Бядуля правёў у эшыбоце. Але так гэта ці ня так, Бядулявы вершы, можа, і не разрахованыя галоўным чынам на слыховае ўспрыйманьне часта вызначаюцца ўласьцівым для іх дэклямацыйным патосам. Праверыўшы гэта ізноўт'кі на сынтаксе, мы пабачым, што Бядуляў романтызм зьяўляецца ў істоце романтызмам рыторычным (ужываю тут гэты тэрмін паза звычайным для яго сэнсам) Яскравы выраз у Бядулявых вершах знайшоў такі часты ў „прамоўнай“ поэзіі прыём, як пабудова вялікага кругасказу пры дапамозе сынтаксоварознапеглых дадатковых сказаў, напр.

„З пылаючых квятаў—вагнішчаў,
У крывавых, грымотных ігрышчаў.
З угор'яў—курганаў сталёвых,
З асілкаў—маякаў дубовых.
З сям'і навальніцаў—віхораў,
З пявучых, міргаючых зорак
Радзіўся прарок.

Да гэтага-ж тыпу сынтаксовых утварэньняў трэба аднесьці нярэдкія ў Бядулі кругасказы, складзеныя з сынтаксова роўналеглых самастойных сказаў, напр.:

Я—спадчына вякоў, сын даўных пакаленьняў,
Я—быстралётны цень тысячалетніх ценяй,
Я—хуткамігі бляск ранейшых мігаценьняў;
Я—тку далей узор нясконччаных тканінаў,
Я—няпрыметны плынь старадўніх ручаінак.
Я—кволая трава вячыстых лугавінак.
(„Пад родным небам“, ст. 52).

Ня менш характэрны для дэклямацыйна-узьнятага стылю, для поэзіі, разрахаванай на беспасрэдны вонкавы эфэкт, рыторычныя пералічэньні, якія спатыкаюцца ў Бядулі, напр.:

— Ленін—Конфуцы,
— Ленін—Будда,
— Ленін—Майсей.
— Ленін - Хрыстос
— Ленін—Магамэт і г. д. („Буралом“, бал. 25).

Гэтага мала. Бядулява рытарычнасьць выявілася ня толькі ў сынтаксе, ня толькі ў композыцыі сказу, але і ў композыцыі ўсяго твору цалкам. Шэраг рэчаў і ў зборніку „Пад родным небам“ і ў зборніку „Буралом“ арганізаваны ці паводле прынцыпу антытэтычнага супроцьстаўленьня паасобных частак (верш „Бездарожжа“, зб. „Пад родным небам“), ці зьяўляюцца тым, што можна назваць композыцыйным сылёгізмам. У апошнім выпадку супроцьстаўленьне частак замяняюцца іх лёгічна строгаю сузалежнасьцю з тэмаю, якая вынікае, як вывад („Пад няволяй“—зборнік „Пад родным небам“ і „У кузьні“—зборнік „Буралом“).

Рыторычна-дэклямацыйны сынтакс лёгічна-абумоўленая композыцыя, усё гэта зьяўляецца паказчыкам наяўнасьці ў Бядулявай творчасьці своеасаблівага „парнаскага“ струменю. У гісторыі поэзіі „парнасізм“ быў вышэйшым пунктам панаваньня строга-пропорцыйных форм, празрыстага композыцыйнага рысунку, іерархічнага паднача-леньня паасобных элемэнтаў у мэтафоры. Назваць Бядулю парнасцам нельга, але паказаць на некаторы нахіл поэты да „парнасізму“ трэба. Менавіта „парнасізм“ дазволіў Бядулі ўзьняць такую рэч, як стварэньне „Чырвонага календара“, у якім дадзены вершы на ўсе рэволюцыйныя сьвяты, у парадку іх гадовага кругазвароту.

Романтызм і „парнасізм“ не перашкаджаюць адзін аднаму ў Бядулявай творчасьці. Зьвяном, якое злучае гэтыя дзьве стылёвыя тэндэнцыі, зьяўляецца так характэрная для поэты рыторычнасьці. Элемэнты таго і другога стылёвага кірунку ціхамірна бытуюць часта ў адным і тым-жа Бядулявым вершы.

Цяпер некалькі слоў наконт прозаічнага стылю аўтара „Зачараванага краю“.

У Бядулевай прозе, як і ў вершах, мы знаходзім два стылёвыя цэнтры. Адзін з элемэнтамі романтычнымі ў вершаванай поэтавай творчасьці і характарызуецца той-жа агульнай эмоцыянальнай узьнесласьцю, той-жа рыторычнай пышнасьцю фразэолёгіі, пра якія ўжо казаў. Найбольш поўнае выражэньне гэты стылёвы кірунак знайшоў у апавяданьні „Бондар“. Вось характэрныя для ўсяго апавяданьня ўрыўкі.

.Іронічна глядзеў здольны бондар на людзей і на ўвесь сьвет. Ён глядзеў на іх звышшу, як той чарадзей, каторы ведае вельмі важную, вялікую таемнасьць. што трымае ў руках сваіх лёс-шчасьц усёй зямлі. Ён ведае, але зайдросна й цьвёрда трымае гэты скарб. захаваны ў сваёй душы, бо людзі яшчэ не дарасьлі, каб аб гэтым ведаць“...

„І ён. як той кіт, што трымае аграмадную кулю нашай зямлі на сваім карку, трымаў ў сваёй душы аграмадную радасьць сваёй творчасьці, нікому аб гэтым ня кажучы, нібы які-колечы вялікі композытар. маляр ці прарок, ён бы жадаў выказаць масам людзкім тое, што полымем бухала з яго душы і сэрцы...

(„На зачарованых гонях“, ст. 65)

Кажуць, што, прачытаўшы выпадкова новы роман Жорж Занд, Мюссэ на двух першых балонах выкрасьліў алоўкам больш дзесяці лішніх, паводле яго думкі, прыкметнікаў. Жорж Занд пакрыўдзілася і цалкам слушна. Сапраўды, тое, што для Мюссэ здавалася хібаю стылю, было толькі стылёвымі асаблівасьцямі. Ад Бядулявага „Бондара“ Мюссэ пакінуў бы вельмі мала і памыліўся-б. Романтычная пышнасьць фразы, награмаджэньнеаднаго параўнаньня на другое, аднэй мэтафоры на другую, іх гіпэрболічны характар, устраёны, можа быць, крыху па тэатральнаму ўстраёны слоўнік—усё гэта ў даным выпадку асаблівасьці стылю, яго асабістыя адзнакі.

Цікава адзначыць у „Бондару“ месца, калі анафорычная ўзгодненасьць апавядальнага шэрагу сказаў пераводзіць Бядуляву прозу кудысьць на межы між прозаю і вершам. Падам гэта месца, скараціўшы яго.—

„Ці-ж можна словамі перадаць як Даніла падбіраў к лё н у..
„Ці-ж можна апавядаць аб тым. як ён пераглядаў...
„Ці-ж можна казаць аб тым, як ён відзеў яўнабачным вокам гэнія...
„Ці-ж можна адмалёўваць пры гэтым жывую ігру яго твару...

Чытач ужо, напэўна, паставіў пададзеныя радкі каля дэкламацыйна патосных Бядулявых вершаў.

Другі стылёвы цэнтр Бядулявай прозы мае сувязь з яго вершатворчым „парнасізмам“. Прыкладам гэтай стылёвай тэндэнцыі можа служыць новэля „Пяць лыжак заціркі“. У апошняй зьвяртае ўвагу матэматычна разрахаваны кемпозыцыйны падзел (новэля падзяляецца на дзьве роўныя супроцьпастаўленыя часткі) і дзеля гэтага, бадай прытчавая стрыманасьць апавяданьня, якое ўнікае дэталяй і спыняецца толькі ля істотнага.

Мюссэ ня давялося працаваць сваім алоўкам над гэтай новэляй.

Апошнія прозаічныя Бядулевы рэчы гавораць пра імкненьне знайсьці нейкую стылёвую роўнадзейную. У аповесьці „Салавей“ Бядуля пракладвае шлях да стварэньня шырокіх гісторыка-бытавых палотнаў, да поэтычнага аналізу складаных душэўных становішчаў.

Вострыя куты яго прозаічнага стылю згладжаны ў аповесьці. Паасобныя элемэнты ўроўнаважаны. Я ня буду дзівіцца, калі поэтавы стылёвыя шуканьні ў далейшым прывядуць яго да сынтэтычнага пабудаваньня свайго вялікага стылю. Зьяўленьне і характар „Салаўя“ у дачыненьні да гэтага вельмі сымптоматычна.

VIII.

Ёсьць у ім нейкая вялікая кунега, сур‘ёзная, уважлівая кволасьць. Яго хада дзівосна лёгкая.

Часам здаецца, што ён сьлізгаецца па нейкіх яму аднаму даступных раўніцах, не перасуваецца, а пляніруе...

Часам здаецца, што вось, вось яшчэ крок—і ён паляціць, чуць дакранаючыся зямлі. Гэтаму ўражаньню вельмі дапамагае яго маленькая шчуплая постаць, вузкія плечы, вялікія на выкаце вочы.

Ён выглядае вельмі стомленым.

Густая сетка зморшчак, як павучыньне, пакрывае яго твар. Праменьчыкамі зьбіраюцца зморшчкі ў куточках павек, роўналёглыя, як транспарант, праразаюць чало, двума глыбокімі столкамі ідуць ад носа да вуснаў.

Але рыхтык рукою зганяе шэрае павучыньне ўсьмешка, якая зьяўляецца час ад часу. Яна сьціплая, яна ўзьнікае, як быццам стыдаючыся сама сябе. Але як асьвятляе яна струджаны, вельмі струджаны твар.

Я прыгадваю яго, калі ён сядзіць у Інбелкульце ля рабочага стала!

Рэдкая прозаічная гарбата ледзь дыміцца ў шклянцы між папер і папак. Грэбуючы паглядае Бядуля навокал, кратае пальцамі; ён пра нешта гаварыў толькі што. Калі яго вочы спатыкалі шклянку гарбаты, яго твар набываў яшчэ больш сумнага выгляду. Але якая жвавасьць зазіхацела на яго твары, калі я згадаў пра ўдалы верш аднаго з яго таварышаў!

Усьміхаючыся сьціпла і нястрымна, ён цытаваў гэты верш. Цешыўся бясконца.

---

Ён сын вясковаса балаголы.
Яго имя Самуіл.
Яго прозьвішча—Плаўвік.

Ён учуў у шуме пушчы жудасны і захопны посьвіст, адрозьніў у ім дзівоснае хрустаньне, якое страхам агартае. Ён, ясакар, казачнік і романтык, які закахаўся ў старадаўні паганскі міт, сталы госьць у краіне нязвычнай, у краіне пачварных пропорцый і тэмпаў.

Ён, Ясакар, казачнік, але ў апошнюю хвіліну ён здрадзіў казцы, кінуў яе.

Ён Ясакар, казачнік, але ён ніколі не напіша казачнага эпосу, але „Зачарованы край“ ніколі ня будзе яго апошнімм прытулкам.

Яго сапраўднае імя не Самуіл, а Зьмітрок...

Яго сапраўднае прозьвішча не Плаўнік, а Бядуля...

Бо вялікая замілаванасьць яго да людзей, цяжкі яго боль і крыўда за людзей.

Бо яшчэ ходзіць недзе сьцень няўміраючай Сымонавай жонкі— „высокая, тонкая і худая кабета з запаўшымі грудзьмі, з бледным падобным да воску тварам, у парванай вопратцы. У аднэй руцэ трымае яна маленькага Юзіка, каторы дрыгае голымі, сінімі ад холаду ножкамі і цягнецца бледнымі вустачкамі да пустых грудзей маці.“

Бо ўпартай нянавісьцю ненавідзіць ён прыгнёт, жабрацтва, цемру.

Бо моцнаю ведаю ён ведае, што, жадаючы прыгожага Заўтра, трэба змагацца і працаваць, змагацца і працаваць Сёньня.

Масква, 22/VI—1928 г.

**Аўг. Хлябцэвіч**

# Ян Баршчэўскі—першы беларускі пісьменьнік XIX веку і ягонае апісаньне партызанскага руху беларускіх сялян

Беларускае пісьменства ў XVII і XVIII вякох хіліцца да заняпаду. Апрача соцыяльна-політычных умоў і клясавага стану пластоў, што монополізавалі „культуру“, гэтаму дапамагала штучная, ненародная мова, якою пісаліся кнігі. Бібліограф беларускае літаратуры Рамуальд Зямкевіч у сваім дасьледваньні „Jan Barščeŭski—piersy biełaruski piśmieńnik XIX stalećcia“ прыходзіць да вываду, што пісаць і друкаваць можна было адно тэю моваю, якою напісана „сьвятое пісьмо“ (біблія). Кніжная мова была штучнаю з прычыны таго, што ўтварылася з царкоўнаславянскае мовы (правільней—„стара-баўгарскае“), у склад якое ўвайшлі цэлыя словы і тэхнічныя выразы жывых моў: беларускае, украінскае і польскае. Зразумела, што штучна ўтвораная мова не магла задаволіць вымаганьняў і запатрабаваньняў беларускага народу, асабліва неасьвечаных сялян таго часу. Дзеля гэтага, такая мова павінна была саступіць месца чыста народнай, зразумелай мове. Гэты жыцьцёвы процэс замены мовы назіраецца ў другой палавіне XVIII в., калі базыліяны, езуіты і піяры пачынаюць усё больш і больш карыстацца чыста народнаю моваю ў казаньнях „да простага люду“. Паступова клерыкалы, што кіравалі тады рэлігійным атуманьваньнем народу, выкарыстоўваюць гэтую мову для сваіх клерыкальна-панскіх інтарэсаў і рэлігійнага дурману, выкладаючы гэтаю моваю кніжкі—„казаньні“ і „кантычкі“, малітвы. Апрача гэтага, езуіты ў сваіх школьных драмах і камэдыях, дзеля панскага сьмеху і зьдзеку выводзяць простага беларускага селяніна з ягонаю моваю, бо самі паны гутараць „панскаю моваю“. Такім парадкам беларуская народая мова пачынала распаўсюджвацца і гэтым дала магчымасьць выявіцца беларускім пісьменьнікам з шляхты.

Першым беларускім пісьменьнікам у XIX в. трэба ўважаць не Манькоўскага, „Энэіда“ якога зрабілася вядомай пасьля 1880 году, а Яна Баршчэўскага, першы верш якога, напісаны ў 1809 годзе, зрабіў яго вядомым поэтам у ніжняй частцы Беларусі. Арадзіўся Баршчэўскі ў 1790 годзе ў Марачах на Віцебшчыне. Сын шляхціца, Баршчэўскі быў душою вясёлай шляхоцкай грамады. Першым беларускім вершам Баршчэўскага была песьня: „Ах, чым-жа твая, дзеванька, галоўка занята“. Верш гэты быў напісаны Баршчэўскім у 1809 годзе—у пэрыод ягонага захапленьня „Максімавічаўнай“. У 1812 г. Баршчэўскі быў жывым сьведкам вялікае вайны з Наполеонам і партызанскага змаганьня сялян у лясох з французамі, якія ўцякалі. Адылі, партызаны, карыстаючыся сваёю арганізацыяй, распраўляліся і са сваімі панамі. Пад уражаньнем гэтых падзей Баршчэўскі напісаў верш „Рабункі мужыкоў“, што не дайшоў да нас цалкам. З нашага пункту гледжаньня гэта не „рабункі“, а клясавая вайна мужыкоў з панамі. Верш адносіцца да 1812 году, калі ўрад хацеў выкарыстаць сялян для зьнішчэньня французаў, якія аставаліся ад Наполеонавай арміі. Сяляне ахвоча гэтае

скарысталі і нават зарганізавалі некалькі партызанскіх аддзелаў, якія ўважалі паноў за ворагаў і нападалі на іхныя сядзібы—„каб мы з імі двор лупілі“. Сустрэўшы дзе „пана“ ці „аканома“, і калі тыя былі сялянскімі „крыўдзіцелямі“, няшчадна распраўляліся з імі. Верш „Рабункі мужыкоў“ адлюстроўвае элемэнты клясавага змаганьня на Беларусі яшчэ ў 1812 годзе, і таму мы ўважаем яго цікавым для характэрыстыкі ўзаемадачыненьняў сялян і паноў у той час.

У вершы сказана: „як пранцуская сіла із-за Дзьвіны наступіла“. Справа ў тым, што баявая абстаноўка была тады наступная: „У момант пачатку кампаніі 12-га году на поўнач ад Палесься знаходзілася 1-я армія Барклая-дэ-Толі, якая базавалася на Дзьвіну (110 тыс.) і 2-я армія Багратыона, якая базавалася на Бярэзіну. Ваенны дарадчык імпэратара Аляксандра, суворы тэорэтык Пфуль, выходзячы з стратэгічных ідэй Бюлавага, меркаваў дзейнічаць аднэй з гэтых арміяў на Напалеонавы зносіны, калі ён пагоніцца за другою. У Пфулевым пляне вялікае значэньне меў умацаваны лягер ля Дрысы—тэт-дэ-пон на Заходняй Дзьвіне. куды павінна была адыходзіць 1-я армія, каб даць магчымасьць 2-й арміі ўдарыць на Напалеонавы зносіны. Плян меў на ўвазе прынесьці ў ахвяру Напалеонавага нападу адно Літву і Беларусь ды захаваць карэнныя расійскія краіны. Адылі, Напалеонавы зносіны на Дзьвіне расьцягваліся ўсяго на 300 кілёмэтраў. Пры наяўным стасунку сіл, трэ' было даць разьвіцца Напалеонаваму руйнаваньню на 800 клм., ад Нёмна да Масквы, каб зносіны яго апынуліся сапраўды ў бездапаможным стане. Звыш гэтага, трэ' было выгадаць пэўны час, каб даць разьвіцца процэсу распаданьня ў вялікай арміі, якая пераўжывала вялікае замяшчаньне ўжо ў пэрыод падыходу да расійскіх меж. Пфулева памылка была адно ў маштабе; у васноўным-жа ідэі Бюлавага зьмяшчалі ў сабе здаровы асяродак. Падзел нашых сіл паводля Пфулевага пляну прынёс тую карысьць, што зьявіўся формальнай асноваю для адмовы ўступіць у пачатку вайны ў рашучы бой з Напалеонам; пасьля злучэньня абедзьвюх арміяў пад Смаленскам вялікі бой быў ужо політычнай канечнасьцю; ён адбыўся пад Барадзіным, калі манэўраная здольнасьць Вялікай арміі ўжо дужа зьменшылася і ў лічнасьці Напалеон ужо ня шмат чым пераважаў войска Кутузавага, які аб'яднаў камандаваньне 1-й і 2-й арміямі“ [1]).

Напалеон меў магчымасьць у 1812 годзе дасягнуць значнага эфэкту, кінуўшы рэволюцыйныя поклічы ў масы прыгоннага сялянства; магчымасьці для выбуху новае Пугачоўшчыны былі наяўнымі. Вайна 1812 году так рэзка вылучаецца ў сьвядомасьці расійцаў і атрымала найменьне „Отечественной“ якраз з прычыны страху вышэйшых кляс перад позыцыяй, якую магло заняць сялянства ў дачыненьні да Напалеона. Адылі апошні з бегам часу выяўляў усё больш рэакцыйныя тэндэнцыі. Ён меў на ўвазе далучыць Літву і Беларусь да Польшчы; сялянскае паўстаньне значна ўскладніла-б гэтую задачу і знайшло-б, пэўна, паважны водгук і ў панскім гэрцогстве Варшаўскім. Пакладаючыся на патройную перавагу ў лічнасьці сваёй арміі, на перавагу свайго стратэгічнага і тактычнага мастацтва над расійскім кіраваньнем, Напалеон адмовіўся ад выкарыстаньня політычных лёзунгаў, без якіх вялікія заваёвы, аднак, ня робяцца. Быць можа, што працяжная практыка работы Напалеона з францускімі войскамі, якія

[1]) А. Свечин.—Эволюция военного искусства, т. I. Государств. издательство. М. 1927 г. Л., ст. 373—374.

паўсюдна ў кароткі час абуралі супроць сябе жыхарства сваімі рэквізыцыямі, зьдзірствам, недысцыплінаванасьцю, гвалтамі і магчымасьць выкарыстаць для агітацыі ў беларускім жыхарстве адно палякоў і польскіх паноў зьявіліся меркаваньнямі, што паўстрымалі Наполеона хоць-бы ад спробы дакляраваць волю беларускім сялянам.

Расійцы, з свайго боку, шырака выкарысталі палітычную зброю як на змаганьне ў тыле Наполеона, гэтак і ў шэрагах ягонай арміі. Што-ж да разьлічваньняў на партызанскі рух сялянства ў Беларусі, дык ніжэй прыведзенага вершу відаць, што „рабункі мужыкоў“ былі не на карысьць мясцовых паноў, што сяляне-партызаны разьлічваліся і з сваймі панамі. Ува ўсякім выпадку гэты верш паказвае, што беларускія сяляне таксама, як і „французы“, „двор лупілі“ і „доўга там гулялі, што хацелі пілі, бралі“ і г. д.

Аўтар-шляхціц, хочучы паказаць сялян рабаўнікамі, дае гэтым разам з тым паказаньне сьведкі пра тое, што сяляне ўважалі сваіх „паноў“ ворагамі ў большай ступені, чымся французаў, з якімі яны дзейнічалі солідарна ў панскім двары:

## „Рабункі мужыкоў“

Як пранцуская сіла
Із-за Дзьвіны наступіла,
Нам стала карціць,
Што-б парадак прыўраціць.

Аднака-ж сядзелі ціха.
Аж тут прыносіць ліха
Пранцузоў у наш двор,
І нутка дзелаць здор.

Клеці паразьбівалі,
Паноў нашых загналі,
Нас казалі пазьбіраць
І гарэлку піць і браць.
Пранцузы нас пахвалялі,
Аб нашым краю пыталі.

І на мігі нас прасілі,
Каб мы з імі двор лупілі.
І мы доўга там гулялі,
Што хацелі пілі, бралі:
Той браў плацьця на вяроўку,

Чым абліцыць жонкі шнуроўку,
Цыны, медзі, сколькі мог,
Чым абліць дуду і рог...

Іншы быдла занімаець,
Другі адзеньне хапаець,
Іншы толькі есьць і п‘ець,
Другі шабляй куры б‘ець.

. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

Калі ўжо так гуляюць,
Пачулі—з пушак страляюць,
„Галоп! Галоп“—закрычалі.

І ўжо з двору высыпалі.
У класіках за дзьве мілі,
Як прянцузы вышлі самі,
Мужыкі былі панамі.

І калі так нагулялі,
Рады сабе ўкладалі.
Першы Мінка сеў за стол,
Ў куту глядзіць, як сакол,
На крэсьле, дзе сядзеў пан,
Пуза, як барабан.

А ногі як разапнець,—
Хоць з калёсамі праедзь...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хоць аўтар, як шляхціц, і зьдзекуецца з Мінкі, які расьсеўся на панскім крэсьле, аднак дачыненьне сялян да паноў паказана. Дужа характэрна першым беларускім пісьменьнікам (Яну Баршчэўскаму і В. Дуніну-Марцынкевічу) наступная рыса іхнага сьветапогляду: як мастакі, Ян Баршчэўскі і Дунін-Марцынкевіч ухоплівалі жабрацкую беднасьць і незайздросную долю беларускіх сялян, хоць і дапушчалі іронію мужыка над панамі, але, як чыстакроўныя шляхціцы, не рабілі адсюль нямінучых высноў пра змаганьне работнікаў і сялян за паляпшэньне свайго жыцьця, знаходзячы выйсьце з сялянскае бядоты і зьдзічэньня ў патрыярхальнай дображаданасьці і „бацькаўскай“ руплівасьці паноў аб сваім „быдле“. Адылі, паўз волю поэтаў і гэтая патрыярхальнасьць падпадала пад асьмейваньне. У тым-жа вершы ‚Рабункі мужыкоў“ Ян Баршчэўскі піша:

„Помню я тыя векі,
Як жылі паноў прэдкі:
Нас у рэкруты ня бралі,
Ах! што за паны бывалі.
Хоць на лбе валос і нет,
Ды ўжо-ж вусы—на ўвесь сьвет.

Два рукавы мелі красных
І яшчэ два ззаду запасных,
З аднэй палы ў тых паноў,
Семера-б пашыў штаноў.
А гэтыя і нас наелі,
І самі ўжо згалелі.

Полы сабе паабразалі,
Хвасты ззаду паадсякалі
І цяпер ужо і сякай
Кісай ззаду...

Прыедзеш у двор, баішся,
Пакуль к пану зблізышся
Доўга галаву скрабець...
Яшчэ-ж гэта не канец,
Палажы-ж на стол яец.
І тут яшчэ страх бярэць
Ждаць, што пан запяець...

Хай мне хоць наб'юць штаны,
Да ўжо ня будуць паны.
. . . . . . . . . . . . . . .

Калі пранусуіць хоць дзень:
Дадуць—як у берасьцень [1]...

Водка крэпка—мера спора.—
Будзем піць—забудзем гора.
Пойдзем ад хаты да хаты,
Ці хто голы, ці багаты;
А як нам будзіць весяло:
Сабярэцца ўсё сяло.

Цыццы—Браццы—ураднік надходзіць. .
А Дзям'ян Грышку—за хахол водзіць.
Як расхадзіўся Пракоп:
Ды Мінку па мордзе —хроп.

Відзіць Мінка, што тут худа...
Абярнуўся: туды, сюды;
Бедны, наўцекі дзярэць:
А куды відзіць—туды бярэць...

Як бачыце, шляхоцкі інстынкт Баршчэўскага ў сяброўстве з ураднікамі і з тымі „вернападданымі", што па тагачаснаму былі панскімі выхавальнікамі, якія спрабавалі ўгаманіць Дзям'яна і Мінку. Мінка-ж быў выражэньнем клясавае помсты. Спачатку ён быў лёкаем пана Маліноўскага з сяла Сьнітаўкі. Гэты-ж Мінка—асоба ня выдуманая—ён камандаваў пасьля партызанскай грамадою, быў злоўлены і павешаны ў с. Сьнітаўках.

Адно-адзінае, на што селянін можа спадзявацца ў сваім горы, на погляд Баршчэўскага—гэта панская „міласьць". У вершы „Гарэліца" Ян Баршчэўскі, апісваючы перажываньні п'янога чалавека, хоча паказаць „Пана" ня толькі паблажлівым, але і ўважлівым—„яшчэ хлопцу чарку водкі прынесьць прыкажаць":

Калі-ж пойдзець уся хатка, дык жонцы вяроўка,
А мне з панамі разьбірацца ня будзець-то лоўка.
А я-ж пану пакланюся: панок, маё гора,
Жыта касіў, сена грабіў цэлы дзень учора.
Вось тут пан прасьціць і міласьць пакажаць,
Яшчэ хлопцу водкі мне прынесьць прыкажаць.

(1843 г.) [2].

Верш Яна Баршчэўскага „Рабункі мужыкоў" распаўсюджваўся ў рукапісным выглядзе на Беларусі, асабліва сярод шляхты. Справа ў тым, што прадстаўнікі апошняй, уважаючы сябе за палякоў, карысталіся ў бытавым жыцьці беларускаю моваю [3]), асабліва-ж для эксплёатацыі працы.

---

1) Берасьцень—стары разьбіты гаршчок, абвязаны бярозавым лыкам служыць на захаваньне ў ім мёду, смалы ці зярна.

2) Czeczot—Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny. Wilno, 1846.

3) Rypinski.—Bialoruś. Paris, 1840 Str 112,202.

Скончыўшы школу ў Полацку, Ян Баршчэўскі спрабаваў паступіць у Віленскі унівэрсытэт, але ня меў магчымасьці і зрабіўся хатнім настаўнікам ў багатых дамох. Пасьля накіраваўся ў Ленінград, дзе і служыў у морскім ведамсьцьве, але хутка кінуў гэтую службу ды зноў аднавіў пэдагогічную дзейнасьць

У Ленінградзе Баршчэўскі пазнаёміўся з Міцкевічам, а пасьля і з Шэўчэнкам, што зрабіла вялікі ўплыў на літаратурную творчасьць Баршчэўскага, які ў 1840 годзе згуртаваў навакол сябе моладзь і пачаў выдаваць штогодныя альманахі.

Альманах Баршчэўскага „Незабудка" выходзіў ад 1840 да 1844 г. Выйшла ўсяго 4 тамы. Крытыка спагадна паставілася да гэтага выданьня. Найбольш паважнаю працаю Баршчэўскага ўважаўся „Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach" (Petersburg, 1844-1846 г.).

У прадмове да гэтае кніжкі шмат цікавага матарыялу пра Беларускую літаратуру зьмясьціў Рамуальд Падбярэскі. Кніжка гэтая складзена з народных беларускіх апавяданьняў і легенд, сабраных Баршчэўскім на працягу ўсяго свайго жыцьця. Крытыка паставілася да гэтае кніжкі дужа прыхільна (Biblioteka Warszawska, 1844, tom I, str. 229-231), а да прадмовы Падбярэскага—адмоўна, за лішне вялікую сампапэўнасьць (Biblioteka Warszawska, 1845, tom I, str.668-671). Усе гэтыя творы Баршчэўскага напісаны папольску, бо пабеларуску было забаронена выдаваць.

Баляды, вершы Баршчэўскага, а такжа і „Шляхціц Завальня", паводля сваіх мотываў і зьместу ўзяты з беларускага жыцьця.

З твораў Баршчэўскага беларускаю моваю ёсьць толькі два вершы, надрукованыя ў альманахах Падбярэскага „Rocznik Literacki" (Petersburg, 1843. str. 216), „Да чым-жа твая, дзеванька, галоўка занята" і „Гарэліца" ды адзін няпоўны верш „Рабункі мужыкоў" у прадмове Падбярэскага да кнігі „Szlachcic Zawalnia", str. XXVIII—XXXII. Пра гэты верш „Рабункі мужыкоў" паведамляе і Аляксандар Рыпінскі ў сваёй кнізе „Białoruś" (Paris, 1840) і дапаўняе яго некалькімі строфамі, нявыданымі ў Падбярэскага (str. 204, 207, 208).

Пра значэньне твораў Баршчэўскага гэтак кажа польскі гісторык Юліян Барташэвіч: „Вершы Баршчэўскага распаўсюджваліся па ўсіх руках. Умелі іх напамяць дзеткі, а нянькі пялі пры калысках песьні Баршчэўскага, які зрабіўся сапраўды популярным і адзіным песьняром свайго краю". Пад канец жыцьця Баршчэўскі перабраўся ў Чуднавае на Валыні, дзе і памёр у 1851 годзе

Вядомы бібліограф беларускае літаратуры Рамуальд Зямкевіч, якому мы абавязаны бібліографічным дасьледваньнем пра Баршчэўскага, у заключэньне свае працы ўважае Баршчэўскага за першага беларускага пісьменьніка ў пачатку XIX в., бо раней за 1809 год ніхто ня пісаў, а „Энэіду" Манькоўскага Р. Зямкевіч залічае да 1830 году, дзеля таго, што толькі ў гэтым годзе пачынаюць гаварыць і пісаць пра гэтую поэму.

**Уладзімер Дубоўка**

# „Landstrykere“ Кнута Гамсуна

* * *

Гэты новы роман Кнута Гамсуна, у перакладзе з рукапісу, выдрукаваны украінскаю моваю пад назваю „Бродяги“ [1]). Перадача самога загалоўку прымушае яшчэ і яшчэ раз задумацца, ці ня варта нам выкінуць з ужытку тэрмін „пераклад“, замяніўшы яго „тлумачэньнем“. Не здарма ж у народнай мове тэрміну „пераклад“ няма, ёсьць або „тлумачэньне“, або „пераказ“. Сапраўды, і ў даным разе „Landstrykere“ больш набліжаецца па сэнсу да вандраўніка, вандругі, парасійску странника, скитальца, чымся да слова брадзяга, бадзяга. Праўда, у романе дадзена цэлая мастацкая галерэя такіх вандраўнікоў, але з іх пад назваю „брадзягі“, у пашыраным у нас сэнсе, можна было-б аб'яднаць толькі хіба двух катрыншчыкаў (армяніна і вангэрца), якія ўсё-ж, параўнаўча, выпадковы. Выбрана апошняе значэньне. Гэта пацьвярджае лішні раз, што бадай заўсёды даецца нешта сярэдняе, даецца не літаральны пераклад, а тлумачэньне паводле сэнсу. Наконт існасьці і зьместу тэрміну „пераклад“ варта пагаварыць і ў сувязі з павялічэньнем на беларускай мове перакладаў з іншакраёвых моваў, у сувязі з выпрацаваньнем „перакладальніцкіх“ традыцый, што грае вельмі паважную ролю. Але пра гэта—другім разам.

* * *

У лісьце Кнута Гамсуна, аўтограф з якога далучаны да кнігі, сказана: „мне часта надсылаюць свае творы—поэмы і романы—пісьменьнікі Расіі і Украіны. Гэта—сардэчнае прывітаньне ад таварышаў у пісьменстве. Я хацеў-бы, каб гэтая мая кніга была сяброўскім водгукам на тыя прывітаньні“.

* * *

Украінцам шэньціць. Іхнія выдавецтвы пачалі друкаваньне поўнага збору твораў Джэка Лёндана, Гюі дэ Мопасана; у перакладзе М. Рыльскага выдрукаваны поўны пераклад „Пана Тадэуша“ А. Міцкевіча, выдрукавана першая частка „Фаўста“ Гётэ... Як бачым, зьявіўся пераклад і з норвэскай мовы, нават з рукапісу, зьявіўся пераклад выдатнага твору ня менш выдатнага пісьменьніка.

Надзвычайна вялікае значэньне мае пераклад выдатных твораў на тую ці іншую мову. У пачатку зазначана, што немагчыма ў самым лепшым перакладзе перадаць першатвор. Ён будзе горшым і вельмі рэдка можа быць ідэнтычным, або і лепшым. Гэтым і тлумачыцца, што некаторыя творы, асабліва вершаваныя, перакладваюцца па некалькі разоў. Так, напрыклад, разоў з пяток перакладалі на расійскую мову Гётэ ў „Фаўст“. Сёлета выдрукавана першая частка новага

---

[1]) Кнут Гамсун. Бродяги. Роман. Авторизований переклад з рукопису з останнім портретом Гамсуна і автографом до українського видання. + 423 бал. in 1/8 1928 г. Видання „Книгоспілкі“, надрукавана 4.000 паасобнікаў, цана 3 рублі.

перакладу, зробленага перад сьмерцю В. Брусавым. У прадмове ад рэдакцыі выданьня дадзены вельмі цікавыя думкі наконт перакладаў наогул. Пра гэтыя думкі павінен ведаць кожны працаўнік у галіне культуры. Напісана там вось што:

„В судьбах каждой национальной литературы всегда является важным событием усвоение того или иного произведения мировой литературы или целого творчества мирового поэта. Для германской литературы XVIII века было огромным событием, когда вышел немецкий перевод творений Шекспира Шлегеля-Тика. В русской литературе 20-х годов XIX века было праздником, когда Н. И. Гнедич напечатал перевод „Илиады“. Появляясь в художественном переводе, поэтическое произведение мирового значения как бы вновь рождается и получает новое бессмертие. И вместе с тем оно живит и укрепляет ту национальную литературу, которой оно теперь усвоено.

Усвоение мирового произведения иному языку и литературе, конечно, является заслугой и подвигом поэта-переводчика. Это—трудный творческий акт, и нередко бывает, что такой перевод является результатом многолетнего труда, иногда—труда всей жизни. Мы чтим заслуги Н. А. Полевого, как переводчика Шекспира, В. А. Лихачёва как переводчика Мольера, И. Ф. Анненского как переводчика Эврипида.

Но художественный перевод мирового шедевра никогда не бывает и не может быть результатом только личных усилий и дарований данного переводчика. Переводчик-поэт неизбежно усваивает себе всю предшествующую переводческую традицию, овладевает присущим данной литературной эпохе пониманием переводимого классика, получает в свое распоряжение все достижения языка, стиха и стиля, какие только накопились в национальной литературе. Такой перевод неизбежно является итогом и смотром литературной культуры данного народа“ [1]).

На вялікі жаль, у разгледжаным перакладзе романа Кнута Гамсуна не паказана прозьвішча перакладчыка, і мы ня ведаем, хто беспасрэдна дапамог „другому нараджэньню“ гэтага шэдэўру.

Трэба толькі заўважыць, што ўкраінская мова з гонарам і бляскам вытрымала іспыт. Яе дасягненьні—багацьце адценьнямі, выпрацаванасьць фразэолёгіі — выклікаюць пашану, замілаваньне і, няхай зразумеюць нас украінцы, зайздрасьць.

Магчыма, што мяне зьвінавацяць у заўзятасьці, але, на маю думку, мова большасьці перакладных твораў значна багацей, прыгажэй, больш выпрацавана, чымся мова некаторых сучасных арыгінальных украінскіх твораў. Ня ведаю, чым гэта тлумачыцца. Ведаю толькі, што, чытаючы, напрыклад, і гэты роман—„Landstrykere“,—чуеш як быццам нейкую асаблівую, чараўнічую музыку [2]). У такім выглядзе пераклад роману Кнута Гамсуна можа быць сьмела залічаны ў лік найбольшых

---

[1]) Русские и мировые классики. Гёте. Фауст. 1928 г. ГИЗ. Перевод Валерия Брюсова. Редакция и к мментарии А. В. Луначарского и А. Г. Габричевского. Цытата ўзята з прадмовы рэдакцыі, на балонах 3—4.

[2]) Ня вялікі жаль, гэтага пакуль што ня можна сказаць наконт некаторых перакладаў на беларускую мову. Чытаючы, напрыклад, перакла-ы Гаўрука і Мардавілкі, здаецца, што нейкія медзьвядзі граюць на арганах. Трапляюцца жудасныя „лунныя лапы“. У Гаўрука (гл. „Кветкі з чужых палёў“, бал. 38) нават даходзіць вось даякіх штук: „Калі ты ня бачыў вясельля на твары прыгожым, ты вясельля ніколі ня бачыў“.

дасягненьняў украінскага мастацкага слова[1]). Прыходзіцца настойліва радзіць беларускім чытачом, якія зацікавяцца самім творам (калі не памыляюся, яго яшчэ няма ў перакладзе на беларускую мову), прачытаць яго па-украінску, адчуўшы вялікую падвойную асалоду: ад успрыйманьня твору і ад успрыйманьня ўкраінскае мовы.

* * *

„Landstrykere“ Кнута Гамсуна захапляюць мастацкасьцю сваёй апрацоўкі, разьвіцьцём сюжэту, дасканалай композыцыяй, а такжа-рэялістычнымі тонамі. У кароткім аглядзе, які разросься з рэцэнзіі, нельга падрабязгова высьвятліць гэта. Ня робячы формальна-мастацкага аналізу роману, усё-ж не магу не згадаць пра некаторыя дэталі.

Аўтар, апісваючы сваіх гэрояў, да вядомага краю нідзе не называе іх беспасрэдна „вандраўнікамі“, „бадзягамі“. Гэта назва нарыхтоўваецца ў чытача сама сабою. І наколькі ўзмацняецца ўражаньне, калі мы першы раз спатыкаем яе ў тэксьце.

„Тут недавно була домівка! дорослі й діти зріднилися з цим місцем, тут були їх радощі й незгоди,—тепер хата була порожня. Жадного звуку не було чути навколо, лише гомін водоспаду в лісі. Бродяги всюди тягають за собою своє одірване коріння“... (бал. 198).

Гэтае ўражаньне яшчэ больш павялічваецца, калі назва, як водгульле, бадай у такім-жа злучэньні зьяўляецца крыху пазьней.

„Що-ж скоїлось з Едевартом? Він мав великі й дужі руки, м'язи його були в порядку, та душа його була надламана. Ось він від'їжджаэ, зруйнований і безрідний, поволі він втрачав останні звязки з батьківщиною; куди-б його не кинуло, коріння він волочив за собою“ (бал. 219).

Кнут Гамсун больш ня ўжывае такой пазвы, ён ня выяўляе сваіх адносін да вандроўніцтва наогул. Але калі мы прачытваем усю кнігу, калі чытаем перадапошнія радкі—„Він завжди мав таку маніру—від'їздити не попрощавшись!“ і апошнія—„Та він поїхаў—надовго“!—Нам мімаволі прыгадваецца цудоўны Багдановічаў верш „Эмігранцкая песьня“, а менавіта—наступныя радкі:

Ёсьць на сьвеце такія бадзягі,
Што ня вераць ні ў бога, ні ў чорта.
Ім грыемны стракатыя сьцягі
Караблёў акіянскага порта.

І няма ім каго тут пакінуць,
Бо нікога на сьвеце не маюць.
Усё ім роўна: ці жыць, ці загінуць,—
Аднага яны моцна жадаюць:

Пабываць у краёх незнаёмых
Ды зазнаць там і шчасьця і гора,
І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора!.[2]).

Ізноў кажу-я даю толькі драбочкі з композыцыі гэтага шэдэўру. Ня спыняючыся ля рэшты прыёмаў портрэтызацыі, пэйзажу і г. д., лічу патрэбным згадаць, як Кнут Гамсун падае, так бы сказаць, „половую проблему“. Чытаючы яго апісаньні нават разбэшчаных у гэтых

---

1) Калі не зважаць на некаторыя дробязі, даволі спрэчныя, як „пенсію за те, що доглядав телеграфну лінію“ (ст. 15), або звычайныя ў кожнай вялікай працы недагляды, якіх з пару можна адшукаць на апошніх балонах. Але—сапраўды гэта дробязі.

2) М. М. Багдановіч, т. І., ст. 68.

адносінах людзей (паводзіны шкіпэроў у часе сушэньня рыбы), не атрымліваеш таго прыкрага ўражаньня, якое атрымліваеш, чытаючы некаторых сучасных расійскіх, а, часткай, і нашых пісьменьнікаў Апошнім трэба навучыцца такім апісаньням якраз у Кнута Гамсуна... Для прыкладу я падам такі вынятак. Адзін з галоўных гэрояў роману, Эдэварт, пасьля некаторых прыгодаў пападае ў засьценак Дойэн, дзе жыве маладзіца Лёвізэ Магрэтэ. Яе гаспадар некалькі гадоў сядзіць у вастрозе за забойства, але яна кажа Эдэварту, што ён у Амэрыцы. Юнак захапіўся прыгожаю маладзіцаю, затрымаўся на некалькі часу, упарадкаваў гаспадарку. Усе ночы яны праводзілі разам, ня меўшы інтымнай сувязі Раптам Лёвізэ Магрэтэ атрымала паведамленьне, што муж выпушчаны да тэрміну і вернецца бадай заўтра. Эдэварту трэба адыходзіць. Апошняя ноч. І вось, шаноўны чытачу, пабачце, наколькі цнотна перадае Кнут Гамсун гэтую апошнюю ноч.

— „Значить, ты кохаеш його?“.

— Так, сказала вона.--Але я почуваю до тебе таку вдячність за те, що ти був такой ласкавий до мене.

Деякий час вони лежали мовчки, потім він почав цілувати її і вона не противилася, а коли він, соромливий і недосвідчений, схотів більшого, вона відповіла:

— Ні, я не наважуюсь.

Зовсім засоромившись і зніяковівши, він заховав своє абличчя на її грудях, вони лежали ще деякий час, він чув, як під тонкою сорочкою стукало її серцэ. Раптом вона підвела його голову, поцілувала його й прошепотіла прямо в рот.

— Не можна-ж?

— Можна,--пошепки відповів він їй.

І вона насмілилася. Вона все-ж таки пішла на це, з матернього почуття, жаліючи, з любови, хто знає? Вона відкрила йому таємницю, й багато годин зряду тяглося дивовижне безумство й сп'яніння, святкувала сама природа, не було жодного зіпсуття, він все продовжував бути ненаситимим, а вона ні разу не попросила помилування.

„Почало вже світати, коли вона пішла від нього“ (бал. 97). Я падаў самае рызыкоўнае месца. І гэтае месца якраз сьцьвярджае як найлепш выказаную мною раней думку.

* * *

Соцыяльная вартасьць гэтага роману? Кнут Гамсун не пролетарскі пісьменьнік, але Кнут Гамсун высока таленавіты пісьменьнік: чэсны чалавек. У зьвязку з гэтым, ён чэсна і памастацку дае нам сучаснае жыцьцё (жыцьцё апошніх дзесяцілецьцяў) Норвэгіі. На прыкладах паселішч Полэна і Фосэнланда перад намі разгортваецца вялікая карціна соцыяльных зрухаў. Паморскае сялянства паўпэрызуецца, эмігруе ў Амэрыку, або ідзе на заработкі да Кноержаў, якіх можна уважаць зьбіральным іменем. Усе гэтыя вандроўнікі, уся галерэя тыпаў, некаторыя з якіх няўмірушчыя (як Аўгуст), не выпадковы. Соцыяльная няроўнасьць і перамяшчэньне капіталістычных цэнтраў уплывае на павялічэньне іх шэрагаў. Яны не аднолькавыя. Яны падзяляюцца на многа груп, у залежнасьці ад акалічнасьцяй. Але тры асноўныя групы мы можам вызначыць: гэта тых, якія ўкараняюцца на новым месцы, папоўняць шэрагі дробнай буржуазіі; тых, якія застануцца вечнымі вандроўнікамі, чэснымі пролетарамі і, ўрэшце, тых, якія застануцца вандраваць басякуючы.

Адначасна, можа і напэўна супроць волі, Кнут Гамсун сваім раманам падмацоўвае тую марксаўскую думку, якая констатуе перабудову гаспадаркі наогул, перабудову сялянскае гаспадаркі ў асобку. Вёска, якою яна ўяўлялася романтыкам, памірае, мяняе формы сваёй гаспадаркі, да некаторага стопню урбанізуецца. Гэта ўсё адбываецца ці паступова, няпрыкметна, як у Францыі, ці рэволюцыйным шляхам, як у нас, ці разгублена-змагаючыся, як у Норвэгіі.

Адміраньне старой вёскі выклікае розныя пачуцьці. Пачуцьці рэгулююцца асабістымі сымпатыямі: хто больш, хто менш, а хто і зусім ніяк—зьвязаны з вёскай. У пісьменьнікаў, у мастацкіх творах мы знаходзім рознае, у залежнасьці ад гэтых асабістых сымпатый. У Мопасана, напрыклад, у романе „Монт-Орыоль“ мы бачым параўнаўча лёгкі пераход сельскай гаспадаркі да новых ступеняу. Гэты пераход падрыхтаваны папярэдняй эпохай. Магчыма, такое ўражаньне зьяўляецца ў выніку таго, што ўзята, хоць і тыповая, адна сям'я Орыоляй.

У многіх расійскіх пісьменьнікаў мы бачым пераход, зьвязаны з самымі рознастайнымі перажываньнямі, змаганьнем пачуцьцяў, праклёнамі, і, адначасна, малітвамі па адрасу „стальной“ коньніцы, напрыклад. У украінцаў падобнае, але ўскладнёнае некаторымі акалічнасьцямі. У беларускіх пісьменьнікаў пакуль што тыповага мы нічога не заўважаем, за выключэньнем роману К. Чорнага „Зямля“. Але гэты роман яшчэ ня выдрукаваны і спасылацца ня яго ня прыходзіцца.

У Кнута Гамсуна разгорнута трагэдыя такога пераходу. Гэтым павялічваецца каштоўнасьць роману.

* * *

Імкненьне да вандраваньня ў норвэжцаў можна было-б лічыць ня новым, яно спрадвечнае. Прыморскі народ, „варягі“, вікінгі“, яны вядомы ў гісторыі якраз як вандраўнікі. Яшчэ да Колюмба бывалі яны не аднойчы ў Паўночнай Амэрыцы, пра што сьведчаць апошнія досьледы. Бывалі там, як заваёўнікі. Але якое зьмяшчэньне роўніц!—зараз едуць у Амэрыку як заваяваныя, заваяваныя капіталам. Так, жалезныя законы разьвіцьця сусьветнае экономікі перамяшчаюць цэнтры прыцягненьня,ператасоўваюць іх. Сконцэнтраваны капітал у Амэрыцы патрабуе шмат таннай рабочай сілы, бо ён можа, на жаль, вытвараць з дапамогаю доляру цэлыя дзівы. Кажу—на жаль.

Прыдзе час, калі такім цэнтрам прыцягненьня будзе Саюз ССР. Колёсальны размах плянавае гаспадаркі будзе патрабаваць сотні тысяч новых працаўнікоў. Нявычэрпныя энергэтычныя рэсурсы нашых рэспублік сьведчаць пра гэта. Тады Амэрыка перастане быць магнэсам для бедакоў многіх краін, як гэта ёсьць зараз. Для гэтага трэба многа і ўпарта працаваць. Пачатак працы зроблены.

* * *

Хто-ж яны, гэтыя „бадзягі“, гэтыя „Landstrykere“? Іх шмат, яны рознастайны. Вось—Аўгуст. Яго некаторыя рысы нагадваюць Горкаўскіх тыпаў, яго адмоўнае ў проектаваньнях нагадвае Мігуцкага, выведзенага Крапівой. Яго станоўчае—перавага оптымізму над пэсымізмам. Гэта вечны ініцыятар, будзька.

Каб давесьці каштоўнасьць сваіх проектаў, ён гатовы нахлусіць і пра індыйскія скарбы, паказаўшы і ключы ад іх, і пра нячыстую сілу. Каб дапамагчы зьдзейсьніць проэкт—ён гатовы на ўсё. Так, каб прымусіць Полэнцаў асушыць балота, ён навучыў Эзру крычаць на балоце за „здань“, за загрузшага там шкіпера Скора.

Калі Аўгуст бачыць зьдзейсьненым свой проэкт, ён адыходзіць ад яго, ён кідае яго...

Гэта—кавалачкі да портрэту, які дадзены Гамсунам.

Пайст—гэта тып яўрэя, гандляра гадзіньнікамі. Адначасна—тып „вечного жида". Пададзены ён так, што выклікае да сябе сымпатыю, ня гледзячы на шмат адмоўных рысаў, якія Пайст мае ў сваім характары. Падаючы Пайста, Кнут Гамсун падыходзіў да яго проста, як да кожнага чалавека. У такім выглядзе Пайст добрая зброя супроць антысэміцкай хвалі. Бяда некаторых пісьменьнікаў заключаецца ў тым, што яны часта „снисходят" да выяўленьня station ўчага ў яўрэйстве. Гэту рэч вельмі трапна высьмяяў Зьмітрок Бядуля ў сваёй аповесьці „Язэп Крушынскі". „Крушынскі адкрыў у сябе выпадкова гэта пачуцьцё, калі аднаго разу казаў сыну каваля: „Ты, Рахмі'ька, да жыда не падобны!" Гэтым ён шчыра хацеў пахваліць Рахмільку, аднак заўважыў па вачох Рахмількі, што той пакрыўджаны. Тады Крушынскі задумаўся над гэтай пахвальбою—над сваімі словамі і зразумеў, што ён гэтым зганіў „жыдоў". Як бы ён, Крушынскі, ні агітаваў супроць антысэмітызму, аднак у яго глыбока ўнутры ёсьць гэтае „а ўсё-ж такі"...[1]).

Портрэт Пайста сьведчыць нам, што такіх думак ані званьня няма ў выдатнага Гамсуна.

Эдэварт, Іоахім, Эзра, Кноерф і інш—гэта ўсё новыя і новыя тыпы. Пададзены яны так, што вы забываецеся на гэта, бачыце жывых людзей.

* * *

Частка норвэжцаў, якія езьдзілі ў Амэрыку, вярнуліся на бацькаўшчыну. Але не надоўга. „Ты чарователь неустанный, ты не слабеющий магнит", сказаў быў В. Брусаў наконт гораду. Гэты магнэс пацягнуў назад тых, хто пабыў раз у Амэрыцы. Нават Лёвізэ Магрэтэ, якая была захоплена Эдэвартам, якая мела дачку ад яго, вярнулася ў Амэрыку, пакаштаваўшы атруты вялікага гораду. Сумна для романтыкаў, але гэта—шлях большасьці чалавецтва. Сумна, але ня можна „раяти рибам, яку їм вибирати путь у морських глибинах, і небесним зорям, яку їм творити путь"... (бал. 362).

Мо' гэта законы экономікі зьнітаваліся з адвечным імкненьнем норвэжцаў, варагаў, вікінгаў да вандраваньня? Чытачу, пачытайце роман, пашукайце адказу на гэтыя пытаньні...

30 чэрвеня 1928 г.
Масква.

[1]) „Узвышша", № 2 (8), 1928 г. бал. 45.

**Мікола Равенскі**

# Гармонізаваньне беларускіх народных песень маскоўскімі композытарамі

1.

Італьлянская музыка была ў свой час у творчых адносінах колёніяй Нідэрляндаў. Найбольш вядомыя музыкі-композытары былі нідэрлянцамі. Імёны Окенгэйма, Жоскіна, Вільляэрта і інш. вымаўляліся з вялікаю пашанаю ў той час, калі імёны тубыльныя хаваліся пад засьцілаю невядомасьці, ня маючы магчымасьці змагацца з модаю на нідэрлянцаў. Гэта мода ахапіла была ўсю музычную Італію, асабліва ў першай палове XVI стагодзьдзя.

Расейская музыка да зьяўленьня Глінкі знаходзілася ў нямецкіх руках, якія уплывалі на яе ня толькі моральна, але і зьместам, прышчапляючы да расейскае музыкі склад свае, нямецкае народнае творчасьці. Адначасна, яны атрымлівалі карысьць матар'яльную, засланяючы постаці мастакоў тубыльных.

Панаваньне нідэрлянцаў у Італіі вяло да таго, што творы італьлянскіх композытараў былі копіямі з твораў нідэрлянцаў, пакуль не зьявіліся вялікія заснавальнікі рымскай і венецэйскіх школ—Палестрына і Габрыэльлі, якія ўвялі ў музыку элемэнты італьлянскае народнасьці.

Тое-ж самае наглядалася і ў Расіі, але насьледаваньне гэтае ня мела выключнага кірунку на нямецкія ўзоры. У сваю чаргу і Італія здолела дапамагчы паслабленьню нямецкіх уплываў у расійскай музыцы. Расійская композыцыя ня была самастойнаю такжа, як ня была італьлянская музыка ў XVI ст., але яна, расейская музыка, перажывала ўплывы не аднаго, а двох зусім розных народаў. Дзякуючы гэтаму насьлядаваньне ў расейскай музыцы больш складанае і менш прыкметнае, чымся гэта было ў дапалестрынаўскай Італіі. Фактычны зрух і выяўленьне свайго музычнага 'блічча належыць геніяльнаму композытару Глінку, які выразіў народны дух у прыгожых мастацкіх творах, карыстаючыся скарбам свайго народу—народнымі песьнямі. [1]).

Сказанае даводзіць пра тое, што народныя песьні—гэта багацьце і аснова вялікае музычнае будучыны.

Зусім зразумела, што мы, беларусы, надаём гэтаму пытаньню вялікае значэньне, якое з кожным годам усё павялічваецца. Дазволю сабе спыніцца на некаторых папярэдніх заўвагах гэтага кірунку.

Народная песьня мае свае асаблівасьці ў мэлёдыі, гармоніі, рытмах. Гэтыя асаблівасьці выяўляюцца ў спэцыфічных адценьнях у кожнай нацыянальнасьці. Рымскі-Корсакаў кажа, што пазанацыянальнай музыкі няма. Сапраўды, кожная музыка, якую прызвычаіліся разглядаць як агульналюдзкую, усё такі нацыянальна.

---

[1]) Вядома, пра што будзе казана далей, беларускае паходжаньне Глінкі (паходзіў з беларускай Смаленшчыны). Вядома такжа, што ён скарыстаў шмат беларускіх народных мэлёдый у сваёй творчасьці (напрыклад, —нават шырока вядомы „Камарынскі"—паходзіць ад беларускай Лявоніхі беспасярэдна, якая была запісана Глінкам у с. Камарынскім на Смаленшчыне і затым ужо згарманізавана для спажытку расейскага народу).

Народная песьня аснавана не на раскладзе акорду на яго складальныя тоны, а на гаме і такім чынам, што з трох тонаў узапар ніколі ня зложыцца акорду. Выключэньні могуць быць, але вельмі рэдка. Усе народныя песьні задуманы без гармоніі, і гармонія да народнай песьні зьяўляецца дадаткам, які робіцца паводле асабістага густу композытара. Мэлёдыя, якая падпадае пад процэс гармонізацыі, у значным памеры ўплывоўвае на гэтую гармонію паводле духу, выключаючы, зразумела, тыя гармоніі, якія супярэчаць мэлёдыі сваім характарам.

Стройная і разумная гармонізацыя зьяўляецца вытлумачэньнем мэлёдыі, а такжа падкрэсьленьнем і вычсьненьнем поэтычнага зьместу песьні.

Калі расейскія народныя песьні супроцьлеглы маршавым і танцавальным, дык тым больш гэта датычыцца беларускіх, якія маюць больш нахілу да сьпяваньня, чым да танцу.

Угонка падобнай песьні ў мэтрычныя рамкі прыводзіць яе да рытмічнай абмяжаванасьці, калечыць яе. Бясспрэчна, у нас ёсьць шмат песень, якія суладжаны ў квадратовым разьмеры, але ўсе гэтыя песьні больш позьняга пахаджэньня.

## 2

У сваім артыкульчыку пра беларускую народную песьню, які зьмешчаны ў зборніку Гімн'у [1]) (в. V, 1925 г.) па этнографічнай сэкцыі нейкі І. К. Здановіч гаворыць вось што: „Белорусский народ, хотя и менее талантливый, чем его соседи, все же имеет и свою песню, не лишенную известного интереса и художественного значения". У гэтым-жа артыкульчыку пададзены прыклады беларускіх народных песень, у ліку 21, частка якіх, бязумоўна, належыць творчасьці беларускага селяніна, але якія ня зусім яскрава адлюстроўваюць вёску. Адчуваецца ў гэтых песьнях нейкая прыцятасьць, я сказаў бы нават „куртатасьць", зусім не ўласьцівая беларускай народнай творчасьці (маючы на ўвазе ў гэтым выпадку перш за ўсё мэтро-рытмовую галіну). Гэта будзе зусім зразумелым тады, калі мы прыгадаем, што ўсе песьні запісаны грамадзянінам Здановічам ад сваёй маці—сялянкі з мястэчка Сяльца, Пружанскага павету, на Гарадзеншчыне. Не ўласьцівыя для беларускай песьні асаблівасьці можна вытлумачыць мяшчанскім асяродкам, у якім знаходзілася яго маці, а таксама адсутнасьцю крытычна-мастацкага пачуцьця ў таго, хто рабіў запісы [2]).

Калі грам. Здановіч робіць свой вывад наконт таленавітасьці беларускага народу, грунтуючыся на двух-трох дзесятках запісаных ім у мястэчку Сяльцы песьняў, дык гэта перш за ўсё прымушае нас усумніцца ў таленавітасьці самога Здановіча [3]). Сапраўды, гэты Здановіч думае, што ўся беларуская музычная народная творчасьць засяроджана ў мястэчку Сяльцы. Чалавеку, які прэтэндуе на годнасьць навуковага працаўніка, варта было-б азнаёміцца з беларускай народнай песьняй як належыць. Для такога знаёмства трэба ўзяць ня

---

[1]) Расейскі Інстытут Музычных Навук у Маскве.

[2]) Рымскі-Корсакаў, напрыклад, пра свае запісы народных песень гаворыць вось што: „Я строго избегал всего, что мне казалось пошлым и подозрительной верности". Але-ж гэта выдатны мастак, і з яго прынцыпамі грам. Здановіч абавязкова павінен быць знаёмы...

[3]) Магчыма, што грам. Здановіч якраз і хацеў свае аўтабіографічныя рысы навязаць усяму беларускаму народу. Мы павінны растлумачыць яму, што і ў нашы дні частка менш цэлага, значыцца, асаблівасьці дасьледчыка Гімн'у не зьяўляюцца асаблівасьцямі Беларусі.

песьні ускрайны, а трэба ўзяць песьні цэнтральнае Беларусі, якія незалежны ад уплываў. Для прыкладу можна ўзяць любую песьню, хоць-бы жніўную, або вясельную, якія займаюць у рытмічных адносінах зусім самастойнае становішча.

Наконт гэтага красамоўна сьведчаць факты, на якія спасылаліся ўжо ў нашым друку; выдатнейшыя композытары Шопэн, Манюшка, Глінка і інш. карысталіся беларускімі мэлёдыямі пры складаньні сваіх твораў, знаходзячы ў беларускай мэлёдыі вялікія музычна-мастацкія каштоўнасьці.

Усё гэта, як і згадка пра Здановіча, пададзена мною для таго, каб падкрэсьліць, наколькі дзікія і неўгрунтаваныя погляды на беларускую песьню існуюць нават у тых працаўнікоў, якія паходзяць з беларускай этнографічнай тэрыторыі, а гаксама ў тых працаўнікоў, якія рэдагуюць такія „досьледы“ [1]).

Адначасна ўсё гэта ўскладае на беларускіх культурных працаўнікоў наогул, а на беларускіх музык асабліва, вялікі абавязак: уважнаю працаю папулярызаваць народную песьню, даводзіць urbi et orbi пра яе надзвычайна вялікія якасьці. Аджа-ж, як бачыце, і на падставе гэтага робяць вывады наконт таленавітасьці народу наогул [2])...

3

Калі мы зьвернемся да паасобных зборнікаў розных аўтараў, як беларускіх, так і расейскіх, у якіх зьмешчаны гармонізацыі народных песень, дык пабачым, што ў іх вялікім ліку вельмі цяжка адшукаць сапраўды мастацкія рэчы. Гэта лішні раз пацьвярджае тое, што наша народная песьня ня можа мірыцца з чужой для сябе гармоніяй.

Асабліва не пасуе для яе чатырохгалосная гармонія з сяміступенным падыходам і абавязковым поўным кадансам. Вядомы расейскі композытар і выдатны знаўца народнае песьні Кастальскі выдрукаваў зборнік народных песень, якім адчыняе новыя шляхі для гармоніі, зьвязанай з народнай песьняй. У тым жа кірунку другі знаўца народнае песьні проф. А. В. Нікольскі разьвіў тэорыю пра гукарад народнае песьні, грунтуючыся на прынцыпах музычнае акустыкі— „тэорыя асноўных ладоў“ проф. А. Н. Гарбузова.

А. В. Нікольскі прыводзіць мэлёдыі песень, ў якіх выкрываецца вельмі складаная сетка падзяленьняў, каторыя прымушаюць адмовіцца ад залішняй пераацэнкі падабенства да гамаў мажору і мінору. Апрача ўсяго, такія мэлёдыі пазбаўлены тэндэнцый апіраньня на тоніку і дамінанту, дзякуючы чаму значэньне I і V ступеняй адпадае зусім. А. В. Нікольскі кажа: „Песьні, аснаваныя на мажорнай гаме, ня тыповы для народнай творчасьці таму, што ў іх занадта прыкметны адбітак гарадзкога ўплыву і музыкі штучнай (самай пры гэтым ня высокай якасьці)“.

З усяго сказанага відаць, што гармонізаваць, даць мастацкую апрацоўку народнай песьні ня проста і лёгка, як здаецца некаторым на першы погляд. Некаторыя музыкі, пачынаючы гармонізаваньне народнае песьні, вельмі часта дазваляюць рознага гатунку вольнасьці, перайначаньні, урэзкі і да т. п. для больш

---

1) У даным выпадку трэба мець на ўвазе расейскі Інстытут Музычных Навук.

2) Ад рэдакцыі. Яшчэ ў першым нумары сваё часопісі ўзвышаўцы ўзьнялі пытаньне пра неабходнасьць больш грунтоўнай працы па вывучэньні і популярызаваньні беларускае музыкі. Гэта-ж паўторана ў селетнім № 3 (9) часопісі, у Дубоўкавым артыкуле. Спадзяёмся, што п даныя тут факты прымусяць прысьпешыць разгляд і ажыцьцяўленьне гэтага пытаньня.

удобнай „угонкі“ у рамкі мэтрыкі і гармонійных прыёмаў. У выніку гэтага песьня губляе прастор, волю, а такжа характар народнае творчасьці. Усе падобныя „переделочки“ вынікаюць з падручнікаў пра гармонію: тут усё дакладна, паступова, „падстрыжана“. Але гэта дакладнасьць і паступовасьць у сваю чаргу грунтуецца не на навукова тэорытычных довадах, а на ўмоўнасьцях і выбары больш прыдатнага для сябе шляху, што дасягаецца практыкаю і не заўсёды бывае пагоджана з музычнаю акустыкаю. Да гэтага пытаньня мне яшчэ давядзецца вярнуцца, высьветліць яго больш грунтоўна. Зараз-жа я абмяжуюся кароткімі заўвагамі паданымі вышэй і перайду непасрэдна да тэмы.

4

У 1923 г. у Маскве ўтварылася была „беларуская песенная камісія“, якая мела на мэце гармонізаваньне зборніку беларускіх народных песень, сабраных нябожчыкам проф М. Янчуком. [1]).

Камісія гармонізавала 250 народных песень, якія ў рукапісах былі перададзены ў Народны Комісарыят Асьветы БССР. Некаторыя з гэтых гармонізацый выконваліся на концэртах у Менску, большасьць жа заставалася невядомай для беларускай грамадзкасьці да апошняга часу. Ня ўсе гэтыя гарамонізацыі, што можна сьцьвярджаць апрыорна, былі роўнацэннымі. Склад камісіі быў даволі не аднолькавы: два композытары з эўропейскімі імёнамі(М. М. Іпалітаў-Іванаў і А. Т. Грэчанінаў), рэшта— менш вядомая, або і зусім невядомая ў музычных колах. Зразумела, што не аднолькавай каштоўнасьці быў і пасланы матар'ял. Апрача ўсяго, некаторыя (як раз менш гядомыя) композытары падалі былі аж па 30—60 нумароў. Ужо адно гэта павінна было зьвярнуць увагу выдавецтваў на патрэбу крытычнага адбору матар'ялаў для друку.

Можна было спадзявацца нават, што ў Менску будзе ўтворана адмысловая комісія, якая перагледзіць згаданыя творы і з боку захаванасьці ў іх беларускіх нацыянальных асаблівасьцяй.

Сёлета ў Менску вышаў з друку (праз пяць гадоў) першы выпуск гэтых гармонізацый пад назваю „Беларускія народныя песьні“ [2]).

Першае, што няпрыемна ўражае кожнага, гэта ігнараваньне памяці зьбіральніка гэтых песень нябожчыка М. Янчука: нідзе не адзначана, што песьні сабраны і запісаны ім...

Але пакінем гэта на сумленьні тых, хто ў гэтым вінен, зараз-жа азнаёмімся са зьместам зборніку, глянем, якую каштоўнасьць атрымалі нашы народныя песьні разам з мастацкай апрацоўкай. Нам ня прыдзецца спыняцца на дэталёвым аналізе ўсіх песень, якія ўвайшлі ў гэты зборнік. Абмяжуемся разглядам некалькіх. Гэткі агляд цікавы для нас затым, што гэта першы зборнік, зложаны з гармонізацыі расейскіх композытараў розных кірункаў і рознай таленавітасьці. Паводле колькасьці нумароў на першым месцы ў зборніку стаяць Я. Прохараў і М. Аладаў. З іх і пачнём. Павінен толькі перапрасіць чытачоў за наяўнасьць некаторых спэцыяльных тэрмінаў, без якіх цяжка абысьціся ў гэтым аглядзе.

[1]) Склад камісіі: народны артысты РСФСР проф. М. М. Іпалітаў-Іванаў (старшыня), заслужоныя артысты: А. Т. Грэчанінаў, А. А. Аленін, Я. В. Прохараў. У процэсе працы комісіі ў яе быў уведзены праф. А. В. Нікольскі і быў рэкамэндаваны Прохаравым тав. Аладаў.

[2]) „Беларускія народныя песьні -сольныя і харавыя, з акомпанімэнтам фортэпіяно, гармонізаваныя Аладавым, Аленіным, проф. М. М. Іпалітавым-Іванавым, Я. Прохаравым; выпуск першы; Бел. Дзярж. Выдавецтва, Менск, 1928 г. + 61 in 1/8 з дадаткам двох балон заўважаных памылак, надрукавана 1.500 паасобнікаў.

№ 1. Народная дзіцячая песьня-гульня. Гарм. Я. Прохарава. Мэтр. на $^2/_4$, тональнасьць g-dur. Мэлёдыя вельмі простая, складаецца ўсяго з трох гукаў „соль“, „ля“ і „сі“, якія ўтвараюць два інтэрвалы вял. сэкунду і вял. тэрцыю. Формальная працяжнасьць мэлёдыі адна фраза, якая паўтараецца некалькі разоў да канца песьні.

Цяпер азнаёмімся з гармоніяй, якая далучана да гэтай песьні для ігры на фортэпіяно.

Першыя $2^1/_2$ такты аснаваны на дамінаньце (V ст. гамы g-dur)—паводле характару лагодныя. Далей ідуць $4^1/_2$ такты з пераходам на органны пункт на тоніцы. У правіцы (верхні радок) уведзены долі 16-х, якія кругабежна паўтараюцца двойчы. Першая чвэрць 7-га такту, з падваеньнем тэрцыі ў басе і альце, гучыць тандэтна, монотонна і бескалярова, не дае ўражаньня сьвежасьці. Далей ідзе новая фігурацыя і гармонія ходам зацяганага разьвязаньня асноўнага тону і сэптымы, якая разьвязана ў асноўны від тонікі. Урэшце III ст. з падваеньнем ад 6 акорду, ізноў I і раптам.. правал у нейкае прадоньне: усе галасы сігаюць на цэлую актаву ўніз (жаданьне выразіць „страх“!!) на словах „воўк за гарою“, зьяўляецца $^5/_6$ ак. II ст. з паніжанаю квінтай. Далей тая-ж ступень з падвышаным асноўным тонам квінты і тэрцыі і ўжо на складкох „ро-ю“ зьяўляецца некаторае заспакаеньне ў трызгуках III і I ступеняй. „Шэры за крутою“—ізноў скок але ўжо ў гору—каля 2 актаваў; той-жа $^5/_6$ ак. II ст. на першай чвэрці, на другой—зьніжаны 5; разьвязаньне прыходзіць у 6 ак. I ст., далей—VI. Усім гэтым мяркуецца выказаць жаль з тае прычыны, што „шэры за крутою“. На словах „воўка не баюся“ мяняецца фігурацыя, і 4 такты праходзяць у руху восьмымі Наастатак даходзім да 21 такту, да канца песьні „пайду й буду“, які дадзены дакладна і няўхільна паводле падручніка Рымскага-Корсакавага пра гармонію завершаным кадансам, дамінантнай, тонікай Апошняя—абавязкова на ўзмоцненай долі такту. Але з прычыны таго, што ўся народная песьня суладжана ўсяго на 3 гуках, г. зн. на гуках „соль“, „ля“ і „сі“, а правілы падручніка трэ‘ было выканаць, дык хто можа забараніць гармонізатару падагнаць беларускую песьню пад гэтыя правілы, увагнаць яе ў чужыя рамкі?!—Так і зроблена, „нічтоже сумняшеся“: каб зрабіць поўны каданс, гармонізатар уводзіць новы гук „до“ і робіць „перестановочку“ „ля“ заместа „соль“. патрэбная сэптыма і квінта дамінанты тут як тут, значыцца—поўны канчатак гатовы!

Цяперака глянем, наколькі дапушчаная і як бы (на першы погляд) малюсенькая вольнасьць адлюстравалася на самой песьні. Было ўжо выясьнена, што песьня суладжана толькі на 3-х гуках, г. зн. у 2-х інтэрвалах вял. 2 і вял. 3. Значыцца, гэта песьня месьціцца ў аб‘ёме тэрцыі. Зьяўленьне „до“ пашырае песьню да кварты, а самога інтэрвалу ў канцы—„соль“-„до“—і наступнай малой 3 „до“-„ля“,—інтэрвалаў зусім чужых гэтай песьні,—вельмі моцна ўплывае на зьначаньне характару самой песьні. Гэтае зьначаньне перш за ўсё адбірае ад разгляданай песьні—дзіцячай—яе наіўнасьць і стройную прастату.

Усё гэта гаворыць за тое, што гармонізатар меў на ўвазе перш за ўсё правілы гармоніі. Для ажыцьцяўленьня гэтых правіл былі зроблены напатрэбныя дадаткі ў выглядзе ч. 4, на шкоду самой мэлёдыі.

Стылю, так гармонійнага, як і фігуральнага, няма. Шмат якія акорды выклікаюць сумненьне, не на месцы, сілком навязаны. У зьвязку з гэтым, пра мастацкасьць апрацоўкі гаварыць не даводзіцца. У акомпанімэнце наогул адсутнічае фортэпіянны стыль, што сьведчыць пра незнаёмства з ім гармонізатара і пра вельмі абмяжаванае знаёмства

з інструмэнтам. Усе гармонійныя звароты і злучкі між імі характарны пры гармонізацыі харалаў (царкоўныя прот. мэлёдыі), з прычыны чаго песьня прыймае новы выгляд паводле характару, траціць свой уласны. Гэта першы нумар у разгляданым зборніку.

№ 2. Лады-ладушкі. Калыханка. Гарм. М. Аладава Што гэта песьня ёсьць калыханка, можна не згадзіцца. Характар яе даволі рухавы, і moderato, выстаўленае ў пачатку песьні, на практыцы наўдачу ці можа быць зьдзейсьнена (калі шанаваць дух народнае песьні наогул). Пра самую мэлёдыю гэтае песьні цяжка сказаць што-небудзь. Гэтую песьню я памятаю з малых гадоў, але ў зборніку зьмешчана нешта ня тое. Перш за ўсё мяне дзівіць наяўнасьць паўтону „рэ-до дыез“ ў самым пачатку, ад чаго песьня прымае мажорнасьць, г. зн. выяўленую тональнасьць, а яна павінна быць, на мой погляд, мінорнай. Тым больш гэтага можна спадзявацца пры назве калыханка, для якой больш натуральна танальнасьць мінорная, але ніяк не мажорная (тут танальнасьць A-dur). Вельмі цікава параўнаць гэту песьню з арыгіналам і высьніць, хто вінаваціца скажэньня: запісвальнік ці гармонізатар? Фортэпіянная частка паводле фігуральнага стылю вытрымана. Але мотыў гэтае часткі надзвычайна трафарэтны і запазычаны... з практыкаваньняў для развіцьця тэхнікі на фортэпіяно. Ён уводзіць аднастайнасьць, монотоннасьць, сухасьць... Адсутнасьць акордаў і вытрыманасьць ад пачатку да канца органнага пункту на тоніцы хоць і гучыць крыху настырліва, усё-ж магчыма. Наогул-жа ўтараваньне напісана набліжаючыся да фортэпіяннага стылю.

№ 3. Гулі.—Калыханка. Гарм. Я. Прохарава. Мэлёдыя a-moll, рух у $^2/_4$, аб‘ём песьні малая сэкста, суладжана, як і № 1, на 3 гуках, але пераскокамі ч. 4 і м. 3. Рытмовы рух першы такт восьмымі, другі чвэрткамі і г. д. —гэта найбольш характэрныя рысы, якія характарызуюць мэлёдыю песьні. У 6—7 тактах чамусьці ўводзяцца 16-ыя, нагадваючы сабою нешта ўсходняе (мабыць для рознастайнасьці!!). Але-ж гармонізацыі ў зборніку гэта ня вольная апрацоўка, дзеля гэтага мэлёдыя павінна быць нечапанай. Вольнасьці перайначваюць характар песьні, надаюць ёй нешта „частушачнае“.

Фортэпіяннае ўтараваньне, як і ў № 1, аснавана на самай простай гармоніі, што і трэ‘ было правесьці да канца на фігурацыю ад 3—9 такта. Гармонійны стыль да канца ня вытрыманы зьяўленьнем зусім непатрэбнае ноты. Яна тут абсолютна не на месцы і сваім рэзкім дысонансам гучыць вельмі груба. Калі гармонізатару дужа хацелася ўвесьці нонакорды, дык куды-ж зьнікла і дэцыма, якая была перад тым і якая зьяўляецца цераз такт ізноў, хоць і ў іншым прызначэньні?

№ 4. А-а, люлі. Калыханка. Гарм. А. Аленіна. Разьмер на $^2/_4$, у танальнасьці g-moll. Мэлёдыя ў сваім аб‘ёме ахапляе поўную актаву. Фортэпіяннае ўтараваньне,хоць больш менш і вытрымана ў стылях гармонійным і фігуральным, але сваім жвавым рытмовым рухам затушоўвае мэлёдыю песьні, асабліва ў 9 і 10 тактах, дзе зьяўляецца fioritura. Бясспрэчна, што такі жвавы рух акомпанімэнту ня зусім пасуе да разгляданай песьні, якая патрабуе большай плаўкасьці і, як мага, менш нэрвовасьці рытму.

№ 5. Баю, баю, баенькі. Калыханка. Гарм. А. Аленіна. Разьмер $^6/_8$ вельмі няўдалы, акцэнты не на месцы, затактная нота стаіць на ўзмоцненай долі такту (першая восьмая). Наогул разьмер не ўласьцівы для песьні,

адчуваецца вялікая нацягнутасьць. Першая нота не на месцы і павінна пачынацца ня з ноты „до", а з „соль".

Паданы разьмер $^{6}/_{8}$ зьяўляецца навязаным гвалтам. Апрача таго, з тональнасьцю песьні згадзіцца ніяк нельга—гармонізатар не зразумеў яе і вывеў у C-dur. Тым часам, песьня гэта суладжана ў натуральным мінорным або псэўда-грэцкім лідыйскім ладзе, у даным разе g-moll натуральны.

Дзіка і жудасна гучыць гэтая калыханка ў дадзенай ёй тональнасьці C-dur. Нешта ня верыцца, каб пад яе гукі можна было ўкалыхаць каго небудзь, хіба гармонізатара толькі.. Заключальныя тры такты няпрыемна ўражаюць тэндэнцыяй романсу таннага характару...

№ 6. Верабейка. Народная. Гарм. А. Аленіна. Гэта песьня таксама не абышлася, як і папярэднія песьні, без мэлёдыйных хадоў, якія ска жаюць яе (гл. такты 9 і 10). Пераскок у верхнім голасе на кварту ўгору выражае характар, уласьцівы для расійскай народнай песьні, але ні ў якім разе не для беларускай. Тым больш ня варта было перакідваць мэлёдыю верхняга голасу у канцы песьні, даручаючы яе другому ніжэйшаму. Верхні голас, які сьпявае cis, fis, зусім зацямняе канец мэлёдыі і, паводле інэрцыі, свайго пяршынства, прыўносіць элемэнты чужыя для песьні. Тое самае дапушчана і ў песьні № 7 у 12 такце (канец песьні).

№ 8. Я табун сьцерагу. Гарм. Я Прохарава. Фортэпіяннае ўтараваньне больш удала, чымся ў папярэдніх. але пачынаючы ад 4 такту гармоніі занадта адкрытыя, і самы звычайны кадансавы ход праходзіць паводле 1 ч. падручніка Р.-Корсакава. Павучнёўску, нехлямяжа гучыць ход першых двох восьмых 5 такту, падзеленых на дзьве розных гармоніі. Злучэньне V ст. і VI ст. (апошняя восьмая 6-га такту і першая чвэрць 7-га) гучыць тандэтна, няўпэўнена і бяз жаданай сувязі.

№ 15. Наша бабка падпіла Гарм. А. Аленіна. Фортэпіяннае ўтараваньне выклікае вялікае зьдзіўленьне сваімі ходамі—пачынаючы ад 6 такту ідуць роўналежныя актавы. Гучыць гэта ўсё дзіка, няўклюжа і пустазвонна. Што прымусіла гармонізатара да такой кляксы—невядома.

№ 28. Камар лазьню тапіў.[1]) Гарм. Я. Прохарава. Гэту песьню гармонізатар маніўся падаць беларусам як нешта грандыёзнае, дзе хацеў, відаць, даць максымум выяўленчасьці. Але ўсё гэта сышлося да няўдалага насьледваньня композытарам другой паловы XVIII ст., напр.—Гендэлю. Розьніца тая, што ў гэтага апошняга сапраўды выяўленчасьць была разьвіта надзвычайна, асабліва ў галіне гукаперайманьня (шум вады, крактаньне жаб і г. д.). Патугі на такое гукаперайманьне знаходзім і ў песьні пад № 28. Я падкрэсьляю гэта з тае прычыны, што такая перадача розных гукаў, бадай на кожны такт новых, апрача прыкрага ўражаньня і зьдзіўленьня, нічога больш ня дасьць. Сапраўды, вось вам гэта песьня № 28.

Пры словах „камар лазьню тапіў" даецца трэл правіцаю, чым, трэба думаць, і характарызуецца камар. Лазьню, мабыць, рэпрэзэнтуе сабою важкі першы акорд, процэс „тапленьня"—далейшыя, больш дробныя...

Цяжка пераказаць усю бяссэнсіцу гэтага ўтараваньня. Пераход за пераходам, які прымае самыя нечаканыя і дзікія формы. У агуле,

[1]) Выдавецтва павінна сачыць і за слоўнікам. Хто каго „тапіў", дзе тапіў? Трэба даваць чыста нацыянальныя звароты. Тым больш, что гэта песьня, як адзначана пры ёй, і запісана тав. Прохаравым, які мабыць, не адчуваў, у чым тут справа.

гэта праца выяўляе сабою суздромную недарэчнасьць, паасобныя кавалачкі якой ня маюць між сабою ніякай сувязі, ня маюць музычнай лёгікі. Гэта ўсё ўтараваньне—нейкая суцэльная дрвіна (бред), вельмі нізкае мастацкай якасьці...

6.

Ня маючы магчымасьці зрабіць падрабязговы аналіз усіх песень якія ўвайшлі ў разгляданы зборнік, я абмяжуюся вышэй паданым

Зьмешчаныя за №№ 13 і 23 песьні ў апрацоўцы М. М. Іпалітава-Іванава, бязумоўна, могуць служыць узорамі і вылучаюцца сваёю рэльефнасьцю з усяго зборніку. Іх характэрныя рысы—простая, але майстэрска-мастацкая гармонізацыя Строгая вытрыманасьць стылю ўва ўсіх адносінах. Другімі паводле якасьці ідуць №№ у гармонізацыі Аленіна. Апошняе месца, як ужо і адзначалася, займаюць гармонізацыі Прохарава. Характарызуе апошняга адсутнасьць стылю, навязанасьць гармоніі, імкненьне ў дачыненьні фігурацыйнасьці да квадратовае формы, што можна прасачыць на кожным яго фортэпіянным утараваньні. Скрозь праглядваюць вузкія правілы падручніка пра гармонію, ды і тыя абмяжаваны першаю часткаю. Адсутнасьць добрага голасавядзеньня, гармонійныя акорды, выяўленыя ў долевым руху чвэрткамі, восьмымі і шаснасткамі, нагадваюць таптаньне на адным месцы. Што-ж датычыцца песьні № 2, у гармонізацыі Аладава, дык (як ужо адзначалася), хоць утараваньне і фортэпіяннае, але няўдала для яго ўзягы мотыў. ён ганьбіць народную песьню сваёю зацяганасьцю і аднастайнасьцю.

Паколькі песьні ў зборніку падаюцца ня ў вольнай апрацоўцы, а гармонізаваныя, мэлёдыя павінна заставацца нечапанаю. Гэтага не праводзяць два апошнія гармонізатары, дапускаючы "перастановачкі" або „дадатачкі". Некаторыя гармонізацыі сьведчаць, што іх творцы трымаліся прынцыпу: не якасьць, а колькасьць. .

7.

Вывады? Яны бадай што і дадзены. З вялікімі цяжкасьцямі разьвіваюць беларусы сваю культуру. Кожная няўдача, кожная хіба выклікаюць яхідныя насьмешачкі з вуснаў розных Здановічаў і К°, якія гатовы і на падставе вышэй згаданага зборніку вынесьці свой прысуд адносна таленавітасьці беларускага народу.

Нашы выдавецтвы павінны больш уважна ставіцца да справы выдрукаваньня музычных твораў. Павінен быць крытычны адбор лепшага матар'ялу, а не друкаваньне рознага выпадковага. Пажадана, каб чарговыя зборнікі былі прарэдагаваны больш уважна.

Масква, 7 ліпеня 1928 г.

# КУЛЬТУРА МОВЫ

Уладзімер Дубоўка

## Проэкт літар для згукаў „дз“ і „дж“

I

На шляху да поўнага вызваленьня чалавецтва з-пад прыгону аджылых форм бытавога і грамадзкага ўкладу паўстае шмат пытаньняў, вырашэньне якіх патрабуецца вялікаю агульнаю задачаю.

Думка лепшых людзей многіх стагодзьдзяў занята гэтымі пытаньнямі. Значная частка таго, што раней здавалася лятуценьнем, стала сапраўднасьцю. Бачым, што Марксавы палажэньні, зьдзейсьненыя Леніным, знайшлі сваё адлюстраваньне ў Кастрычнікавай рэволюцыі, у існаваньні й творчай працы Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Але многа важных і грунтоўных пытаньняў да гэтага часу ня вырашана, асабліва ў тэй дзялянцы агульнага фронту, якую мы завём фронтам культурным.

Консэрватызм паасобных вучоных, працаўнікоў культуры, і колькасна невыстарчальныя кадры рэволюцыйных навуковых працаўнікоў пакуль што не даюць магчымасьці з тэй, жа рашучасьцю паставіць пытаньне пераацэнкі каштоўнасьцяй на гэтым культурным фронце. Мы гаворым ужо пра культурную рэволюцыю, маем некаторыя дасягненьні, але гэтага мала. Самыя асновы засталіся да нашага часу ў большасьці нечапанымі. Уявеце сабе, што ў якім-небудзь нашым савецкім унівэрсытэце, замест сэмінара па гістарычным матар'ялізьме, праводзіўся-бы зараз сэмінар па ідэялістычнай філёзофіі. Мне скажуць, што такой падмены быць ня можа. Тым часам, у некаторых галінах навукі адбываецца як раз тое-ж самае. Так, напрыклад, у галіне мовазнаўства. Некаторыя нашы унівэрсытэты лічаць магчымым трымацца поўнасьцю старых, я сказаў-бы рэакцыйных, кірункаў мовазнаўства. Моладзі ўганяецца ў вушы тэорыя пахаджэньня ўсіх моваў ад аднэй „пра-мовы“; нашай, у ліку т. зв. „індо-эўропэйскіх“ моваў, ад санскрыту напрыклад. А тым часам даведзена многімі, што санскрыт зьяўляецца моваю эспэранто свайго часу, што санскрыт—штучная мова... Адным словам, вучоныя такога кірунку праз сотню гадоў здолеюць даводзіць, што ад эспэранто паходзяць сучасныя эўропейскія мовы, а не наадварот...

Нашы культурныя цэнтры ігноруюць, замоўчваюць некаторыя сучасныя тэорыі выдатных навуковых працаўнікоў, рэволюцыянэраў навуковае думкі. Для прыкладу я прыгадаю два факты.

Чатыры дзесяткі гадоў акадэмік Н. Я. Марр заняты апрацаваньнем тэорыі пахаджэньня моваў, якую можна назваць марксыцкаю тэорыяй. Я маю на ўвазе яфэтычную тэорыю. Яго вывады кідаюць зусім новае сьвятло на пахаджэньне нашых моваў. Ці паклапаціўся хто, каб, скажам, для культурных працаўнікоў у Менску быў наладжаны шэраг лекцый акад. Н. Я. Марра, або каго з яго беспасрэдных асыстэнтаў? Гэтага пакуль, што ня зроблена...

Мікола Марозаў, вядомы рэволюцыянэр, напісаў і надрукаваў многатомную навуковую працу пад агульным загалоўкам „Христос“.

Яго праца, пабудаваная на марксавых падставах, павінна выклікаць да сябе найвялікшую ўвагу сваёй угрунтаванаю тэорыяй разьвіцьця сусьветных культур. Гэтая тэорыя руйнуе ўшчэнт старыя ідэялістычныя тэорыі, адчыняе перад намі літаральна новыя далягляды. Тым часам і працу Міколы Марозава замоўчваюць. Ніхто не паклапаціўся запрасіць паважанага вучонага і рэволюцыянэра ў нашы культурныя цэнтры для зачытаньня дакладаў, нічога ня зроблена для популярызаваньня гэтае выдатнае тэорыі шляхам выдрукаваньня даступных кніжак, артыкулаў [1]).

Вось два прыклады нашае, далікатна кажучы, неахайнасьці. Колькасьць іх можна павялічыць, але ня ў гэтым справа. Трэба раз назаўсёды сказаць і падкрэсьліць: сапраўдная рэволюцыя на культурным фронце пачнецца тады, калі мы ўзварухнём і перайначым самыя падставы, самую аснову.

Без такой грунтоўнай перабудовы дасягненьні нашы ў гэтым кірунку будуць выключна вонкавымі, сухазлотнымі, захоўваючы ў сваёй эфэктнасьці пагрозу рэцыдыву.

II

У шэрагу многіх задач паўстае перад намі адна: утварэньне унівэрсальнага, інтэрнацыянальнага ‘льфабэту. Такі альфабэт не заслоніць асабістасьцяй паасобных народаў.

> „На фоне раскрепощенного от внешних условностей единого людского общежития только и возможно выявление человеком своей индивидуальной сущности в наиболее полном и ярком виде. При движении по этому неизбежному пути условия взаимообщения народов всего мира не в меньшей степени требуют единства письма, т. е. тожества основных начертаний алфавита и тожества приемов воспроизведения сложных звуков, исходящего от основных или простых звуконачертаний“ [2]).

Так гаворыць Н. Я. Марр, угрунтоўваючы тэорыю унівэрсальнага ‘льфабэту.

Мікола Марозаў, які запрапанаваў свой проэкт, дадае з большым энтузыязмам:

> «Наступит время и раздастся голос более громкий, чем мой. Могучий язык будущего пробудит к новой, неизмеримо высшей жизни сознание грядущих поколений, и жалкими тогда покажемся мы им со своим современными сумбурными и хаотическими терминологиями и номенклатурами». («Христос», т. III, б. 38).

У гісторыі быў такі кругабег, калі народы імкнуліся да найвялікшага адмяжаваньня адзін ад аднаго. Кітайскія муры зьяўляюцца векапомным сымболем гэтага адмяжаваньня. Выяўлялася яно і ў стварэньні сотняў альфабэтаў, якія, уласна кажучы, усе паходзяць ад аднаго, першатворнага. Даволі перагледзець іх, каб пераканацца ў гэтым. Нават кітайскі альфабэт, які вылучаўся ў асобную групу, паводле майго цьвёрдага перакананьня, мае агульнае пахаджэньне з нашымі [3])

---

[1]) Трэба сказаць, што ня кожны здолее азнаёміцца з працаю Міколы Марозава ў арыгінале. Гэта тлумачыцца як велічынёю (многатамовасьцю, пры 600—700 балонах у томе), так і цаною (ад 6 р. 50 да 7 руб. паасобны том).

[2]) Н. Марр. Абхазский аналитический алфавит (к вопросу о реформах письма). Ленинград, 1926, + 52 in 1/8. Выданьне «Ленингр. института живых восточных языков имени А. С. Енукидзе». Цытата ўзята з б. 17.

[3]) Гл., напр., знакі шан, кюан, жэнь. Многазнакавасьць яго зьявілася ў выніку прыстасаваньня да вялікага ліку омонімаў. Некаторай ілюстрацыяй да гэтага зьяўляецца калмыцкі складовы альфабэт.

Але ў гісторыі зьявіўся такі кругабег, калі творчая думка пачала шукаць шляхі да злучэньня. Пачалі зьяўляцца проэкты унівэрсальных альфабэтаў. З найбольш цікавых проэктаў гэтага кірунку трэба адзначыць проэкт Дюбуа-Рэймона, агалошаны ў 1862 г.

Пасьля гэтага, як ужо адзначалася мною, зьявіліся ўгрунтаваныя два: проэкт Міколы Марозава і акад. Н. Я. Марра [1]).

Трэба і можна спадзявацца, што належныя культурныя цэнтры БССР паклапоцяцца, каб абодва гэтыя проэкты былі даведзены да ведама шырокіх мас. Гэтага можна дасягнуць вельмі проста: згаданая праца акад. Н. Я. Марра і адпаведныя разьдзелы з працы Міколы Марозава трэба пералажыць на беларускую мову і распаўсюдзіць. Яны павінны быць у кніжніцы кожнай нашай школы. Паступова будзе падбірацца матар'ял, высьвятляцца адмоўнае і станоўчае, падрыхтоўвацца грамадзкая думка.

Могуць пачуцца і такія захаваныя гутаркі, што ўвядзеньне унівэрсальнага 'льфабэту нявыгадна для т. зв. малых народаў, што яно дапаможа дэнацыяналізацыі. Я ўважаю патрэбным прыгадаць у зьвязку з гэтым наступныя словы акад. Н. Я. Марра:

> „Мы, пожалуй, рекомендовали бы нечто обратное—смелее и решительнее связаться, п› крайней мере, в такой чисто технической части культуры, как письмо, с будущим. И чем малочисленнее народ, тем он больше нуждается в этой связи с будущим, которое иначе безжалостн› задавит колесом своего неизбежного движения вперед в первую очередь их, эти народы, когда они окажутся в тупике“. (Згаданая вышэй праца, б. 25).

Пра гэта ўсё я нагадваю беларускай грамадзкасьці для таго, каб узьняць самое пытаньне на разгляд і абмеркаваньне. У гэтым таксама знаходзіцца пэўнае значэньне.

Але пакуль мара і акад. Марра і Міколы Марозава ня зьдзейсьнена, пакуль яна пройдзе пэўныя стадыі абмеркаваньня, нам трэба ўпарадкаваць свой сёньняшні альфабэт, правесьці ў ім самую неадкладную рэформу.

Вядома, што наш альфабэт не дасканалы. Дасканалага 'льфабэту ня мае ніводзін народ. У некаторых выпадках у гэтых альфабэтах бываюць лішнія літары. Прыгадайце, напрыклад, гісторыю з літараю „Ѣ“ і падобнымі да яе ў расейскім дарэволюцыйным альфабэце.

Часам-жа ў гэтых альфабэтах няма патрэбных літар для азначэньня вельмі пашыраных гукаў. Такое зьявішча бачым і ў беларускім альфабэце. У нас няма некаторых патрэбных літар, у нас ёсьць некаторыя дрэнныя з навуковага пункту погляду літары. Пра гэта гаварылі, гавораць і будуць яшчэ доўга гаварыць. Тым часам, справа не чакае адкладу: наша павольнасьць з кожным днём павялічвае шкоду, якая становіцца прыкметнай у агульным разьвіцьці культуры.

Найбольш радыкальныя сродкі для пазбаўленьня ад зазначаных хібаў мы здолеем знайсьці, прыняўшы унівэрсальны альфабэт. Але гэта—справа будучыны. Зараз жа трэба правесьці самыя неадкладныя дапаўненьні альфабэту, а менавіта—у дачыненьні да згукаў „дз“ і „дж“.

---

[1]) Тэма не вымагае падрабязных даведак па гэтым пытаньні. Не адзначаю я некаторых проэктаў, якія, на мой погляд, мелі ў сваёй аснове пэўную тэндэнцыю (можа супроць жаданьня аўтараў). Такім, напрыклад, зьяўляецца проэкт Гільдэбранда «Обще-славянская азбука с приложением образцов славянских наречий», 1871 г. Гэты проэкт быў патрэбен, асабліва ў тыя гады, расейскаму царызму, які марыў п. а аб'яднаньне пад сваёй эгідай «братушак-славян».

## III

Маленькая заўвага тэрмінолёгічнага кірунку. У нас звычайна ўжываецца тэрмін дыфтонг, калі гутарка ідзе пра гукі галосныя (уо, іе) і афрыката, калі гутарка ідзе пра гукі зычныя (*дз*, *дж* і г. д.[1]).

Я прапаную замяніць гэтыя даволі недакладныя і блытаныя тэрміны беларускім словам згук.

Гэтае слова ўзята з жывой беларускай мовы і цалкам адпавядае таму паняцьцю, якое перадаецца згаданымі вышэй тэрмінамі. У слоўніку Максіма Гарэцкага яно нават і занатавана падобным чынам: „згукі—отзвуки"[2]), накш кажучы—пэўны комплекс гукаў, які ўтвараецца пры скліканьні людзей і г. д. (гл. дзеясловы і прыметнікі: згуканы, згукаць, згукацца, згукваць, згуквацца, згукнуць, згукнуцца, якія занатаваны ў слоўніку Насовіча, б. б. 203—204, выключна ў значэньні склікаць, пераклікацца, зьбірацца).

Мы не павінны, бо гэта не мэтазгодна, замяняць беларускімі словамі тыя іншакраёвыя словы, якія нельга перадаць дакладна нашымі словамі Так, напрыклад, у дзе-якім „слоўніку" гібрыд і гермафродыт аб'яднаны адным словам мяшанец. Зразумела, што гэта поўная недарэчнасьць, выкліканая няпісьменнасьцю складальнікаў слоўніку. У такім разе трэ' пакінуць іншакраёвыя тэрміны, ці больш уважна пашукаць ідэнтычныя адменьнікі ў беларускай мове.

Але мы павінны заўсёды і рашуча выкідаць з ужытку тыя іншакраёвыя словы, якія прыносяць у справу блытаніну, якія зьвязаны з паняцьцямі масавага значэньня

Сапраўды, згукі *дз* і *дж*, або *уо* і *іе* вельмі пашыраны ў беларускай мове. Кожны пісьменны рабочы і селянін адчувае іх асаблівасьці. Тым часам, называць іх прыходзіцца або блытанымі тэрмінамі, або не называць зусім. Наколькі гэта так, даводзіць той факт, што некаторыя ўдзельнікі беларускай акадэмічнай конфэрэнцыі, людзі вучоныя, ужывалі ўвесь час тэрмін дыфтонг у дачыненьні да тых згукаў (дз, дж), якія больш прынята называць афрыкатамі[3]). Другі вучоны там-жа называў іх асьцярожненька „гукі складанага ўтварэньня"[4]), тады калі „складанасьць" усіх гукаў для данай конкрэтнай мовы аднолькавая.

Такім чынам, пытаньне яснае: існуючыя тэрміны, чужыя паводле гучаньня, недакладныя паводле свайго зьместу, у гэтым выпадку задаволіць нас ня могуць.

---

[1]) Дазволю сабе прыгадаць чытачом пра зьмест гэтых тэрмінаў.—Дыфтонг=(δι+φθόγγος) падвойны шум, гук. Тут маецца на ўвазе такое спалучэньне двух звычайных галосных, якое дае адзін складок. Першая галосная мае на сабе складовы націск. Аднаскладовасьць дасягаецца тым, што экспіратыўны ток паступова слабне і прытым так, што нідзе не адчуваецца прыкметнай натугі. У беларускай мове да іх ліку адносяцца вельмі пашыраныя ў нас два *уо* і *іе*. Бываюць і спрэчныя выпадкі, бываюць і псэўдо-дыфтонгі, напр. ай, ой...

Афрыкаты,—або складаныя зычныя,—гэта такія зычныя гукі, якія ўтвараюцца ў выніку шчыльнага злучэньня зычнага выбуховага з зычным фрыкатыўным таго-ж месца ўтварэньня Так, нашае „ц" і „ч" утвараюцца з спалучэньня зубного пярэднязычнага „т" з сычачым „с" і шыпячым „ш" фрыкатыўным; аднаго-ж месца утварэньня і д+з, або д+ж.

Каб падкрэсьліць розьніцу, прыгадайце спалучэньні іншага гатунку, спалучэньні зычных з розных месц утварэньня (кс, пс)

[2]) Максім Гарэцкі. „Невялічкі бел.-маск. слоўнік, в. 2-ое Вільня, 21 г., б. 104.

[3]) „Працы акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі", выд. Інстытуту Беларускае Культуры у Менску, 1927 г., заўвага на б. 146.

[4]) Там-жа, б. 121.

Але якім парадкам, запытаюцца ў мяне можна будзе адрозьніць сучасныя дыфтонгі ад афрыкатаў?—Тады, калі гутарка будзе ісьці пра адцягненыя паняцьці, можна будзе дадаваць слова **галосны** (у дачыненьні да дыфтонгу) або **зычны** (у дачыненьні да афрыкаты) Іншыя формы згукаў, якія зараз у навуцы маюць толькі апісальную назву, здолеюць атрымаць кароткую і дакладную назву пры дапамозе адпаведнага прыметніка Так, напрыклад, згук *ui*, які утварыўся з звычайнага *і* і прыдыханьня да яго, г зн. з галоснага і нявыразнага *й*, можна будзе назваць **мяшаным згукам**

Тады, калі за словам згук будзе ісьці самы ен, азначэньне прыметнікам патрабавацца ня будзе

У сваім артыкуле я ўсюды буду карыстацца гэтымі беларускімі словамі, што і прашу чытачоў мець на ўвазе

Дык вось, у нас няма літар для азначэньня галосных згукаў (уо, іе[1]), літары для мяшанага згуку *йі*[2]), літар для зычных згукаў *дз*, *дж* і інш Калі азначэньня галосных згукаў пакуль што і чаму небудзь не патрабуецца, дык рэшта настоилва патрабуе неадкладнае рэформы Гэта пытаньне, як я зазначаў ужо, зьяўляецца не выпадковым Узьнімалася яно розным парадкам і рознымі асобамі,[3]) пакуль не паўстала, што называецца ва ўсебеларускім маштабе ў 1926 г Тады была склікана Інстытутам Беларускае Культуры адмысловая акадэмічная конфэрэнцыя ў справе рэформы беларускага 'льфабэту і правапісу[4]) Некаторыя пытаньні, зьвязаныя з рэформай альфабэту, на нарадзе не разглядаліся зусім, некаторыя засталіся нявырашанымі

Найбольшую ўвагу прыцягнулі да сябе згукі *дз* і *дж*, пераважная колькасьць проэктаў датычала іх Адносна ж іх была прынята 'дмысловая рэзолюцыя

## IV

Зазначалася ўжо, што да 'пошняга часу на Беларусі галоўная ўвага зьвярталася на літары для згукаў *дз* і *дж* Рэшта выпадкаў высьвятлялася і разглядалася ўсе-ж між іншым Прычына ў тым, што перадача гэтых згукаў дзьвюма літарамі ў кожным выпадку мае не адну, а некалькі хібаў

Перш за ўсе паўстае пытаньне эканоміі Неразумна друкаваць дзьве, ці нават тры, літары там, дзе можна абыйсьціся аднэй[5]) Гэта датычыць асабліва згуку *дз*, як больш пашыранага

---

[1]) Як вядома, калісьці гэты апошні перадаваўся літараю „Ѣ“. Пасля ен, гэты згук, зьнік з расейскай мовы Застауся у найбольш захаваным выглядзе на Беларусі Усе ж літара „Ѣ“ набыла вельмі сумную славу, і трэба гаварыць пра нейкую новую літару

[2]) Караценькі агляд гэтага згуку і адпаведны проект дадзены ў маім артыкуле „ Некаторыя прыва ныя выпадкі мілагучнасьці нашае мовы“ („Узвышша“, № 4, 1927 г, б 91)

[3]) Пры пэўным маім удзеле, яшчэ ў 1922 г навуковы працаўнік Мікола Былінкін які у той час працаваў рэдактарам Гознаку, падау быў выкананы графічна свой проэкт літар для *дз* і *дж* у Інстытут Беларускае Культуры Між іншым, згадваючы пра гэты проэкт, адзін з удзельнікау акадэмічнае конфэрэнцыі пераблытаў прозвішча аутара проэкту што я лічу сваім абавязкам паправіць (гл „Працы ак конф“, б 141, дзе памылкова надрукавана Бывалькевіч)

[4]) У выніку усяго была выдрукавана згаданая ужо справаздача („Працы акад' конф“ і г д) б б XXVII+432 Гэтым пакуль што справа і абмяжавалася Конкрэтных вынікаў (практычных) ні для альфабэту ні для правапісу няма яшчэ і селета, г зн цераз два гады

[5]) Маю на увазе і мяккія знакі“ Слова „судзьдзя“, якое мае зараз **восем** літар будзе мець **пяць**, слова „мядзьведзь“ замест **дзесяцех** літар будзе мець **шэсьць** Эканомія надзвычайная!

Другое пытаньне зьвязана з школьным выкладаньнем і вымоваю. Гэтая акалічнасьць павялічваецца зараз у сувязі з беларусізацыяй. Не спыняючыся на ўгрунтаваньні, я спасылаюся тут на наша настаўніцтва.

Далей ідзе няправільная перадача іншакраёвых словаў з аналёгічнымі згукамі.

Пытаньне гэта ўзьнімаецца ня толькі на Беларусі. Украінская Акадэмія Навук на ‘дмысловай нарадзе ў 1927 г. узьнімала яго такжа. А трэба заўважыць, што гэтыя згукі ў украінскай мове спатыкаюцца ў непараўнана меншай колькасьці, чымся ў беларускай.

Паўставала не аднойчы і паўстане яшчэ многакроць гэтае пытаньне і ў Расіі. Пакуль што найбольш ясна і цьвёрда сформуляваў яго Мікола Марозаў.

Вызначаючы „задне-десновый фонематический квадрат“ (рыс. 1), Марозаў




Рыс. 1.

высьвятляе адсутнасьць у расейскім альфабэце літары, якая перадавала-б згук *дж* у двох яго адменьніках — цьвёрдым і мяккім. Ён кажа:

> „Мы находим его в ряде слов, которые совершенно искажает наша уре занная орфография, так что даже не знаешь, как их и написать на бумаге. Попробуем, как делают это. обозначить их через псевдо-ДЖ и напишем слово: вожь(дж)и вместо вожжи, дрожь(дж)и вместо дрожжи, дожь(дж)ик вместо дождик. мож (дж)ечок вместо мозжечек, уезь(дж)аю вместо уезжаю, сожь(дж)ен, разможь(дж)ен, можь(дж)евельник, вместо сожжен, разможжен, можжевельник и т. д.
>
> Попробуйте здесь звук дж произнести отдельно как *д* и *ж*, и вы увидите, что выйдет плохо. А попробуйте ясно произнести все эти слова по обычной русской орфографии. и выйдет еще хуже: вож-жи, дрож-жи, дож-дик, моз-жечек, сож-жен, размож-жен... Выходит совсем не то, что вы произносите, когда говорите не по такому письму, а свободно“...

Далей Мікола Марозаў зазначае пра тое ліха, якое зьяўляецца ў выніку передачы цераз псэўдо-ДЖ словаў (з адпаведным згукам), узятых з ангельскае, італьлянскае і ўсходніх моваў, дзякуючы чаму і прымушаем „простодушного читателя, не знающего иностранных языков, думать, что он правильно произносит эти имена, в которых звук *д* перед *ж* совсем отсутствует, а просто произносится взрывное *ж*, такое же, как и в вышеприведенных русских словах: вожьджи, дрожьджи и т. д.“ [1]).

У вьвязку з гэтым Мікола Марозаў прапануе ўвесьці новую літару ў сучасны расейскі альфабэт для перадачы гэтага згуку (перакуленае

---

[1]) Гэтую, як і пра „дз“, даволі доўгую цытату я падаю не выпадкова. Справа ў тым, што некаторыя адмаўляюць наяўнасьць разгляданых згукаў у расейскай мове. Так, расейскі праф. П. А Растаргуеў на беларускай акадэмічнай конфэрэнцыі заявіў быў наступнае: „Перш за ўсё у азбуцы няма знакаў для азначэньня гукаў складанага ўтварэньня *дз* і *дж*, якія ёсьць у беларускай мове і якіх няма ў расейскай мове (гл. „Працы ак. конф.“ б. 124). Гэтым шаноўны профэсар супярэчыць некато рым сваім колегам і рэчаіснасьці. Гэта, мабыць, таксама прычынілася да таго, што нехта з опонэнтаў назваў быў даклад і проэкт профэсара ненавуковым, у зьвязку з чым ён ірытаваўся ў заключным слове (б. 165-166).

латынскае g (ȝ) у друкаваны, а ў рукапісны—накшталт грэцкае δ) У сыстэматычнай друкаванай транскрыпцыі Мікола Марозаў дае літару для гэтага згуку зусім у іншым выглядзе (гл. рыс. 2)[1]).

Рыс. 2.




Такім-жа парадкам Мікола Марозаў знаходзіць патрэбнай і літару для *дз*, для выбуховага *з*, якое павінна быць у квадраце „передне-десновом или зубном фонематическом“. Квадрат гэты мае так выгляд (гл. рыс. 3).

Рыс. 3.




„Мы видим, что и здесь, как в предыдущем квадрате, недостает правого нижнего угла, где в данном случае должно находиться взрывное *з*. А у нас пишут его через дз и произносят как д+з, что смешит людей, привыкших у себя на родине к гулкому *ц*, как смешит и нас, если кто вместо „процежу чай“ говорит „протсетшу тшай“.

А между тем мы время от времени бываем вынуждены произносить и этот звук, когда быстро говорим, например, „он цыкает и дзыкает и подзякивает“ и в словах, именах и фамилиях белорусского и польского происхождения: Родзянко, Дзюбинский, Дзержинский, Дзедушинский, Дзялынский и т. д., так как в обоих этих языках гулкое *ц* очень употребительно. Да и не в них одних“.

Адзначаючы тое, што ў стара-грэцкай мове так вымаўляўся згук які азначаецца літараю Z (дзета), Мікола Марозаў прапануе ўвесьці яе ў сучасны расейскі альфабэт. Проэкт літары для гэтага згуку ў сыстэматычным альфабэце гл. на рыс. 4.[2]).

Рыс. 1




[1]) „Христос“, III, б. 86-87.
[2]) „Христос“, III, б. б. 88-89.

Усё вышэйпаданае сьцьвярджае, што пытаньне наконт згукаў *дз* і *дж* зьяўляецца вельмі патрэбным, жыцьцёвым і неадкладным.

Сапраўды, які сорам! Расейскія вучоныя зьбіраюцца ўвесьці літару для *дз*, напрыклад, каб правільна вымаўляць у сваёй мове беларускія словы, а мы так павольна клапоцімся, каб перадаваць іх правільна на Беларусі..

Ды і наогул—дзіўнае становішча нейкае!—Суседзі больш уважна ставіліся да асаблівасьцяй нашае мовы, чымся мы самі. Так, усім вядомы факт, што беларускія татары ўвялі былі ў ужываны імі арабскі альфабэт адмысловую літару для нашага згуку *дз* (бо для *дж* у іх адпаведная літара была) яшчэ ў XVI-XVII стагодзьдзях".[1]) А мы да гэтага часу марнуем сродкі, маем страту і моральную з прычыны нейкай клясычнай пасыўнасьці.

Думаецца мне, што гэтых папярэдніх заўваг выстарчыць для ўгрунтаваньня сваечаснасьці пытаньня. Бо няўжо-ж гэта заўсёды трэба кіравацца нам вядомымі словамі „нас разбудзілі, сказалі, што трэба рабіць"?!

Савецкая Беларусь існуе 10 гадоў. На працягу іх на Беларусі праведзена вялікая перабудова многіх асноў. Працоўныя, рабочыя і сяляне ня спыняліся перад арміямі супаратаў. Няўжо зараз прыдзецца спыніцца перад гэтым недаглядам, які застаўся ў спадчыну ад мінулага? Аджа хоць да 10-ае гадавіны існаваньня Беларускае ССР трэба ўзварухнуцца, адзначыць гэтаю першаю навіною пачатак рэформы беларускага ʻльфабэту.

## V

Да пачатку беларускай акадэмічнае конфэрэнцыі і ў часе яе быў пададзены шэраг проэктаў на літары для згукаў *дз* і *дж*. Гэтыя проэкты, з большага, маюць такі выгляд (гл. рыс. 5).

Пры самым абеглым агcaptionглядзе гэтых проэктаў, мы заўважаем вялікую выпадковасьць іх, а таксама і няўгрунтаванасьць. П. А. Растаргуеў узяў нават такія знакі, якія ў сэрбскім альфабэце перадаюць зусім іншыя гукі. Больш таго,—запрапанаваная ім літара для згуку *дз* у другіх народаў, як пабачым далей, ужываецца якраз для азначэньня згуку *дж*[2]).

---

[1]) Прыемна адзначыць, што пытаньне пра літаратуру беларускіх татар высьветлена і дасьлядоўваецца грунтоўна прадстаўнікамі беларускае навукі ў сьцíслым значэньні гэтага слова. Так, першыя зьвесткі пра тыя рукапісы, якія напісаны пабеларуску, але арабскімі літарамі, дадзены беларускім вучоным І. Луцкевічам аж у 1915 г. Дзеля многіх прычын агалошаны яны былі для паспольства ў 1920 г. пад назваю „Ай-Кітаб-Кіцёп" („Беларускае Жыцьцё № 6, і зборнік „Наша Ніва" за той-жа год). За ім -другі беларускі вучоны Максім Гарэцкі зьмясьціў пра гэта зьвесткі ў сваёй вядомай „Гісторыі беларускае літаратуры" у тым-жа годзе, паўтараючы пасьля ў кожным выданьні. У 1923 г. у Коўне ў часопісі „Крывіч" № 2 (8) дадзены быў вялікі ўрывак, транскрыбаваны беларускім шрыфтам беларускім вучоным Я. Станкевічам з дапамогаю чэскай орыенталісткі М. Таўравай. Матар'ял з часопісі цалкам перадрукаваны ў капітальнай працы Вл. Ластоўскага „Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі". Коўна, 1926 г., б. б. 364-371. Вялікі матар'ял зьмешчаны ў часопісі „Узвышша" № 4, 1927 г., б. б. 135-146 пад назваю „Наконт нацыянальнай літаратуры беларускіх татар". Віт. Вольскі падае тут транскрыбаваны кавалак рукапісу XVII ст. Гэта-ж самы малады беларускі орыенталісты даў у № 6 „Узвышша" за той-жа год артыкул грунтоўна зьвязаны з нашым пытаньнем „Асноўныя прынцыпы арабскай транскрыпцыі беларускага тэксту ў „Кітабах", б. б. 189-193.

Беларусы, расейскія вучоныя: акад. Е. Карскі і акад І. Крачкоўскі (орыенталісты) абмяжаваліся пакуль што кароткімі нататкамі. Першы ў 2-м в. III тому сваёй працы „Белорусы", а другі—ў часопісі „Восток", № 1, 1922 г., б. 117. Будзем спадзявацца, што вывучэньне гэтага вельмі цікавага пытаньня ня спыніцца.

[2]) Яскравае пасьведчаньне ненавуковасьці проэкту шаноўнага профэсара.

Не адмаўляючы наяўнасьці пэўнай фантазіі ў аўтараў проэктаў (асабліва цікавы проэкт вялікага *дж*, пададзены Я. Бялькевічам), мы ўсё-ж павінны адзначыць, што яны альбо занадта прымітыўныя, альбо занадта складаныя і цяжкія для перадачы на пісьме. Апошняе грае таксама не малую ролю. Апрача таго, у складальнікаў проэктаў ня было правільнага мэтаду. Так, яны дапусьцілі вялікую памылку: пачалі фантазаваць, не праверыўшы магчымасьці скарыстаньня практыкі тых народаў, у альфабэтах якіх ёсьць адпаведныя літары [1]).

Калі вы глянеце на проэкты і пачытаеце абаронныя да іх прамовы, дык знойдзеце такія выразы: „можна і так, можна і накш“- „ўсе роўна, якія гэта будуць літары“; „нам трэба прыдумаць свае літары“; „нашы мастакі дадуць патрэбныя нам літары“ і г. д. і да т. п.

Усе такія прамовы даводзяць, што пытаньне пастаўлена было на вырашэньне не прадуманым да канца. Зусім зразумела, што пасьля падобных выказваньняў „ўсё роўна, якія будуць літары“, быў зацьверджаны проэкт П. А. Растаргуева. [2]) Але, што-ж мы бачым? Мінулі два гады пасьля акадэмічнае конфэрэнцыі, а пастанова засталася архіўнаю маемасьцю. Пра што гэта сьведчыць? Гэта сьведчыць пра тое, што проэкт быў няўдалы, што пастанова была прынята крыху пасьпешна. Калі абавязкова трэ' было ўзяць літары падобныя на „аш“ з крыжыкамі, калі абавязкова было правесьці, так сказаць, „христианизацию“ беларускага 'льфабэту, дык аўтары проэктаў павінны былі дайсьці да першаі крыніц, угрунтаваць свае проэкты, а гэта ня было зроблена. (Рыс. 5).

| АЎТАРЫ ПРОЭКТАЎ | Д З | | Д Ж | |
|---|---|---|---|---|
| | Друкаванае | Рукапіснае | Друкаванае | Рукапіснае |
| Мікола Бы інкін . . . . . . . | ꝺ | ∂ | Ḓ | ġ |
| Язэп Лёсік . . . . . . . . . | ʒ | – | ǯ | – |
| „ „ . . . . . . . . . . | Ď ď | Ď ǧ | Ж̌ ж̌ | Ж̌ ж̌ |
| П. А. Растаргуеў . . . . . . . | ђ | – | ћ | – |
| Ул. Дзяржынскі . . . . . . . | S | S | – | – |
| Я. Бялькевіч . . . . . . . . | Д | D ʒ | Д̌ | Дж дж |

Рысунак 5.

[1]) Каб у чытачоў не стварылася ўражаньне, што падобныя ляпсусы трапляюцца толькі ў нас, я прыгадаю ім такія словы акад. Н. Марра адносна складальнікаў чаркескага 'льфабэту. — „Я видел в процессе выработки новую латинскую транскрипцию для черкесского языка, да это прошу прощения за резкость—издевательство над актуальным вопросом громадного культурно-общественного значения. Не подлежит никакому сомнению. что изобретение армянского и грузинского алфавитов в первоначальном их виде еще на заре средневековья происходило с лучшим соблюдением гарантии научности, с большим учетом того, что делалось у соседей, да и с состоянием вообще науки, чем современная работа по реформе алфавитов в стране, где столько академий, институтов, университетов и несколько тысяч ученых, тысячи ученых в одной секции научных работников“ (Абх. анал. алф., б. 13. *Разьбіўка мая*).

[2]) Рэзолюцыя наконт гэтага выдрукавана ў „Працах акад. конф. аж двойчы: на б. 182 і на б 391.

## VI.

Зазначаў я ўжо, што перш, чым абавязкова „прыдумваць“ свае літары, варта было глянуць, што ў гэтым кірунку зроблена да нас· Аджа добра вядома, што нічога асабліва арыгінальнага няма ў сучасных нам альфабэтах, бо ўсе яны паходзяць ад аднаго, першатворнага· А гэта прымушае нас больш уважна прыглядацца да іх пры выра· шэньні падобных разгляданаму пытаньняў.

Сапраўды, знакі ў сусьветных альфабэтах зьяўляліся не вы· падкова. Яны праходзілі пэўную эволюцыю, яны не аднойчы мянялі сваю форму, свой вонкавы выгляд, пакуль затрымаліся больш-менш канчаткова

Аўтары проэктаў літар для беларускага ‘льфабэту гэтага на ўвагу ня ўзялі.

Як вядома, згукі *дз* і *дж* уласьцівы далёка не аднэй беларускай мове: ёсьць яны ў многіх усходніх і эўропейскіх народаў. Ці ня можна выбраць з гэтых літар патрэбныя нам? Перад гэтым вызначым пэўныя вымогі, якімі мы павінны кіравацца ў сваім выбары.

1. Выбраныя літары павінны гарманаваць з рэштаю літар нашага льфабэту [1]).

2) Яны павінны быць лёгкімі і экономнымі (у часе) для друку і пісьма (без дыякрэтычных знакаў і г. д.).

3. Яны не абавязкова павінны паходзіць з аднага якога-небудзь альфабэту [2])

Зробім выбарку адпаведных літар, з асноўных альфабэтаў сьвету (рыс. 6 на б. 13)[3]).

Выпрацаваны на падставе іх проэкт для літары *дз* мае наступны выгляд (рыс. 7 на б. 13).

---

[1]) Да вядомага краю. бо гэта рэч вельмі умоўная, з большага нормуецца асабістымі густамі паасобных адзінак, чаго ў наш час не павінна быць.

Пытаньне пра дапасаванасьць новых літар і да лацінкі мною ня ставіцца затым' што яна ў гэты час ня мае значнага пашырэньня на Беларусі. Калі-б паўстала пытаньне пра пераход на лацінку, яе трэ‘ было-б рэформаваць самым грунтоўным парадкам наогул. Так, напрыклад, увесьці на месца комбінату для „у“ нескладовага нескарыстанае ў беларускай лацінцы „v“ і да т. п. А гэта, у сваю чаргу, прывяло-б нас да ‘сноўнай ідэі, да ідэі стварэньня міжнароднага. унівэрсальнага льфабэту.

[2]) Не з аднаго альфабэту стварыўся і наш сучасны. Гутаркі пра „кірыліцу“. орыентацыю на „братушек-славян“, трэба адкідаць. Беларусы дарасьлі да таго, каб паглядзець сваімі вачыма на тое, што робіцца на сьвеце наогул.

Ды і сапраўды гэта пытаньне спрэчнае. Нямецкі рукапісны готычны шрыфт (малыя літары) мае пэўную падобнасьць да некаторых усходніх (падкрэсьленьне фэтычнай тэорыі). Так малое „г“ выбуховае=грузінскаму „ж“, Таксама и славянскі: глаголічнае „х“=грузінскаму „х“ і г. д.

[3]) На табліцы, дзеля тэхнічна-выдавецкіх прычын, дадзены ня ўсе літары, якія нас цікавяць: дадзены найбольш характэрныя; што датычыцца сэрбскага, дык у пяршых квадратах дадзены літары „дж“, а ў другіх — адменьнікі іншых блізкіх мяккага „ч“ і г. д.

| АЛЬФАБЭТЫ | Д З | | | | Д Ж | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Друкаванае | | Рукапіснае | | Друкаванае | | Рукапіснае | |
| | Вялікае | Малое | Вялікае | Малое | Вялікае | Малое | Вялікае | Малое |
| Арабскі . . . . . . . | | | | | ج | | | |
| Беларуска-арабскі . . | ڎ | [illegible] | | | ج | | [illegible] | |
| Грэцкі . . . . . . . . | Z | ζ | Z | ζ | | | | |
| Армянскі . . . . . | Ձ | ձ | Ձ | ձ | Ջ | ջ | Ջ | ջ |
| Грузінскі . . . . . . | ძ | | ძ | | ჯ | | ჯ | |
| Монгольскі . . . . . | ᠽ | | ᠽ | | | | | |
| Ангельскі . . . . . | | | | | GJ | gj | GJ | gj |
| Італьлянскі . . . . . | Z | z | Z | z | G | g | G | g |
| Сэрбскі . . . . . . | | | | | Џ | џ | дж | џђћ |
| Новы-цюрскі . . . . . | | | | | C | c | C | c |

Рысунак 6.

| Друкаваная | | Рукапісная | |
|---|---|---|---|
| Вялікая | Малая | Вялікая | Малая |



Рысунак 7.

тэорыі наконт пахаджэньня альфабэтаў наогул. Я падаў гэтыя рысункі выключна для таго, каб давесьці, што прапанаваныя мною літары маюць пэўную сувязь бадай з усімі альфабэтамі сьвету ў сваім вонкавым выглядзе.

| Нямецкае готычнае „д" | Латынскае вялікае „д" | Грузінскае „дз" | Армянскае „дз" | Латынскае малое „д" | Грэцкая дзета | Армянскае „дж" | Грузінскае „д" |
|---|---|---|---|---|---|---|---|



Рысунак 12.

Застаецца дадаць яшчэ, што проэкт літар для *дз* зьяўляецца адначасна і сымболем нашае еднасьці з народамі Саюзу ССР, з братнімі па Саюзу ССР армянскім і грузінскім народамі.

VII.

Прыблізна таксама стаіць справа і з літарамі для згуку *дж.*

| Друкаваная | | Рукапісная | |
|---|---|---|---|
| Вялікая | Малая | Вялікая | Малая |



Рысунак 13.

Мною запрапанавана з невялічкімі перайначаньнямі літара, ужываная для гэтага ў ангельскім[1]) і італьлянскім альфабэтах. Справа вось у чым. Калі мы возьмем звычайнае ў гэтых альфабэтах *дж* і перакінем яго дагары, дык пабачым, што атрыманая літара нагадвае грузінскае *дж* рукапіснае і, дапоўненая пунктырам, друкаванае. Бачым далей, што сэрбскія літары, запрапанаваныя на акадэмічнай конфэрэнцыі П. Растаргуевым (рыс. 5), таксама маюць пэўную сувязь з гэтым „*дж*". А вядома, што ў сэрбскім альфабэце яны зьявіліся на некалькі стагодзьдзяў пазьней, чымся ў грузінскім (рыс. 14).

Апошнія літары (грузінскія і сэрбскія), апрача ўсяго, не падыходзяць для нашага ‘льфабэту і затым, што яны цяжкія для напісаньня.

---

[2]) Уласна кажучы, у якасьці *дж* у ангельскай мове непараўнана больш ужываецца звычайны ёт (джэй), чымся „джы" (гл. рыс. 6). Апрача таго, што гэтая-ж літара (джы) ужываецца для „дж "у італьлянскім альфабэце, падобнае на яе (наша С) узята ў цюрка-латынскі альфабэт. Усё гэта прымусіла мяне спыніцца на G

Дзеля гэтага я спыніўся на „G“. Але справа ў тым, што гэта літара вядома на Беларусі як „г“ выбуховае.[1]) Адначасна паўстае гутарка і наконт малога *дж*. У заходніх альфабэтах ужываюць g, якое на пісьме азначаецца літараю, цалкам падобнаю на наша малое „д“ рукапіснае. У гэтым пэўны мінус. Калі-ж узяць у якасьці малога „дж“ паменшанае „G“, дык ніжэйшая ножка ня будзе прыкметна і заўсёды будзе блытаць нас з *г*, асабліва ў драбнейшых шрыфтох

| ДЖ ангельскае а італьянскае | | ДЖ грузінскае | |
|---|---|---|---|
| Звычайнае | Перакуленае | Рукапіснае (больш ужывана з простым крыжам) | Друкаванае, дапоўненае пунктырам для нагляднасьці |



Рысунак 14

Гэтыя меркаваньні прымусілі мяне зрабіць такі крок: пахінуць ножку G у сярэдзіну. Гэта не мяняе існасьці, дае тую-ж самую літару, якая нагадвае паводле формы злучэньне сярпа і молата.

Будзем спадзявацца, што калі працоўныя ўсяго сьвету будуць выпрацоўваць унівэрсальны альфабэт, дык гэта літара атрымае ў ім пачэснае месца.

Рукапісныя літары не выклікаюць тлумачэньняў, апрача малой.

Зазначалася, што малое „g“ з заходніх альфабэтаў для нас не падыходзіць. Запрапанаваная мною ужываецца, але вельмі рэдка, для „*з*“[2]). Тым часам, яна мае пэўную сувязь з вялікім рукапісным (рыс. 15).

| Адменьнікі „G“ | | Пахаджэньне малога рукапіснага | Малое рукапіснае |
|---|---|---|---|
| вялікага | рукапіснага | | |



Рысунак 15.

Апошняя заўвага, фактычна паўторная наконт агульнага выгляду новых літар. Яны вельмі добра будуць гарманаваць з рэштаю літар нашага ‘льфабэту. Той мэтад, якім я карыстаўся ў распрацоўцы свайго проэкту, дае, перадусім, гармонію ў гістарычнай пэрспэктыве, дазваляе ўстанавіць шчыльную сувязь з сучасным.

[1]) У некаторых народаў гэта літара ўжываецца для „г“ выбуховага. У нас для гэтага гуку яна не падыходзіць.

[2]) У нямецкім готычным для „*г*“.

Вока наша праз кароткі час звыкне да новых літар, ацэніць усю іх прыгожасьць. Зразумела, што практыка ўстановіць тыя ці іншыя адменьнікі для новых літар, у залежнасьці ад гатункаў друкарскіх шрыфтоў ці скорага пісьма. Гэта ужо дробязі, якія будуць лёгка выра- шаны графікамі-друкарамі.

Як прыклад можна ўзяць рукапіснае *дж*. Пададзены мною проєкт (рыс. 13 і 15) заключае ў сабе комбінаты лацінскага G. Тымчасам, можна знайсьці ня горшыя адменьнікі, якія маюць сувязь з друкаванаю літарай і з нашым пісьмом наогул (гл. рыс. 16). Запрапанаваны мною другі адменьнік (р. 16, II) набліжаецца паводле формы да „ч“ не даючы тойсамасьці. У такім набліжэньні пэўны плюс, бо самы



Рысунак 16.

згук *дж* блізкі да ч (т+ш) паводле гучаньня. Малое *дж* з гэтага адменьніка нагадвае вялікае і, апрача таго, армянскае *дж* (гл. рыс. 6). Але ў скорым пісьме гэтае *дж* малое будзе блытацца з *д*. На трэцім адменьніку (р. 16, III) дадзены новы комбінат, які набліжаецца паводле формы да друкаванага *дж*. Прагледаючы гэтыя тры адменьнікі. мы можам спыніцца нават на такім спалучэньні: вялікая літара з другога і малая з трэцяго адменьнікаў Адначасна, можам забракаваць два першыя і прыняць трэці Паўтараю, што гэта ўсё—справа далейшага, справа практыкі.

## VIII.

Пасьля гэтага застаецца дадаць, што на пісьме і ў друку трэ' будзе зважаць на некаторыя выпадкі, якія не зьяўляюцца выключэньнямі, зьяўляюцца правіламі, але якія могуць выклікаць на першых часох некаторыя непаразуменьні. Такіх выпадкаў ёсьць два.

I. Так званае „дзэканьне“. Наяўнасьць гэтага „дзэканьня“ ў даволі лічэбных словах зьяўляецца лішным довадам за ўвядзеньне літары для згуку *дз*. Возьмем прыклады—ксёндз, дзын, дзога. Чулае вуха адразу заўважае, што мы маем тут справу з асобным згукам, які ёсьць у арабскай і старой гэбрайскай мовах, дзе азначаецца дзалам(гл. рыс. 11). Гэты згук дасьледчыкамі нашай мовы як дзал не зарэгістраваны. Растлумачыць яго можна так, што гэта падвойны згук дз'+з[1]). Месца для гэтага згуку ў цьвярдым пярэднядзясновым або зубным фонэматычным квадраце (гл. рыс. 3). Наша звычайнае *дз* знаходзіцца ў адпаведным мяккім квадраце (зь—сь—ць —д'з'). У першым прыкладзе—ксёндз'+з—гэта „з“ зьнітавана з папярэднім згукам шчыльней, даючы гук блізкі да „ц“, у другіх—дз+зынкае, дз+зога і г. д.—менш. Пакольні словаў з такім згукам у нас

---

[1]) Зразумела, што гэта толькі прыблізны расклад, дапусьцімы ў такім памеры, у якім дапусьцімы расклад згуку *дз* на *д+з*.

Вельмі цікава прасачыць ў „Кітабах“, як там адзначаўся гэты гук: ці праз дзал ці праз дзе. У кожным разе, незалежна ад вынікаў гэткага досьледу, прырода згуку дзала ў беларускай мове застаецца нязьменнай.

абмяжаваная колькасьць, новую літару ўводзіць для яго ня варта, чаму я і не падаю проэкту. Можна, паколькі за „дзалам“ зaўсёды ідзе цьвёрдая галосная, пісаць яго цераз звычайнае новае „*дз*“. Выключэньнем зьявіцца адно толькі слова ксёндз, якое можна пісаць або цераз новае „дз“, або нават цераз „ц“.

II. Злучэньне некаторых прыйменьнікаў з іншымі часьцінамі мовы.

Усе прыйменьнікі, якія канчаюцца на „д“, пры злучэньні з іншымі часьцінамі мовы, якія пачынаюцца на „з“ або „ж“ даюць ня згук „дз“ ці „дж“, а звычайны зьбег зычных, кожная з якіх выразна вымаўляецца і на пісьме заўсёды павінна адзначацца паасобнаю літараю. Напрыклад, *ад*знака, *ад*зычваць, *над*звычай, *над*звычайнасьць, *на*(звыш, *пад*загаловак і г. д., або—*ад*жа, *ад*жалкаваць *а*)жыць, *пад*жылы і г. д.

Але ў такіх разох гукі *д,з*, або *д,ж* настолькі выразна чуюцца, што здаецца мне, ніхто і ніколі іх згукамі не палічыць. Прыгадваю я пра іх толькі затым, каб мяне ня ўпікнулі ў недаглядзе[1]).

## IX

Як практычна зьдзейсьніць гэты мой проэкт? Якім чынам абмеркаваць яго мэтазгоднасьць ці не мэтазгоднасьць? На мой погляд, справа павінна стаяць так.

Усе тыя працаўнікі, якія цікавяцца пытаньнем, няхай азнаёмяцца з артыкулам і напішуць пра сваю згоду ці нязгоду з проэктам у рэдакцыю нашае часопісі.

Тымчасам, каб даць магчымасьць беларускім чытачом азнаёміцца з вонкавым выглядам запроэктаванных літар, рэдакцыя часопісі, пачынаючы ад № 5, будзе ня менш аднаго друкаванага аркушу друкаваць з новымі літарамі.

Такім чынам, на працягу нават невялікага часу будзе даведзена жыцьцёвасьць ці няжыцьцёвасьць проэкту. У першым выпадку, калі будзе даведзена мэтазгоднасьць і жыцьцёвасьць проэкту, можна будзе, падсумаваўшы ўвесь матар'ял, зьвярнуцца належным шляхам да ўраду Беларускае ССР з просьбаю зацьвердзіць гэты проэкт у ўсебеларускім маштабе[2]).

**15 ліпеня 1928 г.**
**с. Студзянец, Магілеўшчына.**

---

[1]) Наколькі правільна маё сьцьверджаньне паказвае тое, што і на акадэмічнай конфэрэнцыі пытаньне гэта не выклікала супярэчак. Глядзі, напр., прамову Я. Бялькевіча („Працы акад. коф“, б. 162). Наадварот, гэта толькі падкрэсьляе патрэбнасьць неадкладнай рэформы.

[2]) Рэдакцыя часопісі „Узвышша“ просіць чытачоў выказацца наконт проэкту. Усе заўвагі будуць выдрукаваны ў чарговых нумарох часопісі. Асабліва рэдакцыя зьвяртаецца да нашага настаўніцтва, якое больш за ўсіх церпіць ад хібаў у альфабэце.

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Рэволюцыйная літаратура на беларускай мове.**

Даволі абшырная соцыялістычная літаратура, якая выходзіла ў канцы XIX і першым дзесяцігодзьдзі XX ст дагэтуль яшчэ ня мае свае бібліографіі. дзеля гэтага лічу, што ніжэйпададзены пералік гэтай літаратуры будзе мець сваю цікавасьць для гісторыі рэволюцыі. Пералік гэты мной узяты з аднаго абвінавальнага акту Віленскай Судовай Палаты, які адносіцца да справы цэлага раду абвінавачаных, у каторых пры вобыску 8/XII 1905 г. было знойдзена 985 экзэмпляраў усякіх соцыялістычных друкаў, між імі адзначаны шэраг друкаў на беларускай мове. якія і падаемо тут у даслоўным апісаньні акту:

1. Два экзэмпляры проклямацыі пад загалоўкам «Браты мужыкі» ад імя соцыялістычнэе партыі Беларусі, з датай — кастрычнік 1905 году, якая заклікае сялян: 1) не плаціць падаткаў, 2) ня йсьці дабравольна на вайсковую службу, 3) ня мець з царскімі чыноўнікамі ніякіх спраў. 4) ня слухаць царскіх начальнікаў, а зьбірацца і чытаць бязцэнзурныя кніжкі і 5) памагаць рабочым «разнасіць» царскі ўрад.

2. 38 экзэмпляраў проклямацыі пад загалоўкам «Прызыўныя» СПБР, з штэмпэлем «БСП» і датай—кастрычнік 1905 г., якая заклікае салдатаў ня слухаць урэду і не страляць у народ, які бунтуецца

3. 76 экзэмпляраў проклямацыі пад загалоўкам «Якая карысьць народу з выбарнага правіцельства», ад СПБР, якая выдадзена ў кастрычніку 1905 г. і пералічае карысьць ад выбарнага ўраду.

4. 19 проклямацый пад загалоўкам «Да ўсіх работнікаў і работніц дваровых, да ўсіх дзеравенскіх людзей на тутошняй зямлі Беларускай» ад імя Б. соц. п., са штэмпэлем партыі і датай—чэрвень 1905 году, якая зьмяшчае папулярна вылажаныя соцыялістычныя ідэі і заклік да забастоўкі: 1) паднённых. 2) гадавых парабкоў і парабніц і ўсяе дворнай чэлядзі. 3) усяго вясковага люду - выстаўляючы трэбаваньні і рады браць сілай ў здарэньні адказу.

5. 17 экзэмпляраў надрукаванай рускім шрыфтам і 276 экзэмпляраў надрукаванай лацінскім шрыфтам, пад загалоўкам «Пад штандарам», выдадзенай ЛКК (Літоўскім краёвым комітэтам) Беларускай соціялістычнай партыяй, ў гор. Вільні 31 кастрычніка 1905 году, якая паводле зьместу зьяўляецца рэволюцыйнай песьняй.

6. 6 экзэмпляраў проклямацыі «Нарыс. програмы Беларускай Соцыялістычнай Грамады» з дэвізам «Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся» і штэмпэлем партыі, якая зьяўляецца програмай Беларускай соцыялістычнай партыі з паказаньнем мэты партыі: ськінуць самаўладзтва, устанавіць дэмократычную рэспубліку і змаганьне з капіталізмам.

7. 32 літа рафаваныя экзэмпляры проклямацыі пад загалоўкам «Да салдатаў», ад 2-га мясцовага комітэту Беларускай соцыялістычнай партыі, з датай 19 кастрычніка 1905 году, у якой гаворыцца салдатам, каб яны ня верылі царскім указам аб свабодзе і каб яны, дзеля сьвежых магіл, не падыймалі болей рукі на народ і далучыліся да народнай сувязі Літвы і Беларусі.

8. 10 экзэмпляраў проклямацыі, пад загалоўкам «Браты хрысьціяне». ад 2-га мясцовага комітэту Беларускай соцыялістычнай партыі, якая выдадзена 23 кастрычніка 1905 году і якая перасьцярагае хрысьціян (сялян) ня верыць чорнасоценцам, якія дзействуюць за адно з «жулікамі» а такжа ня верыць паліцыі.

9. 91 экзэмпляр проклямацыі пад загалоўкам «Хрэст на свободу», якая выдадзена 2-м мясцовым комітэтам БСП ў гор. Вільні 31-га кастрычніка 1905 году, ў якой гаворыцца, што 9 студзеня цар даказаў народу. што яму цара ня трэба, што Гапон чуў голас з неба аб тым, што цара трэба павесіць, што многа гарадоў паўстала, каб выгнаць цара-злодзея і што народу патрэбна свабода.

10. 4 экзэмпляры проклямацыі пад загалоўкам «Царская Дума», а БСП—з датай 15 кастрычніка 1905 году. у якой праводзіцца думка, што народ паўстаў супроць „цара крывапіўцы“ і дабіваецца свабоды, што цар. спужаўшыся дзеля супакоеньня народу выдаў маніфэст аб скліканьні Думы, але гэтая Дума—адно ашуканства, бо рабочым не дадзена голасу, дзеля чаго народ заклікаецца забіваць царскіх слуг, адмаўляцца ад вайсковай павіннасьці і сілай дабівацца конституціі без цара і яго правіцельства. Канчаецца проклямацыя словамі: „Няхай жыве ўстаноўчы сход у Вільні“:

11. 4 экзэмпляры літаграфаванай проклямацыі, пад загалоўкам „Царскае жніво“, ад імя Б соц партыі з дэвізам: Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся“ і датай студзень 1905 г., у якой апісваюцца падзеі 9 студзеня ў С.-Пецярбургу, пры чым гаворыцца, што цар ведаў, што народ з Гапонам на чале ішоў да яго прасіць яго аб дапамозе. але ўсёж ён паслаў войска і загадаў яму страляць, дзякуючы чаму загінула больш 2000 людзей, і што цар клапаціўся

толькі аб багатых, а з бедных толькі па даткі „зьдзіраў“, што цар ведае, што галоднаму толькі хлеб на вуме, а буд е народ больш сытым.то можа дадумацца, што ўсё няшчасьце выходзіць ад цара, што, да куль народ галодны ды цёмны, датуль і цару жыцьцё, і што гэта зразумелі Пецярбурскія рабочыя, якія крычалі: „Далоў цара! Далоў царскае правіцельства!“.

12 152 экзэмпляры проклямацыі, пад загалоўкам „Чым цар ратуецца“, ад 2-га мясцовага комітэту Беларускай соцыялістычнай партыі з дэвізом „Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся“, ў якой паказваецца ў рэзкай форме несправядлівае адношаньне правіцельства да народу які паўстаў на змаганьне за свабоду, і пры гэтым гаворыцца, што цар хацеў патапіць паўстаньне ў крыві, але гэта яму не удалося, што калі ад рук рабочых пачалі гінуць палачы, то цар задумаў супакоіць народ указам аб толерантнасьці да веры, а там, дзе не ўдалося заспакоіць народ аб'едкамі, цар хапаўся другога спосабу - жыдоўскіх пагромаў.

**13.** 2 экзэмпляры *брошуры* „Песьні,“ з датай -1904 году і адзначэньнем „Дозволено цензурою 17-го декабря 1903 года“ і „Синодальная типография“, якія пасьля зробленых даведак аказаліся фальшывымі. Брошура гэта складаецца з шэрагу народных песьняў на беларускай мове тэндэнцыйнага характару.

**14.** 1 экзэмпляр брошуры, пад загалоўкам „Як зрабіць, каб людзям добрэ было на сьвеце“ надрукаванай у Лёндане ў 1903 годзе Польскай соцыялістычнай партыяй ў Літве, са штэмпэлем Бел соц. п —У названай брашуры праводзіцца думка, што дзеля таго, што цар і чыноўнікі прыгнятаюць народ, то яму самому трэба паклапаціцца аб сабе, далучаючыся да рабоче-сялянскага саюзу і выўгнаўшы супольнымі сіламі сваіх ворагаў—цара і чыноўнікаў пры дапамозе салдатаў і зажыць прыпяваючы.

**15.** 1 экзэмпляр брошуры, пад загалоўкам „Гутарка аб тым куды мужыцкія грошы ідуць“ Польскай соцыялістычнай партыі з штэмпэлем Бел соц п., у якой апісваецца, як нейкі Сымон, бы́ўшы народны вучыцель, каторы пасьля ўтраты месца, жыў, як просты селянін у сваёй хаце, расказаў сваім прыпадковым гасьцям у лёгка даступнай іх разуменьню форме аб прастых і сукосных падатках, якія селяніну прыходзіцца плаціць у казну, купляючы гарэлку, табаку і іншыя першай патрэбнасьці тавары і аб тым, што атрыманыя гэтым шляхам мільёны ідуць на збыткі царскай фаміліі, утрыманьне чыноўнікаў і войска. Далей гаворыцца, што, спужаўшыся бунту, цар абяцаў свабоду, але ня даў што войска такжа нездаволена сваім царом і што як быў забіты на вуліцы АлександрII, так і Мікалая II могуць забіць з дапамогай сялян, калі войска ня будзе яго бараніць.

**16.** 2 экзэмпляры брошуры Польскай соцыялістычнай партыі, пад загалоўкам „Хто праўдзівы прыяцель беднага народу“, пабеларуску, выдадзенай у Лёндане ў 1903 годзе, у якой даводзіцца, што праўдзівы прыяцель беднага народу—соцыялістыя з іх навукай, якія за гэта і прасьледуюцца царскім правіцельствам

**17.** 15 экзэмпляраў брошуры, якая надрукавана ў Пецярбургу на беларускай мове, пад загалоўкам „Казкі“, з фальшывай цэнзурнай адметкай, якая зьмяшчае пяць тэндэнцыйных, але не палітычных казак.

*Рукапісныя проклямацыі*

**18** Проклямацыя да сялян і рабочых ад 2-га мясцовага комітэту Беларускай соцыялістычнай партыі, у якой гаворыцца, што бедны народ крыўдзяць цар, багачы, фабрыканты, памешчыкі царскія чыноўнікі, жандары, паліцыя, земскія, станавыя, і што ўсе яны, як пьяўкі, упіліся ў сэрца народу, ссуць яго кроў і пры гэтым галоўным крыўдзіц лем ёсьць цар, па загаду каторага перад палацам былі растрэляны, пасечаны шашкамі, патаптаны конямі 2000 чалавек рабочых, калі яны прышлі разам з Гапонам прасіць яго заступіцца за бедны народ, гэта народ думаў, што цару можна жаліцца на багачоў, і аказалася, што сам цар—найвялікшы вораг, цар - разбойнік: сьмерць яму! што пакуль будзе жыць цар і яго зладзейскі ўрад, датуль народ ня ўбачыць свабоды і лепшай долі, што цар, спужаўшыся крыку народу „далой царскі ўрад, мы самі будзем упраўляць сабой“, выдаў маніфэст аб царскай Думе, спадзяючыся ашукаць ёю народ Далей даводзіцца, што Дума зусім не прадстаўляе сабой народнае праўленьне, што цар разбойнік хацеў толькі ашукаць народ, але гэта яму ня ўдалася,бо соцыялістыя вытлумачылі народу царскае ашуканства, і народ больш ня верыць *„баламутнаму“* цару. У адказ на маніфэст народ адказаў забастоўкамі, і хоць цар хацеў расстраляць народ, але часьць войска збунтавалася. Хоць многа рабочых загінула ад куль і шашак, многія пасаджаны ў турмы і высланы ў Сыбір, але народ крапчэй і сільней мсьціць за сьмерць сваіх братоў сьмерцю царскіх слуг. Бунт абхапіў усю Расію, была вялікая ўсерасійская забастоўка, і рабочыя аб'явілі цару: „ідзі вон праклятьі цар, цар разбойнік, цар злой нашай долі Ня трэба нам цябе, ні твае царскай Думы“. „Мы самісабе выбярэм устаноўчы сход“. Далей тлумачыцца, як трэба рабіць выбары па закону аб ўсеагульных, простых, роўных і тайных выбарах. Канчаецца проклямацыя словамі: „Вон злодзея цара! Вон царскую Думу. Мы выбярэм констытуцыю“.

**19** Проклямацыя да сялян, у якой гаворыцца, што доўга народ мучыўся і цярпеў сваю цяжкую долю, плаціў акцызы і падаткі, пазваляў міністрам і царскім чыноўнікам красьці, ішоў на вайну і праліваў кроў, але цяпер народ прачнуўся ў **гарадох**

і вёсках і зажадаў сабе зямлі і свабоды. аб'явіўшы вайну найгоршаму ворагу свайму—цару і правіцельству. Цар хоча бараніць сваю самадзяржаўную ўладу, загадаў страляць у народ. і паліляся кроў працоўнага народу, і тысячы сьмелых павадыроў ляглі за народную справу ў вёсках і гарадох. Але ня сьціх бунт, але наадварот. абняў усю Расійскую дзяржаву. Правіцельства зразумела, што народ перамог самадзяржаўе. Пасьля гэтага пачалі выдаваць царскія маніфэсты і абяцанкі ўсякіх свабод. але верыць гэтым абяцаньням нельга, бо маніфэст выданы толькі дзеля таго, каб народ супакоіўся, а калі гэта настане,—правіцельства возьме назад свае абяцаныя свабоды Дзеля гэтага народ заклікаецца да змаганьня з правіцельствам, каб узяць верх над ім.

**20**. Заклік „Да салдатаў", у якім апошнім тлумачыцца, што іх браты, у каторых правіцельства загадвае ім страляць, дамагаюцца свабоды і паляпшэньня долі для ўсіх: каб былі зьняты падаткі з бедных і наложаны на багатых, і каб былі зьняты акцызы, каб зямля была адабрана ад казны цара і памешчыкаў, і каб усюды былі дармовыя школы, і каб чыноўнікі і судзьдзі выбіраліся народам, і каб рабочыя не працавалі больш 8-мі гадзін у дзень і ня было войска, а была міліцыя.

21. Статут саюзу рабочых і работніц лазарэту для духова-хворых пры станцыі Нова-Вілейск, які мае сваёй мэтай аб'яднаньне сіл на абарону інтэрэсаў рабочых і актыўнае выступленьне у рэволюцыі разам з мясцовымі соцыялістычнымі організацыямі.

Акрамя гэтага, яшчэ чатыры рукапісы проклямацый, якія гатаваліся да друку.

Вышэйпералічанымі проклямацыямі і брашурамі далёка, аднак, не вычэрпваецца ўвесь запас нелегальнай літаратуры на беларускай мове, якая курсавала ў тыя часы па Беларусі. Мне асабіста памятаюцца многія проклямацыі, якіх у гэтым сьпіску не знаходзім, як, прыкладам, пашыраная ў 1905 годзе проклямацыя пад загалоўкам: „Да навабранцаў", „Маніфэст", „Кабеты работніцы", „Уніяты", „Работнікі і работніцы Беластоку", брошура—„Скрыпка Беларуская", „Хрэст насваботу", адкрыткі з рэвалюцыйнымі беларускімі песьнямі.

Урэшце трэба мець на ўвазе, што ў акт не маглі трапіць проклямацыі. якія выходзілі пазьней арыштаў 8-XII-1905 г у Вільні, а іх выходзіла нямала ў 1906 і 1907; менш, але ўсё-ж выходзілі і ў пазьнейшыя гады 1908--1914.

**Юр. В.**

*Рэдагуе* **Рэдколегія** *Выдае* **„Узвышша"**.